УДК [908+821.161.3.09](476.6)
ББК 63.3(4Беи)
Ч11

Кніга выдадзена дзякуючы фінансавай падтрымцы земляка Аляксандра Міско.

**Чыгрын, С.**

Ч11 Такі іх лёс : гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 200 с.

ISBN 978-985-7007-74-5.

Аўтар кнігі Сяргей Чыгрын са Слоніма распавядае пра няпросты і трагічны лёс вядомых і малавядомых людзей нашай Бацькаўшчыны. Шмат новага чытачы даведаюцца пра генерала 1812 года Яна Канопку, пра беларускіх святароў Філафея і Паўла Лысуху, легендарнага доктара Усевалада Шырана, спявачку Яўгенію Чарняўскую-Орса, палітыка і гісторыка Міколу Шкялёнка, а таксама пра Рыгора Шырму, Якуба Міско, Вацлава Ластоўскага, Гальяша Леўчыка, Янука Дарашкевіча, Валянціна Таўлая, Аляксандра Чыжэўскага, Міхала Федароўскага, братоў Артымовічаў і іншых вялікіх людзей беларускай зямлі.

**УДК [908+821.161.3.09](476.6)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-74-5**

# ГЕНЕРАЛ ЯН КАНОПКА

У 1812 годзе супраць расійскіх войскаў на баку Банапарта Напалеона выступалі пяць ліцвінскіх палкоў пяхоты і чатыры ўланскія палкі. Адным з напалеонаўскіх военачальнікаў і арганізатарам славутай імператарскай гвардыі быў мой зямляк са Слонімшчыны генерал Ян Канопка.

Нарадзіўся Ян Канопка ў маёнтку Скоўдзічы Слонімскага павета 27 снежня 1777 года (па іншых звестках 1775 года) у сям'і ліцвінскіх (беларускіх) шляхцічаў Францішка і Ганны Канопкаў. З маленства Ян марыць сваё жыццё звязаць з арміяй. І калі яму споўнілася 15 гадоў, ён пайшоў на вайсковую службу ў Другі ўланскі полк і змагаўся супраць расійскіх войск у складзе Восьмай украінскай брыгады Народнай кавалерыі, якою кіраваў генерал Станіслаў Макраноўскі. Малады Ян Канопка спадабаўся генералу Макраноўскаму сваёй смеласцю і рашучасцю, асабліва ён вызначыўся ў бітвах пры Барушкаўцах і Зелянцах.

Калі пачалося паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, да свайго земляка далучыўся і Ян Канопка. Ён, разам з Касцюшкам, падпісаў Акт паўстання і на кракаўскім рынку даў прысягу на вернасць паўстанню. Ён, як і Тадэвуш Касцюшка, пакляўся змагацца за непарушнасць Рэчы Паспалітай, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду. Спачатку Ян Канопка вызначыўся пры абароне Варшавы, пасля чаго атрымаў званне лейтэнанта. Лейтэнант Канопка едзе на Літву і далучаецца да дывізіі Серакоўскага. У бітве пад Мацяёвіцамі паказаў сябе адважным воінам, хаця быў паранены ў руку. Восенню 1794 года за адвагу і мужнасць у баях Тадэвуш Касцюшка яго ўзнагародзіў пярсцёнкам з надпісам: «Айчына свайму абаронцу».

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Ян Канопка эмігрыраваў у Францыю. Там смелы воін адразу





паступіў на вайсковую службу ў Першы гусарскі полк, а 21 сакавіка 1796 года атрымаў званне сублейтэнанта. Падчас службы наш зямляк пазнаёміўся з капітанам Язэпам Сулкоўскім. Капітан Сулкоўскі ў Валезе меў гонар прадставіць Яна Канопку генералу Банапарту Напалеону. Напалеону спадабаўся Канопка, і генерал яго прызначыў на службу ў Легіён Ламбардыі (Legion de Lombardie) са званнем лейтэнанта.

З гэтай пары пачаліся нялёгкія вайсковыя і ваенныя будні Канопкі. Ён удзельнічае супраць краін Першай і Другой антыфранцузскай кааліцыі. 4 лютага 1797 года наш зямляк вызначыўся пры захопе аўстрыйскай батарэі пад Феанцэй, за што быў пераведзены ў званні капітана ў Першы грэнадзёрскі батальён польскіх легіёнаў. Пад кіраўніцтвам генералаў Шампіёне і Макдональда актыўна ўдзельнічае ў баявых дзеяннях супраць Неапалітанскага каралеўства, у складзе капітана Княжэвіча выдатна паказаў сябе ў баях пры Чывіта-Кастэлана, потым на рацэ Трэбіі, пры Боска і Нові. А пры Расігліёне разам са сваімі 150 легіянерамі захапіў аўстрыйскую пазіцыю, якую абараняў гарнізон з дзвюх тысяч салдат.

Баявыя дзеянні і перамогі Яна Канопкі працягваюцца і тады, калі ён у 1800 годзе змагаецца на Дунаі пад камандаваннем Віктара Маро. За гэтыя заслугі ён становіцца шэфам батальёна і перамагае ў баях пры Гагенліндэне.

Спіс баявых дзеянняў і перамог нашага земляка Яна Канопкі можна працягваць. Пасля таго як быў заключаны мір, наш вайсковец служыць у Італіі шэфам эскадрона польскай кавалерыі генерала Аляксандра Ражнецкага, удзельнічае ў кампаніях 1805–1806 гадоў пад камандаваннем прынца Багарнэ.

У сакавіку 1807 года Ян Канопка ўжо маёр Пятага палка егераў, прымае ўдзел у Польскай кампаніі, а летам змагаецца пры Фрыдландзе, дзе яго полк захоплівае шмат палонных і 6 гармат. Канопка хутка займаецца



рэарганізацыяй польска-італьянскага легіёна ў Першы уланскі полк Віслінскага легіёна і ў званні палкоўніка яго ўзначальвае.

З 1808 года палкоўнік Ян Канопка змагаецца ў Іспаніі, удзельнічае ў аблозе Сарагосы, вызначаецца ў баях пры Тудзеле і Малене, а таксама ў баявых аперацыях супраць партызан, якія называлі яго полк «пякельнымі піканосцамі».

У сакавіку 1809 года Яна Канопку выклікаюць у Парыж. Праўда, праз год ён прызначаецца камандзірам Віслінскага палка і восенню выступае супраць англа-іспанскіх пазіцый, умела атакуе брытанскую пяхотную брыгаду падпалкоўніка Джона Колбарна, якая знаходзілася на вялікім і недаступным узгорку. Яго вайскоўцы непрыкметна падняліся на ўзвышанную мясцовасць і пачалі з англічанамі біцца. Праз некалькі хвілін з 1600 салдат Колбарна былі забіты і паранены 1300 і захоплена 5 штандартаў. 6 жніўня 1811 года за гэты подзвіг і за ўсе ранейшыя перамогі Яну Канопку было прысвоена званне брыгаднага генерала, ён быў узнагароджаны Залатым крыжом ордэна «Virtuti Militari»…

У 1772 годзе тры краіны — Расія, Аўстрыя і Прусія — дамовіліся паміж сабой падзяліць Рэч Паспалітую. Кожная з гэтых дзяржаў адарвала сабе частку чужой зямлі. Да Расіі былі далучаны ўсходнія землі Беларусі з Віцебскам, Магілёвам, Гомелем… Лепшыя людзі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы спрабавалі выратаваць сваю дзяржаву ад пагібелі. Шмат хто з беларусаў (ліцвінаў) спадзяваўся на Напалеона Банапарта, што менавіта ён дапаможа адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае. Тым больш, што Напалеон у 1807 годзе стварыў Варшаўскае княства. А калі землі былога Вялікага Княства Літоўскага былі вызвалены з-пад расійскага прыгнёту, Напалеон утварыў і Камісію Часовага ўрада Вялікага Княства. Сябры Камісіі прысягнулі на вернасць імператару, гэта





значыць, што Беларусь фармальна была абвешчана саюзніцай Францыі. Камісія Часовага ўрада з дазволу імператара пачала ствараць уласныя ўзброеныя сілы, якія далучаліся да напалеонаўскай арміі. Гэту Камісію з радасцю падтрымаў і генерал-ліцвін Ян Канопка, які ўсё жыццё марыў ваяваць за сваю Бацькаўшчыну — Вялікае Княства. З дазволу Напалеона Ян Канопка сфармаваў Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі. Гэты полк непасрэдна падпарадкоўваўся Напалеону і насіў «не белую кукарду, а французскую трохкаляровую з накладзеным на яе белым мальтыйскім крыжам» («Наш радавод». Кніга 8. Гродна; Беласток, 1999 (2000). С. 278), хаця ўсе жаўнеры-ліцвіны насілі кукарду «Пагоня». Да Яна Канопкі далучыўся і эскадрон беларускіх татараў на чале з Мустафой Ахматовічам. Усяго на баку Напалеона ваявалі 24 тысячы беларускіх жаўнераў, а па іншых звестках — 80 тысяч, а на баку Кутузава — 32 тысячы (Михаил Голденков. Утраченная Русь. Мінск, 2010. С. 320)…

У сярэдзіне кастрычніка 1812 года расійскі генерал-маёр Яфім Чапліц даведаўся, што з Гродна на Мінск рухаецца гвардзейскі ліцвінскі полк Яна Канопкі. Яго аснову складала моладзь былога Вялікага Княства Літоўскага. Там служылі Валовічы, Ромеры, Платэры, Хлявінскія, Пузыны, Пуслоўскія, Памарнацкія ды іншыя ўнукі і праўнукі шляхецкіх родаў. Полк быў добра ўзброены і меў адпаведна на 444 чалавекі 121 фурманку. Разам з палком ехалі жонкі генералаў Канопкі, Дамброўскага і Заёнчака. У родным Слоніме Ян Канопка вырашыў затрымацца на некалькі дзён. Удзень вайскоўцы папаўнялі запасы фуражу ў навакольных вёсках, заклікалі да сябе ў полк слонімскіх юнакоў, тлумачылі людзям намеры Напалеона аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. І гэта давала плён. Хутка полк Яна Канопкі налічваў ужо 800 чалавек. А вечарамі гвардзейцы шпацыравалі з маладымі паненкамі. Такі шпацыр у Слоніме яны наладзілі і 19 кастрычніка. Хаця



аўстрыйскі генерал Мор, адступаючы з-пад Пінска, і генерал Дамброўскі з-пад Барысава папярэджвалі Канопку, што рускія наступаюць з поўдня праз Брэст вялікімі сіламі. Але генерал Канопка не паслухаўся, ды і не думаў, што рускія так хутка могуць дабрацца да Слоніма.

Пакуль гвардзейцы разам з Канопкам адпачываюць у Слоніме, п'юць шампанскае і віно, прамаўляюць тосты за Напалеона, за адраджэнне Вялікага Княства, да Пружан даходзіць рускі перадавы атрад генерала Чапліца. Пасля нялёгкай дарогі рускія рыхтуюцца да адпачынку. Але хутка атрымліваюць загад адмірала Чычагава — атакаваць конна-гвардзейскі полк Яна Канопкі ў Слоніме. Генерал Чапліц выклікае да сябе капітана Івана Арнольдзі: «Маю пра вас звесткі, капітан, што вы добра ведаеце Слонім». — «Так, — адказвае Арнольдзі. — Тры гады кватараваў у гэтым горадзе. Меў гонар састаяць ад'ютантам пры графе Кутайсаве (рускі генерал Кутайсаў узначальваў артылерыю ў Заходняй рускай арміі, загінуў пры Барадзіно. — *С. Ч.*). — «У такім выпадку я спадзяюся на вас», — працягвае генерал і выкладае план маючай адбыцца справы, у якой капітану адводзіцца немалаважная роля.

У Слоніме Ян Канопка адпачывае і не падазрае аб небяспецы. Але, калі гулянка была ў самым разгары, да генерала падбягае яго ад'ютант Стральбіцкі і дакладвае экстранае паведамленне аб тым, што да Слоніма падыходзяць рускія. Хутка баль сціхае. Госці разбягаюцца. А Канопка імгненна казну і генеральскіх жонак пад аховай нешматлікага эскорту выпраўляе ў Дзярэчын. А сам з палком уцякае на Вільню іншай дарогай. Толькі яны зніклі, як Арнольдзі з некалькімі казакамі прабраўся да дома Канопкі. Але нідзе не ўбачыў ні варты, ні нават вартавога каля ганка. Не трацячы ні хвіліны, Арнольдзі кідаецца ў пакоі. Але нідзе нікога ён так і не знайшоў. Гусары прывялі аднекуль дворніка, які і расказаў, што гадзіну назад Канопка адправіў на





Дзярэчын атрад уланаў з касаю, а сам, сабраўшы полк, паскакаў на Вільню.

Капітан Арнольдзі адразу пасылае ганца да Чапліца, каб паведаміць пра ўцёкі Канопкі, а сам з невялікім атрадам пускаецца па дарозе на Дзярэчын. За пяць кіламетраў ад Дзярэчына, які піша Міхась Скобла ў сваёй кнізе «Дзярэчынскі дыярыуш» (Мінск, 1999. С. 62), каля вёскі Галынка, рускія дагналі ўцекачоў. Завязаўся няроўны бой. Казну Арнольдзі захапіў, а вось генеральскія жонкі паспелі пераправіцца на пароме праз рэчку Луконіцу і схавацца ў дзярэчынскім палацы Сапегаў.

Калі Яфім Чапліц даведаўся пра тое, што генерал Канопка ўцёк са Слоніма на Вільню, пакідае ў Ружанах пяхоту і артылерыю з абозам і сам асабіста бярэ атрад гусараў і казакоў, імчыць за ўцекачамі па віленскай дарозе. Праз некалькі гадзін рускія даганяюць ліцвінскі полк, пачынаецца рукапашны бой. Рускім удаецца адрэзаць частку палка Яна Канопкі ад галоўнага атрада ўланаў. А ўраднік Дзячкін, дагнаўшы Яна Канопку, раніць яго дзідай і бярэ ў палон. У палон таксама трапілі палкоўнік Хлусевіч, капітаны Дзяржынскі, Солтан, Дэге, Ронікер, Тышкевіч, Ляном, Лукоўскі, 5 паручыкаў, 42 унтэр-афіцэры, 5 трубачоў і 170 жаўнераў (Швед В. В., Данскіх С. У. Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна, 2006. С. 150).

Трапіўшы ў палон, генерал Ян Канопка не падымаючы галавы ішоў каля маўклівай сцяны палоннага палка. Насустрач яму спакойна рухаўся генерал Яфім Чапліц. Тварам да твару сустрэліся два генералы — пераможац і пераможны. Сустрэліся два ліцвіны (беларусы), якія ваявалі па розныя бакі барыкад. Яфім Чапліц быў родам з дваран Магілёўскай губерні. Але яго карані шляхецкага роду Чапліцаў — прынёманскія. У канцы XVII стагоддзя Чапліцы валодалі невялікімі маёнткамі ў Лідскім павеце. Чапліц уважліва разглядваў шаблю палоннага



генерала. Вычытаўшы на эфесе «За адвагу…», не змог стрымаць усмешкі. Вось як іх гутарку апісаў кандыдат ваенна-тэхнічных навук Яўген Леашэня (1900–1981) у сваёй рукапіснай працы «Да гісторыі Слонімшчыны», якая захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі:

— Не думаў я, генерал, што адважныя так уцякаюць! — сказаў Чапліц.

Канопка абурыўся:

— Я жадаў бы памерці ў баі!

— Дазволю ў вас спытаць, за што? — пацікавіўся Чапліц.

— За свабоду Айчыны… — пачаў казаць Канопка.

— Якую хацелі набыць у радах захопніцкай арміі Напалеона, — спыніў яго Чапліц і, ужо адыходзячы, дадаў. — Яшчэ Аляксандр Неўскі казаў: хто пойдзе на нас з мячом, той ад мяча і загіне. Шкада, але вы не ўлічылі гэтага, генерал…

Самае цікавае ў сустрэчы гэтых двух генералаў тое, што між сабой яны гутарку вялі па-беларуску. Іх размова было доўгай. Канопка абвінаваціў у сваім паражэнні мясцовую слонімскую адміністрацыю і жыхароў, якія не папярэдзілі пра надыход ворага. Але Чапліц адказаў, што «ён сам змарнаваў полк і загубіў людзей».

Пасля паспяховай аперацыі Яфім Чапліц да прыходу асноўных сіл адмірала Чычагава затрымаўся ў палацы Пуслоўскіх у Альбярціне (тады гэта быў пасёлак, цяпер — мікрараён Слоніма. — *С. Ч.*). 7 лістапада 1812 года амаль 60-тысячная армія Чычагава праз Слонім рушыла на Нясвіж і далей на Мінск. «Санкт-Петербургские ведомости» № 87 ад 29 кастрычніка 1812 года пісалі: «Адмирал Чичагов доносит от 9-го числа октября, что корпус армии ему вверенной, под командою генерал-майора Чаплица, 8 числа [октября] занял город Слоним, взяв в плен генерала Конопку со всем его отрядом состоящим из 3 Уланского полка французской гвардии. В числе пленных находится





один полковник, два подполковника, кроме многих субалтерн-офицеров.

Равномерно взят весь обоз и воинская казна».

Пасля гэтай перамогі Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі генерала Яна Канопкі як баявая адзінка спыніў сваё існаванне. А сам генерал быў арыштаваны і адпраўлены ў палон у Санкт-Пецярбург. З паўночнай сталіцы Расіі праз год яго накіравалі ў Херсон, дзе ён цяжка захварэў. У 1814 годзе Яна Канопку вызвалілі з палону, і ён, як прыватная асоба, прыехаў у Варшаву. Там яму хутка прапанавалі ўзначаліць Першую кавалерыйскую брыгаду Каралеўства Польскага. Але генерал адмовіўся. Па-першае, ён моцна хварэў, па-другое, служыць Каралеўству Польскаму ён не жадаў: да самай смерці генерал марыў пра адраджэнне сваёй Бацькаўшчыны — Вялікага Княства Літоўскага.

1 студзеня 1815 года (па іншых звестках 20 снежня 1814 года) генерала Яна Канопкі не стала. Ён памёр у Варшаве, але прасіў пахаваць яго на Слонімшчыне. Дзе пахавалі генерала — да сённяшніх дзён невядома. Па адной з версій, ён быў пахаваны ў роднай вёсцы Скоўдзічы Слонімскага павета альбо ў Слоніме. Па іншых звестках — у Дзятлаве ці ў вёсцы Дубраўка на Дзятлаўшчыне. Былы дырэктар Дзятлаўскага раённага музея Фёдар Красюк, калі я звярнуўся да яго з пытаннем, дзе пахаваны генерал 1812 года Ян Канопка, сказаў: «Я некалі цікавіўся асобай Яна Канопкі. І шмат гадоў з краязнаўцамі шукаў яго магілу і на вясковых могілках у Дубраўцы, і на могілках у Дзятлаве. Але мы магілы генерала так і не знайшлі. Калі б ён быў пахаваны на адных з гэтых могілак, то гэта магіла была б нам усім знаёма, але яе нідзе няма. Ці то час яе зруйнаваў з зямлёй, ці проста генерал быў пахаваны ў іншым месцы». Пакуль не ўдалося знайсці яго магілы і ў вёсцы Скоўдзічы, і на ўсіх слонімскіх могілках. Калі, напрыклад, на старых Ружанскіх могілках у Слоніме ёсць надмагілле ў выглядзе саркафага з чырвонага



граніту на магіле генерала ад інфантэрыі Міхаіла Лявіцкага (1769–1832), удзельніка вайны 1812 года на баку расійскіх войск, то яна ўсім слонімцам знаёмая. А вось магілу генерала Яна Канопкі, які, праўда, ваяваў на баку Напалеона, адшукаць пакуль немагчыма. Вядома ж, наш слаўны генерал падчас Расійскай імперыі, куды ўваходзіла Беларусь, і ў гады савецкай улады ў XX стагоддзі заўсёды быў ворагам. Ворагам для расійцаў, камуністаў, бальшавікоў, а для нас, беларусаў, генерал Ян Канопка — наш нацыянальны герой, абаронца сваёй Айчыны. Хаця і палякі яго лічаць адным з лепшых польскіх афіцэраў напалеонаўскай эпохі, а таксама французы — сваім героем.

## АРТЫМОВІЧЫ

Браты-беларусы з Беласточчыны Віктар, Адам і Антон Артымовічы ў XIX стагоддзі ўнеслі вялікі ўклад у эканамічнае развіццё Расійскай імперыі. На жаль, што не сваёй уласнай Бацькаўшчыны, а менавіта Расійскай імперыі. І гэта не іх віна, а бяда. Бо, як мы ведаем з гісторыі, беларускае гаспадарства было зліквідавана ў канцы XVIII стагоддзя. Да гэтага спрычыніліся нашы як заходнія, гэтак і ўсходнія суседзі.

Увесну 1791 года ў часе Вальнага Сойму польскія магнаты і апалячаная беларуская шляхта, імкнучыся ўмацаваць Польшчу, над якой навісла пагроза з боку Аўстрыі, Прусіі і Расіі, заявілі пра неабходнасць увядзення спадчыннай манархіі і зліквідавання адметных дзяржаўных структураў Вялікага Княства. Так здзейснілася шматвяковая мара нашых заходніх суседзяў. Беларускае гаспадарства з гэтага моманту дэ-юрэ ўвайшло ў склад Польшчы. Праўда, ненадоўга. У траўні 1792 года расійская армія пад камандаваннем Крачэтнікава захапіла Вільню і ўсталявала кантроль





над нашымі землямі. А ў 1793 годзе Расійская імперыя анексавала цэнтральную частку Беларусі (усходнія землі былі захопленыя яшчэ раней — у 1772 годзе).

У 1795 годзе, калі Расія дарэшты захапіла Беларусь, распараджэннем Кацярыны II нашыя землі ўвайшлі ў тры створаныя тады адміністрацыйныя адзінкі — генерал-губернатарствы: Беларускае (Полацкая і Магілёўская губерні), Літоўскае (Слонімская і Віленская губерні ды дзве вобласці — Ковенская і Гарадзенская) і Падольскае (Менская, Валынская і Падольская губерні).

Такім чынам, аніякага «ўз’яднання» Беларусі з Расіяй, як гэта доўга тэндэнцыйна сцвярджалася ў савецкай гістарычнай літаратуры, ніколі не было. Меў месца гвалтоўны захоп, у выніку якога тэрыторыя Беларусі разам з беларускім народам была далучана да Расіі і наш пакутны народ на дзвесце гадоў трапіў у маскоўскую нядолю.

Такі лёс быў і вельмі адукаваных, разумных і таленавітых беларусаў Віктара, Адама і Антона Артымовічаў. У Расійскай імперыі ў іх нават нацыянальнасць пісалася не беларуская, а польская альбо расійская.

Віктар Антонавіч Артымовіч нарадзіўся ў Беластоку ў 1820 годзе. Пра яго маленства і школьныя гады мала што вядома. Але вядома тое, што бацька Віктара Антон Фёдаравіч Артымовіч (прафесар матэматыкі і астраноміі Віленскага ўніверсітэта) за вельмі кароткі час зрабіў добрую чыноўніцкую кар’еру, атрымаў 2000 дзесяцін зямлі і фальварак. Ён быў на той час даволі багатым чалавекам. Таму меў грошы, каб даць сыну добрую адукацыю. І сын хутка скончыў Імператарскае вучылішча правазнаўства ў Пецярбургу. А гэта вучылішча на той час рыхтавала дзяржаўных служачых, чыноўнікаў вялікага рангу.

З 1842 да 1853 гадоў Віктар Артымовіч служыў у Сенаце — адным з вышэйшых дзяржаўных органаў



Расійскай імперыі, галоўнай функцыяй якога ў той час было «блюсти законы», змагацца са злоўжываннем як у цэнтры, так і ў губернях. З гэтай мэтай Сенат адпраўляў туды сенацкія рэвізіі, у якіх малады Артымовіч рэгулярна прымаў удзел, вывучаючы дасканала дзейнасць чыноўнікаў. Ужо тады Віктар Артымовіч стварыў сабе рэпутацыю вельмі прынцыповага і сумленнага рэвізора, які наводзіў страх на ўсіх хабарнікаў і казнакрадаў. У Сенаце ён даслужыўся да ўпраўляючага справамі.

У 1854 годзе Віктар Артымовіч быў прызначаны табольскім губернатарам. За пяць гадоў службы ў Табольску ён не толькі зарэкамендаваў сябе надзвычай дзейным кіраўніком губерні, але актыўна вёў барацьбу з хабарніцтвам, навёў парадак у службовых месцах, палепшыў становішча ссыльных. Дарэчы, пасля паўстання 1831 года, а таксама пасля таго, як у 1846 годзе 1100 сем'яў аднадворцаў па загаду міністра ўнутраных спраў Расіі гвалтам былі пераселены з Беларусі на Каўказ і ў многія губерні Расіі, і пасля паўстання 1863 года ссыльных землякоў Віктара Артымовіча было ў Табольскай губерні шмат. Губернатар іх не крыўдзіў. Знаходзіў жыллё, працу, дапамагаў. Такім стаўленнем хутка зацікавіліся прадстаўнікі расійскага ўрада, і нашага земляка перавялі губернатарам у Калужскую губерню. Але і там ён дапамагаў ссыльным з заходніх рэгіёнаў тагачаснай Расійскай імперыі. За працай і ўчынкамі Віктара Артымовіча вельмі сачылі. А калі колькасць ссыльных пасля 1863 года стала ў губернях Расіі павялічвацца, Віктара Артымовіча перавялі на працу ў Варшаву. Тым не менш там ён доўга не затрымаўся, бо па ўласнай заяве яго зноў перавялі ў Сенат, дзе Віктар Антонавіч пачынаў і дзе адпрацаваў усе астатнія гады свайго жыцця.

Віктара Артымовіча ўсе вельмі паважалі. Ён меў роўны, спакойны характар і дужа паважліва адносіўся да сваіх падначаленых. Нездарма, прызначаючы





34-гадовага Артымовіча губернатарам Табольска, цар Мікалай I, які ўсім «тыкаў», звяртаўся да яго выключна на «вы».

У 1854 годзе, незадоўга да свайго прызначэння ў Табольскую губерню, Віктар Артымовіч ажаніўся з Ганнай Жамчужнікавай. З дружнай і таленавітай сям'ёй Артымовіч пасябраваў адразу, калі прыехаў з Беластока ў Пецярбург. З братам жонкі Аляксеем ён вучыўся ў адным класе вучылішча правазнаўства. Вельмі любіў бываць у доме Жамчужнікавых. Два браты Жамчужнікавы былі паэты, адзін — мастак, іх кузэн — рускі пісьменнік Аляксей Талстой. А бацька Ганны Жамчужнікавай быў сенатарам. Шлюб Віктара Артымовіча і Ганны Жамчужнікавай быў вельмі шчаслівым. Ганна перажыла мужа, але апошнія гады свайго жыцця яна збірала матэрыялы пра яго жыццё і дзейнасць. Віктара Антонавіча Артымовіча не стала ў 1893 годзе.

Выпіска з метрыкаў, пасведчанне аб заканчэнні вучылішча правазнаўства, дыплом на званне правадзейнага члена Рускага геаграфічнага таварыства, біяграфія, некралог, розныя загады, пісьмы, перапіска, радаслоўная Артымовічаў, матэрыялы сям'і Жамчужнікавых і шмат іншых матэрыялаў захоўваюцца сёння ў Інстытуце рускай літаратуры Расійскай акадэміі навук (Ф. 11. Адз. зах. 82).

Родны брат Віктара Артымовіча Адам Артымовіч быў маладзейшы за брата на 8 гадоў. Ён нарадзіўся ў Беластоку ў 1828 годзе. Скончыў Беластоцкую гімназію, а ў 1849 годзе — Пецярбургскае Імператарскае вучылішча правазнаўства. Дзякуючы вучобе ў гэтым вучылішчы Адам Антонавіч атрымаў даволі высокі чын тытульнага дарадчыка і пачаў службу летам 1849 года ў Першым Дэпартаменце Урадавага Сената Расіі.

З 1857 года Адам Артымовіч пачаў працаваць чыноўнікам пры арэнбургскім і самарскім генерал-губернатары. Потым загадваў канцылярыяй губернатар-



ства. На гэтай пасадзе ён зарэкамендаваў сябе вельмі добра ў адносінах па падрыхтоўцы вызвалення сялян ад прыгоннага права. Прымаў таксама ўдзел у рэвізіях Заходняй Сібіры. А пасля гэтага Адам Артымовіч стаў працаваць чыноўнікам па важных даручэннях пры арэнбургскім і самарскім генерал-губернатары.

1 студзеня 1861 года наш зямляк быў прызначаны кіраўніком Самарскай губерні Расіі. Як губернатар ён удзельнічаў у рабоце па вызваленню сялян Самарскай губерні ад прыгоннага права па Маніфесту 19 лютага 1861 года. Гэту работу ён выканаў з гонарам, не парушаючы інтарэсаў ні сялян, ні памешчыкаў.

Пры Адаме Артымовічу пачалося фарміраванне ў заволжскіх стэпах Самарскай губерні раёна таварнага земляробства, якое дазволіла забяспечыць рост самой Самары — з 1861 да 1897 гадоў колькасць самарскіх жыхароў павялічылася на 226 %, сярод якіх шмат было беларусаў з Паўночна-Заходняга краю Расіі. Дзякуючы Адаму Антонавічу ў Самары былі адкрыты тэлеграфная кантора і гарадскі агульны банк.

У 1861 годзе па загаду Адама Артымовіча там быў пабудаваны новы кафедральны праваслаўны сабор імя Прасвятой Багародзіцы. Губернатар шчыра заахвочваў будаўніцтва ў горадзе праваслаўных храмаў і каменных пабудоў…

17 красавіка 1862 года Адама Артымовіча перавялі на пасаду апекуна Адэскай вучэбнай акругі. Прычынай такога паніжэння ў пасадзе стала тое, што наш зямляк выступаў за аддзяленне Самарскай губерні ад генерал-губернатарства. А таксама тое, што ён разам з братам Віктарам (калужскім губернатарам) падтрымліваў цесныя сувязі з рэвалюцыйнымі польскімі гурткамі. Адам і Віктар Артымовічы дапамагалі фінансамі будучым паўстанцам на Беларусі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага…

2 траўня 1962 года Адам Антонавіч наладзіў развітальны абед і разам з жонкай паехаў на новае месца





службы ў Адэсу. Пры пераводзе на новае месца працы яго нават узнагародзілі ордэнам Святога Уладзіміра трэцяй ступені, а праз тры гады — ордэнам Святога Станіслава першай ступені.

У Адэсе наш зямляк працаваў амаль да смерці. Яго не стала 15 студзеня 1893 года.

Антон Артымовіч (1832–1910) быў самым малодшым братам Артымовічаў. Але звестак пра яго пакуль удалося сабраць мала. Ды і не такім вядомым ён быў у Расіі, як Віктар і Адам. Антон нарадзіўся ў Беластоку ў 1832 годзе. Быў правадзейным тайным работнікам, потым сенатарам. Яго жонкай стала Вольга Рымская-Корсакава, чые продкі былі беларусамі і паходзілі з Літвы. У іх нарадзілася шасцёра дзяцей. Сярод якіх — Марыя была класнай дамай у Ніжагародскім Марыінскім інстытуце шляхетных дзяўчат. Сын Уладзімір служыў у Міністэрстве замежных спраў Расіі. А з 1910 года быў дырэктарам Дэпартамента асабовага саставу і гаспадарчых спраў. Яго жонкай была амерыканка Марыяна Гобс…

Каб расказаць пра ўсіх Артымовічаў — беларусаў з Беласточчыны, пра іх дзяцей, унукаў, праўнукаў і прапраўнукаў, неабходна напісаць некалькі тамоў кніг. Тым не менш яны ведаюць і павінны ведаць, хто быў іх далёкі продак з Беластока праваслаўны беларус (ліцвін) Артымовіч Антон Фёдаравіч, яго сыны Віктар, Адам і Антон Артымовічы. Лёс раскінуў беларусаў Артымовічаў па ўсім свеце. Яны сёння жывуць не толькі ў Расіі, але і ў Польшчы, Беларусі, ЗША, Іране, Францыі, Англіі і ў іншых краінах свету. Магчыма, з гэтага роду і слынная наша беларуская паэтка з Беласточчыны Надзея Артымовіч, якая неяк напісала: «І нават тады, калі пацямнее дарога, а вецер і дождж вырасце сцяной, мы будзем ісці да чыстай вады, да ніў залатых і да нашага блакітнага неба».



# ГЕРОЙ І ЗДРАДНІК

У XIX стагоддзі сярод беларусаў, як і сёння, былі здраднікі. Адзін з іх — вясковы стараста Мацей Макарэвіч, пахаваны на могілках недалёка ад царквы ў вёсцы Азярніца Слонімскага раёна. Макарэвіч выдаў расійскім войскам некаторых паўстанцаў 1863 года, у тым ліку аднаго з кіраўнікоў паўстання на Гродзеншчыне — Карла Масальскага.

Карл Ксаверавіч Масальскі быў родным дзядзькам па маці заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага.

Сельскі стараста вёскі Азярніца Слонімскага павета Макарэвіч выдаў яго царскім карнікам, якія злавілі Карла Масальскага і прывезлі ў Слонім. Закутага ў кайданы Карла Масальскага пасадзілі ў драўляную клетку, паставілі яе на возе і вазілі напаказ па ўсім горадзе. Наперадзе ішоў атрад узброеных салдат пад камандай воінскага начальніка. Барабаншчыкі білі ў барабаны. Жыхары Слоніма з жахам глядзелі на гэтае відовішча. Нарэшце Карла Масальскага правезлі па Студэнцкай вуліцы, павярнулі на Маставую вуліцу (цяпер яна носіць імя Янкі Купалы) і спыніліся каля моста праз раку Шчару.

На балоце стаяў закапаны слуп, да якога падвялі Карла Масальскага. Яго хацелі прывязаць да слупа і завязаць вочы, але ён адмовіўся.

Салдаты выстраіліся і па камандзе начальніка ўзялі вінтоўкі, трымаючы іх напагатове. Масальскі глядзеў проста на салдат. Начальнік выцягнуў шаблю з ножнаў і падаў каманду:

— Рота, плі!

Салдаты не стралялі. Іх бянтэжыў і палохаў позірк паўстанца. Раз’юшаны начальнік закрычаў:

— Сволачы, страляйце! А не, дык вас саміх пастраляю!





Салдаты выстралілі амаль усе ўверх. Толькі адна куля трапіла ў Масальскага, аднак ён не здрыгануўся, стаяў з горда ўзнятай галавой. Падняўшы руку, Карл Масальскі крыкнуў:

— Няхай жыве свабода!

Па камандзе начальніка зноў грымнуў залп. І на гэты раз Масальскі не ўпаў.

Уражаны начальнік спытаў:

— Масальскі, ты жывы?

— Жывы!

Новы ўзмах шаблі начальніка, новая каманда, новы залп. Нарэшце акрываўлены Карл Масальскі апусціўся на зямлю.

Жаўнеры доўга не падыходзілі да паўстанца, баяліся. А потым, калі начальнік пачаў на іх крычаць, вывезлі і закапалі цела героя невядома дзе.

Так у 1863 годзе ў Слоніме загінуў камандзір паўстанцкага атрада Карл Ксаверавіч Масальскі, які змагаўся за волю нашага народа, супраць царскага самадзяржаўя.

Пра тое, як загінуў Карл Масальскі, Язэпу Стаброўскаму расказвала яго маці. А ён, калі працаваў у Слонімскім музеі, распавядаў усім, хто пытаўся пра паўстанне 1863 года.

Прайшло некалькі гадоў пасля паўстання, але былыя паўстанцы вырашылі адпомсціць Макарэвічу за Масальскага. Аднойчы яны падпільнавалі Макарэвіча і забілі. Гродзенскі генерал-губернатар за тое, што ён выдаў паўстанцаў, «узнагародзіў» яго пасмяротна: загадаў пахаваць Макарэвіча каля самай царквы ў вёсцы Азярніца і ўсталяваць надмагільны помнік. Загад губернатара выканалі. На помніку прымацавалі дзве шыльды. На адной шыльдзе напісалі: «Замученный польскими мятежниками», а на другой змясцілі такі тэкст: «Памятник сей сооружён в 1869 г. в назидание потомству по инициативе и на средства Его Высокопревосходительства г. Виленского, Ковенского и Грод-



ненского генерал-губернатора И. С. Каханова при материальном содействии крестьян Чемерской волости».

У 1930-х гадах шыльду з тэкстам «Замученный польскими мятежниками» людзі сарвалі і выкінулі. Да нашых дзён у Азярніцы каля Свята-Мікалаеўскай царквы зберагласся магіла здрадніка Макарэвіча і адзін надпіс на помніку. Але гісторыкаў і вяскоўцаў магіла Макарэвіча сёння зусім не цікавіць.

## ЯНКА ЛУЧЫНА І ВОЛЬГА ЧУМІНА

Упершыню пра рускую паэтку і перакладчыцу Вольгу Чуміну (1858–1909) на старонках сваіх кніг згадаў вялікі беларускі даследчык літаратуры XIX стагоддзя Уладзімір Мархель. Уладзімір Іосіфавіч, як мы ведаем, з'яўляецца і выдатным знаўцам жыцця і творчасці пачынальніка новай беларускай літаратуры Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага). Дзякуючы Уладзіміру Мархелю ў 1988 годзе пабачыла свет цудоўная кніга вершаў, нарысаў, перакладаў і лістоў Янкі Лучыны пад назвай «Творы». Вось там, а таксама ў іншых выданнях Уладзімір Мархель і згадвае пра Вольгу Чуміну і Янку Лучыну. Аўтар мяркуе, што Янка Лучына, напэўна, перапісваўся з Вольгай Чумінай, каб наладзіць кантакты з часопісам «Вестник Европы». «Невядома таксама, ці быў аўтар «Паляўнічых акварэлек…» асабіста знаёмы з Чумінай? Гэтая старонка біяграфіі Лучыны пакуль таксама не адгорнута», — піша Уладзімір Мархель у сваёй кнізе «Крыніцы памяці» (Мінск, 1990. С. 171).

Сапраўды, цікавы факт, хаця і асоба Янкі Лучыны ў беларускай літаратуры і гісторыі ў цэлым таксама цікавая і загадкавая. І тут можна пагадзіцца з Людмілай Рублеўскай, якая ў артыкуле «Не ради славы иль расчёта…» (СБ. 2006. 30 жніўня) так і піша, што ў біяграфіі паэта шмат белых плямаў. Белай плямай застаюцца





і адносіны Янкі Лучыны з рускай паэткай Вольгай Чумінай. Але што яны былі добра знаёмыя — гэта стапрацэнтны факт.

Руская паэтка і перакладчыца Вольга Чуміна нарадзілася ў Ноўгарадзе. У канцы XIX стагоддзя актыўна друкавалася ў пецярбургскіх часопісах, займалася перакладамі твораў Шэкспіра, Буржэ, Гюго, Петэфі, Байрана, Мільтана, а таксама Уладзіслава Сыракомлі на рускую мову. Яна пераклала і Сыракомлеву паэму «Нядзеля». Пераклад прачытаў неяк Янка Лучына, і яму ён не спадабаўся. Вядома ж, Іван Неслухоўскі ў сто разоў лепш ведаў польскую мову, чым яе ведала тая ж Чуміна. Прыйшлося дапамагаць Вользе Чумінай сваімі парадамі (гл. «Вестник Европы». 1888. № 8. С. 553). Значыць, Янка Лучына быў знаёмы з Вольгай Чумінай. І пазнаёміліся яны ў Пецярбургу. Праўда, «Нядзелю» на рускую мову Уладзіслава Сыракомлі пераклаў і сам Янка Лучына. Упершыню гэты верш на рускай мове паэт апублікаваў у «Северо-Западном календаре на 1892 год» (Мінск, 1891).

Янка Лучына за Вольгу Чуміну быў старэйшы на 7 гадоў. У 1870 годзе ён прыехаў у Пецярбург. Вучыўся год у Пецярбургскім універсітэце, потым у тэхналагічным інстытуце. І за гэты час наш зямляк добра вывучыў горад на Няве, пасябраваў з творчай інтэлігенцыяй, быў знаёмы з многімі беларусамі, якія там жылі і вучыліся, наведваў рэдакцыі газет і часопісаў. І толькі ў 1877 годзе беларускі паэт пакінуў Пецярбург, бо быў накіраваны на працу ў Тыфліс.

У гэты час у Пецярбургу часта бывала і маладая Вольга Чуміна, якая актыўна супрацоўнічала з часопісамі «Вестник Европы», «Северный Вестник», «Русское богатство», «Дело» і з іншымі, якія тады там выдаваліся. У адным з выданняў, магчыма гэта быў часопіс «Вестник Европы», літаратары пазнаёміліся. Як піша Уладзімір Мархель, Янка Лучына хацеў знаёміць праз пецярбургскія выданні рускую публіку

з польскай паэзіяй, у прыватнасці з перакладамі ім на рускую мову вершамі польскага паэта Адама Асныка (1838–1897). Аднак супрацоўніцтва з рускім часопісам не атрымалася. Чаму — невядома. Не склалася супрацоўніцтва і з іншымі пецярбургскімі выданнямі. Пакуль, напрыклад, не ўдалося знайсці на іх старонках вершаў ці перакладаў Івана Неслухоўскага. У асноўным ён свае творы друкаваў у «Минском листке», «Северо-Западном календаре», «Życii», «Prawdę» у Мінску і ў Варшаве.

Што датычыць перапіскі Янкі Лучыны з Вольгай Чумінай, дык тут таксама ёсць сумнеў. У Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскі Дом) Расійскай акадэміі навук (Ф. 333. Адз. зах. 125. 1852–1909) захоўваецца шмат дакументаў, звязаных з жыццём і творчасцю Вольгі Чумінай (па мужу Міхайлавай). Там зберагаюцца творы, дзённікавыя запісы, віншавальныя паштоўкі і тэлеграмы і г. д., а таксама пісьмы. Ёсць пісьмы да Чумінай ад Неміровіча-Данчанкі, Станіслаўскага, Гіпіус, Бацюшкава, Слонімскага, Чукоўскага, Баратынскага, Чэхава, Меерхольда і іншых вядомых асоб. Але сярод усіх пісем няма ніводнага ліста ці паштоўкі ад Неслухоўскага-Лучыны.

Магчыма, Вольга Чуміна і Янка Лучына перапісваліся. Наш паэт і перакладчык не мог без дазволу паэткі, напрыклад, перакладаць і друкаваць яе творы «У сеці» і «Маракі» на польскай мове. А яны былі змешчаны ў ягоным зборніку «Poezje» (Варшава, 1898). І гэты зборнік, не факт, што не трымала ў руках паэтка, хаця перакладчыка ўжо не было на гэтым свеце. Не факт, што і наш паэт не трымаў у руках і двух зборнікаў Вольгі Чумінай «Стихотворения» (1889, 1897), скуль ён браў для перакладу гэтыя творы паэткі. А кнігі Чумінай выйшлі з друку далёка ад Мінска, дзе дажываў апошнія гады і дні Янка Лучына.

І яшчэ. Як сцвярджае Уладзімір Мархель, у Выбраныя творы (Мінск, 1953) Янкі Лучыны быў уключаны





верш «Вось за мной, прада мной…» у беларускім перакладзе Піліпа Пестрака. Аднак гэта не арыгінальны твор паэта, напісаны па-польску, а, як аказалася, яго пераклад на польскую мову верша Вольгі Чумінай «Оглянусь ли кругом», напісанага пад уплывам папулярнага «Лірніка вясковага» Уладзіслава Сыракомлі (Вестник Европы. 1888. № 1; Ольга Чумина. Стихотворения. СПб., 1889). Дарэчы, некалькі вершаў рускай паэткі ў перакладзе Янкі Лучыны на польскую мову знаходзяцца ў рукапісах і яшчэ не публікаваліся.

## НАШАНІВЕЦ ЯНУК ДАРАШКЕВІЧ

На старонках беларускай газеты «Наша Ніва» за 1909 год з'явіліся першыя вершы невядомага паэта з вёскі Меляшкі, якая знаходзіцца недалёка ад Гарадка, што на Беласточчыне, пад псеўданімам В. Каршун. Потым вершы гэтага паэта рэгулярна друкуюцца ў «Нашай Ніве» ў 1910–1914 гадах, але пад іншымі псеўданімамі — Янук Д., Янук Д-іч. З «лёгкай» рукі Яўхіма Карскага (Карский Е. Ф. Белорусы. Петроград, 1921. Т. III. С. 337) яго творы былі прыпісаны другому паэту з Гарадка М. Арлу (Сцяпану Пятэльскаму). Пазней, памылка гэта была «ўзаконена» нават у акадэмічнай хрэстаматыі «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (Мінск, 1967). Доўгі час ніхто не звяртаў увагі на адрознасць стылю паэтаў, на тое, што М. Арол друкаваў у «Нашай Ніве» вершы-прысвячэнні Януку Д., а Янук Д., прысвячаў свае вершы М. Арлу, на рукапісы паэтаў, якія знаходзяцца ў рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы і сведчаць аб прыналежнасці розным аўтарам. І толькі дзякуючы намаганням даследчыка гісторыі літаратуры Арсеню Лісу, гісторыка Юры Туронка і іншым навукоўцам паэту з Меляшкоў было вернута імя. Імя беларускага паэта-нашаніўца Янука Дарашкевіча. А сёння настаў



час вярнуць і вершы паэта, большая частка якіх захоўваецца ў рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.

Янук Дарашкевіч нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Меляшкі ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Яго бацькі Кастусь і Настасся мелі 8 гектараў зямлі. Але хлопчыку Януку, у ліку нямногіх сялянскіх дзяцей, пашчасціла прабіцца да навукі. Спачатку ён скончыў царкоўна-настаўніцкае вучылішча ў Ялоўцы, а потым Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў у Сямёнаўцы і ў Кулях, а калі ажаніўся з Кацярынай Буцько — пераехаў настаўнічаць у вёску Даўкшы каля Панявежыса.

Працуючы настаўнікам на Бацькаўшчыне, Янук Дарашкевіч збіраў беларускія народныя песні і разам з нотамі дасылаў Антону Грыневічу ў Пецярбург. Большасць народных песень Януком Дарашкевічам была запісана ў роднай вёсцы Меляшкі. Вось адна з гэтых пранікнёных і ўзвышаных песень пра тое, як развітваецца хлопец з роднымі і каханай перад адыходам на вайну:

Ой, там на гарэ, ой, там на крутой
Сівы конь разгуляўся,
Малады хлапец, маладзюсенькі
На вайну прыбіраўся.
Як выбіраўся, то ўсім скланяўся, —
Айцу і матулі,
А сваёй мілай, наймілюсенькай
То найніжай скланяўся…

Акрамя фальклору наш зямляк захапіўся літаратурай, пачаў пісаць вершы і дасылаць іх у «Нашу Ніву». Лепшыя творы былі там надрукаваныя. Пра некаторыя з іх напісаў у сваіх «Белорусах» Яўхім Карскі. Вось адзін з прыкладаў: «Верш «Доля» адлюстроўвае гора мужыка, які пахаваў сваю жонку. Прымірэнне яго з лёсам. Як літаратурная навіна — плач каня».





А Максім Багдановіч у сваім артыкуле «За тры гады» аднёс Янука Дарашкевіча да тых аўтараў, «што маюць палёт і талент».

Увосень Янука Дарашкевіча мабілізавалі ў царскую армію і накіравалі ў школу прапаршчыкаў пад Петраград. Перад мабілізацыяй паэт перапісаў усе свае вершы ў асобны сшытак, назваў яго «Абразкі» і даслаў сшытак у рэдакцыю «Нашай Нівы» з надзеяй, што супрацоўнікі газеты выдадуць вершы асобным зборнічкам. Але зборнічак так і не пабачыў свет. Пачалася Першая сусветная вайна, а Янук Дарашкевіч «на штык замяняе пяро» і становіцца кадравым вайскоўцам. Ён прыхільна сустракае рэвалюцыю ў Расіі, служыць у Чырвонай Арміі. Праўда, пісаць вершы беларус не пакідае, хоць і жыве ў горадзе Варонежы ў Расіі. Паводле ўспамінаў блізкіх яму людзей, як піша Юры Туронак у «Ніве» ад 2 жніўня 1981 года, наш зямляк быў чалавекам шырокіх інтарэсаў, захапляўся паляваннем, рыбнай лоўляй, радыётэхнікай, разьбой па дрэве і г. д.

Падчас Другой сусветнай вайны Янук Дарашкевіч пайшоў на фронт, дзе і загінуў у ноч з 23 на 24 лютага 1943 года пад вёскай Фецішчава Балхоўскага раёна Арлоўскай вобласці ў Расіі. А ўся рукапісная спадчына беларускага паэта-нашаніўца згарэла разам з домам у Варонежы. Але, на шчасце, захаваўся ў Вільні той сшытак вершаў «Абразкі», які ў 1914 годзе ён даслаў у «Нашу Ніву». Нядаўна мне пашанцавала яго адшукаць у рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы і патрымаць у руках, прачытаць і перапісаць усе творы для гэтай кнігі. У старой папачцы акрамя сшытка вершаў знаходзіцца яшчэ пісьмо з вершамі ў «Нашу Ніву» і некалькі выразак вершаў з гэтай газеты.

Усе знойдзеныя вершы Янука Дарашкевіча сведчаць аб тым, што гэта быў таленавіты і цікавы паэт. У іх адчуваецца стылявая свабода, лёгкасць і нязмушанасць, з якой ён пераходзіць ад гумарыстычна-апавядальнага верша («Ганя») да філасофскага роздуму



(«Псалм CXXXVI»), ад песні-скаргі на мужыцкую долю-нядолю («З мужыцкага жыцця») да ўзвышанай патэтыкі, заклiку («Стогн», «Надзея»), ад з'едлівага выкрывальнага сарказму («Падлыжнікам») да духоўнай засяроджанасці, чуйнасці, тонкасці псіхалагічнага малюнка («Шкада разбітых мар…», «Мы прасціліся…», «Сончык»).

У 1991 годзе Янка Саламевіч сабраў і выдаў у Мінску асобным зборнікам творы М. Арла (Сцяпана Пятэльскага) «Лірнік». Сцяпан Пятэльскі шчыра сябраваў з Януком Дарашкевічам, разам яны пачыналі друкавацца ў «Нашай Ніве». Але яго сябра Янук Дарашкевіч заставаўся да сённяшніх дзён забытым і не вернутым чытачам. А Янук Дарашкевіч, як і Сцяпан Пятэльскі, — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры XX стагоддзя. Таму яго літаратурная спадчына таксама павінна служыць нашай літаратуры і беларускай культуры. Дзеля гэтага ён жыў, пісаў, думаў.

## ВЫСТУПЛЕННЕ ІГНАТА БУЙНІЦКАГА Ў ВАРШАВЕ

1913 год. Студэнты-беларусы Варшаўскага ўніверсітэта запрасілі да сябе ў госці Першую беларускую трупу Ігната Буйніцкага. Сам Ігнат Буйніцкі і яго калектыў ужо быў вядомы на Беларусі. Рэпертуар гэтага нацыянальнага прафесійнага беларускага тэатра складаўся з песень, танцаў і пастановак п'ес. Ён у першую чаргу меў разлік на масавага беларускага гледача і ўлічваў іх інтарэсы і патрабаванні. Але царскія ўлады непрыхільна ставіліся да паказу са сцэны твораў на беларускай мове, асабліва на вострыя сацыяльныя тэмы, яны нярэдка забаранялі выступленні. Тым не менш калектыў Ігната Буйніцкага з вялікім поспехам выступаў у Дзісне, Паставах, Полацку, Слуцку, Нясвіжы, Клецку, Ляхавічах, Свянцянах, Мінску і ў





іншых гарадах і мястэчках. Тройчы ён быў у Пецярбургу, дзе паказваў сваё майстэрства перад беларускай моладдзю.

Напачатку XX стагоддзя пра паспяховыя выступленні трупы Ігната Буйніцкага добра ведалі і беларусы Варшавы. Праз рэктара Варшаўскага ўніверсітэта Яўхіма Карскага яны загадзя, за некалькі гадоў, дамовіліся, што зімой 1913 года беларусаў Варшавы пацешыць першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага. Яўхім Карскі тады ўжо не займаў пасаду рэктара ўніверсітэта, але арганізаваць сустрэчу дапамагаў. Асабліва рупілася яго жонка Соф'я Мікалаеўна Карская. Дарэчы, родам яна была з-пад Саколкі. Спадарыня Карская разам з беларускімі жанчынамі Варшавы актыўна займалася прыгатаваннем пачастункаў, а таксама афармленнем залы, дзе павінен быў выступаць калектыў Ігната Буйніцкага.

Але працэс падрыхтоўкі гастроляў нашага вялікага заснавальніка тэатра ў Варшаве быў няпросты. Хоць большая частка студэнтаў шчыра хацела правесці выступленні беларускіх артыстаў на найвышэйшым узроўні, былі ж і такія, хто не вельмі цікавіўся і жадаў, каб развівалася беларуская культура, нацыянальнае адраджэнне беларусаў. Гэтыя супярэчнасці паміж рознымі студэнтамі і выкладчыкамі прывялі да таго, што ўскладнілася справа з друкаваннем тых самых афіш аб вечарыне і гастролях Ігната Буйніцкага, а таксама з іх распаўсюджваннем.

20 лютага 1913 года газета «Наша Ніва» паведамляла, што «афішаў на беларускай мове мы не бачылі на вечарынцы, хоць яны і былі надрукаваныя. «Беларускі каляндар» і «Крапіва» прадаваліся, але другія кніжкі ляжалі ў куточку прыкрытыя. Меліся на гэты вечар выдрукаваць аднаднёўку на беларускай мове, а выдалі парасейску і толькі на канцы памясцілі крыху беларускіх жартаў».



Ігнат Буйніцкі ў Варшаву прыехаў са сваёй старэйшай дачкой — даволі таленавітай спявачкай і танцоркай. Яны прывезлі з сабой скрыпача, старэчу-дудара, цымбаліста і іншых музыкаў і танцораў. У вялікім багажы Буйніцкіх аказалася шмат беларускіх нацыянальных касцюмаў для артыстаў, ручнікоў і дываноў для дэкарацый.

У першыя дні прыезду ў Варшаву Ігнат Буйніцкі не сядзеў без спраў. Ён таксама рыхтаваўся да выступлення. З асяроддзя беларускіх студэнтаў і выкладчыкаў, майстра сцэнічнага мастацтва згуртаваў хор і танцавальны калектыў. Штодзень праводзіў з імі рэпетыцыі, гутарыў, адказваў на пытанні і цікавіўся ў студэнтаў, як ім вучыцца і жывецца ў Варшаве.

Вечарына адбылася 15 лютага ў зале «Швейцарская даліна». Зала была падчас выступлення далёка не швейцарскай, а беларускай. Яе аформілі з беларускім густам. Там былі хаткі са студнямі, снапкі, кветкі, ручнікі і паясы. Арганізавалі таксама беларускую кухню, сябры якой частавалі прысутных беларускімі стравамі, такімі, як верашчака з грэчневымі блінамі, каўбасы, калдуны, квас і г. д. Студэнты і просты люд пачастунак расхапалі імгненна.

Мастацкая частка вечара была надзвычай удалай і багатай. Шматлікі хор выканаў лепшыя беларускія песні. І танцы былі пастаўлены прафесійна. Некаторыя нумары праграмы выконваў сам Ігнат Буйніцкі. Дэкламатары чыталі лепшыя вершы беларускіх паэтаў. Са сваімі творамі выступаў і паэт Гальяш Леўчык, які тады жыў і працаваў у Варшаве. Больш падрабязна пра гэта напісала «Наша Ніва» 20 лютага 1913 года: «…На сцэне мы бачылі і чулі беларушчыну. Хор са студэнтаў і курсістак нязгорш прапяяў беларускія песні «А хто там ідзе?», «Дуду-весялуху», «Чаму ж мне не пець» пад загадам студэнта М. Тэадаровіча, катораму належыць падзяка за рупнасць і працу; за такі кароткі час навучыць хор трэба было натугі. Малады спасобны хлопец,





вучань штукарскай школы ў Варшаве, Павел Гуткоўскі з пачуццём дэкламаваў «Абразкі» Пётры Простага, шкода толькі, што трохі заціха, не ўсе чулі, але на «біс» ужо казаў галасней творы А. Паўловіча і «Важную хвігу» Ядвігіна Ш… Найбольш падабаліся publіцы нашы народныя танцы пад загадам штукара-танцора Ігната Буйніцкага. Яго трупа на шэсць пар танцораў пад музыку сялян, што з ім разам прыехалі: дудара, скрыпача і цымбаліста, проста зрабіла на публіку захват і дзіва, бо хто ж калі там бачыў народныя беларускія танцы «Лявоніха», «Мельнік», «Верабей», «Юрка», «Мяцеліца». Відаць было з гэтага ігрышча, што беларус, ці ён праваслаўны, ці католік, адчувае глыбока ўсё сваё роднае. Відаць гэта было і з таго, як прашчаліся студэнты з Буйніцкім на вакзале, і з той прамовы, якую сказаў адзін студэнт пры прашчанні. Шчырая падзяка належыць студэнту Грыгору Гуткоўскаму, бо каб не ён, то саўсім не было б нават надрукаванай праграмы па-беларуску».

Аўтар гэтай інфармацыі крыху памыліўся. Бо тады ў Варшаве вучыліся два браты Гуткоўскія — Павел і Мікалай. Былі яны родам са Случчыны. Павел вучыўся ў Варшаўскай мастацкай школе, а Мікалай Гуткоўскі — на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Магчыма, гэта быў не Рыгор Гуткоўскі, а Павел Гуткоўскі. Бо Мікалай Гуткоўскі ў 1913 годзе, калі прыязджаў Ігнат Буйніцкі ў Варшаву, працаваў ужо служачым, а Варшаўскі ўніверсітэт ён скончыў на год раней. Праўда, на канцэрце Буйніцкага ён таксама прысутнічаў. Пазней браты Гуткоўскія былі рэпрэсаваныя. Мікалая расстралялі ў 1938 годзе, а Павел, адбыўшы тэрмін, вярнуўся на Бацькаўшчыну, дзе памёр у 1962 годзе.

Вечарына Ігната Буйніцкага ў Варшаве мела непаўторны поспех. З асаблівым зацікаўленнем і шчыра выступленні беларускіх артыстаў прыняла і польская публіка Варшавы. На другі дзень амаль усе польскія



газеты Варшавы надрукавалі на сваіх старонках пахвальныя і станоўчыя рэцэнзіі, у якіх падкрэслівалася выдатнае мастацкае і грамадскае значэнне вечарыны.

Уладзімір Няфёд у сваёй кнізе «Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра» (Мінск, 1991. С. 88) пісаў: «Поспех Ігната Буйніцкага ў Варшаве яшчэ раз нагляднa сведчыць як аб высокім узроўні яго мастацтва, так і аб вялікім значэнні, якое яно мела ў нацыянальным адраджэнні беларусаў».

## НЕДАПЕТАЯ ПЕСНЯ ЮРКІ СНАПКО

У аддзеле рэдкай кнігі Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея захоўваюцца асобныя нумары часопіса «Педагогическое дело». Гэты часопіс выдаваўся ў Гродне ў 1911–1914 гадах на рускай мове і з'яўляўся органам Гродзенскага педагагічнага таварыства. З друку выйшла 12 нумароў. Часопіс публікаваў метадычныя распрацоўкі, бібліяграфічныя агляды, справаздачы аб педагагічных курсах і вучнёўскіх экскурсіях, нататкі настаўнікаў і нават мастацкія творы. Сярод літаратурных твораў у першым і трэцім нумарах «Педагогического дела» былі змешчаны некалькі вершаў беларускага паэта з Беласточчыны Юркі Снапко. У вершы «Доля сіроткі» паэт перадае плач дзяўчыны-сіроткі пра долю горкую, якая «адна бедная, маці нет у мяне, бацькі роднага, спяць даўно яны непрабуджана».

У вершы «Мужык» Юрка Снапко апісвае беларускага мужыка, у якога «сярмяга падзёрта — адзежа уся, хлеб чорны есць, кроўю дабыты». А ў вершы «Песня» паэт хоча заспяваць песню не панам, а мужыку ў яго хатцы, заспяваць аб цяжкой нядолі, ды нават «і слёзы яму абціраў бы, туліў бы, як брата свайго».

Вершы Юркі Снапко друкаваліся таксама і ў «Коласе беларускай нівы». Гэта была газета-аднаднёўка, як





пісала Зоська Верас у артыкуле «Гродзенскі гурток беларускай моладзі» («Беларускі каляндар – 1981». Беласток, 1981. С. 180–189). Там Юрка Снапко апублікаваў вершы «Вясна», «Не даў мне бацька ні багацця…» і «Па краю».

Верш «Вясна» — гэта своеасаблівы гімн беларусам, гімн вясне, гімн свабодзе. Аўтар заклікае, каб беларусы прачнуліся, прабудзіліся, як вясна ад доўгага сну:

Прабудзілась зямля, прабудзіся і Ты,
Прабудзісь ад цямноты, нядолі,
Беларускі народ, нешчаслівы, сьвяты,
Рвісь да сонца, навукі і волі!

У вершах «Не даў мне бацька ні багацця…» і «Па краю» паэт апявае долю беларускага мужыка, які «не знаў шчасця, лепшай долі, к зямлі сагнуўшыся хадзіў». Наогул, Юрка Снапко шмат сваіх паэтычных радкоў адрасаваў простаму беларускаму люду. Ён так і пісаў: «для бедных, багатых складаў» свае вершы.

Аляксей Пяткевіч у зборніку «Краю мой — Нёман» (Мінск, 1986) усе гэтыя вершы Юркі Снапко змясціў асобнай падборкай. Ёсць там і яшчэ адзін верш, які называецца «Барацьба». Як мяркуе Аляксей Пяткевіч, ён быў напісаны значна пазней, дзесьці ў 1915 годзе, за год да смерці паэта. Магчыма, верш «Барацьба» Юрка Снапко напісаў ужо на фронце Першай сусветнай вайны. Цяжка паэту было на вайне. Ды й каму ў акопах было калі лёгка?! Але паэт заставаўся аптымістам, адчуваў сябе ўпэўнена і мужна:

Ды пакуль кроў кіпіць, сэрца б’ецца маё,
Пакуль чую сябе маладым,
Буду долю каваць, долю-шчасце маё,
Буду з лёсам змагацца сваім!

У паэзіі Юркі Снапко пераважалі грамадзянскія матывы. Паэт паказаў драматызм лёсу селяніна-



працаўніка, апяваў яго маральную сілу і чалавечую годнасць, сцвярджаў неабходнасць для народа навукі і асветы як фактара грамадскага абнаўлення жыцця, паэтызаваў любоў да Бацькаўшчыны, услаўляў барацьбу за волю і шчасце…

Юрка Снапко — гэта псеўданім паэта, актыўнага сябра Гродзенскага гуртка беларускай моладзі Язэпа Лявіцкага. У Язэпа Лявіцкага было яшчэ два псеўданімы. Гэта Бацька і Dziadźko. Яны згадваюцца і ў «Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў» (Мінск, 1983. С. 186) Янкі Саламевіча. Пад псеўданімам Dziadźko ён друкаваў вершы ў «Коласе беларускай нівы». Але скуль Янка Саламевіч узяў псеўданім Бацька — застаецца загадкай. Хаця сам даследчык сказаў аўтару гэтых радкоў, што псеўданімы Язэпа Лявіцкага Бацька і Dziadźko ён запісаў асабіста ад Зоські Верас. Але вось твораў пад псеўданімам Бацька Язэпа Лявіцкага знайсці не ўдалося.

Наш зямляк нарадзіўся ў 1893 (?) годзе на хутары Горны Хлеўск Сакольскага павета на Беласточчыне ў простай беларускай сялянскай сям'і, хаця бацька меў маёнтак і добры кавалак зямлі. У 1913 годзе Язэп Лявіцкі скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію. Падчас вучобы юнак вельмі актыўна ўдзельнічаў у рабоце Гродзенскага гуртка беларускай моладзі: выступаў у спектаклях, пісаў вершы, маляваў дэкарацыі, спяваў у хоры. Аб гэтым светлыя ўспаміны пакінула Зоська Верас: «Адразу з восені пачалі мы рыхтавацца да чарговай вечарыны-спектакля. Выбралі «Моднага шляхцюка» К. Каганца. Заварушыўся наш гурток — пачалося вывучэнне роляў, рэпетыцыі, спеўкі, рэпетыцыі аркестра, падрыхтоўка дэкарацый і г. д. «Модны шляхцюк» выйшаў вельмі добра. У яго пастаноўцы прымалі ўдзел: Д. Сівіцкая (Ганка), Язэп Лявіцкі (бацька), Казюк Калышка (шляхцюк), Вінцук Семяновіч (Ігнась), Янка Ляўковіч (сват), Адольф Зянюк (суфлёр), Адам Бычкоўскі (рэжысёр)… Публікі было шмат, быў на-





ват адзін настаўнік з Гродзенскай рэальнай гімназіі, прагрэсіўны, разумны чалавек. Але найбольшую радасць адчулі мы, бачачы дарагога госця з Вільні — Івана Луцкевіча, які прыехаў на наша запрашэнне…» («Беларускі каляндар – 1981». Беласток, 1981. С. 180–189). Пазней Іван Луцкевіч пад псеўданімам Нашанівец напіша ў «Нашай Ніве» (1911. № 8) вось такія шчырыя словы: «Зыгралі і камэдыйку «Модны шляхцюк» Каганца. Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны умелі падглядзець, падсьцерагшы характар вясковых сватаньнёў, умелі устроіць усё так, як яно папраўдзі бывае ў хаці беларускай. Апраткі былі ўзяты з вёскі, і дзяўчына — маладзіца стаяла прад невялікай грамадой сабраўшыхся у ўсей сваей красе. Добра сыгралі усе, і відаць, што аддаюцца справе з цэлым агнём маладых сваіх дум. Казалі вершы беларускіе чыстым выгаварам нашай мовы; відаць было, што горад і школа не здалелі мовы роднай скалечыць… Выходзячы позна з імянін я вынес адтуль з сабой думку, што часу не змарнаваў, і не маркоціўся, а напроціў уздыхнуў атмасфэрай здаровай чагось навучыўся. Вынасіў падзякаваньне за прыемный вечэр і веру, што гродзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперед».

Пасля вучобы ў Гародні Язэп Лявіцкі паступіў на прыродазнаўчы факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Праўда, правучыўся ён там толькі адзін год. Вучыўся добра, таму па ўласным жаданні юнака з Сакольшчыны хутка перавялі ў Ваенна-медыцынскую акадэмію.

У Пецярбургу Язэп Лявіцкі таксама не сядзеў убаку ад беларускіх спраў. Ён актыўна ўключыўся ў беларускі літаратурна-грамадскі рух, быў сябрам беларускага студэнцкага гуртка. Шмат перапісваўся з Зоськай Верас. Гэтыя лісты яна да смерці захоўвала ў сваім хатнім архіве. Як расказаў прафесар Гродзенскага ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч, нават тыя пісьмы Юркі Снапко сведчылі, што гэта быў дапытлівы, жыццелюбівы юнак,

схільны да разваг, самааналізу. Ён сур’ёзна шукаў сваю жыццёвую сцяжыну, глыбока задумваўся аб усім, да чаго дакраналася гэтае чулае, уражлівае сэрца. Але яму, тыповаму маладому інтэлігенту, які выйшаў з вёскі, нялёгка было прыжыцца ў вялікім і далёкім ад Беларусі горадзе.

У 1915 годзе Язэпа Лявіцкага прызвалі ў царскую армію і забралі на фронт Першай сусветнай вайны, дзе ён праз год загінуў. Па іншай версіі, юнак, як студэнт медыцынскай акадэміі, быў накіраваны ў Маскву ў інфекцыйны шпіталь. Там ён захварэў на тыф і памёр у 1916 годзе.

Юрка Снапко меў вялікі талент, але яго літаратурная песня так і засталася недапетай. А яму ж было ўсяго 23–25 гадоў.

## ВЫКЛАДЧЫК КЛЕЦКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Падчас працы над кнігай пра забытага беларускага кампазітара, харавога дырыжора, музычнага дзеяча, педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі Антона Валынчыка (1896–1985) пошукі слядоў прывялі мяне ў Клецкую беларускую гімназію, дзе Валынчык выкладаў у 1920-х гадах спевы і кіраваў хорам. Сама Клецкая беларуская гімназія была арганізавана і пачала сваю працу ў 1923 годзе ў Нясвіжы. Напачатку былі адчынены 4 класы. Гімназія знаходзілася на Альбянскай вуліцы ў доме Дылеўскіх. Першымі настаўнікамі гімназіі былі Рыгор Якубёнак, Франц Шнаркевіч, Вячаслаў Арэнь, Ганна Малойла.

Але ў Нясвіжы гімназія праіснавала толькі адзін год. У 1924 годзе яна перабралася ў Клецк. Гімназія знаходзілася ў доме Паповічаў у канцы Нясвіжскай вуліцы. Было адчынена пяць класаў. Дырэктарам гімназіі быў Рыгор Якубёнак. І тыя настаўнікі, якія




працавалі ў Нясвіжы, таксама пераехалі ў Клецк, акрамя Шнаркевіча, які падаўся ў Вільню.

У 1926 годзе Рыгору Якубёнку ўдалося наняць памяшканне на Татарскай вуліцы, куды і пераехала гімназія. У ёй вучылася пераважна сялянская моладзь з ваколіцаў Клецка, а таксама вучні з Нясвіжскага, Баранавіцкага, Лунінецкага і Слонімскага паветаў. Невялікую колькасць вучняў складалі дзеці святароў і дзякаў.

Аплата за вучобу ў гімназіі была невялікая. Ды і то аплочвалася вучнямі не вельмі рэгулярна, бо вучылася там сялянская бедната. Таму дырэкцыя гімназіі мела вялікія матэрыяльныя клопаты, а настаўнікі-беларусы працавалі ахвярна, зарабляючы часам па 50 злотых у месяц, а гэтых фінансаў хапала толькі на харчаванне і плату за жыллё. Ахвярна працаваў і дырэктар гімназіі Рыгор Якубёнак. Ён выкладаў у старэйшых класах матэматыку, роднае слова і гімнастыку. Акрамя гэтага знаходзіў час на працу ў сталярцы, дзе сам асабіста рамантаваў вокны, дзверы, парты.

Адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі былі ў гімназіі вельмі шчырымі. Гэта была адна сям’я. Вучні добра разумелі ахвярную працу настаўнікаў. Клецкая беларуская гімназія тады была сапраўднай кузняй беларускага нацыянальнага выхавання.

Сярод настаўнікаў Клецкай беларускай гімназіі быў і Аляксей Кішкель, які ў гімназіі выкладаў беларускую мову ў малодшых класах. Звестак пра Аляксея Кішкеля даволі мала. Тым не менш, ён заслугоўвае хоць невялікай, але шчырай згадкі. Бо гэта быў беларускі інтэлігент, педагог, чалавек, які ў 1920-х гадах стаяў на ніве адраджэння беларускай асветы.

Аляксей Кішкель нарадзіўся ў 1889 годзе ў вёсцы Гаркавічы Сакольскага павета на Беласточчыне. Вучыўся ў Вільні. Калі ў Клецку адкрылася беларуская гімназія, Аляксей Кішкель прыехаў туды і стаў у гімназіі

выкладаць беларускую мову і матэматыку. Пэўны час па сумяшчальніцтву нават узначальваў бібліятэку гімназіі. Вучні і выкладчыкі вельмі паважалі свайго настаўніка і калегу. Праўда, у палітычных справах ён стараўся ўдзелу не прымаць. Але актыўна арганізоўваў з дзецьмі беларускія нацыянальныя мерапрыемствы, ладзіў у гімназіі розныя конкурсы, сустрэчы…

Пасля закрыцця Клецкай беларускай гімназіі Аляксей Кішкель прыехаў у вёску Карозічы Квасаўскай гміны на Гарадзеншчыну. Прыдбаў сабе невялікую краму і гэтым зарабляў на жыццё. Потым пераехаў у Гародню. Там адкрыў невялікую сталоўку.

Ды прыватны бізнес хутка скончыўся, бо на Гарадзеншчыну і на Беласточчыну прыйшла савецкая ўлада. Але і з яе прыходам Аляксей Кішкель не сядзеў без справы. Ён стаў працаваць настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Квасаўскай сярэдняй школе Гарадзенскага раёна.

У перыяд нямецкай акупацыі Аляксей Кішкель разам з жонкай і сястрой жыў на хутары ў свайго швагра Антона Гірды каля вёскі Каўпакі Капцёўскай гміны Гарадзенскага раёна. Паблізу тых мясцін жыў і Апанас Цыхун. Пры жыцці я ў яго неяк запытаўся, што ён ведае пра настаўнікаў Клецкай беларускай гімназіі. У пісьме ён трохі расказаў пра Антона Валынчыка і Аляксея Кішкеля: «Паблізу вёскі Каўпакі некалі жыў і я. Амаль кожны дзень я сустракаўся з Аляксеем Васільевічам Кішкелем. Памятаю, як ён мне вечарамі расказваў пра Клецкую беларускую гімназію. Успамінаў настаўнікаў, у тым ліку і Антона Валынчыка. Асабліва цёпла ўспамінаў Кішкель дырэктара гімназіі Рыгора Якубёнка, які выкладаў матэматыку, родную мову і нават сталярскую справу…».

Пасля вайны з хутара Аляксей Кішкель пераехаў у Гродна. Там купіў сабе невялікі дом, дзе жыў з жонкаю і сёстрамі. Працаваў інспектарам у Гродзенскім раённым





аддзеле народнай адукацыі, але не доўга. Па лжываму даносу яго вызвалілі па нядобранадзейнасці як былога настаўніка Клецкай беларускай гімназіі, гэта значыць як нацыяналіста.

Доўгі час Аляксей Кішкель знаходзіўся пад наглядам КДБ. Але яму ўсё ж неяк удалося ўладкавацца настаўнікам у вячэрнюю школу пажарнай каманды ў Гродне. З гэтай пасады ён і пайшоў на мізэрную пенсію. Але і на пенсіі не сядзеў склаўшы рукі. Актыўна працаваў на сваім агародзе, трымаў коз.

У апошнія гады свайго жыцця наш зямляк цяжка хварэў. Ён доўга ляжаў у ложку. «Я амаль кожны дзень наведваў яго. У маёй прысутнасці Аляксей Васільевіч Кішкель і памёр. Пахавалі яго на старых Занёманскіх могілках у Гародні», — згадваў у адным з пісем Апанас Цыхун.

## СЯРГЕЙ ПАЎЛОВІЧ І ЧАСОПІС «СНАПОК»

У травеньска-чэрвеньскім нумары віленскага часопіса «Беларускі летапіс» за 1937 год была надрукавана аб'яўка аб тым, што 1 траўня 1937 года ў Варшаве пры газеце «Слово», якая выдаецца праваслаўнай мітраполіяй, пачаў выходзіць новы беларускі ілюстраваны царкоўна-культурны часопіс для дзяцей «Снапок». Ён з'яўляецца дадаткам да газеты, і дзеткі яго змогуць чытаць кожны месяц.

Сапраўды, першыя тры нумары «Снапка» напачатку ліпеня 1937 года ўжо прадаваліся ў Варшаве на вуліцы Парыска, 27, а таксама ў Вільні ў кнігарні «Пагоня» на Завальнай вуліцы, 1 і ў іншых месцах.

Рэдактарам часопіса «Снапок» быў беларускі дзеяч на ніве царкоўнай асветы, багаслоў, педагог і перакладчык Сяргей Паўловіч (1875–1940). Родам ён быў з вёскі Асавец Кобрынскага павета (цяпер Драгічынскі раён).



Скончыў духоўную семінарыю ў Вільні, у 1900 годзе — Кіеўскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя. Працаваў у царкоўных установах, выкладчыкам настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове. Пяць гадоў быў інспектарам народных школ Ваўкавыскага павета, потым настаўнікам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, адным з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы.

У пачатку 1937 года Сяргей Паўловіч прыязджае ў Варшаву. У газеце «Слово» праваслаўнай мітраполіі ён дамаўляецца наконт выдання беларускага дзіцячага часопіса «Снапок». Ідэю такую супрацоўнікі «Слова» падтрымліваюць. І Сяргей Паўловіч узяўся за працу. Ён зняў для пражывання ў Варшаве кватэру і кожны дзень прыходзіў на працу ў рэдакцыю «Слова». А 1 траўня 1937 года з друку выйшаў першы нумар часопіса. Свае карэспандэнцыі чытачы маглі прысылаць не толькі на варшаўскі адрас часопіса, але і на віленскі хатні адрас Паўловіча: Папоўская вуліца, 9, кв. 4. На часопіс адразу была адкрыта падпіска. Яе прымалі і ў Варшаве ў рэдакцыі «Слова», і ў Вільні ў кнігарні «Пагоня».

Часопіс «Снапок» поўнасцю рабіў сам Сяргей Паўловіч. Ён пісаў многія рэлігійныя творы, артыкулы пра асветнікаў Кірылу і Мяфодзія, Ефрасінню Полацкую, трох віленскіх мучанікаў, архітэктурныя помнікі Беларусі, перадавыя артыкулы пра народныя і рэлігійныя святы, сам падбіраў творы беларускіх пісьменнікаў. На старонках «Снапка» друкаваліся артыкулы пад рубрыкай «Усячына», дзе паведамляліся звесткі з галіны геаграфіі, біялогіі, іншых навук.

У часопісе шырока былі прадстаўлены асноўныя жанры беларускага фальклору. Гэта былі народныя песні, казкі, прымаўкі, загадкі, якія прапаноўваў у часопіс Рыгор Шырма. Актыўна друкаваліся ў «Снапку» творы для дзяцей Максіма Танка, Міхася Васілька, Ніны Тарас, Міхася Машары, Алеся Дубровіча, Янкі





Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Янкі Журбы, Альберта Паўловіча, байкі Янкі Быліны, перакладзеныя на родную мову творы М. Лермантава, Ф. Цютчава, Г. Сянкевіча і іншых пісьменнікаў.

Сваім выданнем Сяргей Паўловіч намагаўся выхаваць у беларускіх дзетак пачуццё прыналежнасці да свайго народа, які размаўляе на роднай мове. Рэдактар праз часопіс імкнуўся пашырыць асвету на беларускай мове, садзейнічаў фарміраванню дэмакратычных поглядаў, абуджаў нацыянальную свядомасць у дзяцей і іх бацькоў, далучаў юных чытачоў да скарбніцы нацыянальнай і сусветнай культуры. І гэта яму ўдавалася. Разнастайнасць матэрыялаў, добрыя пераклады сусветнай літаратуры, добры адбор беларускіх твораў «Снапок» з кожным нумарам станавіўся ўсё больш і больш папулярным. Ён рэгулярна выходзіў з траўня 1937 года да сакавіка 1938 года. Арсень Ліс памыліўся, калі напісаў у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Мінск, 2001. Т. 6. С. 371), што «Снапок» выходзіў да верасня 1939 года. З друку выйшла ўсяго 10 нумароў, і ўжо сакавіцкі нумар за 1938 год да чытачоў не прыйшоў.

Прычыны, як пісалі тады некаторыя заходнебеларускія выданні, былі невядомыя. Але беларускі ўніяцкі часопіс «Злучэнне» № 6 за 1938 год паведаміў, што выдаваць «Снапок» забаранілі адміністрацыйныя ўлады.

Сяргей Паўловіч моцна перажываў, што забаранілі выдаваць яго любімы часопіс. Ён вярнуўся з Варшавы ў Вільню і ў верасні 1940 года памёр ад інфаркту.



# БУНТАВАЛА КРОЎ БУНТАРНАЯ...

У «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», выдадзенай у Мінску ў 1964 годзе, Уладзімір Калеснік пісаў: «Галоўнай фігурай сярод нацыянал-дэмакратаў быў Казімір Сваяк. На яго арыентаваліся А. Бартуль, Ф. Грышкевіч і некаторыя іншыя». У рускамоўным выданні гэтай кнігі (1977) сказана, што «дань эстетским вывертам отдавали начинающие авторы из студенческой молодёжи (Е. Бартуль, Ф. Гришкевич и др.)». Каментарый тут, відаць, непатрэбны. Адно скажу, што з вершамі Франука Грышкевіча беларускі чытач ужо знаёмы. Аўтар гэтых радкоў у 1999 годзе падрыхтаваў і выдаў у Беластоку кнігу «Вяртанне да сваіх», куды ўвайшлі творы Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча і Уладыслава Казлоўшчыка. Не менш здольным за гэтых заходнебеларускіх літаратараў быў і яшчэ адзін рамантык у якога «бунтавала кроў бунтарная» і быў «хто духам малады» — Аўген Бартуль. У чэрвеньскім нумары выдатнага часопіса «Першацвет» (на жаль, ён ужо не выдаецца) за 1993 год мне ўдалося апублікаваць невялікую згадку і некалькі вершаў Аўгена Бартуля. Але за гэты час адшукана шмат новых твораў і звестак пра яго.

З аўтабіяграфіі Аўгена Бартуля, якая напісана на польскай мове і захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы (Ф. 175. Воп. 2. Спр. 556. Арк. 29), стала вядома, што Аўген Бартуль нарадзіўся ў Пецярбургу 26 лютага 1908 года. Ягоным бацькам быў фармацэўт Данат Бартуль, які працаваў у аптэцы Пеля ў Пецярбургу, а маці — Юлія Бонфельт была хатняй гаспадыняй. У 1917 годзе Аўген Бартуль паступіў у першы клас школы імя Сестранцэвіча пры касцёле святога Станіслава. Але праз год хлопчык пакінуў вучобу, таму што ягоныя бацькі, у сувязі з рэвалюцыйнымі хваляваннямі і надыходзячым голадам, выехалі на радзіму ў Віцебскую губерню, Дзісенскі павет, Пры-





друйскую гміну, дзе ў іх быў кавалак зямлі, на якой яны і пасяліліся.

Да восені 1922 года Аўгена вучыў бацька. А потым юны Бартуль паступіў у пяты клас Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, якую закончыў у 1926 годзе. Пасля стаў слухачом матэматычна-прыродазнаўчага факультэта Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, на якім вывучаў хімію на працягу аднаго года. А потым быў залічаны студэнтам прыродазнаўчага факультэта. У 1928 годзе Аўген Бартуль перавёўся на юрыдычны факультэт універсітэта.

Калі Аўген Бартуль вучыўся ў Вільні, на Дзісеншчыне памерлі яго бацькі. Апекавацца юнаком стаў просты селянін з Латвіі Уладзіслаў Камараневіч. Магчыма, гэта быў нейкі сваяк Бартуляў.

У 1931 годзе, пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта, Аўген Бартуль атрымаў званне «магістар права». Працаваў следчым на Лідчыне і ў Вільні.

Пісаць па-беларуску пачаў тады, калі вучыўся ў Дзвінскай беларускай гімназіі. А першыя творы ў друку з'явіліся ў 1925 годзе. З вершамі, артыкуламі і лірычнымі замалёўкамі выступаў у шматлікіх калектыўных зборніках, альманахах, у часопісах «Шлях моладзі», «Калоссе», «Студэнцкая думка». На жаль, у канцы 1930-х гадоў Аўген Бартуль пакінуў пісаць, а таксама нікому не дазваляў перадрукоўваць свае творы. А калі гэта хто рабіў без дазволу, справа нават магла дайсці да суда. Чаму назаўсёды развітаўся з пяром таленавіты беларускі юнак, цяжка адказаць. Маленькая адгадка наконт гэтага выплывае толькі з успамінаў Максіма Танка («Лісткі календара»): «Каля «Бара Акацімскага» ледзь не напароўся на Х. Ільяшэвіча і А. Бартуля — не так даўно яшчэ двух славутых паэтаў (быў гэта 1935 год. — *С. Ч.*). Першы, стаўшы ценем Р. Астроўскага, п'е, спыніўшыся на нейкім раздарожжы паэзіі і непаэзіі, піша свае анемічныя, выхалашчаныя вершы; другі, як яго ву-



саты патрон, які, даехаўшы ў свой час на трамваі да прыпынку «Незалежнасць», развітаўся з сацыялізмам, дабраўшыся да панскага карыта, развітаўся са сваім былым радыкалізмам і вершамі і зараз памагае пракурору пісаць акты абвінавачання супраць нас. Помню, у 1930 годзе мяне з імі пазнаёміла сястра Л. — Зося. А Бартуль тады, здаецца, адзначаў пяцігоддзе сваёй літаратурнай дзейнасці… Другая сустрэча была праз год, калі мяне ў наручніках прывезлі з Глыбокага ў Вільнюскі акруговы суд і прывялі на допыт да следчага, у пакоі якога я неспадзявана ўбачыў А. Бартуля. Ён увесь час, пакуль мяне дапытвалі, сядзеў за сталом, апусціўшы галаву, не адрываючы вачэй ад нейкіх папер. І вось — трэцяя сустрэча з памочнікам следчага. Добра, што не заўважылі мяне. Я спыніўся каля вітрыны кніжнага магазіна, у якой, быццам у люстры, бачыў, як яны перайшлі на другую старану вуліцы. Ля старой камяніцы, дзе, здаецца, мясцілася калісьці славутая друкарня Мамонічаў, стаяла некалькі рамізнікаў. Удвух яны, уваліўшыся ў сані, паехалі ў бок Нямецкай вуліцы. Можа, куды зноў пішуць…».

У гады Другой сусветнай вайны Аўген Бартуль жыў і працаваў на Лідчыне. Адсюль ён пісьмова звярнуўся да старшыні Віленскага беларускага камітэта доктара-стаматолага Баляслава Грабінскага, каб той выслаў яму ліст-пацвярджэнне, што Бартуль з'яўляецца беларускім пісьменнікам. На што Баляслаў Грабінскі хутка даў адказ: «Ці не запозна вы пра гэта ўспомнілі?..».

Пасля вайны след Аўгена Бартуля губляецца дзесьці на Захадзе.

Да сказанага вышэй хочацца ўсё ж дадаць, што які б ні быў жыццёвы і творчы шлях Аўгена Бартуля, з гісторыі беларускай літаратуры гэтае імя выкрасліць немагчыма. Дзясяткі ягоных твораў раскіданы па шматлікіх былых заходнебеларускіх выданнях. Прыйдзе час — і мы збяром іх пад адну вокладку.





# АПОШНЯЕ ВЯРТАННЕ МІХАЛА ФЕДАРОЎСКАГА

Беларускаму і польскаму фалькларысту, этнографу, археолагу, краязнаўцу і калекцыянеру Міхалу Федароўскаму (1853–1923) належыць адно з самых пачэсных месцаў сярод працаўнікоў на ніве беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі, сярод даследчыкаў, якія выканалі тытанічную працу па выяўленню мастацкіх здабыткаў беларускага народа і тым самым прычыніліся да паўнейшага раскрыцця духоўнага вобліку беларускага народа перад усім светам. Так пра Міхала Федароўскага сказаў даследчык яго творчасці, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч. Шматтомная праца «Люд беларускі» Міхала Федароўскага — гэта сапраўдная скарбніца духоўнай творчасці народа, у якой сабраны і апублікаваны тысячы песень і казак, вераванняў і забабонаў, прыказак і загадак, паданняў, легенд, анекдотаў, прыпевак, што стварала творчая фантазія нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Таму нездарма вялікі беларускі паэт Уладзімір Дубоўка назваў Федароўскага збіральнікам жэмчугу.

Жыццё і дзейнасць збіральніка жэмчугу непарыўна былі звязаны з Варшавай і з беларусамі, якія там жылі напачатку XX стагоддзя. Варшава з'яўляецца радзімай Міхала Федароўскага, дзе ён нарадзіўся 1 верасня 1853 года. Бацька яго Адольф па нацыянальнасці быў кашубам, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў, пасля якога эмігрыраваў у Францыю і хутка пакінуў сям'ю. А ў 1870 годзе падчас франка-прускай вайны загінуў у бітве пад Арлеанам. Маці Элеанора сына выхоўвала адна, праўда, дапамагалі і яе бацькі. Калі Міхал падрос, скончыў чацвёрты клас мужчынскай прагімназіі з рускай мовай навучання ў Варшаве. Тады і зацікавіўся юнак фальклорам, у прыватнасці прыказкамі і фразеалагізмамі, запісваў іх ад варшавян.



У 1873–1874 гадах быў вольным слухачом Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой.

У 1877 годзе Міхал Федароўскі выехаў у Заходнюю Беларусь. На працягу 17 гадоў ад Беласточчыны да Случчыны ён паглыблена даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру беларускага народа, збіраў этнаграфічныя матэрыялы, экспанаты, кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, раскопваў курганы, старажытныя паселішчы, могільнікі, назапашваў матэрыял да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі і г. д. Сабраў больш за 5000 беларускіх песень каляндарнага і сямейна-абрадавага цыклаў, запісаў больш за 10 тысяч прыказак, звыш 500 загадак, сотні чарадзейных, сацыянальна-бытавых, сатырычных і іншых казак, легенд, паданняў, анекдотаў, жартаў, гумарэсак, народных павер'яў, забабонаў, прымхаў, парад па народнай медыцыне і г. д. Шмат этнаграфічных запісаў, археалагічных экспанатаў дасылаў Зігмунту Глогеру ў яго маёнтак Яжэва на Беласточчыне, дарыў навуковым установам.

У 1904 годзе Міхал Федароўскі назаўсёды вяртаецца ў Варшаву. 10 траўня 1904 года «Gazeta Polska» (№ 129) паведамляла, што ў Варшаву пераехаў вядомы этнограф і археолаг, аўтар вялікай працы пад назвай «Люд беларускі» Міхал Федароўскі. Збіральнік прывёз з сабой багатыя калекцыі археалагічных экспанатаў, сабраных на Беларусі, некалькі тысяч навуковых кніг пераважна з XVIII–XIX стагоддзяў, больш за 5000 гравюр, велізарную колькасць гістарычных дакументаў і прыватных пісем XVII і XVIII стагоддзяў з архіваў Пацаў, Пацеяў, Храптовічаў, Сапегаў, сабраных ім на застрэшшах і ў куфрах шляхецкіх двароў, фальваркаў і засценкаў.

Пераехаўшы ў Варшаву, Міхал Федароўскі пачаў апрацоўваць сабраныя на Беларусі прыказкі. Потым заняўся класіфікацыяй, апрацоўкай і падрыхтоўкай да друку вялікага збору беларускіх народных песень. Але





ўсё гэта яму зрабіць было не проста, таму ў Варшаве ён шукаў памочнікаў.

Першай памочніцай Міхала Федароўскага ў апрацоўцы беларускага фальклору ў Варшаве была Лідзія Падул. Дзяўчына з Лідскага павета вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. Па словах Янкі Саламевіча, даследчыка творчасці Федароўскага, Лідзія Падул нават запісала 7 песень для Федароўскага ў Лідскім павеце. Дзяўчына шмат дапамагала фальклярысту, нават пэўны час жыла ў яго на кватэры. Але больш звестак пра Лідзію Падул адшукаць не ўдалося. Магчыма, пасля заканчэння кансерваторыі, яна пакінула Варшаву.

Вельмі часта ў Міхала Федароўскага бываў Рамуальд Зямкевіч — беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, гісторык і калекцыянер, які жыў у Варшаве. Ён пазнаёміўся з Федароўскім у 1905 годзе. Рамуальда Зямкевіча найперш цікавілі антыкварныя калекцыі Федароўскага. Вядома, ён шмат дапамагаў у апісанні і класіфікацыі сабранага ім матэрыялу, нешта купляў у Федароўскага, нешта абменьваў і нават мог украсці. Гэта была яго хвароба, як згадваў Сяргей Хмара (Слонімскі край. 2000. № 1. С. 39). У 1931–1935 гадах Рамуальд Зямкевіч вёў карэктуру чацвёртага тома працы «Люд беларускі».

Часта ў доме Міхала Федароўскага заседжваўся беларускі паэт Гальяш Леўчык, які тады жыў у Варшаве. Яму, як нікому іншаму, найбольш давяраў пан Федароўскі. Гальяш Леўчык шмат дапамагаў яму, дапамагаў шчыра і аддана. Многа кніг са сваёй сабранай бібліятэкі Міхал Федароўскі проста падароўваў Гальяшу Леўчыку. І калі хто з беларусаў бываў тады ў Гальяша ў маленькай кватэрцы ў Варшаве на вуліцы Леапальдыны, 35, кв. 32, то бачыў сярод шматлікіх кніг і тры тамы «Люду беларускага» з аўтографамі Федароўскага, падараваныя Гальяшу Леўчыку.

Жывучы стала ў Варшаве, Міхал Федароўскі па-ранейшаму не забывае Беларусь. Ён працягвае і ў Вар-



шаве збіраць беларускія матэрыялы, просіць знаёмых дасылаць яму ўсё беларускае. Напрыклад, у лісце да Цэцыліі Снягоцкай у Львоў у 1908 годзе Федароўскі просіць дасылаць яму кніжачкі, якія тычацца Русі Літоўскай (Янка Саламевіч. Міхал Федароўскі. Мінск, 1972. С. 354).

З Варшавы Міхал Федароўскі вядзе вялікую перапіску з супрацоўнікамі «Нашай Нівы», «Biełarusa», прыватнымі асобамі. І пастаянна працуе над «Людам беларускім». Але жыць у Варшаве з матэрыяльнага боку Міхалу Федароўскаму было вельмі цяжка. Таму, каб знайсці сродкі для існавання, ён прадаваў свае калекцыі варшаўскім бібліяфілам, гандлярам старажытнасці, тым, хто цікавіўся антыкварыятам, быў пасрэднікам у некаторых гандлёвых здзелках. Многія рэчы ён прадаваў вельмі танна, а таксама ахвяраваў музеям, архівам і бібліятэкам Польшчы.

У пачатку 1920-х гадоў ён захварэў. А 10 чэрвеня 1923 года Міхала Федароўскага не стала. Яго пахавалі на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве. На надмагільнай пліце сябры Варшаўскага навуковага таварыства напісалі: «Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар «Люду беларускага». 1853–1923».

## НЕВЯДОМЫ ПАЭТ І АРХЕОЛАГ ГЕНРЫХ МІЛАЧЭЎСКІ

Даўно яшчэ чуў ад старых сваіх землякоў, што ў пачатку XX стагоддзя на Слонімшчыне жыў цікавы паэт і археолаг Генрых Мілачэўскі. Знайсці хоць якія-небудзь звесткі пра яго ў Беларусі і ў Польшчы мне шмат гадоў не ўдавалася. Няма звестак пра яго і ў «Польскім біяграфічным слоўніку».

Тым не менш у апошні час сёе-тое з біяграфіі Генрыха Мілачэўскага ўдалося даведацца. Найбольш у гэтым дапамагла 85-гадовая сланімчанка Ганна Пішчыкевіч.




Ганна Фёдараўна родам з Мілачэўскіх. Пра сваіх дзядоў і прадзедаў яна мне расказала вось якую гісторыю.

Браты Мілачэўкія ў XIX стагоддзі жылі ў вёсцы Блізная, недалёка ад шашы па дарозе са Слоніма на Ружаны. Адзін з братоў — Міхал Мілачэўскі — браў удзел у паўстанні 1863 года. А пасля паражэння паўстання Міхалу Мілачэўскаму ўдалося ўцячы ў Парыж. Там ён ажаніўся з француженкай і ад гэтага шлюбу меў дачку і сына. Пражыўшы ў Парыжы 13 гадоў, Міхал з сям'ёй вярнуўся на Слонімшчыну. Але браты не дужа ветліва яго сустрэлі і адмовілі Міхалу ў спадчыне, якая засталася ад бацькоў. За прывезеныя з Францыі грошы Міхалу Мілачэўскаму ў 1878 годзе ўдалося купіць невялікі маёнтак на хутары Камілёва і млын у вёсцы Клепачы Слонімскага павета. А калі Міхал састарэў, то ўсю сваю спадчыну ён перадаў сыну Паўлу.

На той час Павел жыў добра, у яго было чацвёра дзяцей — Генрых, Ганна, Марыя і Паўліна. Кожнаму з дзяцей Паўла пасля смерці ў спадчыну засталося па 5 гектараў зямлі і па ј частцы млына ў вёсцы Клепачы. Праўда, сына Генрыха праца на зямлі мала цікавіла, яго больш цягнула да кніг, да вывучэння гісторыі роднай зямлі.

Генрых Мілачэўскі нарадзіўся прыблізна ў 1897 годзе на хутары Камялёва, недалёка ад чыгуначнай станцыі Азярніца. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Слоніме. Потым, магчыма, вучыўся ў Вільні. Але дзе канкрэтна, аўтару гэтых радкоў даведацца пакуль не ўдалося.

Генрых Мілачэўскім пісаў на польскай і беларускай мовах, якія сам дасканала ведаў. У 1929 годзе ў Гродне ў друкарні К. Крамкоўскага ён выдаў зборнік выбраных вершаў на польскай мове «Płyń, piosenko». Сюды ўвайшлі вершы, напісаныя аўтарам на працягу 1908–1922 гадоў. Гэта вершы, прысвечаныя роднай прыродзе, бацькоўскай зямлі, сябрам, землякам, шмат радкоў на рэлігійныя тэмы, а таксама вершы, прысве-

чаныя бежанству перыяду Першай сусветнай вайны. У адным з вершаў паэт сам шчыра прызнаўся: «Для вас — знаёмых і незнаёмых сёстраў і братоў я пішу свае паэтычныя радкі».

Генрых Мілачэўскі для Ганны Пішчыкевіч быў дзядзькам, гэта родны брат яе мамы. У Ганны Фёдараўны да сённяшніх дзён захоўваецца вышэй названы зборнічак вершаў з аўтографам для яе мамы: «Каханай маёй сястры Полі — на памятку. Г. Мілачэўскі. 17.XI.1930».

Сама Ганна Пішчыкевіч не памятае роднага дзядзькі. Але па яе словах, як расказвала ёй мама, дамоў са Слоніма, Гродна і Вільні Генрых прыязджаў з кнігамі, часопісамі і газетамі альбо з калекцыямі розных старых рэчаў. Дарэчы, у фондах Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея знаходзіцца крамянёвы інвентар з ваколіц маёнтка Антонава былога Слонімскага павета (ГИАМ 3642). Ён быў перададзены ў музей Генрыхам Мілачэўскім перад Другой сусветнай вайной і налічвае 28 адзінак. Той факт, што калекцыя складаецца толькі з крамянёвых прыладаў працы, сведчыць аб тым, што іх збіральнік валодаў пэўнымі археалагічнымі ведамі. Асноўная частка гэтых знаходак колькасна і тыпалагічна адносіцца да перыяду канца неаліту — пачатку бронзавага веку (другая палова III — першая палова II тысячагоддзя да нашай эры). І на сённяшні дзень гэта знаходка з’яўляецца каштоўнай у фондах Гродзенскага музея.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны Генрых закахаўся ў прыгожую яўрэечку са Слоніма. Ён прысвяціў ёй шмат сваіх паэтычных строфаў. Але вайна і тагачасныя расійскія парадкі выгналі сям’ю Мілачэўскіх у глыб Расіі. Пасля вяртання спаткаць сваё першае каханне Генрых не змог. Ён пайшоў у прымы да багатай жанчыны, якая жыла на хутары Антонава. У іх нарадзілася дачка Галіна.

У канцы 1930-х гадоў Генрых Мілачэўскі моцна захварэў на цукровы дыябет. Яму аднялі нагу, а 3 лю-





тага 1941 года паэта і археолага стала. Пахавалі яго на могілках вёскі Моўчадзь, цяпер гэта Баранавіцкі раён.

## РЫГОР ШЫРМА НА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСА «КАЛОССЕ»

20 студзеня 2012 года споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага харавога дырыжора, фалькларыста, грамадскага і музычнага дзеяча, публіцыста, народнага артыста Беларусі і СССР, Героя Сацыялістычнай Працы, двойчы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Рыгора Шырмы (1892–1978). Тыя, каму ў жыцці пашанцавала сустракацца ці сябраваць з Рыгорам Раманавічам, заўсёды самымі светлымі словамі згадваюць гэтага таленавітага чалавека, які быў родам з вёскі Шакуны Пружанскага павета. А народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч назваў Рыгора Шырму «патрыярхам беларускай музыкі, чараўніком-валадаром роднай песні, яе самаадданым прапагандыстам і папулярызатарам, руплівым фалькларыстам-збіральнікам, патрабавальным і клапатлівым настаўнікам-педагогам, нястомным грамадскім дзеячам…».

У 1925 годзе Рыгор Шырма з Пружан пераехаў у Вільню. Там працаваў у сакратарыяце Грамады, выхавацелем у інтэрнаце для хлопчыкаў Віленскай беларускай гімназіі. З 1926 года выкладаў у гімназіі спевы і арганізаваў хор. А праз год ён узначаліў Таварыства беларускай школы і заставаўся сакратаром Галоўнай управы аж да забароны арганізацыі ў 1936 годзе. За гэты час Рыгор Шырма аб’ехаў усю Заходнюю Беларусь, наладжваў усюды гурткі ТБШ і хоры, школы з беларускай мовай навучання, дапамагаў ставіць спектаклі.

Усюды, дзе б ні бываў Шырма, ён не забываў запісваць народныя песні, для чаго нястомна адшукваў таленавітых спевакоў. Шырма не спыняўся толькі на



запісе народных песень, а шукаў кампазітараў, якія апрацоўвалі б іх. Не маючы магчымасці звярнуцца да музыкантаў Савецкай Беларусі, ён знайшоў выдатных майстроў — расійскага кампазітара Аляксандра Грачанінава ў Парыжы і ўкраінскіх Аляксандра Кошыца і Мікалая Гайваронскага ў Нью-Ёрку. Атрыманыя ад іх і Канстанціна Галкоўскага апрацоўкі адразу правяраліся ў хорах гімназіі ў другой палове 1920-х і Беларускага саюза студэнтаў у 1930-я гады. Апошні, заснаваны Рыгорам Шырмам у 1931 годзе, пасля таго, як з ім стаў выступаць выдатны спявак родных песень Міхась Забэйда-Суміцкі, стаў выдатнай мастацкай з'явай у Заходняй Беларусі.

Акрамя таго, Рыгор Шырма ўдзельнічаў у дзясятках з'ездаў ТБШ, прачытаў сотні лекцый па беларускай культуры, выступіў са шматлікімі канцэртамі, быў выдаўцом зборнікаў беларускіх песень, папулярных у Заходняй Беларусі паэтаў Міхася Васілька, Сяргея Крыўца, прапагандаваў творчасць сваіх вучняўгімназістаў Алеся Салагуба і Валянціна Таўлая. Рыгор Раманавіч першым разгледзеў магутны талент удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху Максіма Танка, адклаў выданне сваіх фальклорных запісаў і на ахвяраваныя грошы выдаў першы зборнік паэта «На этапах».

З літаратуразнаўчымі артыкуламі і рэцэнзіямі Рыгор Шырма пачаў выступаць у друку з 1933 года. У гэтым годзе разам з Феліксам Стацкевічам пачаў выдаваць часопіс «Летапіс ТБШ» (з 1936 года ён называўся «Беларускі летапіс». — *С. Ч.*).

У 1930-я гады пра дзейнасць Рыгора Шырмы пісалі амаль усе беларускія выданні, якія выходзілі ў Вільні. Шмат сваіх старонак пра музычную дзейнасць і творчасць геніяльнага беларускага дырыжора і грамадскага дзеяча адводзіў часопіс «Калоссе» — адно з найпапулярнейшых выданняў у былой Заходняй Беларусі.





Квартальнік «Калоссе» выдаваўся ў Вільні з пачатку 1935 да 1939 года на беларускай мове.

У 1935 годзе часопіс «Калоссе» (№ 3) паведаміў, што «сёлета вясной кампазітар Грачанінаў згарманізаваў 10 народных песень, а апошнім часам распачаў гарманізацыю новых, з ліку 70, якія запісаў і пераслаў яму ведамы беларускі культурны дзеяч і рэгент беларускага хору гр. Р. Шырма». Пра творчую сувязь расійскага кампазітара Аляксандра Грачанінава (1864–1956) і Рыгора Шырмы «Калоссе» пісала некалькі разоў. На той час Аляксандр Грачанінаў жыў у Парыжы, але вельмі актыўна ліставаўся з Рыгорам Шырмам. Гэта дзякуючы Рыгору Раманавічу Аляксандр Грачанінаў апрацоўваў беларускія народныя песні, якіх захавалася 17 для голасу і фартэпіяна, 11 — для мяшанага хору. На тэмы беларускіх народных песень расійскі кампазітар напісаў «Беларускую рапсодыю» для сімфанічнага аркестра і п’есу для скрыпкі на тэму калядкі з Пружанскага павета «Дар Белай Русі». Ён з’яўляецца аўтарам музыкі да п’есы Васіля Шашалевіча «Апраметная», якая была пастаўлена БДТ-2 у 1926 годзе. Рыгор Шырма ў сваіх артыкулах часта прыгадваў свайго сябра: «Песні, як і ўсе грачанінаўскія гарманізацыі, цудоўныя, апрацаваныя з вялікім артыстызмам. Асаблівай прыгажосцю ў выкананні хорам адзначаецца апошняя песня «Ой, гыля, гыля». Нашы скарбы растуць! Да павелічэння іх спрычыняецца слаўны кампазітар А. Ц. Грачанінаў» («Летапіс ТБШ». 1936. № 4–8. С. 41).

У 1936 годзе «Калоссе» (№ 2) распачало друкаваць артыкул Мар’яна Пецюкевіча «Беларуская мэлёграфія». У ёй аўтар згадвае і музычную дзейнасць Рыгора Шырмы. Ён нагадвае сваім чытачам, што ў 1929 годзе ў Вільні Рыгор Шырма выдаў асобнай кніжачкай «Беларускія народныя песні», куды ўвайшлі 34 песні. «Апрача гэтага Р. Шырма ў рукапісах мае каля 1000 народных песень, запісаных пераважна ў паўднёвай



частцы Краю», — паведамляў аўтар публікацыі. Ёсць у артыкуле і звестка пра тое, што ў Лідскім павеце запісаў і апрацаваў некалькі народных песень святар Т. Уладзімірскі, а рукапісы гэтых песень знаходзяцца ў Рыгора Шырмы.

Гэты нумар «Калосся» на сваіх старонках друкуе і вялікі артыкул Рыгора Шырмы «Беларускія валачобныя песні і іх распаўсюджанне на гэтым баку савецка-польскай граніцы». Аўтар падкрэслівае, што «валачобная песня — самая дакладная этнаграфічная граніца паміж абшарамі з беларускім і польскім насельніцтвам». Разам з артыкулам часопіс апублікаваў валачобную песню «Ходзіць пава па вуліцы», запісаную Рыгорам Шырмам у вёсцы Драглі Сакольскага павета з нотамі, музычная апрацоўка Канстанціна Галкоўскага.

Дарэчы, у Вільні Рыгор Шырма шчыра сябраваў з кампазітарам Канстанцінам Галкоўскім (1875–1963). Сын беларуса з Магілёўшчыны пасля Пецярбургскай кансерваторыі жыў і працаваў у Вільні. У першай палове XX стагоддзя Канстанцін Галкоўскі разам з Людамірам Рагоўскім кіравалі амаль усім музычным жыццём Вільні. Рыгор Шырма напісаў шмат добрых слоў пра свайго сябра. У артыкуле «Мастацкая песня ў Заходняй Беларусі», які меў падзагаловак «Беларускія гарманізацыі і свабодная творчасць К. Галкоўскага», апублікаваным у часопісе «Маладая Беларусь» (1936. № 1) аўтар падкрэсліў: «Усё напісанае кампазітарам Канстанцінам Галкоўскім на беларускія тэмы можна падзяліць на дзве групы. Першая — гэта тая ці іншая распрацоўка народных беларускіх мелодый, другая — арыгінальная музыка на словы беларускіх паэтаў».

Часопіс «Калоссе» ў № 1 за 1937 год паведамляў на сваіх старонках, што кампазітар Канстанцін Галкоўскі апрацаваў чатыры беларускія песні — «Там пад гаем зеляненькім», «Ой, маці, маці», «Пайшла дзяўчынка ў лес за грыбамі» і «Ой, чумача, чумача». Мелодыі і





тэксты гэтых песень запісаў Рыгор Шырма ў вёсцы Шакуны Пружанскага павета.

На іншых старонках часопіса даецца ацэнка творчасці хору, якім кіруе Рыгор Шырма. Янка Шутовіч піша: «Хору Шырмы на Дні беларускай культуры ў Вільні ўдалося паказаць свае артыстычныя дасягненні і незвычайнае багацце беларускай народнай творчасці. Гэты хор, без сумнення, адзін з лепшых (калі не найлепшы) з віленскіх хораў…» («Калоссе». 1937. № 1. С. 57). У гэтым нумары часопіса нехта В. Багдановіч надрукаваў і вялікі артыкул пад назвай «Р. Шырма і беларуская песня ў Вільні». Вось некалькі радкоў з гэтага артыкула: «Вялікую і ахвярную працу вядзе гр. Шырма са сваім хорам, папулярызуючы беларускую народную песню. Паціху, без крыку і рэкламы, працуюць Шырма і яго хор, але працуюць старанна, планава, прадумана…».

10 снежня 1938 года ў Вільні адбыўся канцэрт з удзелам Міхася Забэйды-Суміцкага і хору Беларускага студэнцкага саюза пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Канцэрт прайшоў вельмі паспяхова. Пра гэта паведаміла «Калоссе» ў № 4 за 1938 год.

Хор Рыгора Шырмы вельмі часта выступаў у Вільні. Ён даваў канцэрты для моладзі, для вернікаў розных рэлігій і проста для гараджан. Уладзімір Чэмер у першым нумары «Калосся» за 1939 год напісаў артыкул «Два канцэрты Рыгора Шырмы». У ім аўтар паведамляў, што толькі ў сакавіку 1939 года на канцэртнай эстрадзе Вільні хор Беларускага студэнцкага саюза выступаў двойчы: першы раз — у зале Снядэцкіх, другі раз — у кансерваторыі. Першы канцэрт хору быў прысвечаны 15-годдзю працы Рыгора Шырмы на ніве беларускага музычна-вакальнага мастацтва. Рыгору Шырме, як пісаў часопіс, былі паднесены не толькі кветкі, але і вышываныя ручнікі ад беларускай моладзі. Другі канцэрт меў іншы характар, і праграма яго складалася з праваслаўнай духоўнай музыкі,



пераважна кампазітараў кіеўскай школы — Вэдэля, Кошыца, Стацэнкі.

12 лютага 1939 года ў Вільні адбыўся агульны сход Беларускага навуковага таварыства. Сход выбіраў новы ўрад на наступныя тры гады. Кандыдатамі ў камісію былі абраны Рыгор Шырма і Аляксандр Уласаў. Пра гэта таксама паведамляў часопіс. А ў 1939 годзе Рыгор Шырма стаў супрацоўнікам «Калосся». Пастаяннымі супрацоўнікамі тады часопіса былі Сяргей Сахараў, Станіслаў Грынкевіч, Міхась Машара, Адольф Клімовіч, Анатоль Бярозка, Максім Танк, Адам Станкевіч, Мікола Шкялёнак, Міхась Васілёк, Анатоль Іверс, Хведар Ільяшэвіч, Мар'ян Пецюкевіч і іншыя дзеячы культуры Заходняй Беларусі.

## ВЫДАННІ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА Ў МІЖВАЕННЫ ПЕРЫЯД

Ніяк не магу зразумець, чаму вялікі вучоны Яўхім Карскі ў нямецкім выданні «Zeitschrift für slavische philologie» (Лейпцыг, 1929) адзначыў, што кніга Вацлава Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» ў руках студэнтаў ці не спецыялістаў можа прынесці зло». І яшчэ патлумачыў, што «яна можа прывесці да распаўсюджвання памылковых поглядаў, выказаных тут аўтарам пра дыяпазон беларускага пісьменства». Лічу, што гэта з'яўляецца памылковым і недарэчным выказваннем спадара Карскага. А можа, наадварот, Яўхім Карскі зразумеў, што выданне «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» зрабіла Ластоўскага геніяльным і вялікім. Але ж Вацлаў Ластоўскі быў яшчэ не толькі літаратуразнаўцам, а таксама гісторыкам, літаратарам, мовазнаўцам, выдаўцом, палітыкам. І калі б ён за сваё жыццё выдаў толькі «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі», а больш нічога не зрабіў, гэтага хапіла б, каб яго імя было ўпісана залатымі літарамі ў гісторыю





нашай Бацькаўшчыны. І сёння, каму пашэнціць (кажучы словамі Язэпа Янушкевіча), нават не чытаючы, гэты цяжкі фаліянт патрымаць у руках, той зразумее, што «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага — годная вяршыня для любога творцы.

Прашу прабачэння, што я адразу, кажучы пра выданні Вацлава Ластоўскага ў міжваенны час, пачаў з «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі». Яна выйшла з друку ў Коўне ў 1926 годзе, значна пазней, чым некаторыя яго іншыя выданні. Гісторыя беларускай кнігі Вацлава Ластоўскага — самая буйная навуковая праца вучонага, у якой ён робіць вельмі сур'ёзны і грунтоўны агляд усяго беларускага пісьменства з X і да пачатку XIX стагоддзя. Калі гэтую кнігу прачытаў Сцяпан Некрашэвіч, то ён на старонках часопіса «Асвета» (1926. № 5) сказаў, што праца Вацлава Ластоўскага — гэта не толькі гісторыя беларускай кнігі, а гісторыя асветы на Беларусі. А наш крытык Уладзімір Казбярук у «ЛіМе» адзначыў, што праца Вацлава Ластоўскага — «адна з найбольш салідных кніг ва ўсёй гісторыі беларускага літаратуразнаўства» (ЛіМ. 1988. 24 чэрв.). Вось я цяпер думаю: чым усё ж быў незадаволены Яўхім Карскі, калі ён трымаў у руках і чытаў «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі»?.. Тым болей, што Вацлаў Ластоўскі яго шчыра паважаў. Аб гэтым добра сказана і ў пісьме, якое захоўваецца ў архіве Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу (Ф. 292. Воп. 2. Спр. 75): «Вільня, 23 кастрычніка 1913 году. Яго міласці прафесару Е. Ф. Карскаму ў Варшаві. Высокапаважаны пане! У восень гэтага году ў Вільні адкрылася Беларуская Кнігарня, каторая будзе вясьці торг беларускімі кніжкамі і кніжкамі ў другіх мовах аб Беларусі. Дужа-бы мы былі ўдзячны Пану Прафесару, каб выслаў нам на камісію свае цэнныя працы аб Беларусі. Разлічацца за кнігі будзем два разы ў год, каля св. Юр'я і каля Пакроваў. Ведаючы аб Вашай прыхільнасьці да нас



маем надзею, што нам не адмовіцца гэтай ласкі. Астаюся заўсёды з вялікай пашанай да Вас. В. Ластоўскі».

Незадаволенымі былі і аўтары русіфікатарскага часопіса «Окраина России» (вядома ж, больш агрэсіўна), калі яны прачыталі «Кароткую гісторыю Беларусі» Власта, якая пабачыла свет у Вільні ў 1910 годзе. Гэта была першая кніга Вацлава Ластоўскага. І выйшла яна з друку ў той слаўнай друкарні пана Марціна Кухты, у якой праз тры гады, дзякуючы Ластоўскаму, з'явіцца «Вянок» Максіма Багдановіча. У артыкуле «За тры гады» (1913) наш малады пясняр Багдановіч пісаў «Власт надрукаваў 3–4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць». Такога выказвання трэба было заслужыць нястомнай, штодзённай працай. І Вацлаў Ластоўскі натхнёна працаваў на карысць роднага народа. Сваёй «Кароткай гісторыяй Беларусі» ён адкрываў Беларусь, а гэта было не на карысць усё той жа «Окраины России», якая пісала: «Тут не найдёте портретов ни императора Александра II, ни графа М. Н. Муравьёва, ни митрополита Иосифа Семашко». Дык Власт пісаў не гісторыю Расіі, «гаспада», а нашу гісторыю, дзе замест Мураўёвых і Сямашкаў былі і ёсць Міндоўг, Вітаўт, Хадкевіч, Багушэвіч, Дунін-Марцінкевіч. У прадмове да сваёй гісторыі Беларусі аўтар напісаў: «Працу гэту ахвярую сынам маладой Беларусі, каб хаця з гэтай кароткай і няпоўнай працы маглі пазнаваць гісторыю Бацькаўшчыны ў сваёй роднай мове». Гэта для нас Вацлаў Ластоўскі напісаў «Кароткую гісторыю Беларусі» — першую гісторыю Беларусі, якую напісаў беларус для беларусаў. Каб мы яе чыталі, вывучалі і ведалі сваю гісторыю.

Сёння аўтару гэтай працы можна выказаць шэраг прэтэнзій, заўваг, удакладненняў. Але не так і шмат. Таму што пазней беларускія гісторыкі спасылаліся на яе, ды і цяпер сапраўдны гісторык кнігі Ластоўскага ўбок не адсуне. Давайце яшчэ ўлічым, што пісалася яна тады, калі аўтару было толькі 27 гадоў.




Сваю працу Вацлаў Ластоўскі падзяліў на пяць частак: 1. Ад першых часоў да ўцёкаў Полацкіх князёў (1129); 2. Ад павароту Полацкіх князёў (1132) да смерці Вітаўта (1430); 3. Ад смерці Вітаўта (1430) да Люблінскай уніі (1569); 4. Ад Люблінскай уніі (1569) да раздзелу Польшчы; 5. Беларусь пад Расіяй. Амаль упершыню ў беларускай гістарыяграфіі Власт расказаў пра полацкіх князёў, іх дзейнасць і палітыку, пра вайну паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім, упершыню прывёў правільную храналогію праўлення вялікіх князёў літоўскіх, паказаў народны рух на Беларусі падчас паўстання Багдана Хмяльніцкага на Украіне як рух беларускіх сялян і гараджан. Ён першым вярнуў беларусам імя Францішка Скарыны…

Мінула 98 гадоў з выхаду кнігі Вацлава Ластоўскага «Кароткая гісторыя Беларусі». За гэты час нашы гісторыкі шмат ужо напісалі і выдалі. Але кніга Власта не страціла сваёй каштоўнасці і сёння. Дарэчы, выдавецтва «Універсітэцкае» ў 1993 годзе ў Мінску гэтую гісторыю факсімільна перавыдала. Наклад перавыдання быў, не здзіўляйцеся, ажно 50 тысяч экзэмпляраў. І друкавалася яна ў Маладзечне ў друкарні «Перамога».

Больш за два дзесяцігоддзі (пачынаючы з 1902 года) Вацлаў Ластоўскі збіраў матэрыялы для свайго «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка», які ён адолеў і выдаў у Коўне ў 1924 годзе. Слоўнік на самай справе ўнікальны. Не менш цікавая ў ім прадмова аўтара, які з гонарам кажа: «Мы — крывічы… Наша мінуўшчына — гэта блуканне па раздарожжах і муках, а мы цяпер ізноў пры крыніцах гаючае і жывучае вады, пры сваім народзе Крывічанскім і, разам з ім, адбудоўваем вольную Крывію!».

«Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» тады меў вялікае значэнне, бо ён не толькі з’яўляецца перакладным з рускай мовы на беларускую, ён яшчэ мае этымалагічны і энцыклапедычны досвед. Цікавы



слоўнік і сёння, яго чытаеш і вывучаеш з вялікай захопленасцю, як мастацкі твор, у якім даведаешся шмат новага, раней невядомага ў паходжанні слова і яго роднасных адносінах да іншых слоў. Возьмем са слоўніка рускае слова «кудель». Вось як пра яго ў слоўніку напісаў Вацлаў Ластоўскі: «Кудель — гэта вычасаны на прадзіва лён, кудзеля, кудзелька, кудзельны, мычка, кудзеля з воўны: пасіся бычку, спраду мычку, старому дзеду на рукавічку». І такіх прыкладаў тысячы.

Хачу сказаць, што выданне факсімільнага тыпу «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» ў 1990 годзе таксама пабачыла свет у Мінску накладам 10 тысяч паасобнікаў. Памятаю, восенню 1990 года патэлефанаваў мне незнаёмы хлопец з Лунінца і кажа: «Хачу вам прывезці слоўнік Ластоўскага, ці будзеце дома?» — «Буду, прывозьце!» — адказаў я. Праз некалькі дзён да пад'езда майго дома пад'язджае таксі. Спынілася. Выйшаў з машыны высокі, з паголенай галавой хлопец і дастаў з багажніка тры мяхі кніг. «Гэта вам на Слонім, перадайце ў бібліятэкі, школы — усім, хто пажадае. Гэта перавыдадзены «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Вацлава Ластоўскага», — сказаў ён і сабраўся развітацца. Я запрасіў яго папіць гарбаткі, дзе мы і пазнаёміліся. Гэта быў Станіслаў Бугар. Дзе ён цяпер — я не ведаю. Але хачу сказаць не пра гэта, а пра тое, што пачатак 1990-х гадоў — гэта быў новы час адраджэння беларускай культуры, які пачынаўся найперш з кніг Вацлава Ластоўскага.

У 1912 годзе ў Пінску асобнай кніжачкай выходзіць з друку апавяданне Вацлава Ластоўскага «Прыгоды Панаса і Тараса». Кніжка выйшла пад псеўданімам Арцём Музыка. Я з вялікім захапленнем прачытаў гэта цікавае і вясёлае апавяданне. Быў бы ў нас добры кінарэжысёр, мог бы паставіць паводле гэтага твора шчырую беларускую камедыю. Наогул апавяданне Вацлава Ластоўскага «Прыгоды Панаса і Тараса», як і многія іншыя, вызначаецца глыбокім народным





беларускім гумарам, дзе шмат жартаў, анекдотаў, выслоўяў, легенд, паданняў, народных звычаяў. Сюжэт гэтага апавядання просты — два вясковыя мужыкі Панас і Тарас выбраліся ў белы свет, каб паглядзець, як людзі жывуць. Паслухайце, як файна, фантастычна-соладка аўтар апісвае падрыхтоўку мужыкоў да вандроўкі: «Разышоўшыся па хатах, Панас і Тарас зараз жа загадалі сваім бабам рашчыніць хлеб і падрыхтаваць на аўторак усё патрэбнае ў дарогу. На другі дзень, пакуль бабы пяклі хлеб і аладкі, білі масла, рабілі сыры, і варылі кумпячыну на дарогу сваім дзядом, мужчыны прыбіралі воз, шмаравалі колы, гатавалі аброк, кавалі і кармілі коней, аглядалі запражку. Згодна з прыказкаю «едзеш на дзень, а хлеба бяры на тыдзень», добры гаспадар без адпаведнага запасу ежы ў дарогу ніколі ня выбіраецца. Дык вось, Панас і Тарас, улажыўшы ў мяшок па тры боханы хлеба, па добраму апольцу сала, па кумпяку, па штук пяць сыраў, па добраму слоіку масла і, дадаўшы да ўсяго гэтага яшчэ стаўпец аладак, — знайшлі, што харчоў павінна стаць на добры шмат дарогі. Апрача гэтага, паставілі ў воз поўную дзяжу талакна. На ўсялякі выпадак адлічылі яшчэ ў падарожныя капшуке па дзесяць рублёў грошы. Налажылі воз сенам і аброкам, а зьнізу за трайню прывязалі вядзерца з каланіцай. На ўсялякае здарэньне ўлажылі ў воз сякеру. Панасавага каня, як старэйшага, запрэглі ў ваглоблі, а Тарасавага, маладога, прыпрэглі збоку. У ваўторак рана, ледзь золак, яшчэ да ўсходу сонца, Панас і Тарас падмацаваўшыся добра аладкамі з салам і падапрануўшы пад новыя сьвіткі яшчэ кажушке, крануліся ў дарогу. Едуць, кураць, піпачкі пакурваюць… Іхнія конікі патрухваюць…». А далей аўтар хораша апісвае ўсе вясёлыя прыгоды Панаса і Тараса, якія хочуць пагутарыць з народам мазурэ. Кожны раздзельчык Власт распачынае па-свойму казачна і лёгка. Але гэтая лёгкасць і казачныя паўторы («едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-



пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць») надаюць апавяданню філасофскі вобраз жыцця, духоўнае спасціжэнне жыцця, народны дух. І героі Власта сустракаюцца штодзень з мазурамі, дапамагаюць, здзіўляюцца, як яны сонца рэшатам у хату носяць, як парацца, як бэльку расцягваюць, як сляпымі нараджаюцца, як плаваюць праз рэчку, як яны чуць хату не падпалілі і г. д. І толькі ў канцы сваіх прыгодаў Панас і Тарас даведаліся што мазурэ — мужыкі, якія жывуць у Польшчы, а «палякамі называюць тых у нас, што працаваць адвучыліся».

А пасля пра ўсе свае прыгоды да самай глыбокай старасці будуць распавядаць сваім аднавяскоўцам, а тыя «ня раз панадрывалі ад сьмеху жыватэ, слухаючы іхныя апавяданьні».

Прачытаўшы «Прыгоды Панаса і Тараса», адразу зразумееш думку аўтара, што беларускі мужык усё ж больш таленавіты, кемлівы і шчыры за мужыкоў суседніх краін. І з ім нельга не пагадзіцца. Нават сёння.

З 1909 года Вацлаў Ластоўскі працаваў сакратаром рэдакцыі «Наша Ніва» і загадваў першай беларускай кнігарняй у Вільні. У «Нашай Ніве» ён вёў рубрыку «З нашай мінуўшчыны», а ў газеце «Гоман» апублікаваў шэраг артыкулаў па гісторыі Беларусі. Дарэчы, газету «Гоман» ён з лютага 1916 года да сярэдзіны 1917 рэдагаваў. Некаторыя з апублікаваных у гэтых выданнях матэрыялы ляглі ў аснову зборніка гістарычна-грамадзянскіх нарысаў «Калісь і цяпер» (Вільня, 1918). А, напрыклад, той жа «Гоман» апублікаваў каштоўныя матэрыялы Власта, прысвечаныя гісторыі беларускага друку, Францішку Скарыне, рэфармацыйнаму руху на Беларусі, абычаёваму праву беларускага сялянства і многія іншыя.

У 1915 годзе Вацлаў Ластоўскі складае і выдае «Першую чытанку: кніжыцу для беларускіх дзетак дзеля навукі і чытання», а ў 1916 годзе — «Родныя зярняты: кніжыцу для школьнага чытання», у 1918 годзе — «Не-

 

забудку: першую пасля лементара чытанку», потым — «Сейбіт: другая пасля лементара чытанка для пачатковых школ», зборнік фальклорных запісаў «Прыпеўкі (песні песень)» (1918), зборнік «Загадкі» (1918), «Выпісы з беларускай літаратуры» (1918) і іншыя. У 1918 годзе гэты таленавіты беларус выдае зборнік апавяданняў і легендаў «Недасветы». Яго аповесць «Лабірынты» ў нашай літаратуры з'яўляецца першым прыгодніцка-гістарычным творам — папярэдніцай, па словах Анатоля Сідарэвіча, «Чорнага замка Альшанскага» Уладзіміра Караткевіча.

Вацлаў Ластоўскі займаўся не толькі гісторыяй Беларусі, літаратуразнаўствам, беларускай педагогікай, даследаваў беларускі фальклор, але яшчэ выдаў «Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў» (Коўна, 1923, у сааўтарстве з К. Дуж-Душэўскім). Калі Вацлаў Ластоўскі з Вільні пераехаў у Мінск у БССР, то разам з Міколам Шчакаціхіным апрацаваў «Праваднік па аддзеле сучаснага беларускага малярства і разбярства» і сам пачаў працаваць над вялікай манаграфіяй «Матэрыяльная культура Беларусі», якая ахоплівала перыяды ад XVI да XX стагоддзя. Але шмат чаго яшчэ таленавіты Вацлаў Ластоўскі напісаць і выдаць не паспеў. Ён быў рэпрэсаваны ў 1938 годзе і расстраляны каля Саратава ў Расіі.

У 1924 годзе, выступаючы на пятай Асамблеі Лігі Нацый у Жэневе, Вацлаў Ластоўскі сказаў: «Беларускі народ мае права на Дзяржаўную незалежнасьць. Карані гэтай незалежнасьці жывы ў беларускім народзе, аб чым сьведчыць культура і гісторыя Беларусі». Мне толькі застаецца дадаць: якія даследаваў, пра якія пісаў і выдаваў для нашчадкаў свае кнігі вялікі Власт.



# БЕЛАРУСКІ РУХ У ВАРШАВЕ (1900–1939) І ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК

Пра беларускі рух у Варшаве ў першай палове XX стагоддзя зрэдчасу ў нашым друку згадвалі Пятро Ластаўка, Францішак Каравацкі, Юры Туронак і іншыя літаратуразнаўцы і гісторыкі. Але гэта былі невялікія згадкі-імгненні пра беларусаў і беларускія таварыствы ў Варшаве. І наогул беларускі перыяд у даваеннай Варшаве першай паловы XX стагоддзя ў Польшчы і ў Беларусі сур'ёзна і грунтоўна не даследаваны. Ён патрабуе дасканалага акадэмічна-манаграфічнага падыходу і вывучэння, ды і сіламі аднаго даследчыка тут не абысціся. Да гэтага павінны мець дачыненне некалькі аўтараў. І па гэтай тэме даўно пара правесці ў Варшаве, у Беластоку ці ў Мінску навуковую канферэнцыю, каб пасля ўсе выступленні сабраць і выдаць пад адной вокладкай. Гэта неабходна не толькі нам, беларусам і беларускай гісторыі, але і дзеля гісторыі Варшавы і Польшчы ў цэлым. Бо беларускі рух і яго дзеячы ў Варшаве — гэта гісторыя дзвюх краін і нашых народаў. Нялёгкі быў пачатак XX стагоддзя для Варшавы, а тым больш ён быў няпростым для беларусаў, якія там жылі, працавалі, стваралі беларускія таварыствы, саюзы, арганізацыі. Але гэта ўсё было, гэта факт, і пра гэта трэба распавядаць сёння, каб захаваць для нашых нашчадкаў, для нашай агульнай гісторыі. Паспрабую і я заглянуць ў беларускую Варшаву напачатку XX стагоддзя. Ну, хаця б зрабіць туды невялікую вандроўку-згадку.

Беларускае жыццё ў Варшаве хутчэй за ўсё пачало закладвацца, калі ў 1893 годзе ў Варшаўскі імператарскі ўніверсітэт на працу прыехаў беларускі акадэмік і філолаг Яўхім Карскі. Спачатку ён працаваў прафесарам, затым экстраардынарным прафесарам на кафедры рускай і стараславянскай моў і гісторыі рускай





літаратуры. Пасля прафесар выкладаў там славянскую палеаграфію, рускую дыялекталогію і граматыку царкоўнаславянскай мовы. У варшаўскі перыяд сваёй педагагічнай дзейнасці, карыстаючыся ўсеагульнай павагай, Яўхім Карскі два разы выбіраўся рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта — у 1905 і 1908 гадах. Адначасова з педагагічнай дзейнасцю наш вучоны праяўляў вялікую цікавасць да беларускага жыцця ў Варшаве, спрыяў гэтаму, як мог дапамагаў беларускім студэнтам. У 1908–1913 гады там было арганізавана і праведзена шмат беларускіх вечарынак. У іх прымалі ўдзел і сам Карскі, яго жонка і дзеці.

Гальяш Леўчык у Варшаву трапіў у 1904 годзе. Ён уладкаваўся на працу чарцёжнікам у гарадскі магістрат і наведваў лекцыі ў школе мастацтваў. За гэты час Леўчык знаходзіць у Варшаве шмат беларусаў, знаёміцца з імі, арганізоўвае сустрэчы, ладзіць вечарыны. Першая інфармацыя пра беларускую дзейнасць Гальяша Леўчыка і яго сяброў у Варшаве змясціла «Наша Ніва» 1(14) снежня 1911 года. Аўтар Саўка Бурывой (Рамуальд Зямкевіч) паведамляў, што 21 лістапада адбылася вечарына студэнтаў-беларусаў Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар пісаў пра нейкага Пшчолко, які «гаварыў на сцэне сьмешных казак у расейско-беларускай гутарцы», пра маленькую дзяўчынку ў пекнай беларускай апратцы, якая мовіла словамі Янкі Купалы: «Чаго нам трэба» і «Чаго б я хацеў»… Пасля пра другую дзяўчынку, якая чытала верш «Не цурайся мяне, панічок» і «Панскую ласку». Потым на сцэну выйшаў Гальяш Леўчык, якога, як апісвае аўтар, «мы ўбачылі на лаўцы хвораго, слабого, ледзь жывога мальца беларуса, ў згрэбнай сарочцы, прыкрытаго старэнькай сьвітай — тып праўдзівага беларуса-мужыка. Быў то малады песьняр Леўчык Гальяш. Ён слабым голасам пад гітару прапеяў: «Мне трэба ўмерці» і апрыч таго пасьля шмат чаго дэклямаваў. Усё выпаўніў шчыра і



публіцы надта спадабаўся». Далеў выступаў хор, які спяваў беларускія песні.

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык сабраў вялікую і каштоўную бібліятэку, ён калекцыянаваў усё беларускае: кнігі, паштоўкі, творы мастацтва, музычныя інструменты, значкі, фотаздымкі. На жаль, у гады Другой сусветнай вайны ўсё гэта бясследна прапала. Але гэта было пазней. А тады кожнаму беларусу Варшавы і беларусам, якія прыязджалі сюды, Гальяш Леўчык з радасцю паказваў сваю калекцыю, дапамагаў матэрыяламі ў напісанні той ці іншай працы. Хачу адзначыць, што тады ў Варшаве жыў і яшчэ адзін беларускі калекцыянер кніг і рукапісаў Рамуальд Зямкевіч (1881–1944). Ён нават быў больш заўзятым калекцыянерам і бібліяфілам, чым Леўчык. Кажуць, што Зямкевіч быў такі фанатычны бібліяфіл, што не прапускаў ніводнае старое беларускае кніжкі, асабліва калі яна «дрэнна ляжала». У выніку ён сабраў найвялікшую калекцыю рарытэтаў, але, на жаль, і яго ўся калекцыя згарэла ў вайну. Добра, што Рамуальд Зямкевіч хоць паспеў апублікаваць некаторыя рукапісы ў друку. Не ведаю толькі, як яны мірыліся і сябравалі — два калекцыянеры, два вялікія аматары беларускіх кніг — Рамуальд Зямкевіч і Гальяш Леўчык. У пісьме да Івана Луцкевіча ад 4 ліпеня 1911 года Гальяш Леўчык пісаў пра Рамуальда Зямкевіча: «Ну і цікавы з яго, аднак, экзэмпляр, наколькі я мог яго пазнаць!.. Зусім ён мяне здзівіў, асабліва знаннем беларускай бібліяграфіі. Ад яго я шмат чаго даведаўся. Калі ён махлюе, ды духам не ўпадзе, і будзе ісці крэпка, то смела можна сказаць, што вялікую карысць ён калісьці Беларусі прынясе! Шкада, што нямаш яму як там у Вільні альбо ў Варшаве пакуль што аперціся, каб матэрыяльна яму было лягчэй, а то, бедны, зусім ужо вытрасся!.. Я яму крыху памог, але далей трудна! Але, здаецца, ён не махлюе, а кажа праўду…» (Рукапісны аддзел бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы. Ф. 21. Спр. 260. Арк. 2–3).




У 1913 годзе на курсы садоўніцтва, агародніцтва і пчалярства прыехала ў Варшаву Зоська Верас (Людвіка Войцік). Там яна пазнаёмілася з Гальяшом Леўчыкам. Аднойчы яе і Марысю Галубянку, якая жыла ў Варшаве і працавала настаўніцай у школе Вавэльбэрга, Гальяш паклікаў да сябе ў госці. «Жыў тады Леўчык на вуліцы Леапальдыны, 35, кв. 32. Кватэра была, здаецца, на трэцім паверсе», — згадвае Зоська Верас (газета «Рунь» (Літва). 2000. 3 жніўня). Далей Зоська Верас прыгадвае: «Пакой здаваўся вузкім, таму што ягоная сцяна была абсталявана даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да столі. І на іх стаялі кніжкі, кніжкі, кніжкі… Сапраўды, гэта была вялікая, цікавая і каштоўная бібліятэка. Сабранае было хіба што ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове… Усе паліцы былі ўпрыгожаныя партрэтамі пісьменнікаў, паштоўкамі, краявідамі. Шмат што было купленае, але й шмат падараванае аўтарамі ды знаёмымі. Тыя кнігі, што стаялі ніжэй, мы з Марысяй аглядалі самі, а тыя, што высока, Леўчык здымаў і паказваў сам. Не адну гадзіну гэты занятак забраў нам. Нарэшце Гальяш сказаў: «Ну й замучыў я вас… Пара адпачыць!» Мы адмаўляліся, не жадаючы клопату, але былі змушаныя пагадзіцца. Пілі добра прыгатаваную гарбатку, і да яе было сёе-тое смачнае. Пасля Леўчык прапяяў нам пару песняў пад акампанемэнт гітары. Голас меў прыгожы. Пяяў і граў умела. Развіталіся мы з ім позна вечарам».

Калі я сустракаўся з Зоськай Верас у Вільні ў 1987 годзе, то таксама запытаўся ў яе пра Гальяша Леўчыка. Пісьменніца вельмі цёпла ўспамінала пра яго. Расказала мне пра тое, як Гальяш Леўчык у Варшаве пазнаёміў яе з многімі беларусамі. Яны часта ездзілі ў Ажарова, што пад Варшавай, да беларускай сям'і Сталыгваў, якія там мелі свой дом. Памятаецца, як Зоська Верас мне згадвала і пра тое, што Леўчык лічыў сваім абавязкам ведаць кожнага беларуса, які прыязджаў у Варшаву, прыцягнуць у сваю групу, каб



ён не згубіўся ў людскім моры і не забываўся сваёй мовы, як ён сам казаў. А калі беларусу не было дзе начаваць, ён клікаў яго да сябе ў маленькую кватэру на вуліцу Леапальдыны. Неяк Гальяш Леўчык завёў Зоську Верас і да Міхала Федароўскага, які прыняў іх шчыра і ветліва.

У 1919 годзе ў Варшаве арганізоўваецца Беларускі камітэт. Вакол яго хутка згуртаваліся многія вядомыя беларусы Варшавы, якія актыўна пачалі пашыраць нацыянальную свядомасць. Часопіс «Беларускі летапіс» (1938. № 4. С. 11) пісаў, што Беларускі камітэт выпісваў ўсе беларускія газеты і часопісы, а таксама кніжкі. З іх была створана бібліятэка. А Гальяш Леўчык быў адным з самых актыўных сяброў камітэта. У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі захоўваецца адзін фотаздымак. На здымку фатограф зрабіў надпіс на беларускай мове лацінкай: «Беларускія валасныя старшыны Слонімскага павету Гарадзенскай губерні». У кожнага з іх маецца на грудзях медаль. На адваротным баку здымка ёсць штамп «Беларускі камітэт у Варшаві» і круглая пячатка з такім жа надпісам. Магчыма, фотаздымак у Слонім трапіў праз Гальяша Леўчыка (паэт быў родам са Слоніма, тут у яго была хата і вялікая калекцыя старых рэчаў, кніг, паштовак і г. д. Большая нават, чым у Варшаве. — *С. Ч.*). Гэта ён фотаздымак прывёз з Варшавы пасля таго, як не стала там Беларускага камітэта ў 1922 годзе. Яго дзейнасць была спынена тадышняй польскай уладай.

З 1922 да 1930 года беларускі рух у Варшаве не меў актыўнай дзейнасці. У 1928 годзе зямляк Гальяша Леўчыка — Павел Крынчык быў выбраны паслом польскага сейма па спісу, выстаўленаму КПЗБ. Павел Крынчык некалі згадваў, што быў добра знаёмы з Леўчыкам. Гальяш Леўчык часам заходзіў да яго ў беларускі пасольскі клуб «Змаганьне», які месціўся ў Варшаве на Маршалкоўскай, 76. Беларускія палітыкі ў Варшаве часам яму аказвалі фінансавую дапамогу.





У 1930 годзе ў польскай сталіцы ствараецца Саюз беларускіх студэнтаў у Варшаве. Разам з віленскімі студэнтамі беларускія хлопцы і дзяўчаты з Варшавы ладзяць розныя цікавыя мерапрыемствы: выступаюць з лекцыямі, дэкламацыямі літаратурных твораў, з тэатральнымі пастаноўкамі і г. д. Праіснаваў гэты Саюз усяго тры гады, і дзейнасць яго была спынена польскай уладай. Гальяш Леўчык у гэты час працуе служачым у Найвышэйшым судзе ў Варшаве і актыўна перакладае рэлігійную літаратуру метадыстаў на беларускую мову. Гэтыя пераклады з'яўляліся ў выданнях «Арфа Сіану», «Новае Жыцьцё» і «Дух праўды». За пераклады, вядома ж, ён атрымліваў пэўны ганарар. Таму актыўнага ўдзелу ў Саюзе беларускіх студэнтаў у Варшаве ён не прымаў. Але там бываў, даваў кансультацыі, парады, выступаў перад студэнтамі.

Не ўдзельнічаў Гальяш Леўчык і ў кіраўніцтве Асветнага таварыства ў Варшаве (іншыя яго згадваюць, як Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве). Гэтае таварыства з'явілася восенню 1936 года і праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны. Але паэт прымаў у таварыстве самую актыўную дзейнасць. Ён часта выступаў перад сябрамі таварыства з вершамі і заўсёды спяваў свае песні пад уласны акампанемент гітары.

Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве, нягледзячы на няпростыя палітычныя і эканамічныя ўмовы, разгарнула вялікую і актыўную беларускую дзейнасць. Старшынёй таварыства быў Я. Гапановіч, сакратаром — П. Ластаўка. Сябры таварыства арганізоўвалі розныя творчыя сустрэчы, канцэрты, вечары. Іх мэтай было стварэнне беларускіх бібліятэк, клубаў, аказанне матэрыяльнай і маральнай падтрымкі сябрам АТБ і ўсім беларусам, якія жылі ў Варшаве. Часопіс «Беларускі летапіс» (1937. № 6–7, 8) апублікаваў тады цікавае пісьмо беларускага работніка з Варшавы Фабіяна Вайцілёнка. Артыкул так і называецца: «Беларускія работнікі ў Варшаве». Дык вось спадар Вайцілёнак



піша: «Падаць дакладны лік беларусаў у Варшаве трудна: у кожным выпадку даходзіць ён да некалькі тысяч. Аб гэтым, што беларусаў тут значная колькасць, сьведчыць і той факт, што на вуліцах Варшавы часта можна пачуць беларускую мову. Сярод натоўпу людзей, праходзячых па тратуарах, мы, беларусы, пазнаём адзін аднаго якраз па мове. Вельмі скора пры гэтым завязываецца знаёмства і паўстае шчырая прыязьнь. Наймацней за ўсё нас тут лучыць у вадну цесную сям'ю родная мова…». Што датычыць асветы, дык аўтар Вайцілёнак на гэты конт вось як разважае: «Ня можна сказаць, што беларусы ў Варшаве выракліся сваёй мовы, але беларускае друкаванае слова пашыраецца слаба. Дзеля гэтага заклікаю беларусоў у Варшаве зьвярнуць увагу на беларускае друкаванае слова, каторае выходзе пераважна ў Вільні і каштуе сьмешна танныя складкі, на каторыя сяньня можа сабе пазволіць амаль кожны беларус у Варшаве… Найгорш з дзяцьмі, каторыя падрастаюць бяз школы. Сумна глядзець на тых дзяцей, якія ўжо разумеюць, што яны дзеці беларускіх бацькоў, прагнуць чытаць і пісаць у роднай мове і ня маюць дзе гэтага навучыцца…».

У 1936 годзе ў Варшаву з Познані прыязджае беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Тут ён жыве, выступае з канцэртамі і спявае на польскім радыё. У свае радыёканцэрты спявак заўсёды ўключаў і беларускія песні. Вакол Міхася Забэйды-Суміцкага гуртаваліся беларусы Варшавы. Са спеваком добра быў знаёмы і Гальяш Леўчык. Бацька Гальяша быў родам з вёскі Шэйпічы, што блізу Ружанаў. У гэтай вёсцы нарадзіўся і Міхась Забэйда-Суміцкі. Спявак нават кахаў Стасю Ляўковіч — сваячніцу Гальяша Леўчыка (сапраўднае прозвішча Ляўковіч). У Варшаве землякі сустрэліся. Ім было пра што пагутарыць, каго і што ўспомніць. Аднойчы сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі ў кансерваторыі канцэрт Міхася Забэйды-Суміцкага. Часопіс «Калоссе» (1937.





№ 1 (10) ) пісаў: «27.02.37 у варшаўскай кансэрваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прасьпяваных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія». А Пётр Ластаўка згадваў (Беларускі каляндар. Беласток, 1980. С. 148): «Пакідаючы кансерваторыю, слухачы гаварылі, што вось і беларусы маюць свайго Кепуру, а «Express Poranny» ў сваёй карэспандэнцыі пісаў 28 мая: «Цудоўныя гэтыя беларускія песні, ды яшчэ ў такім выкананні!». Прыхільна адгукнуліся аб выступленні Забэйды таксама і іншыя газеты, падкрэсліваючы, што даўно не было ў кансерваторыі такога добрага канцэрта».

Летам 1939 года сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі сустрэчу з Максімам Танкам. На сустрэчу прыйшлі 50 польскіх літаратараў, дзясяткі беларусаў з усёй Варшавы. Вечарына, як згадвае Пятро Ластаўка ў вышэй названым «Беларускім календары», працягвалася тры гадзіны. Максім Танк чытаў свае вершы і па-беларуску, і па-польску. У тагачаснай польскай прэсе з'явіліся артыкулы з наступнымі загалоўкамі: «Максім Танк у Варшаве», «Максім Танк — беларускі Ясенін» і г. д. Беларускі паэт тады проста зачараваў усіх прысутных сваёй паэзіяй і сваім выступленнем.

На вялікі жаль, Другая сусветная вайна спыніла працу Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве. А Гальяш Леўчык летам 1944 года памірае ад цяжкай хваробы ў Варшаве ці, магчыма, па дарозе з Варшавы ў Слонім.

Шмат пісем Гальяша Леўчыка раскіданы па архівах Польшчы, Літвы, Беларусі, Расіі і ЗША. У рукапісным аддзеле бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы ў 21-м фондзе (справы № 260 і № 286) захоўваецца вязанка варшаўскіх пісем Гальяша Леўчыка да Івана і Антона Луцкевічаў, да Вацлава Ластоўскага і Эдварда Буцькі, у рэдакцыі «Нашай Нівы» і «Беларускага Звону». Некаторыя з іх прапаную чытачам кнігі.



# ПІСЬМЫ Ў РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТ «НАША НІВА» І «БЕЛАРУСКІ ЗВОН»

*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 2.*

(экстренно)

гор. Вильно, Виленская ул. № 20,
въ редакцию газеты «Наша Ніва»[1],
Эд. Будзько[2] альбо В. Ластоўскаму[3]

*5/18/XI 1910 г. Варшава*
*(Леопольдыны, 35, м. 32 Э. Левковичу)*

Дзеля нашаго календара я тутака зьбіраю абвесткі. Здаецца ўдасцца мне здабыць з 4 вялікія фірмы «Альф. Гродзкі»[4], «Спесс і Сын»[5], «К. Брун і Сын»[6] і др., але яны кажуць, што трэба ім даці ўступку ад цэны абвестак. Напішыце, як найхучэй, скольки дасьце % уступкі і назначце мне канцавы тэрмін высылкі абвестак, бо я ня ведаю, як зрабіці; раджу ім даць, бо яны абяцаюць кожны год даваць абвесткі. — Чакайце і на мяне мо з друкам — Гальяш Леўчык.

---

[1] «Наша Ніва» — беларуская газета, якая выдавалася ў Вільні з 10 (23).11.1906 па 7 (20) 1915 і з 28.10 па 20.12.1920.

[2] Буцька Эдвард (1882–1958) — беларускі публіцыст, грамадскі дзеяч, кааператар. Нарадзіўся ў Будславе, памёр у Чыкага (ЗША).

[3] Ластоўскі Вацлаў (1883–1938) — беларускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, літаратуразнавец. Нарадзіўся на Глыбоччыне. Знішчаны НКУС у Саратаве.

[4] Склад сельскагаспадарчых машын, прылад і насення, рамонтныя майстэрні, Варшава, вул. Сенатарская, 33. Фірма была заснавана ў 1878 годзе.

[5] Фармацэўтычнае прадпрыемства, якое ў 1923–1944 гг. існавала ў Тархаміне каля Варшавы.

[6] Варшаўская купецкая фірма, якая займалася гандлем жалезных вырабаў.





*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 3.*

г. Вільно, Завальная вул. № 7, рэдакцыя газеты «Наша Ніва», Івану Луцкевічу[1] ў Вільні

*15/28/IX 1911 г. Слонім (альбо хутчэй адпішыце), чацьвер*

Дарагенькі Братко!

Што за траф! Гэтаго п. Бубноўскаго[2] я сам добра знаю і ён мяне! Іх двох братоў — ён старшы Вацлаў, і другі малодшы гдзесьці ў дварэ ў якогасьці князя. Тутака жывець іх бацько — «падпольны адвакат». Яны з ім ня ў згодзі. У іх і сястра гдзесьці е. Але ў бацька Бубноўскага нічога нямашка, ёсьць толькі, казаў, стары гадзіннік ад караля Яна, але я яго яшчэ ня бачыў. Тым часам тутака ў мешчан адных я знайшоў у старой скрыні чыстую капальню, ажно высалапіў я вочы! Да 1000 старонак папераў — ад 1500 г. да 1800 г. Але ўсё аб Слоніме. Е каля 200 мо — і па беларуску (старым пісаным шрыфтам). Знайшоў з 5 каралеўскіх лістоў Стэфана Батораго[3], Казьмера[4], Ўладыслава[5], Яна III.[6] — 5 каралеўскіх прывілегій з васковымі пячацямі ў бляшанках, на паргаміне — адна ў «кожанай» аправі

---

[1] Луцкевіч Іван (1881–1919) — пачынальнік беларускага нацыянальнага руху, беларускі археолаг.

[2] Бубноўскі Вацлаў (1865–1945) — кераміст, скульптар.

[3] Баторы Стэфан (1533–1586) — кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі.

[4] Казімір IV Ягелон (1427–1492) — вялікі князь літоўскі і кароль Польшчы.

[5] Уладзіслаў III Варненчык (1424–1444) — кароль польскі і венгерскі.

[6] Ян III Сабескі (1629–1696) — польскі палкаводзец, кароль Польшчы.



(у шкуры). Шмат лістоў Радзівілаў[1], Сапегаў[2], Патоцкаго[3], е нават ліст Чарнэцкаго[4], 2 прыказы караля Яна друкаваныя; лісты Вішневецкаго[5]. Ажно мне валасы дыбам сталі, калі я іх разглядаў. Паскладаў я іх роўна ў горбы, абвязаў паперай і зноў улажылі мы іх у скрыню. Шмат е ад вільгаці пагніўшых і збутвеўшых. Але, каб не даць ім знаць, што гэта, я сказаў: «А мо прыгадзіцца калісьці якому вучонаму, але трэба было б іх аддаці ў музэй да Вільні». Хаця яны, здаецца, змяркавалі, што гэта варта грошы. Ну, але, можна было б, здаецца, вымануць, хаця без грошай не абыйдзецца. Я цаны ім ня даваў, дзеля непазнакі. Вось сук, як зрабіць, каб купіць усё гэта?! Чысты «скарб — клад». Я да панядзелка тут прабуду. Як зрабіць? Мо прыедзьце, братко, паглядзімо! Толькі, ціха, ша! Расход і карысьць папалам!

Ехаць на Баранавічы, да мяне, але без мяне не пакажуць!

*Гальяш Леўчык.*

---

[1] Радзівілы — літоўскі княжацкі род, прадстаўнікі якога займалі самыя значныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI–XVIII стагоддзях. Адзін з самых уплывовых магнацкіх родаў у Рэчы Паспалітай.

[2] Сапегі — шляхецкі род герба «Ліс» у Вялікім Княстве Літоўскім.

[3] Патоцкі Ян (1761–1815) — польскі пісьменнік-рамантык, археолаг, падарожнік.

[4] Чарнецкі Стэфан (1599–1665) — вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай, польскі нацыянальны герой.

[5] Вішнявецкі-Карыбут Міхал (1640–1673) — кароль польскі і вялікі князь літоўскі.




*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 4.*

г. Вильно, Георгиевский пр. № 4, кв. 10, «Техническая контора И. И. Луцкевича и Д. Семашко[1]», Г-ну Ивану Луцкевичу

*Варшава, д. 23 верасьня 1911 г.*

Дарагенькі і залаценькі Братко і Таварышу!

Я ўжо зноў у Варшаві. Аб гэтых паперах думаю «цо се одвлечэ — то не ўцечэ». Завіша — не Завіша, але вось, братко, што: усе гэтыя паперы, па мойму, варты каля паркі сот рублёў! Яны важны і цэнны, асабліва дзеля Слоніма, бо ёсьць там унікаты. Аб іх я даўно ўжо ведаў! Брат цяперашняго мешчаніна — старэйшы, быў калісьці галавою ў думе слонімскай і жыў на нашай вуліцы, а як памёр, то скрынку з гэтымі паперамі забраў яго цяперашні брат, катораму ўжо будзе з 70 з гарою гадоў. Вось гэтыя паперы важны, асобенна дзеля мяне. Я ўжо даўно думаю і кратаюся напісаць і выдаць манаграфію Слоніма і павета ў асобнай кніжцы і сабіраю ўсё чыста, што датычыць Слоніма старога і новага. Перад выездам — у панедзелак — дай, думаю, зайду туды да іх і папытаю, што будзе, ці згодзяцца аддаць іх у музэй. Ажно ж ён кажэ, што пакуль што напіша да Вацюка Бубноўскаго, каторы летась у яго гасціў і перагледаў іх — як ён парадзіць. Гэты Бубноўскі, кажэ, успамінаў, што мае прыехаць адзін пан з Вільні (гэта пэўне Вы?!) і разгледзець, ці купіць! Калі яны напішуць да Бубноўскаго, то Бубноўскі пэўне напіша да вас. Дзеля гэтаго, братко, трэба нам будзе парадзіцца з сабою, каб як-нібудзь умело іх адтуль выдабыць. Мо вы самые ўпярод нечакаючу напішэце да Бубноўскаго, (калі ён гэта вас мае ў думцы, а не другога), што мо вось знаеце мяне, што вось вы, альбо я за вас магу набыць дзеля музэя — усё раўно — не

---

[1] Сямашка Дамінік (1878–1932) — беларускі і літоўскі грамадска-палітычны дзеяч.



кажучы яму, разумеецца, аб іх цане і нашай змове! Каб хто другі ня ўлез у параду. Помнійце, братко, што гэтые паперы надта для мяне важны! Незабудзьце, братко, да мяне аб гэтым заўсёды скрыпнуць!

*Гальяш Леўчык.*

*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 8.*

г. Вильно, Завальная ул. № 7, «Наша Ніва»,
Яго Міласьці Івану Луцкевічу

*д. 24 жніўня/6 верасьня 1912 р. Варшава*

Ўважаемы Дзядзька Іван!

Я, як толькі прыехаў да Варшавы, то зараз, па вашай просьбі, пачаў шукаці гэтага жыда, што сьцяпіў гэрб з вашаго старога жырандоля, Вільгэльма Бэрэнштэйна[1], ажно ж ён, падла, выехаў у Кіеў 31 мая, а я прыехаў 7 ліпеня. Ён выбыў із Ордынацкой № 13. Цяперака я ізноў там быў — няма яшчэ. Мо калісьці вернецца — толькі невядома калі і ці вернецца. Калі б ён вярнуўся, то я яго злаўлю! Ведаеце, Дзядзька, што Зем[2]. проціў вас штосьці кнуе і я з кожным днём усё больш пераконваюся, што ў яго пагана натура — трэба, дзядзька з гэтых касовых кніжак добра палічыці, сколькі ён за той і гэты рок «бухнуў», каб меці довады пад рукою — мо прыгадзяцца! Але ж лгар так лгар, да яшчэ чмутар, зваднік і хвалько. Кажэ ён сам, што вы аб тым, які ён быў у Вільдэра[3], ведалі даўно перад прыездам яго да Вас. Ці гэта праўда? Ваш Гальяш.

---

[1] Бернштэйн Вільгельм — яўрэйскі калекцыянер з Варшавы.

[2] Зямкевіч Рамуальд (1881–1944) — беларускі бібліёграф, гісторык літаратуры, публіцыст, перакладчык.

[3] Вільдэр Геронім (1876–1941) — вядомы варшаўскі антыквар і калекцыянер.





*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 9.*

г. Вильно, Завальная вул. № 7, «Наша Ніва»,
Я. М. Дз. Антону Луцкевічу[1]

*д. 12/25 жніўня 1912 г.*

Паважаемы Паночку!

Дзякуй Вам, паночку, за кніжкі, за памяць і за ўвагу да мяне дзеля страхоўкі і т. д.! Газэты Вам зараз заўтра вышлю — я нават і сам думаў паслаць іх вам. Да гэтай пары я быў вельмі заняты тутака ў выбарнай думе каля спіскаў, так што каля сябе ні пісаць, ні зрабіць нічога ня мог. А цяперака прыналягу і ўжо ўсе справы кончу. Я тутака пазнаў аднаго Йузэфа Луцкевіча — сваяка ўладара фабрыкі шчотак да зубоў Зелінскаго — ці ён часам ня будзе і ваш сваяк? Падзякуйце ад мяне таксама і пану І. за памяць і ласку і аддайце яму, а таксама брату Івану і Ўласту паклоны!

*Ваш Гальяш Леўчык.*

*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 10.*

г. Вильно, Завальная ул. № 7, «Наша Ніва»

Кукавала зазулячка…

Кукавала зазулячка за акном,
заплакала дзяўчыначка за сталом…
Кукавала зазулька ў бярозе,
заплакала дзяўчынка ў дарозе…
Кукавала зазулячка на дубе,
заплакала дзяўчыначка пры шлюбе…
Кукавала зазулячка на елі,
заплакала дзяўчыначка ў пасцелі…

*Слонім. Запісаў Гальяш Леўчык*

---

[1] Луцкевіч Антон (1884–1942) — адзін з пачынальнікаў, тэарэтыкаў і арганізатараў беларускага нацыянальна-вызвольнага і сацыялістычнага руху, старшыня Рады Народных Міністраў і міністр замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі.



*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 11.*

г. Вильно, Георгиевский пр. № 4, ЕВБ.
Антону Луцкевичу

*Варшава, д. 17/30 студня 1913 г.*

Залаценькі Дзядзька Антон!

Часта мне прыходзіцца з варшаўскімі абрусеўшымі беларусамі-студэнтамі вясьці спорку і дыскусію на грунці беларускаго адраджэньня. Такая агітацыя часамі памагае зьдзерці ім з вачэй бельмо і я бачу, што многіе із іх чуюцца беларусамі, і з часам могуць быць і таксама наварочваць другіх. Але мала гэтаго — такая спорка змушае мяне зьвярнуцца да вас вось у якой справі:

1) Якіе толькі ёсьць яшчэ там у вас экзэмпляры вашай брашуры А. Новіны[1] «Белоруссы»[2] (па расійску) усе чыста выслаць мне, а яны зараз уміг будуць раскуплены, калі ў Вільні німаш, то мо ў Піцяры.

2) Трэба было б канешне вам, дзядзька, выдаць гэту брашуру 2-гі раз*), толькі, канешне, дапоўніць яе і ўставіць апіс: асобнасьці беларуса, яго характар, дадатнія стараны, чым ён рожніцца ад вялікаруса і маларуса, яго духовая спасобнасьць і т. д. Словам, высказаць, што беларус саўсім асобная натура і нацыя і павінна мець права да жыцця…

3) Прышлеце з 10 штук вашай адбіткі: «На дарозі да новаго жыцьця»[3].

---

*) Гэта дапоўнена брашура (расійская) вельмі тут патрэбная. Сколькі 2 выданьне каштавала б?

*Гальяш Леўчык*

---

[1] Псеўданім Антона Луцкевіча.

[2] Маецца на ўвазе адбітак «Белорусы» Антона Луцкевіча з кнігі «Формы национального движения в современных государствах» (Пб., 1909).

[3] Маецца на ўвазе кніжка Антона Луцкевіча «На дарозе да новага жыцця» (Пб., 1912).





*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 12.*

г. Вильно, Виленская ул. № 29, въ редакцію газеты «Наша Ніва», Яго Міласьці Антону Луцкевічу ў Вільні

*Варшава д. 12/25 чэрвеня 1915 р.*

Шаноўны і Паважаны Паночку!

Пры грымотах і перунах вялікай Еўрапейскай буры, аткрываецца для ўсіх меншых славянскіх і неславянскіх народаў і нацый, новая страніца гісторыі, свабаднейшаго жыцьця і мысьлі сваёй роднай нацыі!!!(?)

Даведаліся і мы, што цяпер у Маскве выйшоў № 1 расейскай часопісі «Національныя проблемы», аб чым вы хіба ўжо ведаеце, дзе будуць выступаць перад прэдстаўнікоў усіх нацый і народаў, жывучых у Расеі, дзеля народна-культур(аль)ных патрэб сваёй нацыі!.. Вось мы, хаця і думаем, што вы, паважаны дзядзька, мо ўжо і бярэце (ці возьмеце) і свуй нароўні з другімі ўдзел у гэтай расейскай часопісі, каб вырабіць і для Беларусаў лепшу будучыню, шлем вам сваё: «Памажы Божа!!!».

Беларусы, жывучыя ў Варшаві, Гальяш Леўчык і другіе.

Паклон усім! усім! Даўно, даўно ня бачыліся і ня гутарылі!! Як маецца Дзядзька Іван? Што ў Вас там агулам чуваць???

*Ф. 21. Спр. 286. Арк. 13.*

Вільно, Остробрамска, 9, Рэдакцья газэты «Беларускі Звон»[1] в Вільне

Трыолет

*Пасьвячаецца Ярашэўскаму за яго стацьцю: «Не..... (неразборліва)»*

Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву,
Ўсюды Беларускі раздаецца стогн.

---

[1] «Беларускі Звон» — газета, якая выходзіла ў Вільні з 6 студзеня 1921 года па 2 снежня 1923 года.



Рэжуць нам зямельку, мучаць голаў сіву…
Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву.

Беларус будуець вольную, шчасліву
Бацькаўшчыну родну, бацькаўскі загон —
Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву,
І чуваць нам ў сэрцы: «Беларускі Звон».

*1922. — || — Гальяш Л.....*

*P. S.* Просіцца выдрукаваць у «Б. Звоні».

***Варшава д. 26 чэрвеня/9 ліпня 1911 г.***

Браткі, Таварышы ў Рэдакцыі «Наша Ніва»

Жменька беларусаў у Варшаві хацела б пазнаці больш тутэйшых землякоў сваіх, каб лепш вязьці супольную справу.

Дзеля гэтаго просім Вас прыслаці нам іх адрасы і ўказаці нам нашых людзей, што жывуць у Варшаві і каля яе.

Пасылаючы Вам шчыры братні прывет, чакаем ад вас весткі аб тых беларусах, што вам ужо вядомы, і аб тых, што яшчэ будуць.

*Гальяш Леўчык*
*Ромуальд Земкевіч*
*Язэп Гапуновіч*[1]
*Л. Дубейковскі*[2]
*В. Столыгво*[3]

---

[1] Гапановіч Язэп (1883–1961) — беларускі грамадскі дзеяч, прадпрымальнік.

[2] Лявон Вітан-Дубейкаўскі (1869–1940) — беларускі архітэктар, будаўнік, грамадскі дзеяч, педагог, паэт.

[3] Сталыгва Уладзіслаў — беларускі грамадскі дзеяч у даваеннай Варшаве.





# ПІСЬМЫ АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*Варшава 13/26-II 1913 г.*

Залаценькі Паночку!

У нашай справе канешне патрэба выпусьціць друкам на расейскай мове і асобна на польскай мове такую агітацыйна-інфармацыйную брашуру аб беларускам адраджэньні, як напрыклад вашые «Беларусы» (А. Новіны) і «Па дарозе…», толькі яшчэ дапоўніць характарыстыкай народнай, гісторыяй, бібліяграфіяй і асобнасьцямі беларускаго народа, штосьці ў духу стацьці проф. Пагодзіна[1] ў «Вестнике Европы»[2] аб беларускіх паэтах…

Такая кніжка нядорага каштавала б — грошы знашліся б — і яна была б надта вельмі памочна. Вы на гэта майстар! Калі ласка, адпішэце мне.

*Ваш Гальяш Леўчык*

*Варшава — дн. 6/VIII — 1925 г.*

Вельмі Паважаны Паночку!

Шчыра Вам дзякую за пісулю, што Вы мне прыслалі ў адказ на маю ў справе «Господняй Малітвы». Вашу параду я прыняў пад увагу. Но толькі Вы пішаце: «што тэкст, які ёсьць у Эвангельлі і які я ўласнаручна надпісаў Вам на экзэмпляры Вашага перакладу (пэўне яго Вы ўжо маеце), зусім узгоднены!!… Дык ня ведаю і не разумею — я ніякага надпісу «ўласнаручнага Вашага» на сваём эгзэмпляры не атрымаў (?) Ці вы мелі мне яго пераслаць, ці Дзякуць[3], ці ён пашоў да Лодзі ў

---

[1] Пагодзін Аляксандр (1872–1947) — рускі гісторык і філолаг-славіст.

[2] «Вестник Европы» — расійскі часопіс, заснаваны ў 1802 годзе.

[3] Дзекуць-Малей Лукаш (1888–1955) — беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч.



«компас»? Мне вельмі трэба мець тэкст Вашай «Госп. Малітвы» з грэцкага, бо гэта важна і цікава ня толькі ведаць і мець, но і ўжо разпаўсюджваць яе! Мне казаў Ўласаў[1] , што Вам прыслалі з Лодзі да карактуры толькі адзін аркуш ці сшыток Эвангельля, дык мо ў ём і ёсьць яна, а калі не, то мо будзеце ў рукох сваіх мець, дык прасіў бы ласкава мне прыслаць яе.

*Ваш Г. Л.*

*Варшава 4/17 ліпня 1911 г.*

Шаноўны і Паважаны Паночку!

Сваіх прыяцелёў і знаёмых я люблю тытулаваць ці празываць: «Дарагенькі альбо залаценькі Братко-Таварыш!» Але да Вас, пішучы першы раз, яксьці — нязручно. Ну, але калі вам прыдзе калі небудзь ахвота скрыпнуць часам крышачку слоў да маёй мізэрнае хвігуры, то ўжо я ня выцерплю, а адважуся назваці «Братко-Таварыш», а не «Паночку». Шмат да каго я пісаў, да і да мяне шмат пісалі, а вось, каб ня Земкевіч, то бы я і да гэтай пары няведаў, што вы есьце на сьвеці, да і больш тамака вас ёсьць (апроч п. Ўласава, Ластоўскаго, Будзькі, нашых паэтаў і др.), хаця, ведама, думаў, што мусяло б быці! Але ўсё ж такі вы тамака лепш і часцей чулі і ведалі аб нейкім Гальяшу Леўчыку і хутчэй маглі б рыпнуць да яго лісток, дзеля грамадзянскай справы. Ну, але цяперака я сам магу пачаць з Вамі гутарку, дзеля таго, што мой Власт неадзываецца да мяне, ня ведаю чаму, ці хворы, ці выехаў, ці можа я яго чымсьці прагневаў, але здаецца, не?..*).

Часам вось кажу, што мова — серабро, а — «маўчок» — золата!

Перш наперш, даведаўшыся аб тым і сім, што дзякуючы Вам і брату «Наша Ніва» радзілася і жывець,

---

[1] Уласаў Аляксандр (1874–1941) — беларускі грамадскі і культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

 

што вы тамака цэлай «спружынай», цэлым «маторам-машынай» беларускаго, хочацца мне з глыбіні сэрца падзякаваць Вам з братам за ўсе вашы труды, уложэны на цяжкай нашай ральлі, і за ўсю вашу працу дзеля адраджэння Беларускаго народу! І сьціснуць вашу працавітую руку! Няведаў я, што ёсьць такі сабе Земкевіч, каторы, прыехаўшы з Вільні, заглянуў да мяне. Будучы нексьці ў праф. Карскаго[1], я даведаўся аб ім і запісаў яго, ажно ж ён сам явіўся. Ну, і цікавы з яго, аднак, экзэмпляр, на сколькі я мог яго пазнаць. Но, бо як жэж? Хто тутака мог падумаць, што калісьці, нібы паляк, ды яшчэ радзіўшыся ў Варшаві, вось якую ідэю «злапаў»? Саўсім ён мяне здзівіў, асабліве дзеля знаньня беларускай бібльёграфіі. Ад яго я цяперака шмат чаго даведаўся. Калі ён не махлюе, ды духам няўпадзе і будзе ісьці крэпка, то сьмела можна сказаць, што вялікую карысьць з яго мы можам мець і аграмадную ўслугу ён калісьці Беларусі прынясе! Шкада, што нямаш яму, як там у Вільні альбо ў Варшаві пакуль што аперціся, каб матэрыальна яму было лягчэй, а то, бедны, саўсім ужо вытрасся!.. Я яму крыху памог, але даўжэй трудна!

Але, здаецца, ён не махлюе, а кажэ праўду. Меў выдаць Власт цяпэрака сборную кніжку ў памяць Палуяна[2], ну і штосьці дзела загразло, пэўне грошай нямашака. Ён хацеў назваць яе «Вялікдзённая Пісанка» ці што, але Вялікдзень ужо даўно далёка ад нас, дзеля гэтаго «назова» гэта ўжо не гадзіцца. Але дзела гэта трэба было б давесьці да канца, бо на памяць нябожчыка-барца за Беларусь, толькі ўжо пад іншым «тытулам» («назовай»): «Беларускі Курган». Грошы на гэта:

---

[1] Карскі Яўхім (1860–1931) — філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф.

[2] Палуян Сяргей (1890–1910) — беларускі публіцыст, празаік, літаратуразнавец.



25 рублёў прыслаў я (і як я чуў), Грыневіч[1] і Земкевіч па 25 руб. = разам 75 руб. Даведайцеся, так нібы няхочучы, сколькі гэта ўсё каштавала б? Я часам пад ахвоту на гэты цэль мог бы крышку і грошы сабраць. Вы тамака добра ведаеце Власта — на від з пісьмаў ён, здаецца, нязгоршы, толькі, бадай, больш гаворыць і піша, чым (аб чым піша) робіць. Я на яго крышку сярдзіты: ён мае творы і вершы страшэньне змалоў, да і меле, праўда, што я сам крыху вінаваты, бо «зарэкамэндаваў» сябе нібы як «самавучка», вось тагды рожные «самазванчые языкаведы» давай іх пілаваць у вас тамака на ўсе бакі, дай спілавалі. Эг філістры! Добра, што я на «амбіцыю» ня хварэю, а то крый Божа загарэлася б тагды страшэнная «палеміка», ды і з «адваротнай» крытыкай, бо і я ж такі, здаецца, бадай што ня згорш знаю родную мову, да і дарма праз 30 гадоў хлеба ня марнаваў. Вось і прыгадзіцца калісьці выцяхаць і іхніе «быкі» са свайго капшука, гдзе ажні шэлесьцяць і просяцца а «крытычные жорны». Ну, паглядзімо, пабачымо? Толькі не кажэце і не давайце пазнаць, што я да вас пісаў і што гаварыў, бо гэта можа нэрвам зашкодзіць. «Я сабе скраю — нічога ня знаю!» Эг, здаецца, каб гэта я ўжо ў Вільні мог жыць! Загудзеў бы, зайграў бы, ажні край весь танцаваў бы! Але «ява» ня такая, як паэтычны сон**)… Калі ж мы дачакаемо філологічнаго зьезду?? Напішэце мне аб вашых думках, проектах, што тамака ў вас дзеецца, як робіцца, мо часам усё такі то тым, то сім прыгадзіцца вам ваш новы прыяцель

*Гальяш Леўчык*

---

*) Калі я ўжо кончыў пісаць гэты лісток, то разношчык прынёс пісульку ад Власта.

**) «Тамака добра жывецца, гдзе нас немашака».

---

[1] Грыневіч Антон (1877–1937) — беларускі збіральнік музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар.





*Варшава д. 13/31-X лістопада 1912 г.*

Залаценькі Дзядзька!

Такое канторы абвестак: «М. Гіммэльфарба» на Каралеўскай 25 у Варшаві ня было і нямаш — так сторраж мне казаў, да і ў канторах абвестак аб такой фірме ня чулі і ў кнізе тэлефонаў яе нямашака. Будзьце асцярожны, дзядзька, бо тутака Жыды на ўсе рукі спасобны! Пры гэтым пасылаю вам распіску агентурную! Вось яшчэ, дзядзька, хуткая вельмі рэч: Тутака «Альф. Гродзкі» хочэ даць абвестку да Каляндара, але дае толькі тую самую цану 30 рублёў, што і ў прошлым року, за 1 страніцу ў двох выданьнях і на том самом месцы і тую самую абвестку, што і была (так што перакладу ня трэ рабіць). Дзеля гэтаго хутка адпішце, то ён прышле клішу! Я бы Вам радзіў прыняць, дзеля таго, што ён пэўне больш ня дасьць і што ў гэтым року менш будзе абвестак, ніж у том (я маю ўжо на 60 рублёў, а з ім то будзе 90-сят), і што ён ужо трэці раз абвешчваецца! Ён аб гэтым ужо пісаў быў да «Нашай Нівы» 22 кастрычніка, але вы адкажэце на маё імя, то я мо яшчэ патаргуюся! Але хутчэй! Ці не маглі б вы мне, дзядзька, пастарацца № 1 «Славянскія известія». Тамака есьцяка надруковано аб Беларусах — вы знаеце — рэдакцыя ў Маскве (вышоў толькі адзін, здаецца нумар). Буду дзякаваць!..

Прышлеце мне ўзор малюнка да календара на 1913 рок!

Я ня атрымаў апошняе газэты з прошлай нядзелі!..

Бывайце здаровы і кланяйцеся ўсім нашым блізкім і дальшым беларусам!

*Ваш Гальяш Леўковіч*



*дн. 20 ліпня 1926 г.*

Паважаны Дзядзька!

Даю Вам яшчэ «горбу» літарацкіх матар'ялаў сатырычных аб «слаўных», нібы «беларускіх» «дзеячах» — думаючы, што яны Вам, а калі не Вам, дык мо «Маланцы»[1], або «Б. Справе»[2] да друку (у абрэзцы) прыдадуцца, а нават хацяб хай ляжаць сабе ў музейнам архіве, калі ня будзе адвагі ці мо грошы іх выдаць друкам ці ў газэтах, ці ў аддзельнай брашурцы, як сатыры. Але, калі ласка, усё-ткі адкажэця, прачытаўшы іх, мне, бо я ўпярош быў паслаў некаторыя з іх (апрача аб: «Ляк.» і «Пав.») у рэдак. «Маланкі», ды там, відаць, баяцца зачапляць гэных асоб і нічога ня друкуюць і нават ня адказваюць мне, ці будуць друкаваць. А шкада! Бо матарыялы добрыя — проста гістарычныя! Праўдзівыя, узятыя з фактаў і жыцьця! Два толькі «Маланка» выдрукавала, а больш штосьці ня відаць — маўчаць, ня ведаю чаму? Каб штосьці ў аддзельнай брашуры, дык было-б разам у калекцыі 6 асоб — дый, думаю, што зараз разкупілі-б цэлы наклад! Трэба дадаць толькі рысункі карыкатураў. Была б знамянітая брашурка! Пад маім псэўданімам: «Гля-Гля-Бач». А мо нават і другіх іншых аўтараў да яе далучыць! (Аб другіх падобных ці іх-жа «Дзеячох»).

З пашанай

*Г. Л.*

---

[1] «Маланка» — ілюстраваны сатырычны часопіс прагрэсіўнага кірунку ў Заходняй Беларусі. Выдаваўся ў Вільні на беларускай мове з 15 студзеня 1926 года. Выйшлі 43 нумары.

[2] «Беларуская справа» — газета, выходзіла ў Вільні з 9 красавіка па 31 ліпеня 1926 года.





# БІЯФІЗІК, ПАЭТ І МАСТАК АЛЯКСАНДР ЧЫЖЭЎСКІ

У лютым 2010 года ў расійскім горадзе Калуга ўрачыста быў адкрыты першы Дом-музей Аляксандра Чыжэўскага — вялікага савецкага вучонага-біяфізіка, заснавальніка аэраіяніфікацыі, геліябіялогіі і электрагематалогіі, паэта і мастака. Музей быў створаны таму, што ў 1913 да 1929 года ў тым доме жыла сям’я Чыжэўскіх.

Але Радзіма Аляксандра Чыжэўскага далёка не Калуга і Расія, а беластоцкая беларуская зямля, дзе ў мястэчку Цеханавец ён нарадзіўся 8 лютага 1897 года ў праваслаўнай сям’і вайскоўца-беларуса.

Бацька Аляксандра Чыжэўскага — Леанід Васільевіч у свой час скончыў Аляксандраўскае вучылішча, стаў вайскоўцам. А ў 1916 годзе нават атрымаў генеральскае званне. Калі быў паручыкам, вынайшаў вугламер для стральбы артылерыі па нябачных цэлях з закрытых пазіцый, а таксама ўсё жыццё займаўся ракетнай зброяй.

Маці Надзея Аляксандраўна рана памерла ад сухотаў, пахавана на могілках у Ментане (Італія). Памерла яна тады, калі сыну Аляксандру не было яшчэ і годзіка. Выхаваннем хлопчыка займалася сястра бацькі Вольга, а таксама маці бацькі Лізавета Сямёнаўна. Дарэчы, бабуля была даволі адукаваным чалавекам. І пра гэта ведалі жыхары Цеханаўца, бо часта да яе звярталіся па парады, рэкамендацыі, просьбы. Бабуля Ліза валодала французскай, англійскай, нямецкай, рускай і тутэйшай (беларускай) мовамі, выдатна чытала па-італьянску і па-шведску, добра ведала гісторыю.

Аляксандр часта хварэў, і гэта хвалявала бацьку. Таму ён сына разам з сястрой і маці вельмі часта адпраўляў на лячэнне і адпачынак у Італію, Францыю, Грэцыю, Егіпет. Грошы ў іх былі.



Спачатку маленькага Сашу вучыў хатні настаўнік у Цеханаўцы. Адначасова і бабуля шмат давала ведаў. Таму ўжо ў чатыры гады Саша Чыжэўскі мог расказваць на памяць вершы рускіх, нямецкіх і французскіх паэтаў.

Першыя дзесяць гадоў маленства Аляксандра Чыжэўскага прайшлі на Беласточчыне. Але потым сям'я пераехала ў горад Белу Сядлецкай губерні. Праўда, Саша з цёткай і бабуляй часта прыязджалі ў Цеханавец, дзе ў іх заставаліся сваякі і сябры. І толькі перад пачаткам Першай сусветнай вайны сям'я Чыжэўскіх пераехала ў Калугу, таму што туды накіравалі на службу яго бацьку.

У Калузе Аляксандр Чыжэўскі паступіў у прыватнае рэальнае вучылішча Шахмагонава. Тут пачаў цікавіцца астраноміяй і летам 1914 года пазнаёміўся з Канстанцінам Цыялкоўскім, з якім потым сябраваў усё жыццё.

Пасля заканчэння вучылішча наш зямляк вырашыў працягваць вучобу ў Маскве. Акрамя астраноміі юнака вельмі цікавіла літаратура. У 1915 годзе ён выдае першы свой паэтычны зборнік «Стихотворения».

У Маскве Аляксандр Чыжэўскі для вучобы выбраў два інстытуты — камерцыйны і археалагічны. Калі ў камерцыйным інстытуце існавала класічная схема заняткаў, то ў археалагічным, куды ён паступіў вольным слухачом, прафесары з першых дзён вучобы далучалі студэнтаў да навуковай дзейнасці. Вядома, Аляксандр прапанаваў зрабіць даклад пра вынікі сваіх назіранняў за Сонцам. Першыя свае думкі пра сувязь сонечнай актыўнасці і працэсаў на Зямлі Чыжэўскі выказаў у адным з першых сваіх выступленняў, якое называлася «Уздзеянне пертурбацый у электрычным рэжыме Сонца на біялагічныя з'явы». Тады даклад выклікаў розныя спрэчкі сярод студэнтаў і выкладчыкаў.

Будучы студэнтам Маскоўскага археалагічнага інстытута, Аляксандр Чыжэўскі зімой 1915/16 года





наведваў маскоўскія літаратурныя вечары і гурткі, дзе пазнаёміўся з рускімі літаратарамі Іванам Буніным і Валерыем Брусавым.

У сакавіку 1918 года ў Калузе былі арганізаваны Калужскія пяхотныя камандныя курсы па падрыхтоўцы каманднага саставу Чырвонай Арміі. Бацька Аляксандра Чыжэўскага быў прызначаны начальнікам гэтых курсаў. А рускую мову там выкладаў сам Аляксандр Чыжэўскі. У 1918 годзе, у сувязі з пераходам на новую арфаграфію рускай мовы, Аляксандр склаў падручнік рускай мовы згодна з новымі правіламі. А праз год ён выдае другі зборнік вершаў «Тетрадь стихотворений», куды ўвайшло 300 твораў.

Пасля заканчэння археалагічнага інстытута наш зямляк абараніў дысертацыю на тэму «Руская лірыка XVIII стагоддзя». А ў Маскоўскім універсітэце абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Аб перыядычнасці сусветна-гістарычнага працэсу». Па просьбе таго ж Цыялкоўскага Аляксандр Чыжэўскі ў Калузе ў 1926 годзе ўпершыню ў свеце правёў першы эксперымент па касмічнай біялогіі. Там, у Калузе, у доме бацькі на працягу некалькіх гадоў малады вучоны праводзіў шэраг іншых розных эксперыментальных даследаванняў у галіне аэраіянізацыі. Доследы далі канкрэтны вынік: адмоўна зараджаныя іоны паветра дабратворна дзейнічаюць на жывыя арганізмы, станоўча зараджаныя аказваюць процілеглае дзеянне. Пазней Чыжэўскі атрымае аўтарскае пасведчанне на прыладу для іянізацыі газаў і вадкасцей.

Разам з правядзеннем розных доследаў і эксперыментаў Аляксандр Чыжэўскі працягвае атрымліваць адукацыю ў маскоўскіх навучальных установах. У 1915–1919 гадах ён вучыцца на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, а ў 1919–1922 гадах — на медыцынскім факультэце. З 1923 года Чыжэўскі актыўна праводзіць доследы па ўздзеянню іянізаванага паветра на экзатычных жывёл — малпаў,



сланоў, бегемотаў і г. д. у Практычнай лабараторыі заапсіхалогіі ў кутку Дурава (вядомыя артысты цырка, якія працуюць з жывёламі. — *С. Ч.*). Вучоны распрацоўвае аэраіянізатар для атрымання лёгкіх аэраіонаў, вядомы сёння як люстра Чыжэўскага. Яго працам у галіне аэраіянізацыі і геліябіялогіі надаюць вялікае значэнне за мяжой.

У 1931 годзе выйшла з друку «Пастанова Саўнаркама СССР аб рабоце прафесара А. Л. Чыжэўскага», яго ўзнагароджваюць прэміяй Саўнаркама СССР і прэміяй Наркамзема СССР. Чыжэўскі атрымлівае трохпакаёвую кватэру на Цвярскім бульвары ў цэнтры Масквы. Адначасова з гэтай пастановай засноўваецца Цэнтральная навукова-даследчая лабараторыя (ЦНДЛ) з шэрагам філіялаў і даследчых станцый. Дырэктарам яе быў прызначаны Аляксандр Чыжэўскі. Але праз пяць гадоў лабараторыя спыніла сваё існаванне. У гэтым немалую ролю сыгралі ворагі Чыжэўскага. Напраклад, у газеце «Правда» ў 1935 годзе нехта Завадоўскі апублікаваў артыкул пад загалоўкам «Враг под маской ученого», у якім ён абвінаваціў Чыжэўскага ў контррэвалюцыі. І толькі ў 1938 годзе Аляксандра Чыжэўскага зноў запрасілі на працу ў якасці навуковага кіраўніка па аэраіяніфікацыі Палаца Саветаў. У верасні 1939 года ў Нью-Ёрку адбыўся Першы Міжнародны кангрэс па біялагічнай фізіцы і касметычнай біялогіі, на якім Чыжэўскі быў выбраны Ганаровым прэзідэнтам. Ён зноў неўзабаве запрашаецца ў Амерыку, але на гэты раз Саветы яго не пускаюць.

Праз пэўны час над нашым земляком згушчаюцца хмары. А 21 студзеня 1942 года яго арыштоўваюць органы НКУС. Чыжэўскага асуджаюць на восем гадоў і адпраўляюць у Свярдлоўскую вобласць, а потым у Казахстан. Пасля ссылкі ў Маскву яму вярнуцца не дазволілі, таму яшчэ восем гадоў ён жыве ў Карагандзе. І толькі ў 1962 годзе Чыжэўскага поўнасцю рэабілітуюць.





Але і ў ссылцы Аляксандр Чыжэўскі заставаўся вучоным і паэтам, а таксама займаўся жывапісам, бо меў талент і да мастацтва. Дарэчы, жывапісу ён вучыўся ў Парыжы ў мастака Надзье — вучня вядомага імпрэсіяніста Дэга. У Карагандзе спадар Чыжэўскі робіць адкрыцці ў галіне гематалогіі. Упершыню ў гісторыі медыцыны, дзякуючы даследаванням Чыжэўскага, кроў паўстала як адзіная дынамічная сістэма. Працы Чыжэўскага па электрагемадынаміцы адкрывалі новыя магчымасці для выяўлення больш дакладных дыягназаў многіх захворванняў і для пошукаў новых тэрапеўтычных метадаў.

Пасля сталінскіх лагераў Аляксандр Чыжэўскі вярнуўся ў Маскву. Там ён зноў арганізаваў лабараторыю іяніфікацыі ў трэсце «Саюзсантэхніка» пры Дзяржплане СССР і стаў яе навуковым кіраўніком…

20 снежня 1964 года Аляксандра Чыжэўскага не стала. Яго пахавалі ў Маскве на Пятніцкіх могілках. У адным са сваіх вершаў вучоны і паэт пісаў: «Я да вас прыйду, калі здзейсняцца тэрміны…». Сапраўды, толькі пасля ягонай смерці ў Расіі ацанілі працы беларуса Аляксандра Чыжэўскага ў галіне біяфізікі, медыцыны, літаратуры і мастацтва. У гонар яго адкрылі музей, праводзяцца навуковыя канферэнцыі, пішуцца і выдаюцца кнігі.

## МІХАСЬ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ Ў ВАРШАВЕ

У 1935 годзе выдатны беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі (1900–1981) падпісаў кантракт з Пазнанскім оперным тэатрам на адзін год. Але праца ў Пазнанскай оперы, як піша ў кнізе «Песняй даваў людзям радасць» (Мінск, 2007. С. 29) яе аўтар Алесь Горбач, пакінула не самыя лепшыя ўспаміны. На «крэсах всходніх» польскія санацыйныя ўлады праводзілі

тады шалёную паланізацыю, беларусаў як нацыю не прызнавалі, не ў пашане, мякка кажучы, была і беларуская песня. Міхась Забэйда-Суміцкі ж ніколі не хаваў таго, што ён беларус, не цураўся роднай мовы і песні. У Познані давялося яму шмат вытрываць, бо бывала, што тыднямі спевака не пускалі на сцэну, кпілі з ягонай беларускасці. Таму пасля заканчэння кантракта ён пакінуў Пазнанскую оперу і пераехаў у Варшаву, дзе пачаў выступаць з канцэртамі і спяваць на польскім радыё.

І ў Варшаве да беларускага спевака адносіліся па-рознаму. Спачатку нават смяяліся, што такі добры артыст, спявак італьянскай школы, а ў свае канцэртныя праграмы ўключыў мужыцкія песні. Але з цягам часу, як згадваў у сваіх успамінах Міхась Забэйда-Суміцкі (Альманах «Белавежа». № 1. Беласток, 1965. С. 304), калі пабачылі, што на яго канцэрты не толькі ідуць, але прыязджаюць людзі за дзясяткі кіламетраў, каб пачуць у яго выкананні гэтыя мужыцкія песні, суцішыліся. «Адзін раз я спяваў у польскім радыё праграму, якую перад гэтым выконваў славуты Кепура. І вось пасля майго выступлення між іншым напісалі: «У Забэйдзе-Суміцкім Кепура знайшоў небяспечнага канкурэнта», — успамінаў спявак. Былі і такія, што ўгаворвалі Міхася адмовіцца ад беларускай песні. Але Міхась Забэйда быў няўмольны.

Вядома ж, да беларускага спевака ў Варшаве адносіліся і вельмі добра, шчыра, нават падтрымлівалі. Да такіх людзей належаў дырэктар Варшаўскага радыё Эдмунд Рудніцкі. Дзякуючы яму Міхась Забэйда-Суміцкі ў 1938 годзе ўпершыню наспяваў на грамафонныя кружэлкі дзесяць беларускіх песень. Гэта былі песні «Ляціць сарока», «Конь бяжыць», «Ой, рана куры запелі», «Шчука-рыба ў моры» (кампазітар А. Грачанінаў), «Як памерла матулька», «Рабіна», «Лявоніха» (кампазітар А. Туранкоў), «Зялёны дубочак», «Чаму ж мне не пець» (кампазітар С. Казура),





«А ў лесе, лесе…» (кампазітар М. Анцаў). Пасля выхаду кружэлкі прыйшлі сапраўдны трыумф, поспех. У сувязі з такой падзеяй Рыгор Шырма пісаў: «Гэтыя песні разышліся і вандруюць далёка за межамі Бацькаўшчыны да нашых братоў-эмігрантаў у Францыю, Амерыку, Аргенціну, пояць іх там сваёй жыватворчай сілай, дарагім вадгалоскам далёкай роднай зямлі» (Рыгор Шырма. Песня — душа народа. Мінск, 1993. С. 116).

Гэтыя кружэлкі даволі вялікай папулярнасцю карысталіся і ў Беларусі, асабліва ў заходняй яе частцы. Выступленні Міхася Забэйды-Суміцкага па Варшаўскім радыё трансліравалі Парыж, Лондан, Прага, Нью-Ёрк і іншыя радыёстанцыі. Пасля выступленняў па радыё спявак у Варшаве атрымліваў сотні пісем з усіх куткоў свету. А адзін лонданскі радыёчасопіс, як згадваў у сваіх успамінах наш зямляк, змясціў яго фотаздымак і артыкул пад загалоўкам «Спявак, які сам сябе зрабіў». Праўда, не ўсім беларускія радыёпесні ў Польшчы падабаліся. Часопіс «Шлях моладзі» (1937. № 16. С. 13) пісаў: «16 лістапада з Варшавы на ўсе радыёстанцыі ў Польшчы быў надаваны канцэрт беларускіх песьняў (нешта каля 7 песьняў), якія сьпяваў ведамы на ўвесь сьвет сьпявак М. Забэйда. Дакладная праграма гэтага канцэрту была пададзена ў афіцыяльным органе Польскага Радыё «Antena». Беларусы і многалічныя паклоньнікі беларускай песьні, хто толькі мог сходзіліся пры радыёвых апаратах слухаць прыгожага сьпеву. І што ж сталася? Вось жа Віленская радыёстанцыя па трэцяй ужо беларускай песьні, бяз аглядкі на забавязаньні агульнавызначанай наперад праграмы, узяла ды выключыла сваю антэну з перадачы агульнай, і з сваёй радыёстанцыі, чамусьці вельмі падэнэрваваным голасам, абвясьціла, што ўжо надала аўдыцыю «песьняў палескіх» ды што прыступае да ігры з грамафонам плітак: «wesele góralskie», «umarł Maciek» і інш. Уся гэта «аўдыцыя» з грамафонных плітак трывала



да тае хвіліны, пакуль у Варшаве сьпяваў М. Забэйда. Гэтак Віленская радыёстанцыя яшчэ раз выявіла свае сапраўдныя адносіны да беларускіх песьняў, а тым самым і да таго народу, каторы іх пяе і каторага культурныя патрэбы мусіла б браць перад усім пад увагу…».

Тым не менш Міхась Забэйда-Суміцкі стаў вельмі папулярным спеваком у Польшчы. Польскія кампазітары дасылалі спеваку песні з просьбамі, каб ён выконваў іх на сваіх канцэртах. У яго рэпертуары былі арыі з опер, араторыі, кантаты, песні і рамансы розных народаў і стыляў — ад класікаў да тагачасных кампазітараў. Беларускі спявак вельмі шмат выступаў. Радаваў ён песняй у Варшаве і беларусаў. Вось што пісалі беларускія часопісы пра канцэрты Міхася Забэйды-Суміцкага ў Варшаве: «27 лютага у залі Варшаўскай кансерваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прасьпяваных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія» (Шлях моладзі. 1937. № 3. С. 22). «Канцэрты М. Забэйды-Суміцкага адбыліся ў Вільні 8 мая і ў Варшаве 24 мая. У іх праграме апрача розных іншых твораў, былі і беларускія народныя песьні. Як заўсёды, найпрыхільней, з захапленьнем, былі прынятыя публікаю беларускія песьні ў вельмі мастацкім выкананьні нашага слаўнага сьпевака» (Беларускі летапіс. 1938. № 2. С. 42). «Апошні час артыст стала жыве ў Варшаве, выступае на сталічных сцэнах, у Польскім радыё, выязджае часта з канцэртамі на правінцыю і заграніцу. Прычым на кожным канцэрце слаўнага артыста разам з ім выступае беларуская песьня, выступае ў поўным блеску і красе, карыстаецца калясальным посьпехам побач з шэдэўрамі музыкі эўрапейскай. Так на канцэрце ў Варшаўскай кансерваторыі 27 лютага г. г. дзьве беларускія народныя песьні А. Грэчанінава «Ляціць сарока» і «Конь бяжыць, зямля дрыжыць» зрабілі калясальнае ўражаньне на публіку. Артыст быў змушаны паўтарыць іх…» —




пісаў Рыгор Шырма ў часопісе «Беларускі летапіс» у красавіку 1937 года.

Пра канцэрт у Варшаве ў траўні 1938 года прыгадваў у сваіх успамінах і Пятро Ластаўка, якія друкаваліся ў тыднёвіку «Ніва» (Беласток) 8 сакавіка 1957 года: «У траўні 1938 года Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве арганізавала публічны канцэрт у Варшаўскай кансерваторыі вядомага беларускага спевака М. Забэйды-Суміцкага. Тут трэба падкрэсліць, што беларускі канцэрт зрабіў вялікае ўражанне ў Варшаве. Зала кансерваторыі была перапоўнена, а артыст вымушаны быў па просьбе слухачоў паўтарыць амаль кожную беларускую песню. Прэса варшаўская ў сваіх рэцэнзіях пісала, што даўно ўжо не было такога добрага канцэрта ў сталіцы, а выходзячыя з канцэрта гаварылі між сабой, што і беларусы маюць свайго Кепуру, і вось, каб часцей беларускія песні тут пяялі, надта ж яны прыгожыя».

У Варшаве ў Міхася Забэйды-Суміцкага было шмат творчых планаў і спадзяванняў. Але ўсяму гэтаму перашкодзіла Другая сусветная вайна. Аднойчы спявак патрапіў пад серыю бамбёжак і нямецкіх абстрэлаў. Але выратаваў з бяды яго стрыечны брат Язэп Урбановіч. Той самы Язэп Урбановіч (1907–1944), які прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызвольным руху ў Заходняй Беларусі. Калі ён вярнуўся з Варшавы на Ружаншчыну, то быў адным з кіраўнікам партызанскага руху на Берасцейшчыне. Загінуў у ліпені 1944 года за некалькі дзён да прыходу савецкіх салдат ад рук партызанаў-марадзёраў, якія рабавалі царкву ў вёсцы Варанілавічы на Пружаншчыне.

У маім хатнім архіве захоўваецца копія пісьма Міхася Забэйды-Суміцкага да Басі Кнубовец — жонкі Язэпа Урбановіча, якая ў сярэдзіне 1980-х гадоў жыла ў Гродне. Нават і не памятаю, хто мне яго і калі даслаў. Ліст вельмі цікавы. Ён мае непасрэднае дачыненне да Варшавы і нашага спевака. Пісьмо да спадарыні Кну-



бовец напісана ў Празе 18 красавіка 1969 года. Міхась Іванавіч пісаў наступнае: «Дарагая Бася! Адказваю адразу на Ваша пісьмо ад 9 г/м. Ліст гэты я чакаў доўга, так як хацеў скарыстацца Вашай памяццю, якая лепш за маю, каб адказаць на просьбу т. Фактаровіча пра Юзіка (Аляксандр Фактаровіч (1935–1979) — беларускі вучоны і гісторык. Юзікам усе сябры называлі Язэпа Урбановіча. — *С. Ч.*). Не дачакаўшыся Вашага адказу, я 23 сакавіка напісаў яму прыблізна такі ліст: Паважаны Аляксандр Аляксандравіч! Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы (хвароба, узрост), паспрабую выканаць Ваша жаданне і напісаць успаміны пра Іосіфа Паўлавіча, майго стрыечнага брата. Знаёмства наша пачалося «на адлегласці». Аднойчы ў Харбіне, дзе я працаваў у савецкай школе, я атрымаў пісьмо. Пісаў яго Юзік. Было яму 14–15 гадоў. Ён пытаўся ў мяне, што яму рабіць. Бацькі застаўлялі яго працаваць па гаспадарцы. А Юзік хацеў вучыцца. З ліста было бачна, што ў яго ёсць усе дадзеныя на тое, каб працягваць адукацыю. У сваім адказе я падтрымаў яго жаданне вучыцца. Ён так і зрабіў…

Прайшло шмат гадоў. Многа было пережыта мною і Юзікам. Нарэшце, мы з ім сустрэліся ў Варшаве, дзе пасля вяртання з Італіі я працаваў як спявак у 1936–1939 гадах.

Наша першая сустрэча вельмі зблізіла. Ён шмат чуў і чытаў пра тое, што я не толькі застаюся беларусам, верным свайму народу, але і ў сваіх канцэртах, нягледзячы на шматлікія перашкоды, выкарыстоўваю беларускія народныя песні. У сваю чаргу ў Шэйпічах (родная вёска М. Забэйды-Суміцкага і Язэпа Урбановіча на Пружаншчыне. — *С. Ч.*) я даведаўся, што ён вельмі пацярпеў, змагаючыся за шчасце свайго народа, сваёй Радзімы. Гэта дапамагло нам адразу быць шчырымі і адкрыта размаўляць пра тое, як у санацыйнай Польшчы прыгнятаюць нашых братоў-беларусаў і як трэба з гэтым змагацца…





Ён вельмі душэўна перажываў несправядлівасці, звязаныя з культам асобы Сталіна, адмаўляў яго, лічыў, што з гэтым трэба змагацца.

У Варшаве было Асветнае таварыства беларусаў, якое, між іншым, наладжвала канцэртныя праграмы. У арганізацыі такіх мерапрыемстваў прымаў удзел і Іосіф Паўлавіч. Ён вельмі любіў беларускія народныя песні і часта прасіў мяне што-небудзь праспяваць. Часам сам падпяваў. Вось дзве з гэтых песень:

* * *

Ой, у полі азерца,
Там плавала вядзерца.
Прыхадзі, мілы, не тамі мяне,
Ды пацеш маё сэрца.
Ці ж я не такая,
Як і тая другая.
Я й харошая, я й прыгожая,
Толькі доля ліхая…

* * *

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам.
Занясу яму я есці,
Ці не скажа ён мне сесці.
Занясу яму я піці,
Ці не будзе гаварыці.
Ён наеўся і напіўся,
Сеў на ролю й зажурыўся.
Што ты, мілы мой, думаеш,
На мяне не паглядаеш?
А я сяджу ды думаю,
Што нялюбу жонку маю.
Браў мяне ты ўдзень, не ўночы,
Дзе ж тады свае меў вочы?..



Размаўлялі мы між сабой заўсёды на роднай беларускай мове. Ён лічыў, што без роднай мовы няма народа як нацыі. Памятаў словы Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». Вельмі любіў Янку Купалу і Якуба Коласа.

Летам у добрае надвор'е мы разам хадзілі ў Лазенкі — вялікі парк у Варшаве. Па дарозе спыняліся каля помніка Шапэну, музыку якога ён вельмі любіў.

Аднойчы мы сядзелі разам пад дрэвам у Лазенках. І раптам да нас прыбегла вавёрачка, і, так як мы не варушыліся, залезла яна на калені да Іосіфа Паўлавіча. Гэта яго вельмі ўзрадавала. Дарэчы, мы шмат размаўлялі пра давер. Трэба адзначыць, што Іосіф Паўлавіч не толькі ўмеў добра гаварыць, але і ўмеў слухаць людзей, нават і тады, калі не пагаджаўся з тым, пра што той казаў. У надзеі, што Вы не забыліся беларускай мовы, прывяду адзін выпадак, пра які я пісаў у сваіх «Успамінах», надрукаваных у альманаху «Белавежа» (Беласток, 1965. № 1): «Вайна захапіла мяне ў Варшаве. Як вядома, нямецкія фашысты хутка акружылі горад і сталі бамбіць яго і абстрэльваць. І вось мне ўспамінаецца гераічны ўчынак майго стрыечнага брата Язэпа Урбановіча. Ён з адным таварышам прабраўся праз акружэнне і пранік у Варшаву, каб вывесці мяне з пекла, у якім я апынуўся. На жаль, я быў хворы і не мог ісці. Крануты добразычлівасцю, я падзякаваў яму за чалавечыя адносіны да мяне і пры развітанне сказаў, што хоць застаюся ў Варшаве, але душой буду заўсёды з ім. Так яно і было…». Гэта была мая апошняя сустрэча з Іосіфам Паўлавічам. Я вельмі рады, што Вы захапіліся вывучэннем жыцця і дзейнасці гэтага цудоўнага чалавека, і жадаю Вам поўнай удачы ў працы. З павагай М. Забэйда».

Так у Варшаве Міхась Забэйда-Суміцкі цудам застаўся жыць. Ён прабыў там адзін год. І вясной 1940 года па запрашэнню Народнага дома выехаў у Прагу.





# ДУБОЎКУ ПЕРАКЛАДАЛА АХМАТАВА

Адзін з класікаў беларускай літаратуры Уладзімір Дубоўка (1900–1976) яшчэ па-сапраўднаму не ацэнены ў нашай літаратуры. Яшчэ час Уладзіміра Дубоўкі на Беларусь не прыйшоў, як і ўся яго паэтычная творчасць.

Лёс паэта быў нялёгкім, а можа, нават трагічным. У 1930-м годзе яго рэпрэсавалі, пасля чаго паэт 27 гадоў быў зняволены. А пасля рэабілітацыі ў 1957 годзе ён на Бацькаўшчыну ўжо не вярнуўся, а жыў у Маскве. Тым не менш у 1962 годзе за зборнік вершаў «Палеская рапсодыя» паэт атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Пасля рэабілітацыі ў Беларусі не так і шмат, але выходзілі яго паэтычныя зборнікі для дзяцей, «Выбраныя творы» ў двух тамах, асобныя паэтычныя кнігі, у тым ліку і апошняе выданне «О Беларусь, мая шыпшына…» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 2002). Выйшла з друку і добра напісаная кніга пра зямныя і творчыя шляхі паэта і лёс ягонага пакалення «Круг» Алеся Пашкевіча. Варта прыгадаць і выдатную кнігу — крытыка-біяграфічны нарыс «Уладзімір Дубоўка» Дзмітрыя Бугаёва, што выйшла з друку ў 1965 годзе. Але ўсяго гэтага мала. Дубоўка заслугоўвае значна большага, вартага, поўнага.

Вядомы Уладзімір Дубоўка і як перакладчык. Гэта дзякуючы яму па-беларуску загучалі санеты У. Шэкспіра, паэмы Дж. Байрана, асобныя вершы В. Брусава, А. Пракоф’ева, П. Тычыны, Ю. Янsocіса, Ю. Славацкага, У. Сыракомлі, У. Бранеўскага і іншых паэтаў. З вялікай радасцю перакладалі творы Уладзіміра Дубоўкі і паэты суседніх з Беларуссю краін. Вельмі любілі Дубоўку ўкраінцы. Паўло Тычына нават хадайнічаў перад адпаведнымі інстанцыямі пра рэабілітацыю паэта. А Уладзімір Сасюра прысвяціў



беларусу верш «Дубовки пісня в серці лине». Іншыя ўкраінскія паэты называлі Уладзіміра Дубоўку патрыярхам беларускай паэзіі.

Як самага роднага і блізкага чалавека заўсёды сустракалі беларускага паэта ў былым Ленінградзе (Санкт-Пецярбургу). Менавіта ў Ленінградзе свет пабачылі два ягоныя зборнікі вершаў у перакладзе на рускую мову. Гэта зборнік «Золотая ранница» (1961) і «Полесская рапсодия» (1967). «Золотая ранница» была першаю спробаю па-сапраўднаму пазнаёміць рускіх чытачоў з творчасцю вялікага беларускага паэта. А да зборніка «Полесская рапсодия» прадмову напісаў вядомы рускі паэт Аляксандр Пракоф’еў, які падкрэсліў, што «Владимир Дубовка не думает о покое. Покоя у него нет, он весь в работе, и она служит родному народу. В этом его гражданский долг, его вера, утверждение его безмерной и неколебимой любви к Отчизне. Его поэзия полна искренности, всего того, что родит ее с высокой гражданской правдой».

У два зборнікі ўвайшлі дзясяткі найлепшых вершаў Уладзіміра Дубоўкі. І перакладалі іх з беларускай мовы на рускую не абы-хто, а той жа Аляксандр Пракоф’еў, Марыя Камісарава, Усевалад Раждзественскі, Павел Кабзарэўскі і іншыя рускія паэты і перакладчыкі. Сярод перакладчыкаў Дубоўкі — і Ганна Ахматава. Ахматава абы-каго перакладаць не будзе, Ахматава ніколі абы-каго не перакладала. Ахматава перакладала Дубоўку. Два вершы ў перакладзе Ганны Ахматавай увайшлі ў гэтыя ленінградскія зборнікі Уладзіміра Дубоўкі. Паэтка пераклала вершы «Пальцы жоўтых кляновых лістоў» («Клёны в пальцах своих золотых…») і «Думкі лятуць» («Думы летят…»). Пераклады зроблены на высокім узроўні майстэрства. Чытаем у Дубоўкі:

Думкі лятуць, як дэпешы без адраса,
Можа, ад смутку, а можа, ад радасці.
З тым размінуцца, а з тым прывітаюцца,
Ці гэта вечар, ці мо гэта раніца?..





У перакладзе Ганны Ахматавай захаваўся і рытм радкоў, і кожнае слова лягло на пераклад — не страчана, не выкінута. Перакладчыца ашчадна і добразычліва аднеслася да самога арыгінала:

Думы летят, как депеши без адреса,
Может, от грусти, а может, и с радости.
С тем повстречаются, с тем попрощаются.
Вечер ли это иль утро кончается?..

Пераклад атрымаўся даволі творчым, бо перакладчыца выдатна перадала мастацкую праўду арыгінала і дух твора.

Другі пераклад верша «Пальцы жоўтых кляновых лістоў» атрымаўся прыблізным, але і ў ім Ганна Ахматава перадала дубоўкаўскі каларыт, строга вытрымаўшы законы эквірытмічнасці і эквілінеарнасці:

У арыгінале:

Пальцы жоўтых кляновых лістоў
Мкнуцца восень схапіць за шыю.
Не парушаць яе хараство,
Не парушаць лісты залатыя…

У перакладзе Ганны Ахматавай:

Клёны в пальцах своих золотых
Держат осень с её красотою.
Осень властвует в рощах густых,
Ограждаясь листвой золотою…

Гэтыя вершы Уладзімір Дубоўка напісаў ажно ў 1925 годзе. Чытаю іх, і здаецца — напісаны яны сёння. А таму я пагаджаюся з Максімам Танкам, які на пытанне, хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў, адказаў: Купала, Колас, Багдановіч і Дубоўка. Так, Уладзімір Дубоўка, вершы якога перакладала Ганна Ахматава.



# ВАСІЛЬКОВЫ РОССЫП ПАЭТА

У крывавую хвалю сталінскага генацыду ў 1936 годзе трапіў і мой зямляк са Слоніма паэт Сяргей Дарожны (Серада Сяргей Міхайлавіч). Ён быў арыштаваны ў канцы жніўня ў Мінску проста на кватэры, дзе пражываў на Першым беларускім завулку 3-А. Праз год органы НКУС асудзілі паэта за тое, што ён быў «членам антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» на 8 гадоў…

Гадоў дваццаць, а можа і больш, па крупінцы збіраю звесткі пра Сяргея Дарожнага. У пошуках матэрыялаў пра свайго земляка мне шмат дапамагалі беларускія пісьменнікі Васіль Хомчанка, Павел Пруднікаў, Станіслаў Шушкевіч, Максім Лужанін, Сяргей Грахоўскі, якія добра ведалі паэта пры жыцці. Але цяпер ужо няма ў жывых і гэтых літаратараў. Засталіся толькі іх пісьмы да мяне, згадкі, успаміны, некаторыя здымкі. Васіль Хомчанка 8 ліпеня 1988 года пісаў мне: «Я Сяргея Дарожнага ў 1940 годзе сустрэў у лагеры (Ніжне-Амурскі лагер). З ім разам быў у калоніі, ці лагпункце, да 5 красавіка 1941 года. Я вызваліўся, а ён застаўся. Сястра Дарожнага, якая жыве ў Мінску, сказала, што Сяргей памёр у 1943 годзе ў калоніі ад запалення лёгкіх — так ёй паведамілі. Але гэтаму я мала веру. Сяргей, відаць, памёр ад голаду і ад цяжкай працы…».

Магчыма і так. Паэта не стала летам 1943 года ў Камсамольску-на-Амуры (Расія). Па хадайніцтву сястры Сяргея Надзеі Юшкевіч, ён быў рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29 снежня 1957 года і ўзноўлены ў Саюзе пісьменнікаў.

На Слонімшчыне людзі кажуць: калі нарадзіўся няшчасным, то няшчасным і памрэш. Так было і з Сяргеем Дарожным. Нарадзіўся ён у Слоніме ў сям’і вайскоўца 25 лютага 1909 года. Калі пачалася Першая сусветная вайна, бацьку забралі на фронт, скуль ён ужо ніколі не вярнуўся. А маці Сяргея з чатырма дзецьмі





была эвакуіравана аж у Варонеж. Дамоў вярнуліся толькі ў 1918 годзе. Але вярнуліся не ў Слонім, а ў вёску Ляскавічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Маці было цяжка адной гадаваць дзяцей, таму Сяргея, Марыю і Надзею яна аформіла ў Мазырскі дзіцячы дом, а з малодшай дачкой засталася жыць у вёсцы. «Мама нам не дапамагала, бо сама хадзіла па вёсках і жабравала», — пісала мне ў пісьме 17 ліпеня 1989 года Надзея Юшкевіч — родная сястра Сяргея Дарожнага.

У 1924 годзе Сяргей скончыў сямігодку і паступіў у Мінскі беларускі педтэхнікум, а з трэцяга курса перавёўся на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

У адзін са шчаслівых дзён 1925 года Сяргей Серада прынёс у рэдакцыю газеты «Беларуская вёска» сшытак сваіх вершаў. Загадчыкам літаратурнага аддзела газеты быў тады Кузьма Чорны, які папрасіў юнака пачытаць яму свае радкі. І Сяргей пачаў:

Беларусь больш не стане крыжам
Пры дарозе, з Хрыстом распятым…

Калі гэтыя радкі пачуў Кузьма Чорны, то вельмі расчуліўся, бо дужа спадабаліся яны слыннаму пісьменніку. А самыя лепшыя паэтычныя творы маладога паэта ён хутка апублікаваў. З той пары вершы Сяргея Дарожнага рэгулярна пачынаюць з’яўляцца ў перыядычным друку. У 1926 годзе ён становіцца сябрам літаратурнага аб’яднання «Маладняк», а потым — «Узвышша». Каля паэту споўнілася 17 гадоў, ён (у сааўтарстве з родным братам Змітрака Бядулі — Ізраілем Плаўнікам) адным з першых сярод сваіх аднакурснікаў выдае свой паэтычны зборнік «Звон вясны». Пасля былі асобныя паэтычныя зборнікі «Васількова россып» (1929) і «Пракосы на памяць» (1932).



Найбольш талент Сяргея Дарожнага раскрыўся ў лірыцы. Ды і сам ён быў вельмі прыгожым хлопцам, якога дужа любілі дзяўчаты. У адным з пісем да аўтара гэтых радкоў пісьменнік Павел Пруднікаў пісаў: «Сяргей Дарожны быў прыгожы, чарнабровы і чорнавалосы, высокі юнак. Заўсёды быў акуратна апрануты. Насіў белую сарочку з накрухмаленым каўнерыкам і чорны гальштук. Ніколі не хваліўся сваімі поспехамі. Любіў і цаніў сяброўства. Аднойчы на шклозаводзе ў Барысаве мы наладзілі літаратурны вечар. Былі я, Сяргей Дарожны, Мікола Нікановіч, Клім Грыневіч, Віктар Казлоўскі, Змітрок Астапенка. Калі ў заключэнне вечарыны выступіў наш галоўнакамандуючы — Сяргей Дарожны — і прачытаў свой верш «Белымі пялёсткамі», зала грымела. Апладысменты не змаўкалі, яго прасілі чытаць і чытаць». А паслухаць моладзі тады было што. І такое яна любіла:

Пасінела неба раніцой над гаем,
Пасінела рана —
Скрозь.
А сягоння любая у мяне другая,
Ў залатым убранні,
Ля бяроз…

Вельмі папулярнай ў 1930-я гады была на Беларусі песня Сяргея Дарожнага «Нявеста». Яна амаль штодня гучала па радыё, яе спявалі многія беларускія хары…

Рыхтаваўся да друку і чацвёрты зборнік вершаў паэта са Слоніма, але выйсці не паспеў. Сяргей Дарожны назаўсёды застаўся 34-гадовым у далёкай расійскай глыбінцы, многа чаго не дагаварыўшы ў сваіх песнях. Яго асабовая справа № 9935-С знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі за сямю пячацямі.





# АНАТОЛЬ КУНЦЭВІЧ
# СУМАВАЎ ПА РАДЗІМЕ

У сваёй кнізе «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008) адзін невялікі раздзел я прысвяціў Анатолю Сумнаму. Пры падрыхтоўцы матэрыялу да кнігі мне нават не ўдалося разгадаць, хто хаваўся пад псеўданімам Сумны. Ведаў я толькі тое, што ён нарадзіўся на Беласточчыне, быў прыхільнікам Беларускай Цэнтральнай Рады, падрыхтаваў альманах «Ускалось», які загінуў падчас бамбардзіроўкі ў Германіі, пісаў вершы. Адзін верш «Маліцьба» удалося адшукаць у часопісе «Баявая Ўскалось» (1970. № 10). Але гэта кволы літаратурны твор-настальгія, твор-просьба, твор — самота па Радзіме. Больш-менш удалай атрымалася першая страфа:

Маці святая, заступніца шчырая,
Я Табе душу сваю адчыняю.
Граець у сэрцы цудоўная ліра,
З ёй гэту песню я сёння складаю…

Пасля Другой сусветнай вайны сляды Анатоля Сумнага згубіліся дзесьці ў Аўстраліі.

Вось і ўсё, што было мне вядома пра чалавека з псеўданімам Сумны. Тым не менш, я пакінуў і гэтыя невялікія звесткі пра яго ў кнізе «З беластоцкай зямлі», а таксама ў «Беларускай Беласточчыне» (Мінск, 2008). Калі даследчык беларускіх псеўданімаў Янка Саламевіч прачытаў мае кнігі, дык адразу сказаў, што пад псеўданімам Анатоль Сумны хаваецца не хто іншы, як праваслаўны святар Анатоль Кунцэвіч.

Пачаліся новыя пошукі. І за гэты час ужо сёе-тое ўдалося знайсці пра Кунцэвіча-Сумнага. Сабранае па крупінцы дае ўяўленне пра лёс гэтага незвычайнага чалавека і шчырага беларуса.

Анатоль Кунцэвіч нарадзіўся 14 красавіка 1912 года на Беласточчыне, магчыма ў вёсцы Ялоўка. Па іншых

звестках, ён нарадзіўся 14 чэрвеня ў Пінску. Але гэта малаверагодна, бо ў паваенных дакументах ён сам указваў, што нарадзіўся на Беласточчыне. Бацька яго ў Ялоўцы быў святаром. Там, у Ялоўцы, Анатоль у 1923 годзе скончыў два курсы «ўчыцельскай прэпаранлы». І ў 1924 годзе паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. А пасля семінарыі скончыў яшчэ факультэт праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўніверсітэта. Як бачыце, Анатоль Кунцэвіч у маладосці атрымаў вельмі добрую адукацыю.

У 1926 годзе юнака забралі на вайсковую службу. Служыў ён у 81-м палку пяхоты ў Брэсце. А пасля службы вярнуўся дамоў і прыняў духоўны сан. Пасвяціў яго ў духоўны сан пазнейшы мітрапаліт Аляксандр Іназемцаў у Пінску.

У 1942 годзе Анатоль Кунцэвіч выехаў у Германію. Разам з ім выехалі жонка і двое іх сыноў — Мікола і Юрык, яго брат Мікалай з жонкай, а таксама маці з бацькам. Спадар Анатоль працаваў настаяцелем праваслаўнай царквы ў Нортгайме. Адтуль ён звяртаецца з прашэннем да епіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сергея Ахатэнкі, каб прыняў яго пад сваю юрысдыкцыю і прызначыў настаяцелем праваслаўнай парафіі пры лагеры ў Гановеры. Хутка яго просьбу задаволілі. І Кунцэвіч быў прызначаны настаяцелем праваслаўнага прыхода БАПЦ у лагеры ДП у Гановеры.

Святарскія абавязкі Анатоль Кунцэвіч выконваў шчыра і аддана. Па хадайніцтву епархіяльнага эканома і сакратара Міколы Дзямідава пастановай кіраўніцтва БАПЦ ад 2 студзеня 1949 года за вельмі карысную і паспяховую дзейнасць і за арганізацыю царкоўнапрыходскага жыцця сярод праваслаўных беларусаў протаіерэю Анатолю Кунцэвічу была выказана падзяка і просьба да Уладыкі Сяргея Ахатэнкі ўзнагародзіць яго чарговай протаіерэйскай узнага-





родай. А таксама прызначыць Анатоля Кунцэвіча благачынным прыходаў БАПЦ на англійскую зону і даручыць яму далейшую арганізацыю новых прыходаў і часовае адміністрацыйнае кіраўніцтва імі ў англійскай зоне да прызначэння адпаведных настаяцеляў. Гэта была для Кунцэвіча прыемная навіна. І ён з новай сілай узяўся за працу.

Але хутка Уладыка Сяргей пакінуў Германію і выехаў у Аўстралію ў Сідней. За ім выехаў і Анатоль Кунцэвіч. У 1952 годзе ў Сіднеі ўжо дзейнічала парафія БАПЦ, у якой Божыя службы праводзіў святар Зялінскі, да якога далучыўся і протаіерэй Анатоль Кунцэвіч. Там наш зямляк таксама прымаў удзел у працы Беларускага Аб'яднання ў Новым Паўднёвым Уэльсе, дапамагаў беларусам богаслужбамі. Але, як і большасць святароў БАПЦ, Анатоль Кунцэвіч мусіў працаваць і яшчэ ў іншым месцы, відаць, займаўся фізічнай працай. А калі ў 1957 годзе Уладыка Сяргей пераехаў у Пэрт, то Кунцэвіч адышоў і ад грамадскай беларускай справы, і ад царкоўнай.

У пошуках звестак пра Анатоля Кунцэвіча я звярнуўся да свайго земляка спадара Барыса Данілюка. Спадар Данілюк сказаў, што чуў пра святара Анатоля, але як склаўся ягоны лёс — ён не ведае. І параіў звярнуцца да яшчэ аднаго земляка Анатоля Храноўскага, які жыве ў Канадзе. Што я хутка і зрабіў. На пытанне: ці ведалі вы Анатоля Кунцэвіча, спадар Храноўскі адказаў:

— Я вельмі ўзрадаваўся, што ёсць яшчэ людзі на зямлі, якія цікавяцца лёсам нашых патрыётаў. Айцец Анатоль Кунцэвіч быў прарокам-прапаведнікам. Гэтага вялікага, мудрага і шчырага чалавека я буду памятаць да самай смерці.

— І якім ён вам на ўсё жыццё запомніўся?

— Успамінаецца нямецкі горад Нортгайм, англійская зона. Я, мае бацька і маці жылі ва ўкраінскім лагеры.



Жылі мы там доўгі час. Аднойчы нам паведамілі, што ўкраінцы павінны пакінуць гэты лагер, бо сюды прыязджаюць вайскоўцы-палякі з арміі Андэрса. Але мы засталіся, бо бацька наш быў брыгадзірам у брыгадзе, якая пілавала лес амерыканцам. Яму сказалі заставацца і нас ніхто тут чапаць не будзе. Бацька пагадзіўся і мы засталіся. Праз пэўны час сапраўды прыехалі палякі, а з імі прыехаў і айцец Анатоль Кунцэвіч з жонкай і са сваімі сыночкамі. Мы пазнаёміліся. Аказалася, што спадар Анатоль быў святаром у арміі Андэрса. З ім разам прыехала і шмат беларусаў. Тут мой бацька, айцец Анатоль і іншыя беларусы адкрылі царкоўны прыход БАПЦ. Разам мы святкавалі ўсе царкоўныя праваслаўныя і беларускія нацыянальныя святы. Жылі дружна і весела, спадзяваліся, што хутка вернемся на Бацькаўшчыну.

Сам Анатоль Кунцэвіч быў сапраўдным беларускім праваслаўным хрысціянінам. Трэба было бачыць і чуць, як ён выдатна праводзіў богаслужэнні. А калі казаў пропаведзі — мурашкі бегалі па целе. Гэта было незвычайна. Можа, з-за таго, што ён служыў святаром у войску. Крыж ён трымаў высока і моцна прапаведаваў. Бацька яго быў старастам і спяваў у хоры, маці таксама спявала ў хоры. Сам Анатоль ведаў шмат беларускіх песень, умеў добра таньчыць, разбіраўся ў танцах, складаў вершы, добра маляваў, пісаў іконы алейнай фарбай. Ён быў вельмі таленавітым чалавекам. Я яму падчас службаў падаваў кадзіла. Ён мяне навучыў з воску рабіць свечкі. Я быў маладзейшы за яго на 22 гады і шмат чаму добраму ў яго вучыўся.

— Але ж па волі лёсу на Бацькаўшчыну вярнуцца ніхто тады не змог. Вы паехалі з сям’ёй у Канаду, а Анатоль Кунцэвіч застаўся. Ці так гэта было?

— У 1949 годзе мы выехалі ў Канаду. Праз некалькі гадоў я даведаўся, што Анатоль Кунцэвіч жыве ў Аўстраліі. У Аўстраліі жыў і Аляксей Васіленя са





Слоніма, з якім я перапісваўся. Неяк я ў Васілені спытаўся, што ён ведае пра Кунцэвіча. Спадар Васіленя адказаў, што Кунцэвіч пачаў моцна піць. Я планаваў забраць яго з сям'ёй у Канаду, але ўжо было позна, яго не стала. Мне вельмі шкада Анатоля, ён быў душа нашага народа…

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца дадаць, што Анатоль Кунцэвіч вельмі сумаваў па Радзіме, па роднай Беласточчыне. У пісьмах да сваіх сяброў заўсёды пісаў, што сумуе па Бацькаўшчыне, нават псеўданім сабе ўзяў — Анатоль Сумны. Гэтая настальгія, незваротны жыццёвы адчай дачасна загналі яго магілу дзесьці ў 1960-х гадах. Пра лёс ягоных жонкі і сыноў звестак знайсці пакуль не ўдалося.

# ЛЁС МІКОЛЫ ШКЯЛЁНКА І ЯГО СВАЯКОЎ

## Кароткая згадка

У 2003 годзе Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку выпусціла кнігу гістарычных нарысаў славутага беларускага гісторыка і палітыка Міколы Шкялёнка (1899–1946) пад назовам «Беларусь і суседзі». Я меў да гэтай кнігі непасрэднае дачыненне, бо складаў яе, а таксама збіраў шмат гадоў звесткі пра Міколу Шкялёнка. Пошукі пра таленавітага і мужнага сына нашай Бацькаўшчыны працягваю да сённяшніх дзён. І пошукі даюць плён. Магчыма, з цягам часу, калі будзе доступ да архіваў КДБ, мы даведаемся больш пра Міколу Шкялёнка, асабліва пра яго палітычную дзейнасць і пра тое, калі і пры якіх умовах ён быў закатаваны ў засценках НКУС.

Пры падрыхтоўцы кнігі гістарычных нарысаў Міколы Шкялёнка «Беларусь і суседзі» тады цяжка



было нават знайсці яго фотаздымак. Вельмі скупыя біяграфічныя звесткі не давалі больш праўдзівага ўяўлення пра гэтага мужнага і таленавітага чалавека, найперш пра яго сям'ю, сваякоў, пра тых людзей, якія яго акружалі, былі з ім побач.

Цяпер звестак пра Міколу Шкялёнка ў сваім хатнім архіве маю больш. Радуе і тое, што выхад кнігі ў Беластоку дазволіў нашым гісторыкам і даследчыкам больш актыўна спасылацца на творы Шкялёнка, чытаць іх і перачытваць, увасабляючы, якім ён усё ж быў магутным і сур'ёзным даследчыкам нашай даўніны.

Сёння ў афіцыйнай дзяржаўнай беларускай гістарыяграфіі рэдка згадваецца імя Міколы Шкялёнка. Праўрадавыя гісторыкі Беларусі ніколі не дасягнуць яго ўзроўню па ўсіх паказчыках. Ды і любіў ён сваю Айчыну любоўю шчырай і светлай, служыў ёй аддана і мужна. Бацькаўшчыне і свайму народу служыў, а не аднаму чалавеку. Таму ніхто і ніколі не зможа выкрасліць імя Міколы Шкялёнка з гісторыі нашай Бацькаўшчыны, якую ён адкрываў дзеля сваіх нашчадкаў, за волю якой змагаўся і аддаў сваё жыццё.

Вялікі дзякуй Беларускаму гістарычнаму таварыству ў Беластоку за тое, што яго сябры дапамаглі выдаць кнігу прац нашага слыннага гісторыка. Дзякуй таксама Мацвею Рэпкаву-Смаршчку, які фінансаваў выданне. Фундатар пражыў 93 гады. Вечная яму памяць.

Сёння я хачу расказаць пра новыя факты з жыцця беларускага юрыста, гісторыка, публіцыста, культурнага і палітычнага дзеяча Міколы Шкялёнка, тым больш што такія факты і звесткі ёсць.





## З біяграфіі Міколы Шкялёнка

Мікола Шкялёнак нарадзіўся ў 1899 годзе ў вёсцы Пякоціна Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1932), быў цесна звязаны з заходнебеларускім нацыянальным рухам — узначальваў Беларускі студэнцкі саюз, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1936 годзе разам з Вінцэнтам Гадлеўскім ён спрычыніўся да заснавання арганізацыі «Беларускі нацыянальны фронт». З 1940 года Мікола Шкялёнак знаходзіўся ў Берліне, там быў адным з арганізатараў Беларускага камітэта самапомачы ў Нямеччыне, рэдагаваў газету «Раніца». З лютага 1943 года працаваў у Мінску ў «Беларускай газеце», якую пасля забойства Уладыслава Казлоўшчыка рэдагаваў, а са студзеня 1944 года стаў першым віцэ-прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады. Прымаў самы актыўны ўдзел у арганізацыі Другога Усебеларускага кангрэса, дзе выступіў з дакладам «Аб прызнаньні за няважныя пастановы ўраду СССР і былой Польшчы, якія датычацца Беларусі, яе тэрыторыі і народу».

У 1945 годзе Міколу Шкялёнка ў Польшчы высачылі савецкія органы бяспекі, вывезлі ў СССР, дзе ў 1946 годзе расстралялі.

## Пра бацькоў і братоў

Бацькі Міколы Шкялёнка — Восіп Максімавіч і Аляксандра Паўлаўна Шкялёнкі мелі каля трыццаці гектараў прыватнай зямлі, трымалі двое коней, сем кароў, авечак, свіней. Уласнымі сіламі ўсё гэта даглядзець яны не маглі, таму наймалі парабкаў. Бацька Восіп Максімавіч быў фізічна здаровым чалавекам. Але аднойчы ён прастудзіўся і памёр ад запалення лёгкіх. Дзяцей выхоўвала адна маці Аляксандра разам са свёк-



рам (мужавым бацькам Максімам). Калі памёр бацька, старэйшаму сыну Міколу было толькі 13 гадоў. Маці была вельмі добрай гаспадыняй, карысталася ў вёсцы вялікай павагай. Яна пражыла 86 гадоў. І ўсё жыццё чакала сына Міколу, але так і не дачакалася.

У бацькі Міколы Шкялёнка Восіпа было яшчэ два браты — Мікалай і Антон. Антон таксама быў здольны да навукі, ён вучыўся ў Курску і быў спецыялістам-землеўпарадчыкам. Калі Антона забралі ў войска, свой лёс ён звязаў з царскай арміяй. Даслужыўся да штабс-капітана царскай арміі. Адным словам, быў белагвардзейцам і выступаў супраць савецкай улады. У 1920-х гадах з сям'ёй эмігрыраваў у Чэхаславакію, дзе перад Другой сусветнай вайной яму эмігранты-белагвардзейцы прысвоілі званне генерала. На радзіму з эміграцыі ніколі не прыязджаў, але прыязджалі яго жонка Кацярына і дачка Раіса. Быў жанаты з казачкай Кацярынай Пракопаўнай, якая нарадзіла яму дачку Раісу. Магчыма, у 1930-х — пачатку 1940-х гадоў дзядзька Антон з Чэхаславакіі сустракаўся са сваім пляменнікам Міколам Шкялёнкам і дапамагаў яму фінансамі асабіста і выдаткоўваў грошы на беларускую справу. Мікола шчыра сябраваў з дзядзькам, перапісваўся з ім. На фотаздымку, які сёння публікуецца, напісана: «На памяць дарагому пляменніку Колі ад родных: дзядзькі Антона Максімавіча, цёткі Кацярыны Пракопаўны і сястрычкі Раісы Антонаўны Шкялёнак. 2 лютага 1925 года, Прага». Як склаўся лёс роднага дзядзькі Міколы Шкялёнка — Антона і яго сям'і пасля вайны — невядома. Можа, гэта публікацыя каму са сваякоў Шкялёнкаў у Чэхіі ці ў Польшчы трапіць у рукі і ён адгукнецца — гэта дазволіць яшчэ больш даведацца пра лёс сям'і Шкялёнкаў, і ў прыватнасці пра Міколу.

У сям'і Шкялёнкаў, акрамя Міколы, было яшчэ двое сыноў — Пётр (1902–1977) і Павел (1903–1928?). Але добрую адукацыю Восіп і Аляксандра Шкялёнкі змаглі даць толькі старэйшаму сыну Міколу.





На Трэцім з’ездзе беларусаў свету, які праходзіў у Мінску 4–7 ліпеня 2001 года, доктар філалагічных навук Аляксей Каўка пазнаёміў мяне з Міхасём Шкялёнкам — сваяком і аднавяскоўцам Міколы Шкялёнка. Міхась Шкялёнак жыў тады ў Маскве, працаваў дырэктарам нейкага прыватнага прадпрыемства. Спадар Міхась мне трохі расказаў тое, што ён ведаў ад бацькоў і дзядоў пра свайго знакамітага сваяка. Пазней Міхась Шкялёнак мне сякія-такія звесткі пра Шкялёнкаў даслаў таксама з Масквы, але потым наша сувязь згубілася. Аляксей Каўка неяк напісаў, што фірма Міхася ў Маскве збанкрутавалася, а яе гаспадар пераехаў жыць дзесьці ў Падмаскоўе.

## Тэлефонны званок

Неяк летам зазваніў тэлефон у маёй слонімскай кватэры. Падымаю трубку і чую немалады голас: «Добры дзень, спадар Сяргей! Мяне завуць Павел Пятровіч Шкялёнак, я — родны пляменнік Міколы Шкялёнка. Хачу вам шчыра падзякаваць за тое, што вы даследуеце жыццёвы шлях майго дзядзькі і выдалі кнігу яго гістарычных артыкулаў у Беластоку». Ад пачутага я атрымаў пэўны шок.

— Дык вы чый сын? — пытаюся.

— Сын Пятра Шкялёнка — роднага брата Міколы Шкялёнка. Мой бацька пражыў 75 гадоў у роднай вёсцы Пякоціна на Міёршчыне. Працаваў на зямлі. У гады Другой сусветнай вайны ён быў на фронце, штурмаў у 1945 годзе Берлін. У гэты час, магчыма, у Берліне быў і Мікола. Так склаўся лёс, што родныя браты былі па розныя бакі барыкад. У гады вайны і пасля вайны браты ніколі так і не сустрэліся. Бацька мой пахаваны ў роднай вёсцы побач з братам Паўлам, дзедам, прадзедам і маёй бабуляю. Крыўдна тое, што ў Беларусі па кожнаму раёну выйшлі з друку кніжкі «Памяць». Падобная кніга выйшла і па Міёрскаму раёну. Але ў

спісе ўдзельнікаў вайны мой бацька там не значыцца. 65 гадоў мы нічога не чулі і не ведалі пра Міколу Шкялёнка. Дзякуючы кнізе «Беларусь і суседзі», якую вы склалі, усе нашы сваякі даведаліся пра лёс нашага роднага чалавека. Вялікі вам дзякуй!

— Спадар Павел, я не магу так з вамі развітацца, вы павінны адказаць на мае пытанні. Колькі вам гадоў, дзе вы працуеце, жывяце?

— Я ўжо на пенсіі. Жыў, вучыўся і працаваў у роднай Беларусі. Жыву ў Лагойску Мінскай вобласці.

— А хоць раз у жыцці вы сустракаліся са сваім дзядзькам Міколам Шкялёнкам?

— Дзядзьку Міколу я бачыў толькі адзін раз, калі ён прыязджаў у вёску Пякоціна да бацькоў прыкладна ў 1937–38 гадах. Мне тады было гадоў пяць-шэсць. Запомніў яго як чалавека, які пакідае добрае ўражанне і адрозніваецца ад усіх вяскоўцаў. Здаваўся высокім, у белым касцюме і ў акулярах. Са мною і сястрой ён часам гуляў, рабіў караблікі і спяваў нам беларускія песні, а таксама вучыў нас іх спяваць. Яшчэ памятаю, што прыходзілі сяляне з суседніх вёсак да яго па розныя кансультацыі, найбольш пытанняў у людзей было наконт таго, як пайсці на хутары. Памятаецца да сённяшніх дзён, як дзядзька Мікола прывёз сваёй маці ў падарунак жаночы касцюм і хустку. Мусіць, гэта быў каштоўны падарунак, бо пра яго ўся вёска гаварыла. Гэты касцюм і хустку мая бабуля заўсёды апранала ў царкву і на вялікія святы, і ўсё ёй вельмі пасавала.

— А колькі часу Мікола дома гасцяваў?

— Быў нядоўга — дзён дзесяць. А потым паехаў у Вільню. Пасля гэтага яго не бачылі ні маці, ні бацька, ні я і ніхто. Ён пісаў толькі пісьмы, але рэдка. Яны не зберагліся. Дый змест гэтых лістоў я не ведаю.

— Ці шукалі пасля вайны вы свайго дзядзьку?

— З пачаткам вайны і пасля вайны наша сям’я ніякай сувязі з Міколам не мела. Толькі мой бацька — брат Міколы ў час акупацыі чуў, што Мікола Шкялёнак пра-





цуе ў Беларускай Цэнтральнай Радзе. Дзіўна тое, што мы ў гады вайны жылі ў партызанскай зоне, але гэтая інфармацыя не атрымала вялікага розгаласу. А так я і не ведаю, што з намі маглі б зрабіць савецкія партызаны, калі б даведаліся, што Мікола Шкялёнак працуе ў БЦР. Пасля вайны ніхто з нас Міколы не шукаў. Затое яго шукалі іншыя супрацоўнікі НКУС ажно да сярэдзіны 1960-х гадоў.

— Больш за ўсё, мабыць, хвалявалася і думала пра сына Міколу яго маці Аляксандра Паўлаўна?

— Гэта так. Дзесьці ў 1965 годзе, незадоўга да яе смерці, а яна заўсёды была пры сваёй памяці, бабуля ўжо ляжала ў ложку. Я нешта пачаў ёй расказваць, а яна слухала-слухала, пасля падняла галаву, паглядзела на мяне (зрок у яе быў ужо дрэнны) і кажа: «Коля, чаму ты так доўга да нас не прыязджаў?..» Мусіць, мой голас нагадаў ёй пра сына Міколу…

— У вашага бацькі Пятра і ў Міколы Шкялёнкаў быў яшчэ адзін малодшы брат Павел. Чаму ён так рана памёр?

— Справа ў тым, як расказвала мне мая бабуля, некалі Шкялёнкі купілі ў пана 20 гектараў зямлі. Але гэтая зямля была забалочаная, зарослая кустарнікам, таму яе шмат гадоў уручную ачышчалі. Высякаючы кустарнікі, месяцамі людзі стаялі ў вадзе. Там працавалі і браты Шкялёнкі. Аднойчы Павел застудзіўся і захварэў на туберкулёз ног. Ён доўга хварэў і памёр ва ўзросце 25 гадоў. Дзядзька Павел быў вельмі таленавітым хлопцам, майстрам на ўсе рукі. Сам рабіў музычныя інструменты (гітары, скрыпкі), канапы, этажэркі, добра маляваў, іграў на многіх інструментах. Але сялянскай працы не любіў. Калі ён памёр, на пахаванне прыязджаў Мікола. Мне бацька казаў, што, калі хавалі Паўла, над яго магілаю Мікола Шкялёнак прамовіў: «Мне вельмі шкада брата Паўліка, але, можа, ён за нас самы шчаслівы, бо яшчэ не вядома, які лёс нас усіх чакае…».



Сапраўды, лёс сям'ю Шкялёнкаў не вельмі песціў. Трагічным ён быў і для беларускага гісторыка і палітыка Міколы Шкялёнка, які хацеў бачыць Беларусь самастойнай, незалежнай і вольнай ад усіх краінай…

Я яшчэ доўга гутарыў па тэлефоне з Паўлам Шкялёнкам. Цяпер мы з ім перапісваемся і ён шчыра дапамагае мне ў пошуках звестак пра свайго роднага дзядзьку Міколу Шкялёнка.

## Лёс сям'і Марыі Брынкевіч

Апавядаючы пра Міколу Шкялёнка, ніхто і ніколі не згадваў пра яго сям'ю, найперш пра ягоную жонку Марыю Брынкевіч. Яна была зямлячкай Міколы — нарадзілася на хутары Малінаўка былога Дзісенскага павета (цяпер Міёрскі раён) у сялянскай сям'і Ільі і Ганны Брынкевічаў. Марыя скончыла царкоўнапрыходскую школу, а потым вучылася на медыка. У канцы 1920-х гадоў яна пазнаёмілася з Міколам і хутка выйшла за яго замуж. Пасля жаніцьбы Шкялёнкі жылі ў Вільні.

Акрамя Марыі, у сям'і Брынкевічаў былі яшчэ дзве дачкі — Антаніна і Надзея. Надзея выйшла замуж за інжынера Іванова і жыла ў Ленінградзе. У гады Другой сусветнай вайны яна загінула ў ленінградскай блакадзе.

Антаніна Брынкевіч была замужам за Савеліем Лісуком, былым ураднікам, які прыйшоў да Антаніны ў прымы. У 1926 годзе ў іх нарадзілася дачка Ірына. Пры нявысветленых абставінах Ірына выхоўвалася ў сям'і Мікалая і Марыі Шкялёнкаў (У Шкялёнкаў сваіх дзяцей не было. — *С. Ч.*), скончыла Віленскую беларускую гімназію. Праўда, часта наведвала сваіх бацькоў у Малінаўцы. Прыязджала яна дамоў і ў гады вайны. Аднойчы яна пазнаёмілася з маладым хлопцам, які быў у партызанах. Вясной 1944 года немцы высачылі Ірыну, а потым схапілі яе, бацьку, маці, бабулю Ганну і на хутары за хлявом расстралялі. Вось што расказаў мне пра гэта жыхар вёскі Малінаўка Міёрскага раёна Мікалай





Брынкевіч: «Мне ў той час ішоў шаснаццаты год. Я добра ведаў усіх з сям'і Лісук. Прыязныя адносіны ў мяне былі і з Ірынай, якой тады было 19 гадоў. Мы разам вучыліся ў Цвецінскай царкоўнапрыходскай школе: я вучыўся ў першым класе, яна — у чацвёртым. Ірына была вельмі прыгожая і вучылася добра. Бабуля Ірыны Ганна магла выратавацца ад смерці. Але яна не захацела жыць адна, пайшла пад кулі са сваімі роднымі і разам з імі прыняла смерць. На пагорку стаяў іх дом, а ніжэй, бліжэй да заліўнога лугу, хлеў. За ім і расстралялі ўсіх Лісукоў. Было загадана закапаць целы. Вяскоўцы зрабілі гэта. Потым там з'явіўся помнік, агароджа. Прайшло шмат гадоў, і магілка іх апынулася на ўскрайку поля. Рака Аўта вясной залівала луг, і вада падыходзіла да магілы…»

Нядаўна ў Цвеціне Міёрскага раёна адбылося перазахаванне астанкаў сям'і Лісукоў. Жыхар Польшчы з Паможжа Леанід Брынкевіч напісаў ліст-падзяку і даслаў яго настаяцелю праваслаўнай царквы ў вёсцы Цвеціна. Далёкі сваяк сям'і Брынкевічаў напісаў: «Я, Леанід Брынкевіч, жыхар Польшчы, перадаю падзячнае пісьмо вам, удзельнікам, якія прыклалі свае намаганні да гэтай добрай справы, перанеслі і перазахавалі астанкі сям'і Лісук з чатырох чалавек на могілкі ў Цвеціна. Праўда, давялося чакаць доўга. Але нашы спадзяванні, і нашы просьбы былі пачуты. Напэўна, старэйшыя памятаюць сям'ю Лісук, асабліва Савелія, які цудоўна спяваў у царкоўным хоры. Мяркую, яго душа ў нябёсах узрадавалася, што кватэра будзе сярод суродзічаў і што над яго труной свяшчэннаслужыцель праспявае «Вечную памяць» і малітоўна асвеціць сямейную труну забітых… Я сваю падзяку перадаў консулу ў горадзе Гданьску, удзячны Міёрскім раённым уладам, кіраўніцтву Завуцеўскага Савета, шаноўнай старшыні гаспадаркі ў Цвеціне. Мая шчырая падзяка настаяцелю праваслаўнай царквы ў Цвеціне…».



Пляменніца Антаніны Лісук Зінаіда Брынкевіч аўтару гэтай кнігі прыгадала: «У дзень расстрэлу сям'і Лісук сам Савелій з суседзямі ездзіў на падводах у Дзісна. Начальнік паліцыі запрасіў Савелія і павіншаваў, што ў яго шурын Мікола Шкялёнак даволі вялікі начальнік. Але калі Савелій вярнуўся дамоў, там яго ўжо чакалі карнікі…».

Па інфармацыі Паўла Шкялёнка, пасля вайны ў Малінаўку прыязджаў малады хлопец, той самы партызан, з якім сябравала Ірына. Ён пабываў на магіле Ірыны і яе бацькоў. У сваякоў ён прасіў фотаздымак Ірыны, сваякі знайшлі калектыўнае фота, на якім была і Ірына, і падаравалі былому партызану. Ён падзякаваў і паехаў. Але ніколі больш не прыязджаў на Міёршчыну.

Пасля вайны, калі ў 1945 годзе агентамі НКУС быў арыштаваны Мікола Шкялёнак і праз год расстраляны, яго жонка Марыя была ў Польшчы. Да сваіх сваякоў яна не дасылала ніякіх вестачак, баялася ім нашкодзіць. І сапраўды, усіх сваякоў па лініі Шкялёнкаў і Брынкевічаў у Беларусі вельмі часта дапытвалі супрацоўнікі НКУС. У 1950 годзе Марыя Шкялёнак усё ж паслала некалькі паштовак сваякам на Беларусь і ў Польшчу. І гэтага хапіла, каб яе высачылі супрацоўнікі НКУС на тэрыторыі Польшчы і ў 1952 годзе застрэлілі недалёка ад Варшавы.





# ЛЕГЕНДАРНЫ ДОКТАР УСЕВАЛАД ШЫРАН

Польскі штогоднік «Rocznik Parafii Swętego Krzyża» за 1991–1993 гады апублікаваў вынікі пяцігадовых пошукаў ахвяр Беразвечча (беларускай Катыні) на Віцебшчыне. Штогоднік пісаў, што 13 красавіка 1991 года адбылася ўрачыстая імша ў Беразвечча па бязвінна закатаваных суайчынніках. Такое ж ушанаванне ахвяр НКУС адбылося і ў вёсцы Мікалаёва каля Улы Бешанковіцкага раёна. У той 1939 год, калі Заходняя Беларусь адышла да Усходняй, было арганізавана каля 200 турмаў, якія сталі месцам дзікіх злачынстваў супраць людзей. Там закатавалі насмерць каля тысячы чалавек. Сярод іх быў і беларус з Беласточчыны доктар Усевалад Шыран.

Усевалад Шыран нарадзіўся 11 сакавіка 1906 года ў вёсцы Лась Мазавецкага ваяводства (па іншай інфармацыі ён нарадзіўся ў вёсцы Лапы) на Беласточчыне. Спачатку вучыўся ў Ломжынскай гімназіі, а потым працягваў вучобу ў Навагрудскай гімназіі імя Адама Міцкевіча, якую скончыў 9 чэрвеня 1925 года.

Пасля заканчэння Навагрудскай гімназіі Усевалад Шыран паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя С. Баторыя на медыцынскі факультэт. Ужо на трэцім курсе ён пачаў працаваць на кафедры ў якасці малодшага асістэнта апісальнай анатоміі, самастойна праводзіў навуковыя даследаванні. Адначасова Усевалад пачаў цікавіцца і палітыкай. Яго хвалявалі пытанні нацыянальнай і сацыяльнай справядлівасці, адраджэння нацыянальнай беларускай самасвядомасці.

13 сакавіка 1932 года юнак з Беласточчыны выдае на беларускай мове ў Вільні першы нумар палітычнага і літаратурнага «Часопіса для ўсіх» накладам 2 тысячы асобнікаў. Але польская паліцыя хутка тыраж часопіса ліквідавала, а далейшае яго выданне забараніла. Сам



рэдактар быў адпраўлены ў Лукішкі. У гэтым выданні непасрэдны ўдзел прымаў і Максім Танк, якога таксама хутка арыштавала дэфензіва і пасадзіла ў Лукішкі. Нядаўна прафесар з Гродна Андрэй Майсяёнак перадаў мне копію пісьма Максіма Танка да яго, датаванае 27 лютага 1988 года. Спадар Майсяёнак цікавіўся тады Усеваладам Шыранам. Народны паэт Беларусі пісаў: «На вялікі жаль, вельмі мала захавалася ў маёй памяці звестак пра Усевалада Шырана, бо з таго часу, калі я з ім сустракаўся, мінула больш за 50 год. Пазнаёміў мяне з ім адзін з кіраўнікоў камуністычнага падполля вясной 1932 года. Шыран тады збіраўся выдаваць прагрэсіўны журнал «Часопіс для ўсіх». У гэтым часопісе, які адразу быў канфіскаваны польскай цэнзурай, былі змешчаны мае апавяданні і вершы. З таго часу сувязі з маім рэдактарам на нейкі час перарваліся. І толькі вясной 1933 года, калі я працаваў у падполлі, я зноў сустрэўся з Усеваладам Шыранам у Лужках на Дзісеншчыне…».

Сапраўды, калі наш зямляк трапіў у турму, ён ужо меў дыплом урача Віленскага ўніверсітэта. Але прафесія прафесіяй, а палітыка палітыкай. Менавіта палітыка перашкодзіла Усеваладу Шырану застацца працаваць ва ўніверсітэце, займацца навуковай дзейнасцю. 1 траўня 1932 года ўсе планы маладога ўрача рухнулі. Ратаваць аднакурсніка і сябра, а пазней мужа, пачала яго сяброўка па жыцці Браніслава Смольская. Дзякуючы ёй, Усевалада Шырана вызвалілі пад заклад. Дапамаглі гэта зрабіць спадарыні Смольскай прафесары з Вільні Сенгалевіч і Райхер, якія пазычылі ёй 300 злотых. А 30 верасня 1933 года Віленскім следчым аддзелам справа была закрыта з-за недастатковых доказаў.

Пасля турмы Усевалад Шыран разам з Браніславай Смольскай вырашылі пакінуць Вільню і паехаць дзесь у глыбінку. Месцам працы яны выбралі вёску Лужкі на Дзісеншчыне. Там іх мясцовая ўлада сустрэла не вельмі добра. Але Браніслава Смольская ўладкавалася працаваць у бальнічную касу, а Усевалад Шыран захапіўся

 

прыватнай медыцынскай практыкай. І ў яго атрымалася даволі паспяхова. Слава пра доктара Шырана хутка разышлася па ўсім Дзісенскім і суседніх паветах. З пісьма Максіма Танка да Андрэя Майсяёнка: «Відаць з Усевалада Шырана быў харошы доктар, бо слава аб ім ішла далёка па ўсіх суседніх гмінах, бо ён, як тады казалі, лячыў ад усіх хвароб…».

І гэта было так. Доктар мог абыходзіцца практычна без спецыялістаў і выконваў самыя складаныя хірургічныя, акушэрскія, афтальмалагічныя і оталарынгалагічныя аперацыі па тым часе. Гродзенскі прафесар-медык Андрэй Майсяёнак меў сустрэчу пры жыцці з жонкай Усевалада Шырана Браніславай Людвікаўнай Смольскай, і яна яму распавядала, што дзіўны дар Усевалада Шырана як гісторыка, літаратара, публіцыста і медыка таксама адыграў важную ролю сярод беларускага, яўрэйскага і польскага насельніцтва ў іх лячэнні. Шыран яшчэ быў выдатным пчалаводам і селекцыянерам, ён вырошчваў незвычайныя гатункі кветак і кавуноў. На свае ўласныя грошы ён купіў і меў у Лужках медыцынскае абсталяванне, даволі дарагое па тым часе.

Але мясцовыя польскія дактары ім былі незадаволеныя, бо яны страчвалі пацыху сваю кліентуру. Ды і паліцыя за Шыранам пільна сачыла. Таму ў 1937 годзе сям'я Шырана пакінула Дзісеншчыну і пераехала ў Высока-Літоўск. З архіўных дакументаў, якія захоўваюцца ў Брэсцкім абласным архіве, можна даведацца, што Усевалад Шыран польскім уладамі падазраваўся ў дзейнасці, накіраванай супраць тагачаснага ўрада Польшчы. Яго не прызначалі на афіцыйныя дзяржаўныя пасады, таму і ў Высока-Літоўску наш зямляк займаўся прыватнай медыцынскай практыкай. Але і не забываў Лужкоў, куды зрэдчасу наведваўся, лячыў людзей, даваў кансультацыі. Там, у Лужках, ён сустрэў і 17 верасня 1939 года. З прыходам Саветаў ён з сям'ёй зноў вярнуўся на Дзісеншчыну. У маёнтку Гарадзец

Усевалад Шыран з жонкай Браніславай разгарнуў узорны стацыянар на 100 ложкаў, куды ён прывёз усё прыватнае медыцынскае абсталяванне. У той час не хапала медыцынскіх кадраў, таму доктар Шыран арганізаваў курсы медыцынскіх сясцёр. Той жа Андрэй Майсяёнак пра доктара Шырана ў шаркаўшчынскай раённай газеце «Кліч Радзімы» ў 1988 годзе пісаў: «Вельмі хутка ўзрасла актыўнасць Лужкоўскай бальніцы. Медыцынская сітуацыя стала хутка паляпшацца. Таленавіты хірург змог арганізаваць правядзенне ў мясцовых умовах складаных хірургічных аперацый, а таксама дэталёвы догляд у пасляаперацыйным перыядзе. Цікава, што менавіта ў гэты час ён шырока карыстаўся «стацыянарам на даму», аб якім так многа размоў сёння. Ён шчодра дзяліўся сваімі ведамі з прадстаўнікамі савецкай аховы здароўя, прапаноўваў арыгінальныя метады лячэння розных захворванняў, аб чым пісаў у рэдакцыю ўсесаюзнай газеты «Медицинский работник», актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх мерапрыемствах савецкай улады. Не застаўся забытым і выведзены сорт кавуноў — ён быў прапанаваны Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Савецкія даследчыкі з разуменнем і ўвагай аднесліся да яго».

Яшчэ ў сярэдзіне 1930-х гадоў Усевалад Шыран друкаваў у заходнебеларускіх часопісах свае вершы, якія змяшчаліся побач з вершамі Міхася Машары. Ды справа была далёка не ў літзаслугах, а ў незалежных паводзінах нашага доктара пры паляках і папулярнасці яго як лекара. Як чалавека, знанага на Дзісеншчыне, ды яшчэ родам з Беласточчыны, яго абралі ў 1939 годзе на Народны сход у Беластоку, які фармальна вырашаў лёс Беларусі. Дэпутатам Народнага сходу быў абраны і Міхась Машара, які ў якасці тактычнага ходу першым з заходнебеларускіх паэтаў напісаў хвалебны верш пра Сталіна. Вершаў Сталіну Усевалад Шыран не пісаў і не думаў пісаць. Але Машару пашанцавала, а вось Шырану — не. У чэрвені 1941 года яго арыштавалі органы




НКУС. Савецкай уладзе значна больш, чым польскай, мог не заімпанаваць яго нонканфармізм і нацыяналізм. Можа, былі і якія-небудзь іншыя прычыны, адзін Бог ведае. Але пасля арышту ў спешцы супрацоўнікі НКУС легендарнага доктара Усевалада Шырана расстралялі.

Працуючы над пошукамі звестак пра нашага земляка, напісаў ліст да даследчыка заходнебеларускай літаратуры і культуры Арсеня Ліса і спытаўся ў яго, што ён ведае пра Усевалада Шырана. Арсень Сяргеевіч адказаў: «Рад, што вы, руплівы шукальнік і вяртальнік нашай спадчыны, хочаце вырваць з цемры забыцця імя Усевалада Шырана. Калісь у маладосці сустракаў яго вершы ў часопісе «Шлях моладзі» за другую палову 1930-х гадоў. У «Калоссі», праўда, хоць поўны камплект не трапляў, здаецца, публікацый яго з чатыры было. Вершы не зрабілі ўражання. Але, пачуўшы ад светлай памяці Яўгена Іванавіча (Максіма Танка. — *С. Ч.*) пра яго гвалтоўную смерць у чэрвені 1941 года, быў узрушаны. Даведаўся, што Усевалад Шыран быў папулярны на Дзісеншчыне як доктар, лекар і як чалавек незалежных поглядаў. Фота яго, на жаль, нідзе не давялося бачыць. Думаю, што можна знайсці ў Вільні. Напэўна, ён канчаў медыцынскі факультэт пры ўніверсітэце і там захавалася яго справа асабістая, куды звычайна далучалі фотакартку. Відаць, ёсць яна і ў справе, якая захоўваецца ў Мінску ў архіве КДБ, але цяпер той архіў недаступны. Вось і ўсё, што магу вам сказаць пра Усевалада Шырана».



# ЗАБЫТАЯ СПЯВАЧКА ЯЎГЕНІЯ ЧАРНЯЎСКАЯ-ОРСА

Слаўная спявачка нашай Бацькаўшчыны. Так у 1930-х гадах называлі маладую беларускую спявачку Яўгенію Чарняўскую-Орса.

Яўгенія Чарняўская была родам з Навагрудчыны. У сярэдзіне 1930-х гадоў вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. Сваю вучобу і жыццё ў Варшаве маладая студэнтка і спявачка актыўна сумяшчала з беларускім рухам у польскай сталіцы. Без яе ўдзелу не абыходзілася ні адна беларуская вечарына, сустрэча, прэзентацыя. У Варшаве Яўгенію Чарняўскую ведалі не толькі беларусы, але і ўкраінцы, палякі, літоўцы. Усіх яна зачароўвала сваёй прыгажосцю і голасам.

11 снежня 1937 года ў Варшаве ўкраінская студэнцкая грамада ладзіла вечарыну ў гонар сваёй нацыянальнай паэткі Лесі Украінкі. На вечарыну ўкраінцы запрасілі і Яўгенію Чарняўскую-Орса. Спявачка выканала некалькі ўкраінскіх песень і сваім звонкім мілагучным голасам, як пісаў часопіс «Шлях моладзі» (1937. № 17. С. 18), «здабыла сабе гучныя воплескі шматлікіх слухачоў».

Запрашалі нашу спявачку ўкраінцы Варшавы і на іншыя імпрэзы. Напрыклад, 6 снежня 1938 года яна спявала песні на вечары ўкраінскай паэзіі. А пасля выканання песні «Салавейка» спявачку некалькі разоў выклікалі «на біс». Заходнебеларуская прэса пісала, што «воплескам не было канца. І не дзіва: голас спявачкі прыгожы, тэхніка адпаведная, інтэрпрэтацыя высокакультурная, глыбокая, шчыра адчута, сцісла гарманізуецца з створанай кампазіцыяй. Выклікае вялікую ўвагу дыкцыя пясняркі. Чарняўская агулам выканала сваё заданне вельмі добра. Можна спадзявацца, што Чарняўская будзе вялікай спявачкай нашай Бацькаўшчыны (Шлях моладзі. 1938. С. 20).





6 лютага 1937 года ў Варшаве ў зале імя М. Карловіча мясцовай філармоніі адбыўся беларускі канцэрт-вечарына. Невялікая зала, якая была разлічана толькі на 250 месцаў, здолела ўмясціць больш за 400 чалавек. Многія не змаглі ўжо купіць білетаў.

Канцэрт пачаўся каля 22 гадзін. Першай выступіла беларуская спявачка Яўгенія Чарняўская-Орса. Яна праспявала песні «Адна, і зноў адна», «А за ліхімі ды марозамі» і «Маладую Беларусь». Музыку да гэтых песень напісаў кампазітар Канстанцін Галкоўскі. Спявала Яўгенія і дуэтам з А. Панько. Аб гэтым пісаў у часопісе «Шлях моладзі» (1937. № 3. С. 20) Пятро Ластаўка. Паведамляў усё той жа Пятро Ластаўка і пра іншыя выступленні Яўгеніі Чарняўскай-Орса.

4 сакавіка 1938 года Яўгенію Чарняўскую-Орса на канцэрт у Вільню запрасіў Рыгор Шырма і прапанаваў ёй выступіць разам з ягоным хорам. Канцэрт адбыўся ў гасціннай універсітэцкай зале Снядэцкіх. У праграме канцэрта так і было запісана, што адбудзецца канцэрт беларускага хору Рыгора Шырмы і маладой беларускай спявачкі Яўгеніі Чарняўскай-Орса. На гэтым канцэрце пабываў і Максім Танк. У сваіх «Лістках календара» (Максім Танк. Збор твораў: у шасці тамах. Мінск, 1981. Т. 6. С. 192) пісаў: «Быў на канцэрце студэнцкага хору Рыгора Шырмы. У другой частцы канцэрта выступала маладая і вельмі сімпатычная спявачка А. Орса-Чарняўская (маецца на ўвазе Аўгіння. — *С. Ч.*). Адкуль яе выкапаў дзядзька Рыгор? І не толькі выкапаў, а і ўзбагаціў яе рэпертуар беларускімі народнымі песнямі. Яна выканала некалькі новых песняў, і асабліва ўдала — «Паднімайся з нізін, сакаліна сям'я…». І яе праводзілі бурнымі апладысментамі; студэнты падарылі ёй прыгожы букет жывых кветак і сэрца кірмашнага «Казюка».

Там Максім Танк і пазнаёміўся з прыгожай беларускай спявачкай. Іх разам нават Янка Шутовіч сфатаграфаваў. «Сёння (маецца на ўвазе 5 чэрвеня

1938 года. — *С. Ч.*) Я. Шутовіч перадаў мне некалькі фатаграфій: адна — любіцельская — зробленая на казюкоўскім фэсце, дзе мы зняліся са спявачкай А. Чарняўскай», — прыгадвае ў «Лістках календара» Максім Танк (Максім Танк. Збор твораў: у шасці тамах. Мінск, 1981. Т. 6. С. 203). Мне, на жаль, не ўдалося знайсці гэты фотаздымак.

Прыехаўшы ў Варшаву, Яўгенія Чарняўская-Орса разам з сябрамі мясцовага Асветнага таварыства беларусаў пачала збіраць фінансавыя сродкі на кнігу «Пад мачтай» Максіма Танка. Беларуская спявачка сабрала і перадала Максіму Танку каля 200 злотых. А рэштку грошай, неабходных на выданне зборніка, даў яшчэ адзін сябра «Товажыства пшыяцюл наук». І 20 чэрвеня 1938 года зборнік вершаў «Пад мачтай» Максіма Танка выйшаў з друку.

Пасля заканчэння Варшаўскай кансерваторыі сляды беларускай спявачкі губляюцца. Магчыма, яна засталася ў Польшчы, альбо выехала далёка на Захад, ці, можа, вярнулася на Радзіму. На вялікі жаль, імя яе не згадваецца ні ў адной беларускай энцыклапедыі.

## ФІЛАФЕЙ

Доктар філасофіі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы, прафесар матэматыкі беларус Барыс Кіт у сваіх успамінах пра беларускага архіепіскапа Філафея (Уладзіміра Нарко), якія публікаваліся ў кнізе Аляксандра Адзінца «Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў» (Мінск, 2007. С. 634) згадвае: «Аднойчы (гэта было ў пасляваеннай Германіі. — *С. Ч.*), калі скончылася служба, утварылася чарга, каб пацалаваць крыж. Падыходжу да святыні і я, айцец Філафей, як пабачыў мяне, страшэнна здзівіўся, адсунуў крыж убок, абняў мяне і пачаў голасна размаўляць па-беларуску. Гэта ў расейскай-та царк-




ве…». Так, гэта быў той Філафей, які ў гады Другой сусветнай вайны ў Беларусі ўдзельнічаў у аднаўленні і фарміраванні царкоўнага кіраўніцтва Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Нарадзіўся Уладзімір Нарко 21 лютага 1905 года ў вёсцы Занарач Мядзельскага раёна. Паводле іншых звестак, ён нарадзіўся ў мястэчку Ілья Вілейскага раёна ў сям'і святара. Яго бацька Еўдакім Нарко служыў у Ільінскай царкве Віленскай епархіі псаломшчыкам і дыяканам, а маці Марыя Нарко (дзявочае прозвішча Вялічка) была хатняй гаспадыняй. Нарачоны падчас хрышчэння Уладзімірам, будучы ўладыка Філафей з маленства пачаў служыць Хрыстовай Царкве, прыслужваючы з 14 гадоў у алтары свайму бацьку.

Першапачатковую адукацыю Уладзімір Нарко атрымаў дома. Потым вучыўся ў гімназіі Фердынанда Велера ў Вільні. Калі вытрымаў экзамен за курс сямі класаў навучання, у верасні 1921 года быў залічаны выхаванцам Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі. А потым працягваў вучобу на багаслоўскім (тэалагічным) факультэце Варшаўскага ўніверсітэта, які скончыў у 1929 годзе.

Праваслаўныя прыходы Польшчы ў той час, нягледзячы на пратэсты патрыярха Ціхана і Архірэйскага Сінода Рускай праваслаўнай царквы за мяжой, атрымалі царкоўную аўтакефалію ад канстанцінопальскага патрыярха. Магчыма, гэта зрабіла ўплыў на тое, што будучы ўладыка Філафей з 1931 па 1933 год працягваў адукацыю ў багаслоўскай школе Канстанцінопальскай Патрыярхіі на востраве Халкі. У 1937 годзе ён атрымаў дыплом магістра багаслоўя.

У 1927 годзе ў Пачаеўскай лаўры малады Уладзімір Нарко разам з Антонам Мартасам (1904–1984) быў пастрыжаны ў манахі намеснікам ігумена архімандрытам Дамаскіным. Дарэчы, Антон Мартас (архіепіскап Афанасій (Апанас)) нарадзіўся на Нясвіжчыне. У 1942 годзе ў Мінску быў высвечаны на епіскапа



Віцебскага і Полацкага. Пасля вайны жыў у Германіі, Аўстраліі, Аргенціне. Усё жыццё сябраваў з уладыкам Філафеем. У 1966 годзе ў Буэнас-Айрэсе выдаў кнігу «Беларусь в исторической государственной и церковной жизни» з прадмовай па-беларуску. Праз некалькі гадоў Сінод Рускай праваслаўнай царквы за мяжой забараніў чытанне і распаўсюджванне гэтай кнігі, а аўтара адлучылі ад рэлігійнай дзейнасці. Тады архіепіскап Апанас уваходзіў у юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Да 100-годдзя архіепіскапа Апанаса ў Жыровічах з друку выйшлі асобнай кнігай яго «Матэрыялы да Гісторыі Праваслаўнай Беларускай Царквы», а таксама ўспаміны «На ніве Хрыстовай» (Нью-Ёрк; Менск; Варшава, 2005). А кнігу «Беларусь в исторической государственной и церковной жизни» з прадмовай па-беларуску Антона Мартаса Беларускі Экзархат перавыдаў у Мінску ў 1990 годзе.

У 1927 годзе айцец Філафей быў узведзены ў дыяканскі, а потым у іерэйскі сан. Далей рэлігійны шлях айца Філафея ляжаў у Мюнхен, дзе ён кароткі час служыў свяшчэннікам, а з 1929 года быў намеснікам настаяцеля манастыра святога Ануфрыя ў мясцовасці Яблачын Варшаўска-Холмскай епархіі. Пэўны час нават выконваў святарскія абавязкі ў Галіччыне, быў начальнікам духоўнай місіі. Пасля Галіччыны Філафея хутка ўзвялі ў сан архімандрыта.

У 1936 годзе ён быў прызначаны інспектарам Варшаўскай духоўнай семінарыі, а потым стаў дацэнтам духоўнага багаслоўя багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. Беларуса хутка выбіраюць намеснікам настаяцеля Варшаўскага кафедральнага сабора, а таксама яго рызнічым. Адначасова ён працуе выкладчыкам багаслоўя ў дзвюх прыватных школах — нямецкай гімназіі і французскім ліцэі. Не забывае святар і пра беларускі прыход у Варшаве, дзе ён служыць другім святаром. А пазней становіцца сябрам Варшаўскай духоўнай кансісторыі.





У гады Другой сусветнай вайны, калі Польшча і Беларусь былі пад нямецкай акупацыяй, мітрапаліт Дзіянісій, які ў той час узначальваў Польскую праваслаўную царкву, лічыў Беларусь у сваёй юрысдыкцыі. Напачатку верасня 1941 года Дзіянісій склікаў Раду Беларускай царквы, каб сур'ёзна вырашыць задачу распаўсюджвання на Беларусь юрысдыкцыі Польскай праваслаўнай царквы. Архімандрыт Філафей з'яўляўся сябрам гэтай Рады, і мітрапаліт Дзіянісій рэкамендаваў яго, а таксама архімандрыта Антона Мартаса і архімандрыта Феафана Пратасевіча ў кандыдаты для кіравання беларускімі епархіямі на той беларускай тэрыторыі, якая была вызвалена немцамі ад бальшавікоў. А перад самай вайной Маскоўская Патрыярхія прызначыла мітрапаліта Панцеляймона (Паўла Ражноўскага) экзархам Заходне-Беларускім і Украінскім. Але мітрапаліты Дзіянісій і Панцеляймон не ўлічылі адну акалічнасць, што гаспадарамі на тэрыторыі Беларусі былі ўсё ж германскія ўлады. І калі ў 1941 годзе на Бацькаўшчыну прыехаў Філафей, якога накіраваў Дзіянісій дзеля зацвярджэння на Беларусі юрысдыкцыі Польскай праваслаўнай царквы, і сустрэўся з Панцеляймонам, то зразумеў, што планам мітрапаліта Дзіянісія немагчыма збыцца. Таму архімандрыт Філафей вырашае застацца на радзіме і дапамагаць мітрапаліту Панцеляймону.

15 лістапада 1941 года архімандрыт Філафей прыбыў у Жыровічы, што на Слонімшчыне. Вечарам таго ж дня адбыўся Сабор епіскапаў Святой праваслаўнай царквы на Беларусі. Архімандрыт Філафей азнаёміў Сабор з паперамі ад мітрапаліта Дзіянісія і паведаміў аб хуткім прыездзе на Беларусь архімандрыта Апанаса. Сабор епіскапаў пастанавіў: прызначыць архімандрыта Філафея сябрам Царкоўнага кіраўніцтва ў Жыровічах, хіратанізаваць архімандрыта Філафея 23 лістапада ў саборным Свята-Успенскім храме ў Жыровіцкім мана-

стыры ў епіскапа Слуцкага, другога вікарыя мітрапаліта з месцазнаходжаннем у Мінску.

Архімандрыт Філафей быў хіратанізаваны. Хіратонію правёў мітрапаліт Панцеляймон пры ўдзеле епіскапа Брэсцкага Венядзікта. А 30 лістапада 1941 года мітрапаліт Панцеляймон і епіскап Філафей прыбылі ў Мінск. Там іх урачыста сустрэлі беларускія святары, адміністрацыя Мінска разам з Вацлавам Іваноўскім, сябры беларускіх арганізацый і вернікі. Была вялікая надзея, што з прыездам у Мінск мітрапаліта Панцеляймона і епіскапа Філафея царкоўнае праваслаўнае жыццё ў Беларусі нармалізуецца і народ атрымае сваіх беларускіх епіскапаў, святароў і сваю Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. Але мітрапаліт Пайцеляймон меў у сваіх думках іншую мэту. Ён быў моцным прыхільнікам Маскоўскай Патрыярхіі, і яму нялёгка было ад яе адарвацца. Ён адкладаў хіратонію ў епіскапы беларускіх кандыдатаў і не пашыраў сваёй духоўнай архіпастырскай дзейнасці па ўсёй мітраполіі. «А епіскап Філафей, — як пісаў у сваёй кнізе «За вольную і сувэрэнную Беларусь» (Вільня, 2006. С. 133) Дзмітры Касмовіч, — быў слабахарактарным. Ён лавіраваў паміж беларускімі праваслаўнымі патрыётамі і русафіламі з мэтай заняць кіруючае месца ў Беларускай праваслаўнай царкве. Справа беларусізацыі царквы не пасоўвалася наперад».

У сакавіку 1942 года ўладыка Філафей атрымлівае тытул епіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага, яго ўзводзяць у сан архіепіскапа і прызначаюць намеснікам мітрапаліта Панцеляймона.

2 чэрвеня 1942 года жаўнеры СД на аўтамабілі прымусова адвезлі мітрапаліта Панцеляймона, якога не змаглі пераканаць у неабходнасці беларусізацыі царквы, у манастыр Ляды, які знаходзіўся за сорак кіламетраў ад Мінска. Мітрапаліт паспеў толькі падпісаць дэкрэт на імя Філафея наступнага зместу: «З поваду свайго выезду з Менска на ўвесь час маёй адсутнасці паручаю





Вам усе справы Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі. 1.06.1942 году, Менск» (Архіепіскап Афанасій (Мартас). Матэрыялы да Гісторыі Праваслаўнай Беларускай Царквы. Жыровічы, 2004. С. 83).

Пасля таго, як мітрапаліт Панцеляймон быў адвезены ў Ляды, актыўна пачалася праца Прадсаборнай камісіі для агалашэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы. Быў падрыхтаваны Статут Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, разгледжана пытанне, хто адкрые Царкоўны Сабор, і іншыя справы. Мітрапаліт Панцеляймон даў пісьмовую згоду, каб Царкоўны Сабор адкрыў яго намеснік Філафей.

У нядзелю, 30 жніўня 1942 года ў Мінску сабраліся беларускія святары і вернікі на Усебеларускі Царкоўны Сабор, каб абвясціць незалежнасць Беларускай праваслаўнай царквы і прыняць Статут, якім павінна кіравацца царква ў сваёй самастойнай дзейнасці. Перад пачаткам Сабора ў Спаса-Праабражэнскай царкве адбыўся ўрачысты малебен. Архіепіскап Філафей яго адслужыў у суправаджэнні епіскапа Віцебскага і Полацкага Апанаса, епіскапа Смаленскага і Бранскага Сцяпана і шматлікага духавенства. Потым Філафей адкрыў Сабор, а сакратар Сабора святар Аляксандр Апанасевіч зачытаў спіс яго ўдзельнікаў. У сваёй прадмове архіепіскап Філафей падкрэсліў, што ўсе падставы для існавання аўтакефаліі на Беларусі ёсць: Беларуская царква існуе незалежна ад іншых цэркваў, ёсць іерархіі, епархіі, благачынні, прыходы, створаны курсы для кандыдатаў на святароў і г. д. Неабходна толькі аўтакефалію аформіць. «Сёння мы тут сабраныя на святы Сабор Беларускае Праваслаўнае царквы, навязваем лучнасць з найпрыгажэйшымі ў гісторыі Беларусі часамі XIII, XIV і XV стагоддзяў. Гэта былі часы вялікае славы і росквіту Беларусі, прыгожыя часы росквіту Беларускае царквы. Тады ўжо былі палажаны фундаменты для яе аўтакефальнасці, для яе незалежнасці. З таго часу мінула многа год, а беларускі

народ і праваслаўная царква многа перажылі розных няшчасцяў, крыўдаў, паніжэнняў. Усё ж, аднак, Бог Усявышні не пакідаў нашага народу і зноў даў яму магчымасць арганізавання свайго жыцця рэлігійнага, культурнага, гаспадарчага… Беларусь вызвалена ад бальшавіцкае няволі і пачынае новае жыццё. Мы сюды сабраліся, каб радзіць над справамі нашае Святое Праваслаўнае царквы, над арганізацыяй ейнае працы. Памолімся, каб Усявышні благаславіў нас і нашую працу», — казаў у сваёй прадмове архіепіскап Філафей, і пра гэта пісаў тыднёвік па Беластоцкай акрузе «Новая дарога» 4 жніўня 1942 года.

Пасля выступлення Філафея чыталіся рэфераты, разглядаўся праект Статута Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. А 2 верасня 1942 года Статут Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы быў прыняты. Адначасова была прынята пастанова аб поўнай незалежнасці Беларускай праваслаўнай царквы. «Дзень 2 верасня 1942 года, у якім была абвешчана аўтакефалія Беларускай праваслаўнай царквы, застанецца ў гісторыі Беларусі, як адзін з найвялікшых гістарычных дзён», — пісала ўсё тая ж «Новая дарога» 4 жніўня 1942 года.

Але ж у далейшым епіскапы не давалі патрэбнага ходу саборным пастановам аб завяршэнні аўтакефаліі. Толькі 20 красавіка 1943 года епіскапы падпісалі лісты да Канстанцінопальскага Патрыярха і да іншых самастойных цэркваў.

Летам 1944 года, калі немцы пачалі адступаць, а Чырвоная Армія паціху рухалася на Захад, епіскапы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) эвакуіраваліся ў Германію. Туды выехаў і Філафей. 5 мая 1946 года ў Рэгенсбургу адбыўся з’езд праваслаўных беларусаў Германіі, дзе абмяркоўвалася некалькі сур’ёзных пытанняў, а таксама пытанне аб пераходзе беларускіх епіскапаў пад юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Філарэт





Родзька (1890–1980) і Аляксандр Орса (1896–1959) сталі перад епіскапамі Філафеем і Апанасам на калені, молячы іх, каб не ехалі ў Мюнхен падпісваць акт аб далучэнні БАПЦ да Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Епіскапы не паслухалі сваіх землякоў. І 6 мая 1946 года ў Мюнхене на архірэйскім Саборы Рускай праваслаўнай царквы за мяжой епіскапат БАПЦ увайшоў у архірэйскі Сабор Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Рашэннем гэтага Сабора архіепіскап Філафей быў прызначаны вікарным епіскапам у Берлінска-Германскую епархію з тытулам Гесенскага і рэзідэнцыяй у Вісбадэне.

У 1953 годзе Філафей атрымаў новую царкоўную пасаду — ён стаў епіскапам Гамбургскім і Паўночнай Германіі. Па яго ініцыятыве ў Гамбургу быў пабудаваны сабор Святога Пракопа. А побач з саборам у адным з царкоўных памяшканняў жыў сам епіскап.

У 1971 годзе ўладыка Філафей стаў архіепіскапам Берлінскім і Германскім. Яму было дазволена насіць алмазны крыж на клабуку. А праз дзесяць гадоў прэзідэнт ФРГ узнагародзіць Філафея «Крыжом гонару» першай ступені.

Вясной 1981 года ў архіепіскапа здарыўся інфаркт. А ў верасні 1986 года яго не стала. «Мне ўдалося набыць кавалак зямлі каля найпрыгажэйшай царквы на могілках у Вісбадэне. Маё будучае месца — у якіх-небудзь дзесяці кроках ад магілы Філафея. Такі лёс», — прыгадвае ўсё той жа Барыс Кіт, згадваючы Філафея (Аляксандр Адзінец. Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў. Мінск, 2007. С. 634).

Царкоўная дзейнасць архіепіскапа Філафея (Уладзіміра Нарко) у справе беларускага рэлігійнага жыцця як у Беларусі, так і беларусамі на эміграцыі заўсёды ацэньвалася неадназначна і характарызавалася непаслядоўнасцю. Тым не менш гэта даволі вялікая царкоўная асоба ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны, і забываць яе нам нельга. І апошняе. У энцыклапедычным



даведніку «Рэлігія і царква на Беларусі» (Мінск: «Беларуская энцыклапедыя», 2001) архіепіскап Філафей нават і не згадваецца.

## ПРАВАСЛАЎНЫ СВЯТАР ПАВЕЛ ЛЫСУХА

Праваслаўны святар протаіерэй Павел Лысуха (1892–1954) 27 гадоў адслужыў у Свята-Мікалаеўскім праваслаўным кафедральным саборы ў Беластоку. Я вырашыў сёння згадаць пра гэтага чалавека, беларуса, майго земляка са Слонімшчыны. Тым болей, што большую палову свайго нядоўгага жыцця ён пражыў на Беласточчыне.

Напісаць мне пра Паўла Лысуху прапаноўваў пры жыцці беларускі праваслаўны дзеяч на эміграцыі Барыс Данілюк (1923–2011). Спадар Данілюк пісаў, каб я абавязкова сабраў звесткі і напісаў артыкул пра Паўла Лысуху. У адным са сваіх лістоў Барыс Данілюк паведамляў, што Павел Лысуха меў братоў Мікалая, Серафіма, Аркадзя і сястру Тэклю. «Тэкля была замужам за маім дзядзькам Пракопам з вёскі Сурынка Слонімскага павета. Наймалодшы брат Аркадзь быў кульгавы, але падвучыўся царкоўным спевам і ў 1930-х гадах аж да вайны быў дзякам ва ўніяцкай місіі ў Альбярціне пад Слонімам. Жонка айца Паўла паходзіла, здаецца, з Жыровічаў. У 1930 годзе, калі мы жылі ў вёсцы Шчара на Слонімшчыне, яны прыязджалі нас адведваць. Пра лёс іншых братоў Паўла Лысухі і іх сем'і нічога не ведаю», — пісаў Барыс Данілюк.

І вось я пачаў пошукі. Спачатку завітаў на радзіму Паўла Лысухі — у вёску Сурынка Слонімскага раёна. Звярнуўся да настаяцеля храма святога прарока Іллі ў вёсцы Сурынка айца Генадзя Логіна. Айцец Генадзь паабяцаў дапамагчы, бо ён чуў пра Паўла Лысуху, а ў вёсцы Сурынка амаль палова яе жыхароў маюць





прозвішча Лысуха. І праўда, праз некалькі дзён айцец Генадзь мне патэлефанаваў і сказаў, што ў вёсцы жыве пляменнік Паўла Лысухі Уладзімір.

Спадар Уладзімір Лысуха жыве адзін. Жонка памерла пяць гадоў таму. Прыгадваючы яе, стары чалавек заплакаў. Але потым супакоіўся і пачаў распавядаць пра айца Паўла Лысуху. «Павел Лысуха — мой родны дзядзька, бацькаў родны брат. Я трохі памятаю яго. Ён жыў і служыў у Беластоку, да нас у Сурынку прыязджаў рэдка. Але калі гасцяваў на Бацькаўшчыне, то любіў пасядзець у агародзе каля жыта. Ён садзіўся на табурэтку і доўга глядзеў, як каласуе жыта. І ўсё нешта думаў. У мяне ў памяці гэта засталося на ўсё жыццё», — пачаў распавядаць Уладзімір Лысуха.

— А вы чый сын? — пытаюся ў спадара Уладзіміра.

— Я — сын Мікалая Лысухі, роднага брата Паўла. Іх была чацвёра сыноў. Павел быў старэйшым. Зямлі было мала, таму, каб не дзяліцца з братамі і не спрачацца з-за зямлі, Павел пакінуў вёску і паехаў у Беласток. Ажаніўся. У іх была дачка Раіса. Але яна ўжо таксама памерла ў Беластоку.

— А вы ў царкву ходзіце?

— Вядома ж. Мне і бацюшка наш паведаміў, што вы шукаеце сваякоў Паўла Лысухі.

— Якім яшчэ вам запомніўся дзядзька Павел?

— Я памятаю мала, бо бачыў яго рэдка. Але ведаю, што ён яшчэ добра іграў на скрыпцы. Наогул, дзядзька Павел быў вельмі таленавітым чалавекам.

— Сумна вам, Уладзімір Мікалаевіч, аднаму?

— Так, сумна…

З Сурынкі — роднай вёскі Паўла Лысухі, мой шлях ляжаў у Слонім да ўнучкі Уладзіміра і праўнучкі Паўла Лысухаў — Наталлі. Спадарыня Наталля захавала некалькі здымкаў Паўла Лысухі, якія сёння друкуюцца. Яна ведала, што яе прадзед быў вядомым у Беластоку святаром, але больш пра яго нічога не чула.



Павел Лысуха нарадзіўся ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета ў звычайнай беларускай сялянскай сям'і. Сям'я была бедная, таму пра вучобу хлопчыка і размовы быць не магло. Але Паўлік хацеў вучыцца, найперш у Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Толькі ў Жыровічы, якія знаходзіліся недалёка ад яго роднай вёскі, паступіць не атрымалася. Тады хлопец паступае ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Праўда, там правучыўся толькі два гады і пакінуў вучобу. Ён становіцца слухачом пеўча-рэгенцкіх курсаў у Гродне, якія скончыў у 1912 годзе.

Пасля заканчэння курсаў у Гродне Павел Лысуха працуе псаломшчыкам-рэгентам у прыходзе вёскі Востраў Сакольскага благачыння. Але працаваць доўга не давялося, бо пачалася Першая сусветная вайна. Малады святар вяртаецца на радзіму. І толькі пасля вайны атрымлівае пасаду псаломшчыка-рэгента ў прыходзе Старадзявяткавічы Слонімскага павета. У 1923 годзе Паўла Лысуха пасвячаюць у сан дыякана, і ён прызначаецца для служэння ў царкве ў мястэчку Рось (цяпер Ваўкавыскі раён. — *С. Ч.*).

Праз чатыры гады айцец Павел па запрашэнню настаяцеля Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора пераязджае на дыяканскую службу ў Беласток. У 1940 годзе протадыякан Павел Лысуха прыязджае ў Жыровічы. Там яго архіепіскап Панцеляймон Ражноўскі асвячае ў сан прэсвітара і прызначае вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора ў Беластоку.

27 гадоў служыў айцец Павел Лысуха ў саборы. Амаль увесь праваслаўны люд Беластока добра ведаў святара, вернікі вельмі паважалі і любілі айца Паўла за яго ціхі, спакойны характар, за пастаянную цеплыню сэрца, за набожнае і пранікнёнае правядзенне царкоўных службаў. Ён даслужыўся ў Беластоку да протаіерэя.





Але жыццё протаіерэя Паўла Лысухі было нядоўгім — ён пражыў няпоўныя 62 гады. Яго не стала 5 мая 1954 года. Протаіерэй В. Рафальскі ў «Церковном вестнике» ў 1954 годзе пісаў, што тры дні праваслаўныя вернікі Беласточчыны развітваліся з Паўлам Лысухам. На паховінах яго, пісаў протаіерэй Рафальскі, было «много венков, утопающий в цветах катафалк, сонм духовенства во главе с Высокопреосвященным архиепископом Тимофеем и множество народа — это редкая и поучительная была картина».

## «ЁН БЕЛАРУС СЯРОД УЗБЕКАЎ...»

Здымак, які публікуецца ў кнізе на другой старонцы вокладкі, я з журналістам беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку Віталем Лубам неяк адшукаў у фотаархіве «Нівы». Хутчэй за ўсё яго ў 1970-х гадах прыслаў у тыднёвік з Ташкента беларус Іосіф Грыцук, які быў родам з вёскі Валілы.

Здымак зроблены быў у Ташкенце (Узбекістан) у 1970-х гадах. На ім сфатаграфаваны два беларусы з нялёгкім лёсам — вышэйназваны Іосіф Грыцук з Беласточчыны і паэт, доктар філалагічных навук, прафесар са Случчыны Сцяпан Ліхадзіеўскі.

У сакавіку 1970 года «Ніва» надрукавала ліст з Ташкента. Аўтарам гэтага ліста быў Іосіф Грыцук. У ім наш зямляк расказаў пра свой жыццёвы лёс і пра тое, як ён трапіў у сталіцу Узбекістана. Аказалася, што ў пошуках свабоды і хлеба наш суайчыннік спачатку ў 1929 годзе выехаў у Аргенціну. Там пражыў да 1955 года. У тым годзе пачалася рээміграцыя, і беларусы пачалі масава вяртацца на Радзіму. Праз тры гады вярнуўся дамоў і валілаўскі юнак. Але яму дазволілі прыехаць не на Беларусь, а ў Ташкент. Там ажаніўся і па спецыяльнасці працаваў на мэблевай фабрыцы.



Упершыню Іосіф Грыцук з жонкай наведаў свае Валілы і Беласточчыну ў 1968 годзе. Трыццаць гадоў не быў на Бацькаўшчыне. «Калі мне ўдалося за 30 гадоў разлукі з радзімай пабываць у роднай вёсцы, то я лёг на зямлю і цалаваў, як родную маці. Кожнае дрэва ў вёсцы, што запамятаў у маленстве, было мне мілае сэрцу. Усюды хацелася пабываць, усё паглядзець. Пайшоў да рэчкі. Супрасль акультурылі. Стала ручайком, няма рыбы ні ракаў, бо дзе ж ім жыць? І дзецям няма дзе плаваць. Шкада, перастараліся меліяратары. Пачуўся скрып у паветры. Я ўзняў вочы ў неба: сумна скрыпелі жураўлі — ляцелі ў цёплы край. Пакідалі свой кут на паўгода — і то сумавалі. Можа, таму, што не ведалі, ці вернуцца. Мне жураўлі нагадвалі скрып колаў воза майго дзядзькі з Падзалук, які вёз нашу сям'ю ў 1929 годзе на беластоцкі вакзал. Мы тады не ведалі, што нас чакае ў Аргенціне: уцякалі, як жураўлі, у цёплы край. Праводзіў я вачыма жураўлёў і думаў: я шчаслівы, бо вярнуўся на сваю радзіму, хоць на кароткі час…» — прыгадваў Іосіф Грыцук (Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 125).

Завітаў наш зямляк у рэдакцыю беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку. Тадышні рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі спытаў у яго: «Чаму пасля Аргенціны не прыехалі на Беласточчыну?» Іосіф Грыцук уздыхнуў: «Даражэнькі, з гэтай марай я і баразніў акіян, але ж завезлі ў Ташкент. А калі я пачаў прасіцца на «родину», адказалі: «здесь тоже родина», жыві, маўляў, і не рыпайся. І жыў…».

Пасля 30-гадовай ростані Іосіф Грыцук сустрэў у родных Валілах свайго школьнага сябра Юльяна Дзярманскага. На Бацькаўшчыне выпісаў два экзэмпляры беларускай «Нівы» — адзін сабе ў Ташкент, другі — сваякам у Нясвіж. А калі вярнуўся ва Узбекістан, дасылаў невялікія допісы ў «Ніву», распавядаў на чужбіне ўсім пра сваю Радзіму.





У Ташкенце Іосіф Грыцук пазнаёміўся з многімі землякамі, якія там жылі. Асабліва шчыра беларус з Беласточчыны сябраваў са Сцяпанам Ліхадзіеўскім — беларускім пісьменнікам, лёс якога таксама быў няпростым.

Сцяпан Ліхадзіеўскі нарадзіўся на Случчыне ў беднай сялянскай сям'і. Са школы дасылаў невялікія допісы ў часопіс «Малады араты». У 1926 годзе паступіў у Белпедтэхнікум. Пасля тэхнікума вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце і ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце. Як малады літаратар, нават атрымліваў персанальную стыпендыю ад Наркамасветы.

У 1928 годзе Сцяпан Ліхадзіеўскі ўступіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», быў сябрам БелАПП. Выдаў зборнікі вершаў «Рокаты дальняй прыстані» (1931), «Чырванеюць вішні» (1931), «Крывавыя знічкі на снезе» (1932), «Мы — маладая гвардыя» (1932).

Першае спачуванне малады літаратар заслужыў за тое, што па даручэнню калгацэнтра ў самым пачатку 1930-х гадоў праводзіў калектывізацыю ў беларускіх вёсках, у тым ліку і ў роднай вёсцы Баслаўцы на Случчыне. Другое спачуванне ён заслужыў за тое, што ў 1933 годзе беспадстаўна быў асуджаны на тры гады высылкі ў Казахстан. І трэцяе спачуванне ён заслужыў, што на Беларусь ужо ніколі не вярнуўся. Але Сцяпан Ліхадзіеўскі ці не адзіны з выпускнікоў Белпедтэхнікума, хто з «ворагаў народа» стаў прафесарам і доктарам навук.

Пасля адбыцця трохгадовага тэрміну Сцяпан Ліхадзіеўскі дамоў вяртацца пабаяўся, а прыехаў у Ташкент і быў залічаны на трэці курс мясцовага педінстытута. Адначасова ў 1937–1939 гадах працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў школах Ташкента і Томска. Скончыў Томскі педінстытут і аспірантуру Ташкенцкага інстытута. З цягам часу беларус абараніў кандыдацкую, а потым доктарскую

дысертацыі па творчасці Анатоля Франса, стаў прафесарам Ташкенцкага ўніверсітэта, загадваў кафедрай замежнай літаратуры. Ён паспяхова спалучаў педагагічную дзейнасць з літаратурнай. Падрыхтаваў да выдання і выпусціў у свет у Мінску зборнікі вершаў і перакладаў «Берасцянка жывых трывог» (1962) і «Вянкі камунарам» (1974). Актыўна перакладаў на беларускую мову вершы ўзбекскіх паэтаў, творы французскіх і нямецкіх пісьменнікаў. Апублікаваў шэраг прац пра спадчыну Анатоля Франса, матэрыялы па ўзбекскай літаратуры, яе сувязі з беларускай літаратурай. Пісьменнік заўсёды сумаваў па Беларусі. А аднойчы, па незразумелай прычыне ад другой асобы, ён напісаў такія радкі:

Жыве ў Ташкенце чвэртку веку,
Не знае, дзе закончыць век.
Ён беларус сярод узбекаў,
Між беларусаў ён узбек.

Беларусы сярод узбекаў так і засталіся на далёкай зямлі Сярэдняй Азіі.

## УСЛЕД ЗА БАЦЬКАМ

Шмат разоў пісаў пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча, які быў родам з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Максім Бурсевіч у 1920-х гадах уваходзіў у склад ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) і выбіраўся кіраўніком яе Цэнтральнага Сакратарыята. Ён загадваў фінансавымі сродкамі БСРГ, ствараў яе мясцовыя камітэты, наладжваў іх работу. У 1931 годзе ў выніку абмену палітычнымі зняволенымі трапіў у БССР. Жыў у Мінску. Працаваў членам прэзідыума і выконваў абавязкі кіраўніка аддзела культуры і навукі Дзяржаўнай планавай камісіі




(Дзяржплана) БССР. Удзельнічаў у рабоце камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры Акадэміі навук БССР, быў членам ЦВК БССР.

У другой палове 1933 года Максіма Бурсевіча беспадстаўна абвінавацілі ў так званым нацыянал-дэмакратызме. 9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС па Ленінградскай вобласці ён быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітавалі нашага земляка ў 1956 годзе.

Лёс сына Максіма Бурсевіча — Ігара Бурсевіча быў не менш трагічным за лёс ягонага бацькі. Пра Ігара Максімавіча Бурсевіча сёння і хочацца расказаць. Тым больш, што нядаўна я адшукаў дачку Ігара Максімавіча Бурсевіча Таццяну Ігараўну Бурсевіч, якая жыве ў Магілёве. Таццяна Ігараўна шмат расказала мне пра свайго знакамітага дзеда Максіма Бурсевіча і пра бацьку Ігара Бурсевіча.

Ігар Бурсевіч нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Чамяры ў сям'і беларускага палітыка і дзеяча Максіма Бурсевіча. Якуб Міско ў сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» (Мінск, 1983) прыгадвае: «У Вільню я ехаў разам з Ігарам Бурсевічам, які да гэтага ўжо год вучыўся ў беларускай гімназіі і перайшоў у чацвёрты клас. Бацька вёз мяне і Ігара на станцыю позна вечарам… Пакуль я аддаваўся ўспамінам, цягнік наблізіўся да Вільні. Мы з Ігарам пачалі рыхтавацца да выхаду са сваімі вялізнымі куфэркамі, набітымі бялізнай, коўдрай, ежывам. Я спытаўся ў Ігара: «А нам куды?». Ігар усміхнуўся — вядома, бывалы: «Ідзі за мной, не заблудзіш». Узваліўшы куфэркі на плечы, мы накіраваліся ў бок славутай Вострай Брамы. Я ішоў не азіраючыся, бо стараўся не згубіць з вачэй Ігара. Праз якія дваццаць мінут мы, дашчэнту спацелыя, былі ўжо ў інтэрнаце беларускай гімназіі…».

Першапачатковую адукацыю Ігар Бурсевіч атрымаў у Віленскай беларускай гімназіі. Пасля яе заканчэння юнак марыў працягваць вучобу. Але бацька займаўся



палітыкай, таму вучобе перашкодзіў ягоны арышт польскімі ўладамі. Нагадаю, што бацька Ігара Бурсевіча за спробу арганізаваць беларускія школы ў Чамярах і ў Навагрудскім павеце быў двойчы арыштаваны. А ў лютым 1927 года арыштаваны на судовым працэсе пяцідзесяці шасці і прыгавораны да 8 гадоў турмы. Пакаранне адбываў у Лукішках, Вронках, Каранове.

У выніку абмену палітычнымі зняволенымі Ігар Бурсевіч разам з бацькамі праз Данцыгскі калідор, Усходнюю Прусію, Латвію пераязджае ў БССР. Здавалася, што там будзе ўсё добра і шчасліва. І напачатку так было. Ігар паступае на энергетычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Там вучыцца, бацькі працуюць. Адным словам, жыццё ў Мінску стала наладжвацца. Але хутка і тут ягонага бацьку арыштоўваюць органы НКУС і беспадстаўна абвінавачваюць у нацыяналізме, у арганізацыі антысавецкага цэнтра, у шпіянажы на карысць Польшчы і г. д. А пасля арышту бацькі Максіма Бурсевіча хутка мяняецца і лёс ягонага сына Ігара. Спачатку яго выключылі з камсамола, а потым з інстытута. І толькі вера ў справядлівасць, сіла волі выратавалі юнака ў тыя цяжкія хвіліны. Ён збіраецца і едзе ў Маскву і трапляе на прыём да Надзеі Канстанцінаўны Крупскай (Крупская — жонка Уладзіміра Ульянава (Леніна). — *С. Ч.*), якая шчыра падтрымала юнака. Дзякуючы званку Крупскай у Мінск, Ігар Бурсевіч быў адноўлены ў ВНУ, здолеў скончыць інстытут і паехаў па размеркаванню ў якасці маладога інжынера-электрыка працаваць у Расію ў горад Іванава. Там ён знайшоў Іванаўскі шклатрэст, звярнуўся ў аддзел кадраў з накіраваннем. «Добра, — сказалі, — афармляйцеся. Вось вам анкеты, пішыце аўтабіяграфію…». Пасля ўсіх працэдур Ігара Бурсевіча накіравалі на завод імя Валадарскага ў горад Курлова Іванаўскай вобласці на пасаду начальніка электрацэха.

Калі наш зямляк туды прыехаў, то даведаўся, што на заводзе днямі было многа падзей. Знялі ўсё кіраўніцтва





завода і адвезлі ў Іванава. Вось цяпер сюды накіроўвалі новыя кадры.

Паўтара месяца Ігар адпрацаваў на заводзе. У канцы жніўня 1937 года раніцай да яго на кватэру прыбылі тры чалавекі з оперупаўнаважаным ДПУ, прад'явілі ордар на арышт і зрабілі вобыск. Пакапаліся ў чамаданах, забралі ўсе дакументы і павялі ў «чорны варанок». Потым прывезлі ў дом папярэдняга зняволення (ДПЗ) і пасадзілі ў камеру-адзіночку. Знаходзіўся там каля трох дзён. Потым пад аховай адправілі ў Курлова. Ніякіх допытаў і роспытаў не вялі. З Курлова прывязлі ў Іванаўскую турму. Турма была старога тыпу, вялікія сцены і вароты. Прайшоў кароткую рэгістрацыю, вобыск. Потым распісаўся ў нейкім акце — і павялі беларускага юнака ў следчую камеру…

Так скончылася яго вольнае жыццё і пачаліся змрочныя гады цяжкага зняволення. Сам Ігар Максімавіч пазней меркаваў, што яго арыштавалі з-за бацькі, а таксама таму, што акрамя рускай мовы дасканала валодаў беларускай, польскай, ведаў нямецкую і эсперанта. А такіх знаўцаў у той 1937 год траплялася няшмат. Ды і быў знаёмы Ігар Бурсевіч са шматлікімі беларускімі дзеячамі нацыянальнага руху, прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, якія заўсёды былі побач з ягоным бацькам.

У сталінскіх лагерах наш зямляк адбыў роўна 10 гадоў. У жніўні 1947 года яго выклікалі ў кантору лагера наконт афармлення дакументаў на звальненне. А потым хутка развітаўся з сябрамі па лагеру і рабоце. Спачатку дабраўся да Томска, а потым паехаў на Беларусь у Магілёў, дзе жылі яго родныя і блізкія людзі. Там Ігар Бурсевіч уладкаваўся на працу, плённа працаваў па спецыяльнасці. Ён рэалізаваўся, як кажа яго дачка Таццяна, у гэтым жыцці цалкам, нягледзячы на тое, што ў «застойныя часы» яму не адзін раз напаміналі яго лагернае мінулае. Ігар Максімавіч захаваў цікавасць да жыцця: ён шмат займаўся сабой,

чытаў, вывучаў літаратуру па спецыяльнасці, кнігі па гісторыі Беларусі, краязнаўству. Ён перапісваўся з многімі беларускімі дзеячамі культуры і літаратуры, палітыкі і навукі. Яго заўсёды непакоіла памяць пра незаконна рэпрэсаванага і амаль забытага бацьку Максіма Бурсевіча, хацелася аднавіць яго гонар і імя. Вынікам яго працы з'явіліся ўспаміны пра бацьку і пра сваё ўласнае жыццё. Ігар Бурсевіч таксама пакінуў згадку і пра вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі. Усе гэтыя ўспаміны дачка Ігара Максімавіча Бурсевіча Таццяна Ігараўна перадала аўтару гэтых радкоў. Успаміны пра лагернае жыццё ўжо былі апублікаваныя ў часопісе «Магілёўская даўніна» ў 1994 годзе. Успаміны пра Віленскую беларускую гімназію плануе ў наступным годзе апублікаваць часопіс «Маладосць».

Ігара Бурсевіча не стала ў 1985 годзе. Яго жонка Клаўдзія Рыгораўна памерла ў 2004 годзе. Рана пайшоў з жыцця і іх сын Сяргей. У Магілёве жыве дачка Таццяна Ігараўна, унукі і праўнукі Максіма і Ігара Бурсевічаў.

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ І ЖЫРОВІЧЫ

Стаім ля святыняў зачыненых брам,
Ды ўсюды ёсць праўды крыніца.
Дзе чуецца Божае слова — там Храм,
Там Богу належыць маліцца.

Гэтыя радкі напісала славутая беларуская паэтка Ларыса Геніюш (1910–1983). Лёс паэткі быў няпростым. Нарадзілася яна ў фальварку Жлобаўцы на Ваўкавышчыне. Вучылася ў Гудзевіцкай школе, закончыла Ваўкавыскую польскую гімназію.

У 1935 годзе ў Воўпенскай царкве на Ваўкавышчыне ўзяла шлюб са студэнтам медыцынскага факультэта Карлавага ўніверсітэта з Прагі Янкам Геніюшам. Спачатку сям'я жыла ў Зэльве, а потым Ларыса Геніюш




з сынам Юркам перабралася да мужа ў Прагу, дзе ён працаваў лекарам.

У 1943 годзе ў Празе выходзіць першы паэтычны зборнік паэткі «Ад родных ніў». Дарэчы, факсімільнае выданне гэтага зборніка пабачыла свет у Слонімскай узбуйненай друкарні ў 1995 годзе.

У Празе Ларыса Геніюш актыўна займалася літаратурай і грамадскай дзейнасцю, уваходзіла ў Беларускі камітэт самапомачы, была сакратаром Беларускай Народнай Рэспублікі.

5 сакавіка 1948 года Ларыса Геніюш разам з мужам была арыштаваная ў Чэхаславакіі і пазбаўлена чэхаславацкага грамадзянства. Геніюшаў выдалі савецкім спецслужбам і пад канвоем даставілі ў Мінск. Яе асабіста дапытваў тагачасны міністр МГБ БССР Л. Цанава.

7 лютага 1949 года Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу і Янку Геніюшаў да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне паэтка адбывала на Поўначы ў Комі АССР, Мардоўскай ССР і ў іншых раёнах. У сталінскіх лагерах паэтка адбыла 7 гадоў. У 1956 годзе яе разам з мужам вызвалілі паводле пастановы ААН — як несавецкіх грамадзян. Геніюшы прыехалі ў Зэльву, дзе і пражылі да канца свайго жыцця.

Ларыса Геніюш жыла са сваім мужам у Зэльве на Савецкай вуліцы, 7а (былой Царкоўнай вуліцы). Насупраць іх дома стаяла і стаіць сёння Троіцкая царква, верніцай якой была Ларыса Антонаўна. У царкве цяпер знаходзіцца невялічкі пакой-музей, прысвечаны ёй, мемарыяльная шыльда, а побач з царквой — помнік, які быў адкрыты з благаславення мітрапаліта мінскага і слуцкага, экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. «Божа, барані Беларусь» — гэтыя тры словы адлітыя ў метале. І, як піша Міхась Скобла, «малітва да Звышняга, да тых высокіх сфераў, дзе «зорка зорцы голас падае», — з наземнае моўчы. Помнік — у ахоўным полі царквы, за



царкоўнай агароджай» (Геніюш Ларыса. Каб вы ведалі. Мінск, 2005. С. 12).

Пры жыцці і пасля смерці паэткі з друку выйшлі каля 20 кніг яе вершаў, прозы і эпісталярнай спадчыны. Тысячы паэтычных радкоў і пісем паэткі яшчэ знаходзяцца ў розных архівах і прыватных бібліятэках.

Жывучы ў Зэльве на былой Царкоўнай вуліцы (сказаць «на Савецкай» у мяне не паварочваецца язык), Ларыса Антонаўна амаль штодня бывала ў Троіцкай царкве. Але самымі шчаслівымі момантамі ў ейным жыцці быў той час, калі паэтка наведвала Жыровічы. Жырава — як яна казала і як заўсёды казалі і кажуць старэйшыя людзі Слонімскага, Івацэвіцкага, Пружанскага і Зэльвенскага раёнаў-суседзяў. Жырава Ларыса Геніюш любіла, любіла, як Беларусь, моцна і шчыра, заўсёды спяшалася ў Жыровічы, асабліва 20 траўня, калі штогод адзначаецца свята Жыровіцкага абраза Маці Божай.

Упершыню Ларыса Міклашэвіч даведалася пра Жыровічы тады, калі яе родны брат Расціслаў вучыўся ў Жыровіцкай сельскагаспадарчай школе. Гэта быў, як згадвае ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш, высокі, прыгожы і паслухмяны хлопец. Пазней ён загінуў на фронце Другой сусветнай вайны. Паэтка прысвяціла яму некалькі сваіх вершаў. У адным з іх яна напісала:

Ты казаў калісьці: не сумуй, сястронка,
Над пакутным Краем злітуецца Бог.
Барані і цеш ты родную старонку,
А я буду бацькаў сцерагчы парог.

Дзед Ларысы Геніюш Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак з Беласточчыны. Ён ажаніўся ў 18 гадоў з 16-гадовай Марфай з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Юная Ларыса вельмі часта бывала ў Чамярах, якія побач са Слонімам. Ну, а быць у бабулінай вёсцы і не завітаць у Жыровічы быў бы для яе грэх. Таму




дзяўчынка разам з бабуляй Марфай і з маці спяшаліся на вялікія святы ў Жыровічы. Ці не Успенскі сабор і Крыжаўзвіжанская царква натхнялі паэтку на вершы, многія з якіх прысвечаны рэлігійным падзеям, а духоўнасць скразною лініяй праходзіць праз яе паэзію? У сваіх вершах паэтка пастаянна звяртаецца да Бога, просіць у яго дапамогі, бласлаўлення, дазволу:

О Божа! Народ свой пакутны, убогі,
Як вернае сэрца ў адданых грудзёх,
Кладу Табе сёння пад Божыя ногі,
Каб Ты не забыўся, каб Ты дапамог.

Шмат вершаў Ларыса Геніюш прысвяціла рэлігійным святам, якія адзначаюцца ў памяць аб важных царкоўных падзеях ці ў гонар святых. Гэта шчырыя радкі, прысвечаныя Вялікадню, Калядам і іншым святам:

Даражэнькія, блізкія, родныя —
Боль адзіны, супольны лёс!
Звоняць ў сэрцы званы Велікодныя:
Уваскрос! Уваскрос! Уваскрос!..

А верш «Святы вечар» — калядная беларуская класіка, гімн Калядам. Ну, скажыце, калі ласка, хто ў беларускай літаратуры мацней і прыгажэй за Ларысу Геніюш напісаў пра Каляды? Ды ніхто. Бо многія нават ведаюць альбо часта чулі яе калядныя радкі:

Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар,
Нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.
І пасталі бярозаў танклявыя свечкі
Паабапал заснежаных, белых дарог…
Каляда, Каляда… Нават зорам трывожна.
Па заблытаных сцежках крутога жыцця
Да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,
Дзе ў сям’і за сталом нас чакае куцця…



У 2008 годзе, калі творчая інтэлігенцыя Беларусі сабралася ў Троіцкай царкве ў Зэльве адзначыць 98 гадоў з дня нараджэння Ларысы Антонаўны, святар царквы, які праводзіў службу, сказаў аб тым, што ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі яны вывучалі творчасць і вершы Ларысы Геніюш. А яшчэ святар нагадаў, што Жыровічам Ларыса Геніюш прысвяціла адзін верш. Святар памыліўся. Жыровічам Ларыса Геніюш пры жыцці прысвяціла два вершы. Яны апублікаваны ў Зборы твораў у 2 тамах (Мінск, 2010) Ларысы Геніюш. Адзін верш пра Жыровічы даволі вядомы, ён пачынаецца радкамі:

Жыровічы — святы для нас куточак,
Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.
На дрэве Маці Божай абразочак —
Благаславенне для маёй зямлі…

Упершыню гэты верш апублікавала газета «Звязда» 6 красавіка 1993 года. Публікацыю верша да 10-годдзя смерці паэткі падрыхтаваў пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Дарэчы, пазней верш пра Жыровічы паэткі друкаваўся ў многіх выданнях, у тым ліку і на старонках буклета «Свято-Успенский Жировичский ставропигиальный мужской монастырь» (Мінск, 2006). І хоць буклет выйшаў з друку на рускай мове, на яго старонках знайшлося месца і для чатырох строф выдатнага верша Ларысы Геніюш пра Жыровічы.

Другі верш пра Жыровічы, які апублікаваны ў Зборы твораў у 2 тамах (Мінск, 2010) Ларысы Геніюш, адшукаў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Ф. 31. Воп. 1. Спр. 16) пісьменнік Міхась Скобла. Верш складаецца з 9 строф па 4 радкі:

Прыехаць у Жырава лёс мне выпаў,
Дождж хрысціць голаў грэшную маю.
І я пад голлем шматвяковай ліпы





Пілігрымам сціплым сцішана стаю.
Святыні побач белыя, як дзіва,
Ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.
Ідзе святар, як галубочак сівы,
Стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.
Сюды травой, аброшанай і мяккай,
На цудатворны пераможны кліч
Прыходзяць людзі з горам і падзякай.
Людскія душы ачышчае зніч.
Перада мной зямля мая святая,
Тут у паклоне дрэвы над вадой,
Дзе галубы бясшумна пралятаюць,
Ступала Маці Божая па ёй.
Не знатныя, а пастушкі віталі.
Да нас прыйшла ў вясняны дзень знарок
І Краю міламу, каб лепшымі мы сталі,
Пакінула на дрэве абразок.
Над намі храм, туманныя нябёсы.
Крынічанька пад храмам б’е з зямлі.
Як пастушок у світцы белай, босы,
Стаю, і слёзы твар мой залілі.
Адданасцю стукочуць нашы сэрцы
З крыніц благаслаўленных праўду піць.
Мінуласці святой з зямлі не сцерці
І веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.
Жыровічы, славутая мясціна,
Здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.
Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну
Мы на тваіх складаем алтарах.
Хай будзе мір і згода будзе ўсюды.
Ды калі грозьбай азарыцца сінь, —
Нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,
Ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!

Гэты верш нібы з’яўляецца працягам папярэдняга верша пра Жыровічы. Усе яны былі напісаны паэткай у 1981 годзе. У тым годзе зэльвенскі святар Васіль Чыкіда, з якім Ларыса Антонаўна шчыра сябравала,

узяў яе з сабой у Жыровічы на свята Жыровіцкага абраза Маці Божай. Ад той паездкі паэтка атрымала вялікае задавальненне. Яна так была ўзрушана і шчаслівая ад паездкі ў Жырава, што пра гэта пісала многім сваім сябрам. 23 чэрвеня 1981 года паэтка паведамляла Язэпу Найдзюку ў Польшчу: «Жывецца мне па-ранейшаму. Справа кніжкі нейк заглохла. Не вельмі гэтым праймаюся. Усё пакідаю часу. Тым часам наш святар узяў мяне з сабою ў Жыровічы. Быў дождж, але белыя вежы святыняў аж свяціліся на цемені хмараў і зелені дрэў. Пастаяла каля шырачэзнай ліпы, якой, кажуць, што ўжо многа соцен гадоў. Барадатыя Айцы паказалі мне святыні і іх цудоўныя скарбы. Сярод гэтай, духоўнай нейкай, цішыні я адчувала сябе, як у сярэднявеччы. І яшчэ я пад гэтым уражаннем.

Доля мая ў Яго Божых руках,
Мілей за харомы, карону,
Пакутны, цярнёвы жыцця Яго шлях
І храм, гдзе прыбытак ягоны».

Пра паездку ў Жырава 29 чэрвеня 1981 года Ларыса Антонаўна напісала таксама Лілеі і Ігару Чарняўскім: «Дні маі то паўзуць, то ляцяць. Айцец Васіль завёз мяне днямі ў Жыровічы. Некалькі стагоддзяў, як там з’явіўся пастушкам абразок Маці Божай на грушы. Кажуць, што аддалі яны пану той абразочак, і ён схаваў яго ў куфар. Але абразочак знік з куфра. Яго знайшлі на той самай грушы, на якой ён з’явіўся. На тым самым месцы выпырснула з зямлі крынічка, і цяпер стаяць там храмы з белымі, натхнёна выцягнутымі ў неба вежамі. Ёсць там велічэзная старая ліпа…».

І Алесю Белакозу ў Гудзевічы пра паездку ў Жыровічы таксама згадала 30 чэрвеня 1981 года: «Нядаўна завезлі мяне ў Жыровічы. Там — храмы белыя, натхнёныя і звонку, і ў сярэдзіне. Ёсць там шырачэзная ліпа, некалькі стагоддзяў ёй, і тая цудоўная

 

легенда-быль. Усё гэта робіць уражанне на беларускую душу».

Ларыса і Янка Геніюшы любілі ў Зэльве сустракаць гасцей. У іх доме былі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Вядома, не забывалі паэтку і праваслаўныя святары. А ў верасні 1982 года Ларыса Геніюш пісала Валянціне Трыгубовіч, што да яе «ў госці прыйшлі тры маладыя, харошыя манашанькі з Жырава. Яшчэ паслушніцы, дык апранутыя большменш нармальна. Як птушаняты, нешта ўсё шчабяталі. Добра, што было пудэлка цукеркаў у хаце. Хварэла, дык спечанага не было нічога. Папрасілі мой «Чабарок» (маецца на ўвазе зборнік вершаў паэткі «На чабары настоена» (Мінск, 1982). — *С. Ч.*). Для манахаў» (Радкі з пісем Ларысы Геніюш цытуюцца з пісем паэткі, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Ф. 31. Воп. 1. Спр. 16).

Летам 2010 года, да 100-годдзя з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі, інак Мікалай (Бембель) з Жыровіцкага манастыра выдаў у Слонімскай друкарні накладам 300 асобнікаў паштоўку-партрэт маладой Ларысы Геніюш. З другога боку паштоўкі брат Мікалай надрукаваў свае паэтычныя радкі, ёй прысвечаныя:

…не паланілі хімеры…
І не скарыў цябе час…
…чайка, спаведніца веры, —
Вымалі ў Госпада нас!..

Калі я прыязджаю ў Жыровічы, каля Успенскага сабора мне заўсёды ўяўляецца постаць гэтай мужнай і таленавітай беларускі і прыгадваюцца яе вялікія радкі:

Мудрасць спелую сівых вякоў
П’ю з народных жывых крыніцаў.
Паважаю чужых багоў,
Ды прывыкла сваім маліцца.



# БЕЛАРУС НЕПАДРОБНАЙ ШЧЫРАСЦІ

Васіль Быкаў у сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому» пра Янку Геніюша сказаў, што «ўвогуле ён мне падабаўся сваёй непадробнай беларускай шчырасцю». А калі Янка Геніюш заязджаў да Васіля Быкава ў Гародню, то яны вялі доўгія гутаркі пра ўсё на свеце, але найперш пра Беларусь і лёс беларусаў. З іх вялікі пісьменнік «пазнаў нямала новага і нават нечаканага з жыцця на акупацыйнай тэрыторыі, пад немцамі, а таксама ў Празе. Факты, пра якія распавядаў Геніюш, не надта ўлагоджваліся з тымі, што мы засвоілі з савецкай прапаганды…». Так згадваў Васіль Быкаў Янку Геніюша.

Па характару Іван Пятровіч быў розны — то спакойны, то занадта рэзкі і гарачы ў выказваннях, то чулліва-лагодны, то вясёлы. Але найперш да канца сваіх дзён ён быў і застаўся шчырым беларусам, патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Дый іншым Янка Геніюш быць не мог. Тым больш, што побач з ім, нягледзячы на ўсе пакуты, цяжкія і шматгадовыя ростані, была слынная паэтка Беларусі Ларыса Геніюш. Яны разам дзялілі свае гора і радасці, здзекі і хваляванні, трывогу і неспакой. На надмагільным помнічку ў Зэльве, які пры жыцці ставіла яму сама Ларыса Антонаўна (цяпер ім дваім стаіць помнік на Зэльвенскіх гарадскіх могілках), былі выбіты такія радкі:

Па сонца асветы ўзлятаў, нібы птах,
З палоскі сялянскае, вузкае.
Адзін толькі ведаў у жыцці сваім шлях
Пачэсны, цяжкі, беларускі.

А калі да Ларысы Геніюш прыязджалі сябры, і яны прыходзілі на зэльвенскія могілкі да магілы Янкі Геніюша, Ларыса Антонаўна казала: «Вось тут спіць мой Янка, на мяккай пярынцы. Каторы гадочак спіць Яначка, адбегаў сваё, адгараваў…».




Янка Генюш нарадзіўся 24 лютага 1902 года ў Крынках на Беласточчыне. Дарэчы, у Крынках пачынаецца і ўвесь род Ларысы Генюш, якая аб гэтым успамінае ў артыкуле «Крынкі» («Маладосць». 1997. № 1): «Казаў мой дзед Павел, што некалі прыйшлі туды ў пушчу два браты Мікалай і Міхал, якія і залажылі Крынкі. Ад Мікалая пайшлі Міклашэвічы, а ад Міхала — Міхайлоўскія — два старыя, адвечныя роды ў Крынках». І калі Ларыса Антонаўна Міклашэвіч выйшла замуж за Янку Генюша, то запыталася жартам у яго: «А дзе ж ты нарадзіўся?» — «Гдзе? У Крынках!» — адказаў Янка. І сапраўды… дзе ж яшчэ можна нарадзіцца на Беласточчыне, як не ў славутых Крынках?

З Крынак шлях ляжаў у Прагу, куды Янка Генюш прыехаў вучыцца. Ён паступіў у Карлаўскі ўніверсітэт, а пасля яго заканчэння атрымаў медыцынскую адукацыю, стаў урачом-венеролагам. У тым жа 1935 годзе ў сям'і Генюшаў нарадзіўся сын Юрка. Пабыўшы два гады дома, Ларыса з сынам пераязджаюць у Прагу да Янкі.

Жыццё ў Празе было вельмі цікавым і разнастайным. Тут жылі дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускія спевакі, кампазітары, мастакі, пісьменнікі. З імі ўсімі быў знаёмы Янка Генюш, з многімі шчыра сябраваў. А яшчэ ён быў актыўным сябрам пражскага камітэта Беларускай народнай самапомачы.

Падчас акупацыі Прагі нямецкімі войскамі кіраўнік Беларускай народнай самапомачы Іван Ермачэнка адправіў Янку Генюша ў Беларусь, у прыватнасці, у Слонім на лекарскую працу. Пры жыцці доктар філалагічных навук прафесар Алег Лойка расказаў мне адзін цікавы эпізод з жыцця Янкі Генюша ў акупаваным немцамі Слоніме: «Падчас акупацыі ў 1943–1944 гадах мой бацька быў намеснікам слонімскага гебітарцта (слонімскага райздрава), а гебіткамісарарцтам быў не хто іншы, як дзядзька Янка, спадар Іван Пятровіч



Геніюш. Толькі па рэцэптах за подпісам майго бацькі выдаваліся ў слонімскай аптэцы лякарствы. Тыя лекі ішлі да партызанаў, і спадар Геніюш не мог таго не ведаць. А яшчэ Іван Пятровіч стаў героем у вачах майго бацькі, калі ён не ўскінуў руку дзеля прывітання слонімскага гебіткамісара Эрэна, п'ючы піва пры рэстараннай стойцы, калі ў рэстаран зайшоў Эрэн. Эрэн зрабіў на тое заўвагу, на якую дзядзька Янка зрэагаваў імгненна: «А хто тут гаспадар, мы ці вы?!» Праз некалькі дзён слонімскі арцтгэбіт узначальваў ужо не Геніюш: Эрэн прагнаў яго ў Баранавічы. Іншай меры пакарання Эрэн не дабіўся, бо за Геніюшам стаяла слава тых, хто падпісаў з Прагі ліст самому Гітлеру…». Што датычыць ліста Гітлеру, дык пра гэта добра расказала Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі», і пра ўсе тыя махінацыі, якія вытвараў у акупацыйнай Празе Іван Ермачэнка. Сказанае Алегам Лойкам пра рэпліку Янкі Геніюша ў адрас гебіткамісара Эрэна аспрэчыў Барыс Данілюк (1923–2011), які падчас акупацыі жыў у Слоніме. У адным з пісем пры жыцці да аўтара гэтых радкоў спадар Барыс пісаў: «У Слоніме пры немцах не было ніякага рэстарану, апрача харчоўні Самапомачы. У ёй піва не прадавалі, ды і ў такую харчоўню гэбіткамісар ніколі не пайшоў бы. Піва, магчыма, было ў «Soldatenheim», але туды для «Einhemishe», у тым ліку і для доктара Геніюша, не было доступу». Хто з іх меў рацыю — цяжка сказаць, але ж ад смелага і рызыкоўнага Янкі Геніюша, які моцна любіў Беларусь, можна было чакаць і такой рэплікі ў адрас чужынцаў.

Пасля вайны ў 1948 годзе Янку і Ларысу Геніюшаў незаконна пазбавілі чэшскага грамадзянства і з Прагі вывезлі ў Беларусь. А праз год яны былі асуджаны Вярхоўным судом Беларусі на 25 гадоў няволі.

У 1956 годзе Геніюшы былі датэрмінова вызвалены і вярнуліся ў Зэльву, дзе пасяліліся ў хаце бацькоў Янкі па вуліцы Савецкай, 7а. Сам Іван Пятровіч уладкаваўся





працаваць доктарам у мясцовай зэльвенскай бальніцы. Пісьменнік Уладзімір Арлоў прыгадвае: «Янка Геніюш быў добрым лекарам, што маглі б засведчыць і ягоныя чэшскія пацыенты, і хворыя Зэльвенскай раённай бальніцы, начальства якой прыніжала былога гулагаўскага вязьня, не прызнаючы замежны Янкаў дыплом…».

Янка Геніюш вельмі любіў беларускія кнігі. Ён іх купляў у крамах, прасіў сяброў, каб высылалі яму новыя беларускія выданні з Мінска, з абласных гарадоў. Некалі ён першы даў сваёй нарачонай Ларысе пачытаць вершы Янкі Купалы, расказваў ёй пра гісторыю Беларусі, пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны. Ці не Іван Пятровіч адкрыў жонцы — будучай паэтцы Ларысе Геніюш свет на беларускасць, натхніў на паэзію?!. Бо ведаў ён шмат. Пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік нядаўна прыгадаў, як ён быў яшчэ школьнікам, а Іван Пятровіч натхніў яго падпісацца на Беларускую савецкую энцыклапедыю. «Іван Пятровіч фанатычна любіў беларускія кнігі: купляў усе, якія выдаваліся, нават па некалькі паасобнікаў, купляў тыя, якія трэба было купляць, і тыя, якія яму былі нават не патрэбныя», — успамінае Уладзімір Ягоўдзік.

Калі не стала Янкі і Ларысы Геніюшаў, я пабываў у іх доме з настаўнікам з Дзярэчына Пятром Марціноўскім. Тады якраз з Беластока Валянціна Геніюш — нявестка Геніюшаў прыехала, каб вырашыць пытанне з домам Геніюшаў у Зэльве. «Усю бібліятэку Янкі і Ларысы Геніюшаў абяцала купіць Нацыянальная бібліятэка Беларусі, але ў апошні момант адміністрацыя бібліятэкі адмовілася ад кніг, — уздыхнула Валянціна. — Бярэце, хлопчыкі, што-небудзь сабе з гэтых выданняў…».

Кніг у хаце Геніюшаў сапраўды было шмат: у адным пакойчыку яны стаялі на паліцах ад падлогі да столі. Вялікая гара выданняў па медыцыне ляжала проста на падлозе. Мы ад убачанага проста разгубіліся. У гэ-

тым доме можна было зрабіць музей Геніюшаў, куды прыязджалі б штогод тысячы турыстаў, бо Зэльву сёння ведаюць толькі таму, што там жылі і пахаваны Янка і Ларыса Геніюшы. Але, на вялі жаль, ніякага музея там няма, нават на 100-годдзе паэткі не дазволілі мясцовыя ўлады ўстанавіць на доме мемарыяльную шыльду.

Уладзімір Арлоў у сваёй кнізе «Імёны свабоды» згадвае: «Калі Іван Пятровіч цяжка захварэў, «дабрадзеі» пусцілі чутку, нібыта ён ужо сканаў, і ў дом Геніюшаў пачалі прыходзіць людзі з жалобнымі вянкамі. Ён памёр на жончыных руках. Ларыса Антонаўна сама яго мыла і апранала. «Пахавалі са слязьмі, ціха, без палкіх прамоў. Не ўсё было добра, аднак нельга аб гэтым…».

Пры жыцці ў іх хаце часта гасцілі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Па-рознаму яны адносіліся найперш да Івана Пятровіча, які пасля сталінскіх лагераў страшна ненавідзеў камуністаў і савецкую ўладу, а яшчэ мацней любіў Беларусь і ўсё жыццё марыў аб яе незалежнасці ад Расіі. Пакуль мара Янкі Геніюша не спраўдзілася…

## ЧАЛАВЕК МАЎКЛІВАГА СЭРЦА

Калі я паступіў на першы курс Белдзяржуніверсітэта, у часопісе «Маладосць» (1980. № 9) з’явілася дакументальная аповесць майго земляка, пісьменніка і журналіста Якуба Міско «Было яно калісьці…». Я купіў часопіс і на адным дыханні прачытаў гэтую аповесць. У ёй Якуб Міско цікава апісваў свае дзіцячыя і юнацкія гады, беларускую Вільню, дзе вучыўся і сталеў, а таксама шчыра пісаў пра родную Слонімшчыну. А дзесьці ў 1989 годзе яшчэ адзін мой зямляк, доктар гістарычных навук Васіль Мялешка прыслаў мне верш Якуба Міско, які называўся «Наперад». Гэты верш гісторык знайшоў у архіве, ён друкаваўся ў 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў Віленскай беларускай гімназіі. Я параіў




Васілю Іванавічу даслаць верш Якуба Міско ў «ЛіМ», што ён і зрабіў. І 6 кастрычніка 1989 года верш «Наперад» Якуба Міско быў надрукаваны на адной са старонак тыднёвіка. Гэты верш у той час заклікаў моладзь да шчаслівейшай долі, да барацьбы за лепшае жыццё:

Наперад, да лепшае долі!
Наперад, да сонца, да зор!
Мы ў цемры не можам жыць болей,
Нам трэба святло і прастор!..

Якуб Міско нарадзіўся 1 чэрвеня 1911 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў пачатковай школе ў бежанстве ў Расіі.

А калі сям'я вярнулася ў Чамяры ў 1921 годзе, паступіў у Віленскую беларускую гімназію, адкуль яго за рэвалюцыйную дзейнасць некалькі разоў выганялі. Друкавацца пачаў у 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў гімназіі «Наперад». Публікаваўся ў польскіх газетах. У 1932–1934 гадах працаваў у галоўным сакратарыяце арганізацыі «Змаганне», а потым у рэдакцыі віленскай «Беларускай газеты» (легальнае выданне КПЗБ). На працягу 1930-х гадоў Якуб Міско неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, некалькі гадоў правёў у турмах. У лістападзе 1939 года разам з братам быў арыштаваны НКУС. Але дзякуючы ўмяшанню П. Панамарэнкі яго вызвалілі.

Пасля вызвалення прыехаў у Ліду, дзе да пачатку вайны быў літсупрацоўнікам лідскай раённай газеты «Уперад».

Калі пачалася вайна, Якуба Міско забралі на фронт. Спачатку быў радавым разведчыкам, а да Берліна дайшоў гвардыі маёрам з пяццю ордэнамі. Калі вярнуўся на Радзіму, паступіў і скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Усё жыццё Якуб Міско адпрацаваў журналістам. З іх амаль 30 гадоў — у «Сельской газете». Пісаў не толькі журналісцкія матэрыялы, але і апавяданні, гумарэскі, артыкулы пра былых дзеячаў



Заходняй Беларусі, рэцэнзіі на кнігі Максіма Танка, Янкі Брыля, Алеся Адамовіча, Міхася Машары, Віктара Касько. На беларускую мову перакладаў творы польскіх літаратараў. У «Сельской газете» шмат гадоў вёў вельмі папулярны сярод чытачоў калючы куток сатыры і гумару.

У 1967 годзе Якубу Міско было прысвоена званне заслужаннага дзеяча культуры Беларусі. Да апошніх сваіх дзён Якуб Герасімавіч шмат працаваў, сустракаўся са сваімі сябрамі. Журналіст М. Шыбаліс пісаў пра Якуба Міско: «До последних дней он продолжал накапливать знания, много читал, пополнял свою богатую библиотеку. Доступный и общительный, любивший шутку, розыгрыш, дороживший дружбой с товарищами, он был твёрд и требователен в работе, прежде всего, к самому себе» (Шибалис М. Голос молчаливого сердца // Сельская газета. 1983. 6 марта).

Пасля смерці Якуба Міско (памёр 23 кастрычніка 1981 года) народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль сабраў яго лепшую спадчыну і выдаў асобнаю кнігай, якую назваў «Маё маўклівае сэрца». У першы раздзел кнігі ўвайшла дакументальная аповесць «Было яно калісьці…», а ў другі — нарысы, артыкулы і гумарэскі. Ва ўступным слове да кнігі Янка Брыль сказаў: «Найлепш пісалася яму тое, што звязана з былой Заходняй Беларуссю, з яе горкай нядоляй, са слаўнай барацьбой яе лепшых сыноў і дачок за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У гэтай цікавай, высокакультурнай публіцыстыцы амаль усюды натуральна і неабходна прысутнічае аўтар — як актыўны ўдзельнік многіх галоўных падзей свайго часу, са сваім глыбінным веданнем прадмета, са сваёй ідэйнай перакананасцю, грунтоўна праверанай у выпрабаваннях на сталасць». (Брыль Янка. Замест прадмовы // Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мінск, 1983. С. 4.).

Такім да сённяшніх дзён і памятаюць майго земляка тыя яго маладзейшыя сябры, якія яшчэ жывуць, такім ён і застанецца ў памяці ўсіх беларусаў.





# СЛОНІМСКІМІ СЦЕЖКАМІ ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

Да сённяшніх дзён не магу паверыць, што на Слонімшчыне ўжо не існуе Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Мясцовыя вертыкальшчыкі ў 2008 годзе зачынілі яе назаўсёды. Бібліятэка перажыла дзве вайны (польска-савецкую і нямецка-савецкую), рэпрэсіі, калектывізацыю, сацыялізм і ўсе іншыя «ізмы», а цяпер «часоў бурлівы родны мацярык», як пісаў Мікола Арочка, утрымацца не змог. А гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа Янкі Купалы. У Вялікую Кракотку некалькі разоў прыязджала жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Там гасцілі Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Караткевіч, Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька і многія-многія іншыя беларускія пісьменнікі. Сотні кніг з аўтографамі дасылалі слыннай бібліятэцы беларускія пісьменнікі, сярод якіх быў і Якуб Колас. 80 гадоў адчыняла дзверы перад вяскоўцамі і пісьменнікамі Купалаўская бібліятэка на Слонімшчыне. А сёння яе ўжо няма.

Чаму я так сумна пачаў з Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі? Ды таму, што ўдзел у яе стварэнні ў другой палове 1920-х гадоў прымаў таксама і паэт Валянцін Таўлай з суседняй вёскі Рудаўка. Калі ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, для вясковай бібліятэкі са сваімі землякамі ён прывозіў і дасылаў сюды беларускія кнігі і часопісы, што выдаваліся ў Вільні. Беларускія выданні Валянцін Таўлай з сябрамі прывозілі і ў Чамяроўскую сельскую бібліятэку імя Якуба Коласа, якая таксама была адкрыта ў тым далёкім 1927 годзе. Але яна перастала існаваць на Слонімшчыне раней за Вялікакракоцкую бібліятэку.

Прыехаў Валянцін Таўлай з бацькам у вёску Рудаўка Слонімскага павета ў 1924 годзе з Ліды, дзе бацьку



звольнілі з працы. У Рудаўцы жыла бабуля — маці бацькі Валянціна. Яна і дапамагала гадаваць Валянціна і яго брата Аляксандра разам з мачахай Сцепанідай Паўлаўнай.

Вёска Рудаўка тады была невялікая, яна налічвала крыху больш за 70 жыхароў. А вось суседняя з Рудаўкай — Вялікая Кракотка па колькасці насельніцтва была ў тры разы большая. Там працавала польская школа, куды і аддаў бацька Валянціна. Вучыўся добра, таму ў чэрвені 1925 года хлопчык паступіў у Слонімскую польскую дзяржаўную настаўніцкую семінарыю. Пра вучобу ў семінарыі Валянцін Таўлай напісаў у сваёй аўтабіяграфіі «Аб сабе», якія ўпершыню была апублікавана ў чэрвеньскім нумары часопіса «Полымя» за 1948 год. Нагадаю толькі, што хлопчык у семінарыі вучыўся вельмі паспяхова, атрымліваў стыпендыю. Але за тое, што пры перапісе насельніцтва адмовіўся запісацца палякам, стыпендыю знялі — таму давялося з-за крыўды і беднасці пакінуць вучобу і вярнуцца ў Рудаўку. «Прыходжу дамоў. Расказваю бацьку, што і як. Бацька спахмурнеў. Пакруціў галавой, але за сарваную вучобу не журыў: «Што ж, пасядзі ў хаце, павучыся дома, а на другі год пабачым», — згадвае ў сваіх успамінах Валянцін Таўлай.

У Рудаўцы хлопчык рыхтаваўся да паступлення ў Віленскую беларускую гімназію, дзе ўжо вучыліся знаёмыя хлопцы з Кракоткі, Вострава, Чамяроў, Азярніцы, Мялькановіч і з іншых слонімскіх вёсак. Дапамагала яму ў гэтым мачаха Сцепаніда Паўлаўна.

У верасні 1927 года Валянцін Таўлай стаў вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі. Тут сустрэўся са сваімі сябрамі-землякамі, пазнаёміўся з тымі, пра каго раней толькі чуў. «На гэтага ціхмянага, шчуплага, крыху сарамлівага хлопца спачатку ніхто са старэйшых вучняў не звяртаў увагі. У яго быў адкрыты, з мангольскімі рысамі твар, яшчэ, здаецца, дзіцячыя, але вельмі ўважлівыя і задумлівыя вочы, шырокі лоб





і крыху адвіслыя вушы. Ён трымаўся неяк у баку ад іншых вучняў. У час перапынкаў хадзіў адзін па актавай зале з кнігай або сшыткам у руках і паўтараў урокі. Вучыўся добра, і настаўнікі не раз ставілі яго ў прыклад іншым. Ніхто, вядома, і не думаў, што сарамяжлівы слонімскі хлопец з вёскі Рудаўка неўзабаве заявіць аб сабе поўным голасам», — прыгадваў у сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» Якуб Міско з вёскі Чамяры. Кніга гэта выйшла з друку пасля смерці Якуба Міско ў 1983 годзе. Да друку яе рыхтаваў Янка Брыль.

У Віленскай беларускай гімназіі хлопцы і дзяўчаты з усіх курсаў трохі пазьней даведаюцца, як вучыўся Валянцін Таўлай у Слонімскай польскай гімназіі і чаму ён яе пакінуў. І гімназісты распавядалі адзін аднаму пра тое, як у польскай гімназіі ў Слоніме Валянцін, запяўняючы анкету для настаўніка, сказаў, што ён — беларус, што мова яго — беларуская, што жыве ён на Слонімшчыне ў Беларусі… Гэтага было дастаткова, каб больш у польскай гімназіі не вучыцца.

Наогул, у Рудаўцы Валянцін Таўлай часта праводзіў прапагандысцкую работу, бо на гэта ён быў добры спецыяліст. Як згадвае Павел Кулак у кнізе «Валянцін Таўлай» (Мінск, 1984. С. 98), Валянцін умеў пагаварыць і са старэйшым, і з малодшым, і з усімі прыходзіў да аднаго вываду: змагацца за сваё вызваленне. Ён любіў выступаць на масоўках. Аднойчы яго затрымалі ў лесе каля Альбярціна на Слонімшчыне і пасадзілі ў турму. У жніўні 1929 года за ўдзел у канферэнцыі Слонімскага акружнога камітэта камсамола юнака зноў арыштавалі і пасадзілі на 6 месяцаў за краты. У слонімскім астрозе паэт піша вершы:

І сэрца ў міраж, як шчасце, паверыць
І соладка таяць пачне…
А раніца збудзіць, — акутыя дзверы,
Іржавыя краты ў акне…

З Валянцінам Таўлаем слонімцы вельмі любілі сябраваць. І ніхто з іх ніколі нават слоўца дрэннага не сказаў пра Таўлая. Паэт Анатоль Іверс (Іван Міско) мне вельмі часта згадваў пра земляка. Пазнаёміўся ён з ім у верасні 1927 года. Іверс ужо год вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а Таўлай толькі паступіў. Амаль усе прыезджыя жылі ў інтэрнаце, і гэта збліжала, давала магчымасць лепш прыгледзецца адзін да аднаго. У інтэрнаце часта праводзіліся калектыўныя чытанні лепшых твораў рускай літаратуры, кніг беларускіх пісьменнікаў. Пад кіраўніцтвам старшакласнікаў у гімназіі выдаваліся на шапірографе рукапісныя вучнёўскія газеты і часопісы. І тут не абыходзілася без Таўлая. Ён пісаў вершы, занатоўкі са школьнага жыцця. «Я гэта помню, бо сам прымаў удзел у выпуску некаторых гэтых выданняў. Крыху зайздросціў свайму земляку, што яго вершы друкавалі нават у грамадаўскіх газетах», — распавядаў мне Анатоль Іверс.

Развітаўся Іверс з Таўлаем пад канец 1929 года, калі іх выключылі з гімназіі за ўдзел у вучнёўскай забастоўцы. Іверс вярнуўся на Слонімшчыну, Таўлай апынуўся ў БССР. Аднойчы ў маі 1931 года Іверс атрымаў павестку з Касцянёўскага паштовага агенцтва, што яму прыйшла пасылка. Пасылка была з Мінска ад Валянціна Таўлая. Паэт прыслаў 7 кніг.

Найбольш памятная сустрэча Анатоля Іверса і іншых слонімскіх літаратараў з Таўлаем адбылася ў Лідзе напрадвесні 1940 года ў час прыезду туды Янкі Купалы да выбаршчыкаў. А ўжо летам 1940 і 1941 гадоў Валянцін Таўлай сам прыязджаў у Слонім, наведваў Рудаўку, Кракотку, Чамяры і іншыя вёскі, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Памятаю, як Анатоль Іверс мне вельмі часта распавядаў, як ён у пачатку красавіка 1947 года наведаў у бальніцы Таўлая. «Адсунуўшы ўбок лісткі паперы, з ледзь улоўнай усмешкай ён сказаў: «Доктар абяцаў выпусціць да 1 мая…». Але, як вядома, Валянцін Паўлавіч не дажыў да гэтага дня, ён





памёр 27 красавіка 1947 года», — успамінаў з горыччу Анатоль Іверс.

Імя беларускага паэта на Слонімшчыне не забыта. Амаль ва ўсіх слонімскіх пісьменнікаў ёсць творы, прысвечаныя земляку. Мікола Арочка ў 1969 годзе напісаў і выдаў асобнай кнігай крытыка-літаратурны нарыс «Валянцін Таўлай». Скульптары Іван Міско і Леанід Богдан зрабілі бюсты Таўлая. У Слоніме, у вёсках Жыровічы і Ганькі ёсць вуліцы, якія носяць імя слыннага земляка.

У 1984 годзе, дзякуючы настаўніцы роднай мовы і літаратуры Раісе Іванаўне Каласоўскай, у Слонімскай сярэдняй школе № 1 (цяпер гэта ліцэй) да 70-годдзя паэта быў адкрыты музей-пакой Валянціна Таўлая. Да Другой сусветнай вайны менавіта тут знаходзілася польская дзяржаўная настаўніцкая семінарыя, дзе вучыўся Таўлай. Школьны музей Валянціна Таўлая ў тыя 1980-я гады шмат рабіў спраў па прапагандзе беларускай літаратуры і творчасці пісьменнікаў-землякоў, найперш Таўлая. Савет музея перапісваўся з многімі беларускімі літаратарамі, сюды прыходзілі лісты ад жонкі пісьменніка Лідзіі Сяргееўны, ад дачкі Галіны Таўлай, ад сястры Ніны Паўлаўны. Яго наведвалі экскурсіі з усіх куткоў Беларусі. Многія госці пакідалі свае аўтографы ў музейнай кнізе. Захаваўся аўтограф Дануты Бічэль: «Прыемна бываць у такіх музеях, створаных рукамі і стараннямі саміх школьнікаў і энтузіястаў-настаўнікаў. Думаю, што вобраз паэта-змагара Валянціна Таўлая ў многім вызначыць напрамак грамадскага жыцця тых маладых душ, якія дакрануцца да гэтай літаратурнай з’явы. Дзякуй шчыра».

У 1990-х гадах музей Таўлая ліквідавалі. А ў 2011 годзе ў Слонімскім агульнаадукацыйным ліцэі пакой-музей Валянціна Таўлая і літаратурнай Слонімшчыны з’явіўся зноў. Хочацца спадзявацца, што гэта ўжо надоўга.



# АДЧУВАННЕ СЭРЦАМ

Здавалася, што ён будзе жыць заўсёды. Апантаны, шчыры, цікавы, бадзёры і культурны. Валянцін Іванавіч Ермаловіч — мой дарагі настаўнік, сябра, дарадца. Ён памёр раптоўна, вымавіўшы толькі адно слова: «Сэрца». Гэта адбылося 22 снежня 2004 года. Хаця праз тры месяцы ён рыхтаваўся адзначыць сваё 80-годдзе. Не паспеў…

Пазнаёміўся я з Валянцінам Іванавічам Ермаловічам летам 1974 года, калі паступаў на тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча. Я, вясковы хлопчык са Слонімшчыны, які з дзяцінства марыў стаць акцёрам і рэжысёрам, неяк прачытаў у газеце аб'яўку, што ў далёкім Магілёве ёсць такое вучылішча, куды пасля 8-га і 10-га класаў прымаюць хлопчыкаў і дзяўчынак. Сабраў чамаданчык і паехаў у невядомы вялікі горад на Дняпры. Тады мне яшчэ не было і 16 гадоў. Знайшоў я гэтае вучылішча, здаў дакументы і… дачакаўся ўступных экзаменаў. Але перад імі абітурыентам неабходна было расказаць верш, кавалачак прозы і паказаць сцэнічны эцюд. Верш і прозу я ведаў, а вось што гэта за эцюд — першы раз чуў. За некалькі хвілін да паказу эцюда я атрымаў кансультацыю ў дзяўчат, якія паступалі разам са мною. Яны былі больш вопытныя ў тэатральнай справе, бо ў сваіх гарадах наведвалі драмгурткі і народныя тэатры, таму добра ведалі, што такое эцюд і як яго трэба паказваць. На хаду прыдумаў свой уласны эцюд і пайшоў перад прыёмнай камісіяй на маленькай спецыяльнай сцэне яго паказваць. Сюжэт эцюда быў вельмі просты і нават смешны: я пайшоў у грыбы, там убачыў лісіную нару, пачаў чакаць, калі ліса адтуль вылезе, каб яе злавіць за хвост. Замест нары — паклаў на сцэне крэсла. Гэта дазвалялася. У прыёмнай камісіі сядзелі чалавек восем. Сярод іх быў і Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Усе ўважліва глядзелі, што я буду паказваць. І вось у самы





адказны момант эцюда, калі нібыта ліса «выскачыла» з нары і я кінуўся яе «лавіць», крэсла ад майго падзення паляцела проста на прыёмную камісію. Але я не разгубіўся, а паказаў эцюд да канца. Пасля падзякаваў усім за ўвагу, выйшаў на калідор. Адразу падумаў, што ўсё — мяне не дапусцяць да асноўных экзаменаў, таму што я не здаў эцюд. Але выйшла ўсё наадварот. Памятаю, выступаў Валянцін Іванавіч, які перад абітурыентамі сказаў, што лепш за ўсіх эцюд паказаў Чыгрын.

Так я стаў навучэнцам Магілёўскага культасветвучылішча. Але рэжысуру ў нас выкладаў не Валянцін Ермаловіч, а Леанід Багам’я, якога ў 60-гадовым узросце некалькі гадоў таму скасіў інфаркт. Гэтыя рэжысёры сябравалі. Больш вопытны Валянцін Іванавіч бываў у нас на занятках і рэпетыцыях, дапамагаў маладому рэжысёру і выкладчыку Леаніду Багам’і. Вельмі часта Валянцін Ермаловіч гутарыў са мной, цікавіўся маім жыццём, называў мяне сваім земляком, заходнікам. Мне ад гэтага было цяплей і лягчэй. А яшчэ Валянцін Іванавіч заўсёды размаўляў на беларускай мове. І ўсе навучэнцы, якія з ім гутарылі, стараліся размаўляць таксама па-беларуску.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, Валянцін Іванавіч аднойчы мне сказаў: «Я гутарыў са сваім сябрам паэтам Аляксеем Пысіным пра цябе. Заўтра ў памяшканні рэдакцыі «Магілёўская праўда» будзе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб’яднання. Выберы найлепшыя вершы і сходзі туды…».

Я вельмі хваляваўся, бо ўпершыню выносіў на суд свае яшчэ кволыя першыя творы. У рэдакцыі сустрэлі мяне шчыра і дабрадушна. За сталом моўчкі сядзеў Аляксей Васільевіч Пысін. Маўчаў ён і тады, калі ўсе па чарзе чыталі свае вершы (пераважна рускамоўныя). Пасля паэты паміж сабою пачалі спрачацца і нават сварыцца. Напрыканцы літаб’яднання загадчык



ідэалагічнага аддзела газеты таварыш Ізотаў даў слова Аляксею Пысіну. Аляксей Васільевіч ціха сказаў: «З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына. Іх я і буду прапаноўваць на нашу літаратурную старонку».

Праз некалькі дзён я атрымаў ад Аляксея Пысіна ліст, дзе ён прасіў тэрмінова прыслаць два вершы, выбраныя з усіх мной прачытаных для літстаронкі. Я даслаў адзін верш пра хлеб. Ён і быў надрукаваны ў магілёўскай абласной газеце.

За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі. У Магілёўскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянцін Ермаловіч быў адказны за нумары мастацкай самадзейнасці, а Аляксей Пысін — за літаратурную частку. Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва. З ініцыятывы Аляксея Пысіна мы разам з Валянцінам Ермаловічам выдавалі ў вучылішчы рукапісны літаратурны часопіс «Лучынка». Знайсці б цяпер хоць адзін нумар…

Валянцін Ермаловіч вельмі любіў беларускую паэзію. Ён вучыў мяне дэкламаваць вершы са сцэны. У той час мой настаўнік асабліва захапляўся паэзіяй Янкі Непачаловіча. Неяк паехалі выступаць на Краснапольшчыну. У сельскім Доме культуры сабралася поўная зала людзей. На першым радзе сядзелі кіраўніцтва мясцовага калгаса, Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч. А я на сцэне чытаю Янку Непачаловіча:

Хоць нельга і розум, і сэрца
Пакласці на шалі,
Ды ўсё ж чалавек пазнаецца
Па крупнай дэталі…





Зала прыціхла. Аляксей Пысін, апусціўшы галаву, нешта думаў, а пасля сказаў: «Добра, Сярожа, добра!..» У гэты вечар мы яшчэ паказалі жарт Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка», дзе я іграў Саўку, мае аднакурснікі Генадзь Гавароўскі — жабрака, а Валянціна Паўлоўская — Магрэту. Зала ад смеху проста грымела. Нас выклікалі некалькі разоў на біс. А пасля канцэрта Валянцін Іванавіч мяне абняў і сказаў: «Маладзец!»

У 1977 годзе я скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і пайшоў у войска. Пасля войска паступіў у Белдзяржуніверсітэт. З Валянцінам Ермаловічам сувязі на пэўны час згубіліся. Аля пасля мы зноў з ім выпадкова сустрэліся ў Мінску ў Доме літаратараў. З яго слоў і са слоў краснапольскага краязнаўца Леаніда Васільевіча Лабаноўскага я даведаўся, што ў канцы 1970-х гадоў Краснапольскаму народнаму тэатру пагражала закрыццё. І Валянцін Іванавіч, жывучы ў Магілёве, вырашыў узначаліць гэты калектыў. Працуючы выкладчыкам рэжысуры Магілёўскага культасветвучылішча, ён адначасова ўзваліў на свае плечы і гэтую нялёгкую ношу: рабочыя дні ў вучылішчы, выхадныя — у Краснаполлі. Гутарыў з аматарамі сцэны, пераконваў, вяртаў надзею. Вывучаў здольнасці ўжо вядомых краснапольцам выканаўцаў, адкрываў новыя імёны. А там — адна прэм’ера, другая, трэцяя… І — поспех! Заслужаны поспех! І тады, як гэта ў нас часта бывае, знайшліся зайздроснікі, ледзь не хапугам аб’явілі Ермаловіча: маўляў, дзве зарплаты заграбае. Паляцелі пасквілі ў Міністэрства культуры БССР. І адабралі тады ў Валянціна Іванавіча рэжысёрскі аклад. Ды не адабралі волю, нават не пахіснулі яе. Ён па-ранейшаму прыязджаў у выхадныя дні ў Краснаполле і з яшчэ большым запалам працаваў і працаваў. Рабіў гэта не дзеля славы, не. Яму не давалі спакою трапныя словы Максіма Гарэцкага, што



заселі ў памяці: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця…» І ён гукаў. Гукаў праз вобразы герояў сваіх спектакляў паводле п’ес беларускіх драматургаў. А восенню 1987 года мне ў Слонім з Магілёва ад Валянціна Ермаловіча прыйшоў пакет. Адкрываю — а там афіша да спектакля «Снатворны Мак», праграмка спектакля, фотаздымкі сцэн з гэтай пастаноўкі і пісьмо. У ім мой старэйшы сябра пісаў: «Краснапольскі народны тэатр упершыню ажыццявіў пастаноўку спектакля па п’есе твайго земляка Кандрата Лейкі «Снатворны Мак». Я быў страшэнна ўзрадаваны і здзіўлены пастаянным імкненнем Валянціна Іванавіча да новага. Ён заўсёды быў у пошуку. На сцэну «выцягваў» не тое, што ўжо было абкатанае іншымі творчымі калектывамі, а нешта новае, забытае, арыгінальнае. Так сталася і з п’есай Кандрата Лейкі «Снатворны Мак». Сапраўды, яе ніхто ніколі не ставіў. Яна была выдадзена асобнаю кніжачкай у Вільні ў 1912 годзе і прысвечана вясковым дзецям Слонімскага павета. А сцэнічнае жыццё атрымала ў Краснаполлі праз 75 гадоў пасля яе выдання. І гралі ролі ў гэтым спектаклі дзеці з маладзёжнай студыі народнага тэатра. Да сённяшніх дзён больш ніхто так і не ажыццявіў пастаноўкі «Снатворнага Маку».

Краснапольскі народны тэатр Валянцін Ермаловіч узначальваў 14 гадоў. За гэты час калектыў тэатра прымаў удзел у абласных, рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных аглядах-конкурсах, выступаў па тэлебачанні, на розных фэстах і сустрэчах. І адусюль прывозіў дыпломы і прызавыя месцы. Ён быў узнагароджаны Граматаю Вярхоўнага Савета БССР, станавіўся лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Магілёўшчыны. А рэжысёр тэатра Валянцін Ермаловіч атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі.





Пасля Краснаполля Валянцін Іванавіч працаваў рэжысёрам Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача, а потым — рэжысёрам народнага тэатра «Валянцін» Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку. Ён планаваў, пасля свайго 80-годдзя, падрыхтаваць і выдаць кнігу «Запіскі рэжысёра народнага тэатра». Прасіў майго аднакурсніка, журналіста і пісьменніка Міхася Карпечанку з Бялынічаў, быць рэдактарам гэтай кнігі. Дарэчы, у 2002 годзе Міхась даслаў мне ў Слонім сваю кніжку п'ес «Дачка волі». Уступнае слова да гэтай кніжкі напісаў Валянцін Ермаловіч. Даведаўшыся, што Міхась дасылае мне сваю кніжку, пасля ўступнага слова Валянцін Іванавіч дапісаў ручкаю пару слоў: «Дарагі Сяргей. Вельмі рады за тваю актыўнасць на ніве беларускага адраджэння. Жадаю поспехаў і надалей! В. Ермаловіч. 8 мая 2002 г.».

Валянцін Іванавіч заўсёды любіў казаць: «Мы дзейсна павінны ўсведамляць словы Якуба Коласа: «Трэба шырыць ідэю тэатра, несці яго ў самыя нізіны. Беларус, як мне здаецца, мае вялікую здольнасць да тэатра». Валянцін Ермаловіч адчуваў сэрцам гэтую кранальную здольнасць, гэтае духоўнае яднанне сцэны і залы. І ганарыўся, што ён беларус. А я буду заўсёды ганарыцца, што ён быў маім настаўнікам і старэйшым сябрам.



# ПАЧЫНАЕЦЦА ЎСЁ З ЛЮБВІ...

Мае равеснікі і старэйшыя па пяру літаратары яе добра ведалі, паважалі і любілі. Мы зачытваліся яе шчырай, светлай лірыкай. Мы вучыліся ў яе пісаць: проста, лёгка, вобразна:

Рэчаньку цёплую пяройдзеш ты,
Я ж — па тонкім лядочку.
Два слядочкі — да цемнаты,
А два — праз глухую ночку.

Позняй восенню 1979 года я прыйшоў з войска. І, каб не сядзець год без справы, уладкаваўся загадчыкам Сынковіцкага сельскага клуба Зэльвенскага раёна. Вёска Сынковічы побач з маёй роднай вёскай Хадзявічы Слонімскага раёна. Дзве вёскі якраз знаходзяцца на мяжы двух раёнаў. Да клуба ад маёй хаты хвілін дзесяць язды на ровары. Бываў я ў Сынковічах не кожны дзень, таму дома ў вольны час рыхтаваўся да паступлення ў Белдзяржуніверсітэт, пісаў вершы, замалёўкі, вёў вялікую перапіску з пісьменнікамі і з сябрамі. Сусед мой выпісваў «Сельскую газету» і, седзячы на прызбе, кожны дзень чытаў. Аднойчы і я ўзяў паглядзець гэтую «Сельскую газету» («Белорусская нива»). І мне якраз трапіў той нумар, дзе на чацвёртай старонцы друкаваліся вершы і розныя матэрыялы на тэму культуры. Вырашыў і я даслаць падборачку сваіх вершаў у «Сельскую газету». Тым больш, што я вярнуўся з войска дамоў, у сельскую мясцовасць, працую ў клубе, ды яшчэ пішу вершы. Пра гэта я таксама паведаміў у пісьме. Праз тыдзень атрымліваю з газеты ліст ад літаратурнага кансультанта гэтага выдання. А кансультантам тады была Яўгенія Янішчыц. Яўгенія Іосіфаўна напісала ліст вельмі шчыра, каб не пакрыўдзіць мяне, каб не спалохаць. Яна пахваліла мае вершы, раіла пісаць больш і дасылаць ёй усё





самае лепшае. Але ў канцы пісьма паэтка сказала, што вершы апублікаваныя не будуць, бо да ўзроўню рэспубліканскай газеты яны яшчэ не дацягваюць.

Але мяне ліст узрадаваў. Таму я зноў і зноў дасылаў вершы Яўгеніі Янішчыц у «Сельскую газету». А яна мне адказвала, вучыла мяне пісаць, давала розныя парады, заўвагі, пажаданні. А 9 красавіка 1980 года ад яе я атрымаў і такі ліст: «Добры дзень, дарагі Сяргей! Уважліва прачытала два тваіх вершы: «Вёска — радасць мая» і «Беларусь — мая калыска». Падкупляе сваёй шчырасцю верш «Беларусь…» І асабліва — такія радкі: «да цябе зноў вяртаюся жменькаю ўспамінаў, і ты — як сон перад вачыма». Хораша і паэтычна сказана! Хацелася б пажадаць табе такой шчырасці і надалей, сваіх нечаканых і адметных мастацкіх вобразаў. Верш «Беларусь» буду прапаноўваць у друк. Дашлі свае вершы (гэтыя і новыя) на радыё («Шчырага сэрца парывы») і напішы пра сябе: дзе і калі нарадзіўся, што скончыў і г. д. Я вяду гэтую перадачу, і хацелася б цябе прадставіць нашаму рэспубліканскаму слухачу. Для «Сельскай газеты» дашлі сваё фота і яшчэ новыя вершы. Ці друкаваўся дзе раней? Пішы тэрмінова. З пажаданнем поспехаў Яўгенія Янішчыц».

Ад такога ліста я быў на сёмым небе ад радасці. Хуценька ўсё выканаў, аб чым прасіла Яўгенія Іосіфаўна. Паслаў у газету некалькі новых вершаў і фотаздымак, а таксама падборку вершаў на радыё. Сапраўды, Яўгенія Янішчыц вяла тады на радыё адзін раз на месяц літаратурную перадачу «Шчырага сэрца парывы». Я стараўся не прапускаць гэтыя перадачы, а аднойчы, дзякуючы паэтцы, пачуў там і свае вершы. Не ведаю, ці гучыць цяпер на Беларускім радыё такая цудоўная літаратурная перадача, якая ў 1980-я гады гучала галасам Яўгеніі Янішчыц.

Не прайшло і месяца, як у «Сельскай газеце» з’явілася падборка маіх вершаў з фотаздымкам і ўступным словам Яўгеніі Янішчыц. Я не буду хваліцца



тымі цёплымі радкамі, якія пра мяне напісала паэтка. Скажу толькі, што да сённяшніх дзён я ведаю іх на памяць. І газету тую берагу, як самую дарагую рэч. Калі чытаю-перачытваю яе, слёзы з’яўляюцца на вейках: ці то ад радасці, ці то ад суму, ці то ад болю. І прыгадваюцца радкі Яўгеніі Янішчыц:

Як дзіўна і зусім незразумела:
Між усяго, што ў сэрцы набалела,
На нейкай дзікай сцежачцы лясной
Вярнуць ізноў празрысты свой настрой.

У жніўні 1980 года я паступіў у Белдзяржуніверсітэт. Наш філфак знаходзіўся тады на Чырвонаармейскай вуліцы, 6. Побач на Ульянаўскай вуліцы жыла Яўгенія Янішчыц, а зусім побач на вуліцы Карла Маркса, 40 была рэдакцыя часопіса «Маладосць». Надрукавацца ў тыя гады ў «Маладосці», ды яшчэ студэнту, было няпроста. Асабліва складана было з’явіцца на старонках выдання другі раз. Я неяк асмеліўся і вырашыў занесці з дзясятак вершаў у часопіс. Тым больш, што дэбютаваў тут у 1981 годзе, таму няхай ляжаць вершы і чакаюць сваёй чаргі. Я прыйшоў у аддзел прозы і паэзіі, дзе за сталом у кабінеце сядзеў адзін Уладзімір Дамашэвіч. «Я вяду аддзел прозы, а за паэзію ў нас адказвае Яўгенія Янішчыц. Пачакайце крыху, яна хутка павінна быць, бо жыве тут недалёка», — сказаў Уладзімір Максімавіч. Мы пачалі гутарыць, і праз хвілінку-другую зайшла Яўгенія Іосіфаўна, тая самая Яўгенія Янішчыц, з якой я перапісваўся і якую ўбачыў упершыню. Паэтка хутка распранулася, села за стол і пачала чытаць мае вершы. Вершы яна прачытала імгненна і для друку выбрала сем паэтычных твораў. «Але яны, Сяргей, будуць надрукаваныя крыху пазней», — сказала Яўгенія Іосіфаўна. Вершы, сапраўды, з’явіліся ажно летам 1985 года.

Так мы пазнаёміліся. І пасля часта сустракаліся ў Доме літаратараў, на розных сустрэчах і мерапрыем-




ствах. Яна заходзіла і да нас на філфак на сустрэчу з універсітэцкім літаб’яднаннем «Узлёт», якім кіраваў прафесар Алег Лойка. Гэта яму маладая Жэня Янішчыц прысвячала радкі яшчэ ў 1973-м:

Пакуль жыве ў душы пачатак,
Пакуль шляхоў не замяло,
Яшчэ злятаемся так часта
Пад Ваша дружнае крыло…

Жэня любіла «ўзлётаўцаў», бо сама была самай актыўнай «узлётаўкай». У 1967 годзе з друку выйшла другая паэтычная кніга паэтаў літаратурнага аб’яднання «Узлёт» пад назовам «Натхненне». Зборнік адкрываўся нізкаю вершаў Яўгеніі Янішчыц з яе фотаздымкам каля яблынькі. У 1971 годзе свет пабачыў новы паэтычны зборнік «узлётаўцаў» усіх пакаленняў. У ім быў змешчаны і верш Яўгеніі Янішчыц, верш, які памятаюць і ведаюць усе беларускія паэты:

Ты пакліч мяне. Пазаві,
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві,
А інакш і жыць немагчыма.

У маёй хатняй бібліятэцы ёсць усе зборнікі Яўгеніі Янішчыц. Некаторыя з іх з аўтографамі. Вось невялічкі і ладненькі зборнічак «Дзень вечаровы» (1974), за які паэтка атрымала прэмію Ленінскага камсамола Беларусі ў 1978 годзе. У асноўным гэта лірычныя вершы, дзе маладая на той час паэтка пісала пра родныя мясціны, пра вёску і землякоў і, вядома ж, пра каханне. Усе вершы з гэтага зборніка можна цытаваць, бо ім характэрны глыбокі і самабытны роздум над жыццём, акрэсленасць думкі, шматзначнасць вобраза:

Прыйдзі, падзелім напалам
Той ручаёк, які не высах,
Пакуль душа падобна высям,
А высі — светлым журавам…



У 1983 годзе з друку выйшла яе кніга паэзіі «Пара любові і жалю», за якую Яўгенія Янішчыц атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы. Пры жыцці былі яшчэ кнігі вершаў «Снежныя грамніцы», «Ясельда», «На беразе пляча», «Каліна зімы» і іншыя.

Я зноў перачытваю ўсе кнігі паэткі. Дзякуй Вам, Яўгенія Іосіфаўна, за Вашы цудоўныя вершы, за тое, што некалі дапамаглі мне знайсці і выбраць сваю літаратурную сцежку ў жыцці.

## СПЯШАЎСЯ ЖЫЦЬ ДЛЯ СЛОНІМШЧЫНЫ

У Слоніме часта прыгадваю настаўніка і краязнаўца Аляксандра Жукоўскага — апантанага, пунктуальнага, адданага энтузіяста сваёй справы. Такіх людзей у Слоніме сёння бадай няма.

Я яго бачыў і сустракаўся з ім у горадзе амаль штодня. Ён заўсёды з папкаю ў руках кудысьці спяшаўся, найперш да мясцовых чыноўнікаў, каб нешта ім паказаць, прапанаваць, папрасіць. Не часта яны слухалі Аляксандра Сямёнавіча, але ён не адступаў — заўсёды настырна, нават надакучліва стаяў на сваім і дабіваўся таго, чаго хацеў, што задумаў. Удача яму спрыяла. Я маю на ўвазе ўдача на ніве слонімскага краязнаўства, у дзейнасці ім створанага народнага музея СШ № 4 г. Слоніма, сёння народнага музея імя А. С. Жукоўскага. Дарэчы, гэты музей Аляксандр Жукоўскі стварыў у 1969 годзе. У СШ № 4 г. Слоніма ён спачатку займаў увесь трэці паверх школы, а цяпер музей месціцца ў асобным будынку, агульнай плошчай 300 кв. м. У фондах музея сёння захоўваецца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў, сабраных Аляксандрам Жукоўскім. Найбольш экспанатаў, прысвечаных Другой сусветнай вайне. Ёсць шмат дакументаў 1920–1930-х гадоў, скульптурныя партрэты, творы жывапісу вядомых





беларускіх мастакоў, некаторыя адзінкі зброі, узнагароды, франтавыя пісьмы, фотаздымкі, альбомы і г. д.

Экспазіцыі школьнага музея сёння складаюцца з наступных раздзелаў: «Наш край у 1914–1920 гадах», «Слонімшчына пад уладай Польшчы ў 1920–1939 гг.», «Сацыяльныя ператварэнні на Слонімшчыне (1939–1941)», «Наш край у гады Другой сусветнай вайны», «Слонімшчына сёння», «Выпускнікі СШ № 4». Па ўсіх гэтых раздзелах, дзякуючы найперш Аляксандру Жукоўскаму, сабраны вельмі багатыя і цікавыя матэрыялы.

У 1992 годзе я папрасіў Аляксандра Сямёнавіча напісаць для мяне сваю біяграфію. Ён спачатку аднекваўся, маўляў, не люблю пісаць аўтабіяграфій, але потым неахвотна пагадзіўся і праз некалькі дзён мне яе прынёс, надрукаваную на пішучай машынцы. Гэта біяграфія захоўваецца ў мяне да сённяшніх дзён. З яе я даведаўся, што не так проста і лёгка складваўся жыццёвы лёс Аляксандра Жукоўскага.

Нарадзіўся ён у беларускай сям’і, якая, як і тысячы беларусаў, была эвакуіравана ў глыб Расіі. Сям’я Жукоўскіх апынулася аж у Арэнбургу, дзе іх напаткала вялікае гора. Там памерлі маці, два браты і сястра. Бацька Аляксандра Жукоўскага Сямён Мікалаевіч дамоў у родную вёску Ашнаравічы на Слонімшчыну вярнуўся з маленькім Сашам і са сваёй маці. Сашу Жукоўскаму тады было ўсяго 6 месяцаў. Але бацька хутка зноў ажаніўся, і ў Сашы з гадамі з’явілася яшчэ 5 братоў і сясцёр.

Першым і галоўным настаўнікам Сашы Жукоўскага быў ягоны бацька — сельскі шавец, якога ў Ашнаравічах і ў навакольных вёсках добра ведалі як дасціпнага чалавека і выдатнага майстра. Ён вельмі хацеў, каб сын атрымаў адукацыю. Таму спачатку хлопчык скончыў сямікласную польскую школу ў вёсцы Дзераўная, а потым, параіўшыся са сваім настаўнікам Стэфанам Іванашкам, здаў уступныя экзамены ў польскую

дзяржаўную гімназію імя Т. Касцюшкі № 922 у Слоніме. Паколькі плаціць за навучанне Жукоўскаму не было чым, Стэфан Іванашка дапамог яму за дзяржаўны кошт паступіць у гімназію № 5 Ю. Панятоўскага ў Варшаву. Туды і паехаў вучыцца беларускі юнак. Там правучыўся да пачатку Другой сусветнай вайны і ў канцы 1939 года вярнуўся ў Слонім. На радзіме паступіў у Першую беларускую сярэднюю школу, якую закончыў паскораным тэмпам, бо датэрмінова здаў усе экзамены.

Падчас вайны Аляксандр Жукоўскі жыў з бацькамі ў Ашнаравічах. Працаваў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Дзераўная. Вайна вайной, а дзяцей вучыць трэба было. Што і рабіў малады беларускі настаўнік.

Пасля вайны ўсё сваё жыццё звязаў з педагогікай. Ён скончыў гістарычны факультэт Баранавіцкага дзяржаўнага беларускага педагагічнага інстытута, працаваў загадчыкам Ашнаравіцкай пачатковай школы, потым Ёцавіцкай, Горкаўскай школ на Дзятлаўшчыне, намеснікам дырэктара і дырэктарам Вішаўскай школы, потым дырэктарам Чамяроўскай васьмігадовай школы на Слонімшчыне і г. д.

У вёсцы Чамяры напачатку 1960-х гадоў Аляксандр Жукоўскі пачаў збіраць першыя звесткі пра гісторыю роднага краю. А аднойчы ў школу ён запрасіў усіх вяскоўцаў і выступіў з дзіўнай па тых часах прапановай адкрыць у Чамярах музей. Некаторыя нават на смех яго падннялі: хіба няма больш важнай справы, чым музей?.. Але Аляксандру Жукоўскаму ўдалося зацікавіць людзей, і хутка ў Чамяроўскай школе адкрыўся краязнаўчы куток, а потым музей, які праз пэўны час стаў народным. На жаль, цяпер даўно ў Чамярах няма школы і слядоў не засталося ад таго музея. І куды ж падзеліся ўсе экспанаты?..

У 1964 годзе Аляксандр Жукоўскі стаў працаваць настаўнікам гісторыі ў СШ № 4 г. Слоніма. Але і тут ён займаўся не толькі педагогікай, але і краязнаўчай, музейнай справай. Створаны ім музей у СШ № 4





г. Слоніма да сённяшніх дзён лічыцца адным з найлепшых школьных музеяў рэспублікі. Выключная працавітасць, выдатная памяць, талент даследчыка, прынцыповасць, настойлівасць і неардынарнасць думкі дапамагалі яму да апошніх дзён жыцця весці пошукавыя і даследчыя працы па ўзнаўленню гераічнага мінулага Слонімшчыны.

Акрамя гэтага Аляксандр Жукоўскі на працягу ўсяго свайго жыцця шмат пісаў і друкаваў сваіх артыкулаў па гісторыі, краязнаўству і педагогіцы. У 1971 годзе (другое выданне выйшла ў 1973 годзе) выдавецтва «Народная асвета» выпусціла ў свет ягоную кнігу «Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы», дзе аўтар абагульніў свой багаты вопыт па зборы матэрыялаў і арганізацыі школьнага музея, цікава распавёў пра разнастайную працу юных краязнаўцаў, пра тое, як трэба выкарыстоўваць матэрыялы музея ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце ў школе і па-за школай. А ў 1990 годзе ў Гродне выйшла яго невялікая кніжачка «Назаві яго імем», прысвечаная героям Другой сусветнай вайны.

Дзякуючы Аляксандру Сямёнавічу Жукоўскаму, савету яго музея ўдалося ўстанавіць 55 прозвішчаў савецкіх воінаў, якія загінулі падчас вайны на тэрыторыі Беларусі. На тэрыторыі школы ў гонар удзельнікаў баёў за Слонім у гады Другой сусветнай вайны быў адкрыты памятны абеліск…

Пры жыцці Аляксандр Жукоўскі быў узнагароджаны шматлікімі нагруднымі знакамі, медалямі, граматамі, у тым ліку і граматай Савета Міністраў СССР. У 1990 годзе яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. Але, на жаль, хадайнічалі ў гэтым не слонімскія чыноўнікі, а зусім іншыя людзі. У Слоніме такіх людзей не ўмелі і не ўмеюць пры жыцці і пасля жыцця ўшаноўваць і шанаваць.

# НА РАДЗІМЕ ВАСІЛЯ ЗАХАРКІ

Вёска Дабрасельцы, дзе нарадзіўся беларускі палітычны дзеяч, другі прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Захарка (1877–1943), — глыбінка Зэльвенскага раёна, ад райцэнтра да вёскі больш за 20 кіламетраў.

У канцы XIX стагоддзя вёска і маёнтак былі ўласнасцю Ігната Шырмата, які меў 799 дзесяцін зямлі. На пачатку XX стагоддзя ў Дабрасельцах жыло каля 400 чалавек. Але з кожным годам вяскоўцаў станавілася ўсё менш і менш: у 1971 годзе іх жыло 288, у 2003 — 161 жыхар, а цяпер і таго менш. Паміраюць людзі, асабліва мужыкі.

У Дабрасельцы, калі ехаць з Зэльвы і Міжэрычаў, можна дабрацца з двух бакоў вёскі. Бо сама вёска — гэта адна доўгая заасфальтаваная вуліца. Праўда, некалькі дамоў стаяць крыху ўбаку ад галоўнай вясковай вуліцы. Мне патрапіць у Дабрасельцы давялося з боку праваслаўнай царквы святога Антонія, пабудаванай у 1893 годзе. Але на той час у царкве нікога не было, таму прыйшлося ехаць да вясковай крамы — у другі бок вёскі, каб пагутарыць з вяскоўцамі.

У краме ў Дабрасельцах было людна, вяскоўцы куплялі тавары, вялі розныя гутаркі пра сваё жыццё-быццё. Пытаюся ў вяскоўцаў:

— А ці ёсць у вашай вёсцы Захаркі?

— О-о-о! — усміхнуліся жанчыны. — У нас палова вёскі маюць прозвішча Захарка. А вам каторы патрэбен?

— Мне патрэбны сваякі Васіля Захаркі.

— А каторага Васіля?

— Таго, што жыў за мяжой у Чэхіі.

— А! Гэта трэба вам звярнуцца да Веры Міхальчык, яна жыве ў хаце пад нумарам 15. Кабета шмат ведае і памятае.





Жанчыны выйшлі з крамы і паказалі, дзе знаходзіцца хата Веры Іванаўны Міхальчык. Я паціху пайшоў па цэнтральнай вясковай вуліцы, потым з невялікага грудочка збочыў да хаты спадарыні Міхальчык. Мяне сустрэла невялікага росту бабуля, але яшчэ жвавая, зацікаўленая і гаваркая. Павітаўся і сказаў жанчыне мэту свайго візіту ў Дабрасельцы. Вера Іванаўна ўзрадавалася, запрасіла ў адзін з пакояў хаты і сказала, што ведае пра Васіля Іванавіча Захарку. «Мама мая Васілю Захарку была родная цётка», — сказала Вера Іванаўна. І адразу задала пытанне: «А ці праўда, што Васілю Захарку ў Слоніме паставілі бюст? І чаму гэта ў Слоніме, а не ў Зэльве?».

— У Слоніме, Вера Іванаўна, ёсць толькі бюсты Леніну. А Васілю Захарку няма. Але прыйдзе час, мы абавязкова паставім помнікі Васілю Захарку ў Зэльве, у Мінску і ў Дабрасельцах. А пакуль толькі адзін помнік яму ёсць на магіле на Альшанскіх могілках у Празе. А ці бачылі вы Васіля Захарку?

— Пры маёй памяці ён у Дабрасельцы прыязджаў два разы, але я яго не бачыла. Адзін раз, калі ён прыязджаў, я хварэла. Але я яму пісала лісты, дарослыя дыктавалі, а я пісала. Я вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, пісаць і чытаць умела. А вось жонку яго Пелагею бачыла некалькі разоў, яна родам з суседняй вёскі Бязводна.

— А ці ведаеце вы, кім быў Васіль Захарка?

— Здаецца, нейкім паслом.

— Так, 2 чэрвеня 1920 года ён быў прызначаны старшынёй Надзвычайнай Беларускай Дыпламатычнай Місіі БНР. Васіль Захарка накіроўваўся ў Маскву па запрашэнні міністра замежных справаў РСФСР Георгія Чычэрына. Там ён выконваў абавязкі старшыні місіі БНР у Маскве. Захарка намагаўся прызнання незалежнасці Беларусі перад савецкімі ўладамі, арганізацыі войска, вызвалення беларускіх палітвязняў ва Усходняй Беларусі і матэрыяльнай дапамогі. А з

1928 года да смерці ён узначальваў Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта значыць быў яе прэзідэнтам.

— Вось гэта я ад вас чую ўпершыню. Няўжо ён такі знакаміты беларус?

— Вельмі знакаміты ваш сваяк, Вера Іванаўна. А дзе яго была хата, дзе ён жыў?

— Побач з нашай. Але хаты той даўно няма, толькі месца засталося, дзе яна стаяла.

Вера Іванаўна з суседкай паказала мне месца, дзе стаяла хата Захаркі. Маладыя гады будучага прэзідэнта ў Дабрасельцах былі няпростыя. На шаснаццатым годзе жыцця ён застаўся сіратою, маючы пад сваёй апекай сястру і двух братоў. Але Васіль не падаў духам: улетку ён вёў гаспадарку, а ўзімку вучыўся. А ў 1898 годзе быў прызваны на вайсковую службу…

— Вера Іванаўна, а ці ёсць у вас якія-небудзь фотаздымкі Васіля і Пелагеі Захаркаў? — пытаюся ў спадарыні Міхальчык.

— У мяне няма, але, мабыць, ёсць у маёй малодшай сястры Валі.

Мы пайшлі паціху да сястры Веры Міхальчык — Валянціны. Яна адна жыве ў вялікім цагляным доме. Ці не самы вялікі ў Дабрасельцах. «Такі вялікі дом Вы пабудавалі сабе ў Дабрасельцах?», — пытаюся ў спадарыні Валянціны.

— Ды гэта не мой. Тут жыў Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Жамойцін. А калі ён памёр — мы выкупілі ў калгаса гэты дом. Вось цяпер адна тут і жыву, муж памёр, — сказала Валянціна Іванаўна.

— А за што Аляксандр Жамойцін атрымаў такое вялікае званне?

— Атрымаў ён гэта званне ў 1972 годзе за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў земляробства. Вось за гэта тады давалі такія высокія званні.

— Спадарыня Валянціна, а ці ёсць у вас здымкі Васіля Захаркі?





— Былі два, але забрала дачка. Яна жыве ў Маладзечанскім раёне.

— А што гэта былі за здымкі?

— На адным — Васіль Захарка з жонкай Пелагеяй. Ён сядзіць, а яна стаіць побач з ім, паклаўшы яму руку на плячо. Здаецца, здымак быў зроблены ў 1920-х гадах. І на другім здымку — Васіль Захарка ў Коўне.

— Я ведаю гэтыя здымкі. Яны друкаваліся ў часопісе «Спадчына» ў 1994 годзе…

Пакуль мы гутарылі на вуліцы ў Дабрасельцах, да нас падыходзілі іншыя людзі — і сваякі Васіля Захаркі, і проста вяскоўцы, якія мелі прозвішча Захарка. Яны прасілі напісаць пра іх, пра тое, што многія з жанчын па 20–30 гадоў адпрацавалі даяркамі, свінаркамі ў калгасе, а з пенсіяй іх дзяржава падманвае. Напісаць пра тое, як працуе ў Дабрасельцах магазін, як лечаць старых людзей у бальніцах і г. д. Пытанняў і праблем у вяскоўцаў шмат…

Калі я развітваўся з Захаркамі з Дабрасельцаў, спадарыні Вера і Валянціна сказалі, што, магчыма, яны не дажывуць да таго часу, калі іх сваяку Васілю Захарку паставяць у Зэльве помнік. Я запэўніў іх, што дажывуць і што падчас адкрыцця помніка, яны выступяць са шчырай прадмовай. Вяскоўцы падзякавалі за памяць і запрасілі часцей бываць на радзіме прэзідэнта БНР Васіля Захаркі.

*2012*

## ЛЮБІЎ СВАЮ БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Са шчырым беларусам, добрым настаўнікам і краязнаўцам са Слоніма Уладзімірам Шундрыкам пазнаёміўся я ў другой палове 1980-х гадоў. Гэта ён, Уладзімір Іванавіч, мне падараваў тады кнігі Уладзіслава Казлоўшчыка, Сяргея Хмары, Станіслава Грынкевіча, Хведара Ільяшэвіча, якія выдаваліся ў



Заходняй Беларусі ў 1930-х гадах. Аднойчы Уладзімір Шундрык паказаў мне кнігу Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сёння», выдадзеную ў 1943 годзе ў Мінску. «Гэтую кнігу я хачу падараваць табе, каб ты добра вывучыў гісторыю нашай Бацькаўшчыны і ведаў праўду», — сказаў мне Уладзімір Іванавіч. Я «адным глытком» яе «праглынуў», потым чытаў і перачытваў дзясяткі разоў. Яна і цяпер стаіць на паліцы на самым відным месцы ў маёй кватэры.

Уладзімір Іванавіч Шундрык нарадзіўся ў Рышчыцах (цяпер мікрараён Слоніма. — *С. Ч.*). Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Слоніме. Вось што пра яго вучобу прыгадвае былы настаўнік, цяпер пенсіянер Мікалай Ракевіч: «Сам Валодзя мне расказваў пра вучобу пры немцах. Ён казаў, што ў школе працавалі даволі адукаваныя настаўнікі, таму на ўроках заўсёды было цікава. Настаўнікі адкрывалі нам праўдзівую гісторыю Беларусі, распавядалі пра выдатных дзеячаў, якія праславілі наш край. Запомніўся асабліва настаўнік Паважынскі. Яго ўрокі мы чакалі з нецярпеннем, яны прабягалі для нас, як адна хвіліна. Цікавая работа вялася і па лініі Саюза беларускай моладзі (СБМ). Усе вучні былі сябрамі СБМ. Насілі сваю адметную форму, якую выдавалі бясплатна. У летні час у Альбярціне праводзілася работа з дружынамі: вучні развучвалі беларускія песні, рыхтавалі сцэнары розных мерапрыемстваў. Потым дружыновыя вялі такую работу ў сваіх дружынах. Шмат увагі надавалася спорту. Перыядычна адбываўся збор арганізацыі СМБ на гарадской цэнтральнай плошчы ў Слоніме. Завяршаўся збор паходнай песняй і маршыроўкай. Ніякай антысавецкай агітацыі не праводзілася. Нават настаўнікі нашы стараліся нас папярэдзіць, каб мы не ўдзельнічалі ні ў якіх палітычных мерапрыемствах».

Але, на жаль, дзейнасць Саюза беларускай моладзі (СБМ) у пасляваенныя гады трактавалася савецкімі





уладамі як калабарацыя з нямецкімі акупантамі, а ягоныя сябры амаль усе былі рэпрэсаваныя. Баяўся рэпрэсій і Уладзімір Шундрык. Летам 1944 года ён хацеў з'ехаць на Захад. Нават сеў у цягнік, але бацька адшукаў юнака, зняў з цягніка і забраў дахаты. А калі Слонім занялі савецкія войскі і прыйшла ў Слонім зноў савецкая ўлада, Уладзіміра Шундрыка некалькі разоў выклікалі на допыт супрацоўнікі НКУС. Яны распытвалі пра СБМ, пагражалі арыштам і расстрэлам. Але на адным з допытаў Уладзімір сказаў, што кінуў вучобу ў школе, не быў у СБМ, а працаваў вучнем у каваля. Больш яго НКУС не чапаў.

У 1951 годзе Уладзімір Шундрык скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Па накіраванні спачатку настаўнічаў на Міншчыне, але ў 1957 годзе вярнуўся ў родны Слонім, дзе шмат гадоў працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры, а таксама выкладаў сталярную справу.

У вольны час Уладзімір Шундрык даследаваў гісторыю роднага краю, сам спрабаваў пісаць, выступаў з артыкуламі на краязнаўчую і літаратурную тэматыку ў мясцовым і абласным друку. «Мне аднойчы запомніўся яго цікавы і змястоўны даклад пра Гальяша Леўчыка на секцыі настаўнікаў беларускай літаратуры, — прыгадвае настаўнік-пенсіянер Мікалай Ракевіч. — Валодзя меў схільнасць і да паэзіі, пісаў вершы на патрыятычныя тэмы, іншы раз па памяці дэкламаваў іх. Шкада, што я не запісаў вершаў Уладзіміра Шундрыка».

Адзін з твораў Уладзіміра Шундрыка быў надрукаваны ў зборніку «Золак над Шчарай» (Слонім, 1994), ён прысвячаўся роднай мове. Вось як гучыць адна страфа з таго верша:

Беларуская мова — гэта факел свабоды,
Гэта промень святла ў паднявольнай начы.
Паважае ўвесь свет толькі тыя народы,
Што змаглі сваю мову, свой край зберагчы…



Беларускую мову і слова Уладзімір Іванавіч Шундрык шанаваў, як самае святое на зямлі. Ён любіў Бацькаўшчыну і свой горад. Ён шчыра вітаў незалежнасць Беларусі, быў сябрам БНФ, прымаў удзел у многіх мерапрыемствах, якія ладзіліся сябрамі БНФ.

У апошнія гады ён жыў адзін. Слонімец перажываў за ўсё, што адбывалася ў Беларусі. Гэтыя перажыванні, адчай і самота ўкарацілі яму жыццё.

## ТАКІМ ЁН БЫЎ У ЖЫЦЦІ

Цяпер у вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна я бываю вельмі рэдка. А калі праязджаю праз гэта мястэчка і гляджу на вялікі дом Пятра Марціноўскага, то не магу супакоіцца — сэрца шчыміць, сумна да болю ад таго, што мяне больш ніколі не сустрэне гэты тактоўны, культурны, адукаваны і інтэлігентны чалавек. Яго не стала 1 лютага 2006 года. Але здаецца, што Пятро Мікалаевіч жыве і сёння, зараз выйдзе на панадворак, сустрэне, абдыме, мы сядзем у яго «Жыгулі» і паедзем у вандроўку па роднай Гарадзеншчыне. Ён нас, маладых, любіў, як родных дзяцей, пра нас пісаў, друкаваў нашы творы на старонках зэльвенскай «раёнкі», прапагандаваў нашу творчасць, арганізоўваў вечары і сустрэчы. Гэта быў апантаны і ўлюбёны чалавек — у жыццё, у літаратуру і ў родную Бацькаўшчыну.

Дом Пятра Мікалаевіча Марціноўскага ў Дзярэчыне прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі жартоўна называлі домам літаратараў. Калі б ні прыехаў у старажытны Дзярэчын — ноччу ці днём, у святы ці ў гарачы будзень, — з усмешкаю і з бацькоўскай цеплынёй Пятро Мікалаевіч заўсёды запрашаў у сваю светлую і прасторную хату. І не проста запрашаў, а смачна частаваў кумпячком ці вэнджанай каўбаскай і абавязкова наліваў самаробнага вінаграднага віна, якому мы далі назву «Marcini» (ад слова Марціноўскі).




І за гэтым частаваннем гадзінамі, а то і суткамі лілася гутарка пра лёс роднай мовы, пра літаратуру, гісторыю і пра Беларусь наогул.

У дзярэчынскім доме Пятра Марціноўскага пабывала шмат вядомых пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў, музыкантаў. Але часцей за ўсё ў Дзярэчын прыязджалі землякі — Павел Сцяцко, Міхась Скобла, Уладзімір Мазго, Юрка Голуб, Уладзімір Ягоўдзік, Валянцін Дубатоўка. А ў прыватнай бібліятэцы гаспадара засталіся кнігі з аўтографамі Максіма Танка, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Дануты Бічэль, Сяргея Законнікава — ці не палова прадстаўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Пра свае сустрэчы, знаёмствы і гутаркі Пётр Мікалаевіч планаваў напісаць і выдаць кнігу. І верылася, што яму гэта ўдасца. Не ўдалося, не паспеў. Бог яму адмерыў 74 гады.

Сам Пятро Марціноўскі быў родам з вёскі Катчына Мастоўскага раёна, хаця большая палова жыцця была пражыта ў Дзярэчыне — у малым Версалі, як назваў гэту вёску некалі беларускі эмігрант з ЗША Ян Пятроўскі.

Бацькі Пятра Марціноўскага былі звычайныя сяляне. Маці непісьменная, а бацька — самы адукаваны чалавек на вёсцы. Ён меў прыгожы почырк, пісаў і ведаў добра беларускую, рускую і польскую мовы. А яшчэ Мікола Марціноўскі быў майстрам на ўсе рукі, але найперш вясковым рацыяналізатарам. Сам зрабіў тры веялкі (у нас называюць іх архі) для ачысткі насення ад мякіны пасля абмалоту. Змайстраваў станок для вырабу прасяной крупы і шмат чаго іншага. «А яшчэ мой бацька, — згадаў неяк Пятро Марціноўскі, — пастаянна выпісваў газеты і часопісы. У нашым доме збіраліся вяскоўцы, дзе за газавай лямпай бацька чытаў людзям пра тое, што адбывалася ў свеце. А мы з братам, седзячы за сталом, рыхтавалі ўрокі. Я быў вельмі



задаволены, калі чытаць газеты давяралі і мне. Гэта было ў канцы саракавых гадоў мінулага стагоддзя…».

У 1944 годзе Пётр Марціноўскі паступіў у пяты клас Дзярэчынскай сярэдняй школы. Пачаў пісаць замалёўкі, вершы, інфармацыі ў зэльвенскую раённую газету. У школьныя гады захапляўся яшчэ музыкаю. Іграў нядрэнна на мандаліне. Нават марыў з адною дзяўчынай паступаць у кансерваторыю. Ды і да апошніх дзён жыцця Пятро Мікалаевіч паэзію і музыку любіў аднолькава. «Яны неяк узвышаюць чалавека духоўна, робяць яго міласэрным, гуманным і лепшым», — казаў Марціноўскі.

Пасля службы ў войску мой зямляк вярнуўся на радзіму і пачаў працаваць настаўнікам у Дзярэчынскай сярэдняй школе. Работу ў школе сумяшчаў з завочнай вучобай ў Гродзенскім педінстытуце. А з 1969 года і да пенсіі працаваў у гэтай школе намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце. Аб стылі работы і аб метадах навучання ў Дзярэчынскай СШ напісаў і выдаў брашуру «У нагу з часам» (1986).

Першыя селькораўскія карэспандэнцыі Пятра Марціноўскага былі надрукаваны ў пачатку 50-х гадоў у зэльвенскай раённай газеце. Пасля матэрыялы на самыя розныя тэмы з’яўляліся на старонках газет «Звязда», «Гродзенская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Наша слова» і ў многіх іншых рэспубліканскіх выданнях. Усё свядомае жыццё дзярэчынскага настаўніка хвалявалі пытанні адраджэння беларускай мовы, літаратуры і культуры. Адсюль вынікала і тэматыка ягоных публікацый. Самымі светлымі старонкамі ў жыцці Пятра Марціноўскага былі сустрэчы і шчырае сяброўства з беларускай паэткай Ларысай Геніюш. З ёю ён пазнаёміўся ў канцы 50-х гадоў, пасля таго, як паэтка была рэабілітавана і вярнулася ў 1956 годзе ў Зэльву. « Гэта была шчырая, добразычлівая і простая беларуская жанчына. З трывогай і надзеяй думала яна пра лёс роднай Беларусі, верыла ў яе адраджэнне, у





росквіт нацыянальнай культуры і мовы. Прыкладам бескарыснага служэння людзям з'яўляецца яе паэзія, яе жыццёвы подзвіг. Мне пашчасціла быць першым чытачом многіх вершаў, якія Ларыса Антонаўна з хваляваннем і гордасцю перш-наперш прачытвала сама», — расказваў Марціноўскі.

У 2002 годзе ў Слоніме выйшла з друку кніжка ўспамінаў пра Ларысу Геніюш Пятра Марціноўскага «Наша Лорка». Я быў рэдактарам гэтай кніжкі і напісаў да яе ўступнае слоўца.

Ларыса Антоноўна Геніюш часта гасціла ў Марціноўскіх у Дзярэчыне, ды і яны неаднаразова наведвалі хату Геніюшаў у Зэльве. Кніга «Наша Лорка» пачынаецца з успамінаў аб тым, як аўтар кнігі, Алесь Траяноўскі і Ларыса Геніюш ездзілі на матацыкле ў Гудзевічы да Алеся Белакоза, а таксама на радзіму паэткі — у засценак Жлобаўцы і ў вёску Палаўкі, што на Ваўкавышчыне. Там землякі Ларысы Геніюш ласкава называлі яе наша Лорка: «Наша Лорка прыехала. Прыходзьце да нас…».

Пётр Марціноўскі цікава распавядае ў кніжцы і пра тое, як Ларыса Геніюш напісала і чытала яму верш «Зубры», як яна па-мацярынску клапацілася пра Уладзіміра Караткевіча, якім апантаным кнігалюбам быў Янка Геніюш.

У кнізе «Наша Лорка» змешчаны таксама тэксты пісем і паштовак Ларысы Геніюш да Марціноўскіх, а яшчэ ўрыўкі з «Незакончанай паэмы» паэткі. Паэма цалкам нідзе не друкавалася, яна прысвечана рэпрэсіям на Беларусі ў 30–50-х гадах мінулага стагоддзя, падчас якіх загінула шмат беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў:

«На якой мове з табой гаварыць?
Знаеш расейскую?
Можа, выклікаць перакладчыка,
Можа, па-чэску?»
Гляджу адважна, не, не баюся:

«Не знаю рускай,
Вы жа міністр на Беларусі
Дык гаварыце, як тут належыць,
Па-беларуску!».
«Не, па-расейску ты загаворыш», —
Грыміць Цанава.
Мовы ён нашай знаці — не знае,
Ад злосці шэры.
Біч для народу, скула ліхая,
Піяўка на сэрцы!
Бесіцца люта і мне жадае.
Суддзі не суддзі,
Быццам не людзі,
Скалы сядзяць:
«За беларускасць няхай вам будзе
Лет дваццаць пяць!..»

Акрамя малавядомай паэмы ў кнізе змешчаны вершы гродзенскіх паэтаў, прысвечаныя Ларысе Геніюш, — Юркі Голуба, Дануты Бічэль, Міхася Скоблы, Уладзіміра Мазго, Ірыны Навуменка, Ірыны Войткі і іншых аўтараў. У кнізе надрукаваны таксама і рэдкія фотаздымкі.

На працягу 25 гадоў Пётр Марціноўскі кіраваў зэльвенскім раённым літаб’яднаннем «Зоры над Зальвянкай». Сам рыхтаваў вершы да друку, наладжваў літаратурныя сустрэчы, вечарыны. Па запрашэнню літаб’яднання на Зэльвеншчыне пабывалі пісьменнікі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Алег Лойка, Алесь Асіпенка, Мікола Гроднеў, Данута Бічэль, Юрка Голуб, Міхась Скобла, Уладзімір Мазго… Усіх і не пералічыць.

Перад смерцю ён падрыхтаваў добры том вершаў зэльвескіх паэтаў, амаль дамовіўся з дзярэчынскімі фундатарамі і хацеў выдаць іх асобнаю кніжкай пад назвай «Зоры над Зальвянкай». Зноў не паспеў. Прайшоў год пасля яго смерці, а кніжка так і не выйшла з друку: няма грошай. А ён так хацеў патрымаць




яе ў руках, парадаваць тых, каго ён чытаў, друкаваў на старонках зэльвенскай газеты «Праца», даваў дарогу ў літаратурнае жыццё. І толькі ў 2008 годзе ў Слонімскай друкарні «Зоры над Зальвянкай» пабачылі свет. Праўда, з кнігі выкінулі вершы Ларысы Геніюш і мой артыкул пра самога Пятра Марціноўскага.

Гэты цудоўны чалавек усё жыццё пражыў у глыбінцы, але ніколі не старэў душою, не заставаўся ў баку ад тых падзей, якія адбываліся ў нашым паўсядзённым жыцці. Калі надаваўся вольны час — ён ехаў у Мінск, Гародню, прымаў удзел у рэспубліканскіх і абласных літаратурна-мастацкіх мерапрыемствах. Ён быў дэлегатам першага, другога, трэцяга, чацвёртага з'ездаў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, выбіраўся сябрам Рэспубліканскай рады ТБМ. Літаратура і педагогіка ўсё жыццё крочылі з ім побач.

## ЗЕРНЕ ЗБІРАЎСЯ СЕЯЦЬ ВЯСНОЙ

Цяжка паверыць, што няма ўжо ў Паставах Леаніда Трубача. Няма майго аднакурсніка, сябра, філолага, педагога і, вядома ж, цудоўнага паэта. Невылечная хвароба 46-гадовага мужчыну скасіла вельмі хутка. Таму не верыцца, што Лёнька (мы так яго ўсе называлі) не патэлефануе, не прыедзе на сустрэчу аднакурснікаў, не прачытаем мы ў друку ягоных вершаў і педагагічных разважанняў.

Я шмат разоў збіраўся напісаць прадмову да ягонай адзінай пасмяротнай кнігі — не атрымлівалася, не пісалася, не выходзіла. Пры жыцці я б яму нагаварыў шмат кампліментаў і заўваг, а вось цяпер рабіць гэта цяжка, бо Лёні няма. Няма — а чуецца яго голас, бачыцца яго ўсмешка, згадваецца наша сумеснае студэнцкае жыццё. Вясёлае, цікавае, творчае… Лёнька ж быў сярод нас, юнакоў-філолагаў, самы малады, ён паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта адразу



пасля школы. І ў школе, і ў БДУ ён вучыўся добра, быў даволі адукаваным юнаком. Памятаю, як на першым курсе выкладчыкі вырашылі праверыць, ці здольныя студэнты паступілі на філфак. І ў кожнай групе вырашылі напісаць дыктоўку па рускай і беларускай мовах. З юнакоў лепш за ўсіх напісаў Лёня. Асабліва па рускай мове. Мы хлопцы нарабілі столькі памылак, што нават сорамна пра гэта сёння згадваць. Лёнька зрабіў толькі дзве памылкі, адна з іх была па пунктуацыі.

Пазнаёміўся я з ім на першым курсе ў 1980 годзе. Мы разам засяліліся ў адзін 704-ы пакой у студэнцкім інтэрнаце на Кастрычніцкай вуліцы ў Мінску. І ўсе гады пражылі разам у адным блоку, які складаўся з двух пакояў. Гэта былі самыя шчаслівыя гады нашага жыцця, хаця час быў не просты, як для беларускай культуры, так і для краіны ў цэлым. У вольны час мы наведвалі Нацыянальную бібліятэку, а таксама не прапускалі ніводнай футбольнай гульні на стадыёне «Дынама», бо жылі побач. Мы ведалі пра мінскае «Дынама» ўсё, а некаторых футбалістаў асабіста з таго залатога складу «Дынама» 1982 года. У нашым студэнцкім пакоі бывалі слынныя футбалісты мінскага «Дынама». Памятаю, неяк рана лёг спаць. Прыбягае Лёнька і будзіць: «Прачынайся, да нас госць прыйшоў — Віктар Шышкін». Сапраўды, Лёнька з хлопцамі прывёў вядомага футбаліста, які для нас наладзіў цэлую прэс-канферэнцыю.

З Лёнькам мы хадзілі на літаб’яднанне «Узлёт», якім кіраваў прафесар Алег Лойка. Нас нават запрасілі на VIII з’езд пісьменнікаў, дзе мы ўпершыню ўбачылі амаль усіх беларускіх пісьменнікаў, а таксама Ларысу Геніюш, якая сядзела ў зале з Нінай Мацяш і Уладзімірам Караткевічам.

Неяк Лёнька даведаўся ад старшакурснікаў, што выкладчык беларускай мовы Лявон Іванавіч Бурак пасля некалькіх лекцый дае дыктоўку. Тэкст дыктоўкі выкладчык ведае на памяць. Гэта пачатак аповесці Якуба Коласа «Дрыгва». Тэкст пачынаўся так: «Па-над




Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялікая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак…». Лёнька кажа: «Пойдзем у бібліятэку, возьмем «Дрыгву», сядзем за парты, пакладзем кнігі на калені і будзем пісаць дыктоўку». Мы так і зрабілі: увесь тэкст спісалі з кніг. А ў канцы дыктоўкі Лёнька кажа: «Можа, зробім па пару памылак, а то здагадаецца выкладчык, што спісалі…». Хлопцы пару памылак «зрабілі», а я не рабіў, я напісаў так, як было ў Коласа. Праз некалькі дзён Лявон Іванавіч Бурак прыходзіць на лекцыю, а я пытаюся ў яго: «Лявон Іванавіч, а як мы там напісалі дыктоўку?» — «Дрэнна, Чыгрын, дрэнна!» — адказаў выкладчык. «Чаму дрэнна?» — пытаюся ў яго, так хацелася крыкнуць, што мы ўсё спісалі так, як ёсць у Коласа. Але ён не адказаў, якія мы атрымалі адзнакі. Толькі выклікаў мяне да дошкі, дзе я дзве гадзіны даказваў, чаму я паставіў гэтыя знакі прыпынку, а не іншыя. Лёнька доўга рагатаў, маўляў, трэба было ўсё ж зрабіць пару памылак.

Леанід Трубач шмат чытаў. Але найбольш ён захапляўся паэзіяй свайго земляка Уладзіміра Дубоўкі. Пра Дубоўку ён мог распавядаць суткамі. Ужо тады, у 1980-я гады, ён расказваў нам пра тое, што паэт 27 гадоў прасядзеў у сталінскіх лагерах, а пасля рэабілітацыі яму не дазволілі жыць у Беларусі і ён стала асеў у Маскве. Ды і дыпломная праца ў Леаніда Трубача была прысвечаная творчасці Уладзіміра Дубоўкі. А кіраўніком гэтай працы быў Ніл Гілевіч.

У студэнцкія гады Лёнька Трубач, як і ўсе мы, хлопцы з правінцыі, жыў у Мінску сціпла. Калі што прывозілі з дому — частаваліся разам. Калі Лёнька даставаў з сумкі матуліны пачастункі, то казаў: «Частуйцеся, гэта з радзімы Уладзіміра Дубоўкі!» Радзіму сваю, Пастаўшчыну, ён дужа любіў.

Нарадзіўся Леанід Трубач 25 красавіка 1963 года ў вёсцы Гута Пастаўскага раёна. Скончыў Пастаўскую сярэднюю школу № 1 і філалагічны факультэт Бел-



дзяржуніверсітэта. Пасля заканчэння ўніверсітэта, малады, узнёслы, поўны мар і творчых ідэй, вярнуўся ён на родную Пастаўшчыну. Спачатку працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Цёплаўскай васьмігадовай школе, а потым выкладчыкам роднай мовы і літаратуры ў СШ № 1 г. Паставы. У той самай школе, дзе вучыўся сам.

У гэтай школе працавала з ім і жонка Святлана, тут вучылася дачка Таццяна, якая пайшла па слядах бацькі і скончыла філфак БДУ. Усё ў ягоным жыцці, здавалася, складвалася някепска. Тым не менш Леаніду Трубачу рэдка выпадалі дарункі лёсу. Рана не стала ў яго бацькі. Потым памёр айчым, а затым гэты свет пакінула і маці. За маці ён вельмі перажываў, думаў, трывожыўся. А яшчэ яго хваляваў лёс роднай мовы, лёс краіны. За ўсё Лёня хварэў душой і сэрцам.

Вершы Леанід Трубач пісаў рэдка, больш перапрацоўваў ранейшыя, перапісваў радкі, строфы. Жонка Святлана і дачка Таццяна раілі яму сабраць усе творы пад адну вокладку і выдаць асобным зборнічкам. Ён катэгарычна адмаўляўся і казаў, што сёння не да вершаў, ды і час на іх не прыйшоў. У апошнія гады Лёня пісаў сцэнарыі школьных мерапрыемстваў. Яму гэта падабалася, ён бачыў на школьнай сцэне, як сцэнарыст і рэжысёр, вынікі сваёй працы…

Летам 2015 года мы, аднакурснікі Леаніда Трубача, збяромся на свой юбілей — 30-годдзе з дня заканчэння ўніверсітэта. Сярод нас не будзе толькі Лёнькі Трубача. Светлага, інтэлігентнага, шчырага, таленавітага аднакурсніка. Ён нарадзіўся вясной, і вясной 2009 года яго не стала. Ён яшчэ не паспеў пасеяць зерне сваёй паэзіі, яго літаратурная сяўба яшчэ не пачалася. Лёня збіраўся сеяць зерне вясной, якую чакаў, чакаў сваю вясну:

Ціша. Спакой. Не было быццам бруду,
Зерне збіраюся сеяць вясной…





Я не спяшаюся — некалі буду,
Сёння, жыццё, застаюся з табой.

Але жыццё яго рана скончылася, а нам, аднакурснікам, і родным людзям, а таксама ўсім беларусам, ён пакінуў вершы, якія склалі кнігу яго твораў «Паміж песняй і болем» (Мінск, «Кнігазбор», 2010).

## ВЯРТАННЕ СПАДЧЫНЫ АРХЕОЛАГА СЯРГЕЯ ДУБІНСКАГА

Даўно я не трымаў у руках такога вялікага і шыкоўнага выдання, як кніга спадчыны «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін» беларускага археолага Сяргея Дубінскага (1884–1937). Памер кнігі — 30х21см з 340 старонкамі. Яна выйшла ў Беластоку пры падтрымцы Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы ў 2010 годзе. Фінансавую дапамогу выданню аказалі Маршалкоўскае ўпраўленне Падляшскага ваяводства і Адміністрацыя Прэзідэнта Беластока. Гэта па-першае. Па-другое, над выданнем кнігі дбайна парупіліся гродзенскія гісторыкі Генадзь і Альбіна Семянчукі. Наогул, у апошнія дзесяць гадоў у Беларусі з’явілася вельмі моцная, працаздольная і цікавая школа гродзенскіх гісторыкаў, якія шмат карыснага робяць для беларускай гісторыяграфіі. Гэта найперш Генадзь і Альбіна Семянчукі, Алесь Смалянчук, Ігар Трусаў, Вячаслаў Швед, Алесь Краўцэвіч, Сяргей Токць, Святлана Куль-Сяльверстава, Святлана Марозава, Андрэй Вашкевіч, Андрэй Пачобут, Іна Соркіна, Андрэй Чарнякевіч і іншыя. Няхай мне прабачаць тыя, каго тут не згадаў. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты працуюць даволі плённа і шмат. І падобнай сябрынай гісторыкаў на сённяшні дзень не можа пахваліцца ні адзін абласны горад Беларусі. На жаль. Часцей у апошні час у беларускіх, асабліва мінскіх, даследчыкаў гісторыя



нашай Бацькаўшчыны чамусьці пачынаецца толькі з «лініі Сталіна». Але далёка не з Міндоўга, Вітаўта, Альгерда, Скарыны, Гусоўскага, Купалы, Коласа, Геніюш, Быкава, Караткевіча…

І па-трэцяе. Вяртанне спадчыны Сяргея Дубінскага яшчэ раз падкрэслівае, што беларуская культура, літаратура і гісторыя — адны з найбагацейшых у свеце. Нам заўсёды было чым ганарыцца і кім ганарыцца. Іншыя справа, што на працягу ўсяго, напрыклад, ХХ стагоддзя беларусам не давалі «людзьмі звацца», а дазвалялі быць толькі тутэйшымі. Тым не менш гэтыя тутэйшыя мелі і маюць сваю мову, літаратуру, даследуюць гісторыю, геаграфію, архітэктуру, археалогію. На ніве археалогіі плённа працаваў у 1920–1930-хгадах беларускі археолаг, гісторык і бібліёграф з Беласточчыны Сяргей Дубінскі. Ён нарадзіўся 13 кастрычніка 1884 года ў вёсцы Наройкі Сямятыцкага павета. Пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта ў 1914 годзе пэўны час настаўнічаў. У 1925 годзе Сяргей Дубінскі становіцца сябрам Гісторыка-археалагічнай камісіі Акадэміі навук БССР, а пасля — навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, а з 1931 года — у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР. Адпрацаваўшы два гады ў Інстытуце гісторыі, наш зямляк быў вымушаны тэрмінова пакінуць тэрыторыю Беларусі і выехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Ленінград. У 1933 годзе Сяргей Дубінскі назаўсёды пакінуў Беларусь і прыехаў у горад на Няве, дзе ўладкаваўся на працу ў Ленінградскую акадэмію гісторыі матэрыяльнай культуры.

За той час, калі наш зямляк жыў і працаваў у Беларусі, яму ўдалося зрабіць шмат чаго карыснага для беларускай археалогіі. Ён актыўна даследаваў помнікі ранняга жалезнага веку і эпохі сярэднявечча. Праводзіў разам са сваімі калегамі раскопкі і вывучаў курганныя старажытнасці ў Бельскім павеце, пасля гарадзішчы Бабруйшчыны, Міншчыны, Мазыршчыны,




Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Па словах даследчыцы беларускай археалогіі Таццяны Каробушкінай, у 1927 годзе Сяргей Дубінскі склаў археалагічную карту Магілёўскай вобласці, якая, на жаль, не захавалася.

Самай грунтоўнай і вялікай працай, якую пакінуў нам беларускі археолаг, з'яўляецца яго «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін», асобнай кнігаю якая пабачыла свет у Мінску ў 1933 годзе. У ёй наш зямляк назваў працы пра дакласавае грамадства, ранні феадалізм, нумізматыку, сфрагістыку, старажытную архітэктуру, абарончыя збудаванні. У 20–30-я гады Сяргей Дубінскі паспеў напісаць і апублікаваць дзясяткі артыкулаў, сярод іх — «Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне», «Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай», «Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 годзе», «Археалагічныя працы на Беларусі за 1919–1928 гады», «Гарадзішча каля вёскі Германаў Аршанскай акругі», «Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 годзе» і іншыя.

На вялікі жаль, свае планы і задумкі наш таленавіты зямляк ажыццявіць не змог. Яго расстралялі ва ўзросце 53 гадоў у 1937 годзе. У 1958 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны.

Пасля таго, як Сяргей Дубінскі быў рэпрэсаваны і расстраляны НКУС, фактычна рэпрэсаванай была і яго археалагічная спадчына. Унікальная «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежны краін» археолага, як піша Генадзь Семянчук у пасляслоўі да кнігі, надоўга была выдалена з актыўнага навуковага звароту. Яе апісання нават няма на старонках энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (Мінск, 1993), а таксама энцыклапедыі «Археалогія Беларусі» (Мінск, 2009). У навуковых бібліятэках Беларусі і ў прыватных кнігазборах «Бібліяграфія…» Сяргея Дубінскага захоўваецца ў некалькіх экзэмплярах. Таму выданне ў Беластоку спадчыны расстралянага беларускага архео-



лага — гэта даволі значная падзея ў нашай археалогіі і гісторыі.

У беластоцкае выданне «Бібліяграфіі па археалогіі Беларусі і сумежных краін» Сяргея Дубінскага ўвайшлі не толькі сама бібліяграфія, але і асобныя артыкулы і даследаванні археолага, напісаныя ў 1920–1930-х гадах. Гэта тыя артыкулы, якія ўдалося адшукаць Генадзю і Альбіне Семянчукам. Яны прысвечаны археалагічнай працы на Беларусі за 1919–1929 гады, раскопкам курганоў у Бельскім павеце летам 1911 года, а таксама ў Заслаўі, гарадзішчам на Аршаншчыне, каля Мінска ў 1926 годзе, доследы культур жалезнага перыяду на Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне і іншыя. Але самай унікальнай працай усё ж застаецца «Бібліяграфія…» Сяргея Дубінскага. Дзіву даюся, дзе знаходзіў даследчык час, каб столькі перакапаць, адшукаць, занатаваць, каб пакінуць нашчадкам такі вялікі даследчы скарб. Як піша аўтар кнігі, за першыя трыццаць гадоў XX стагоддзя на Беларусі былі арганізаваны 27 археалагічных экспедыцый і 30 паасобных камандзіровак для археалагічных раскопак. У выніку гэтых прац упершыню былі знойдзены палеалітычныя стаянкі, да 700 стаянак эпохі неаліту і бронзы, да 800 гарадзішч, да 3 тысяч курганных груп, у якіх налічвалася звыш 25 тысяч курганоў і шмат іншых археалагічных помнікаў.

У выданне Сяргея Дубінскага складальнікі ўключылі фотаздымкі і малюнкі. На фотаздымках адлюстраваны раскопкі курганоў каля вёсак Цацэлі, Бацікі Далёкія, Козлікі, Ляхі, Слохі, і Клюкава Бельскага павета ў 1911 годзе. А таксама раскопкі каля Драгічына. Ёсць здымак і збіральніка драгічынскіх старажытнасцей Фелікса Каханскага.

Сяргей Дубінскі вельмі добра маляваў. Малюнкі аўтара, якія складальнікі ўключылі ў кнігу, звязаныя з археалагічнымі знаходкамі. Усё разам: і фотаздымкі, і





малюнкі, і тэкст — дапаўняюць выданне, робяць яго насамрэч грунтоўным і навуковым.

Выданне спадчыны беларускага археолага Сяргея Дубінскага Беларускім гістарычным таварыствам Польшчы, як і самі помнікі археалогіі Беларусі, — гэта каштоўная крыніца аб жыцці нашых далёкіх продкаў, нашай гісторыі, якую калі дасканала і не ведаць, дык трэба хоць заўсёды зберагаць. І памятаць пра тых людзей, якія дбайна працавалі на ніве адраджэння беларускай археалогіі.

## «ТВОРЫ» ЛЕАПОЛЬДА РОДЗЕВІЧА

Самай вялікай удачай мінскага выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў 2008 годзе было выданне «Твораў» Леапольда Родзевіча. Бо творы гэтага беларускага пісьменніка пад адной вокладкай не выходзілі ажно з 1933 года. Праўда, калі не лічыць жарту «Збянтэжаны Саўка», які асобнай кніжачкай у рэпертуары мастацкай самадзейнасці пабачыў свет у 1964 годзе. Але ж і гэта, як бачыце, таксама было даўно.

Найвыдатнейшы драматург, празаік, публіцыст, паэт Леапольд Родзевіч зноў вярнуўся да беларускага чытача, вярнуўся дзякуючы выдавецтву «Мастацкая літаратура» і ўкладальніку кніжкі, аўтару прадмовы і каментару Віктару Яцухну. У наш нялёгкі час, а ён для беларусаў быў заўсёды нялёгкім, усё ж пара апамятацца і пачаць выдаваць спадчыну нашых забытых літаратараў і гісторыкаў. Даўно просяцца на свет Божы кнігі твораў Уладзіслава Чаржынскага, Аляксандра Вазнясенскага, Сяргея Дарожнага, Кандрата Лейкі, Хведара Ільяшэвіча, Яўгена Хлябцэвіча, Тодара Лебяды, Міколы Прашковіча, Усевалада Краўчанкі, Рыгора Семашкевіча, ды і многіх іншых. Магчыма, сярод гэтага спіску самым няшчасным быў Леапольд Родзевіч. І пры жыцці, і цяпер. Я маю на ўвазе тое, што толькі



праз 75 гадоў удалося выдаць арыгінальную, народную (у шырокім сэнсе гэтага слова) літаратурную спадчыну нашага пісьменніка. Меў рацыю Ігнат Канчэўскі, калі пра кніжку вершаў Леапольда Родзевіча «Беларусь» (Вільня, 1922) пісаў у газеце «Наша будучыня» (1923. 6 студз.): «Здаровая, поўная сілы лірыка, якая ўмее не затрымлівацца ў змрочных кутках чалавечага духу». Што датычыць творчасці — то яно так, але што датычыць памяці пра нашага пісьменніка, то памяць, на жаль, «затрымалася ў змрочных кутках».

Але ўсё ж свечку памяці пра Леапольда Родзевіча напачатку XXI стагоддзя запаліла ягоная кніжка «Твораў». Файная кніжка! Праўда, хацелася б у ёй убачыць і здымкі пісьменніка, некаторыя іншыя творы, што не ўвайшлі ў кнігу, ёсць недакладнасці і ў каментарыі да выдання… Але гэта не бяда. Галоўнае, што кніжка пабачыла свет. Што сёння мы можам прачытаць у адным томе і фацэцію «П. С. Х.», і драматычныя сцэны «Досвіткі», і меладраму «Блуднікі», і драму «Пакрыўджаныя», і г. д. П’есу «Пакрыўджаныя» два разы ставіў Слонімскі дзяржаўны драматычны тэатр. Драматург яе напісаў у 21-гадовым узросце. І дакладна, умела перадаў ідэю асабістай свабоды чалавека, стварыўшы вобраз старца Тодара, народнага разьбяра.

А п’еса «П. С. Х.», наогул, была забаронена пры Польшчы і пры савецкай уладзе. Яна пра тое, як селянін са сваёй жонкай стварылі партыю «Пільнуй сваю хату» (П. С. Х.). Назва чыста сімвалічная. Таму давайце будзем пільнаваць сваю хату — Беларусь і шанаваць спадчыну беларускай літаратуры.

Леапольд Родзевіч быў добрым майстрам камедыйнага жанру. Ягоныя жартоўныя п’ескі «Збянтэжаны Саўка», «Конскі партрэт», «Пасланец» у 1920–1970-х гадах не сыходзілі са сцэн розных самадзейных тэатраў Беларусі. Ды і цяпер, бывае, ставяцца на аматарскай сцэне. Тэксты гэтых п’ес таксама змешчаны ў зборніку.

 

З драматургічных твораў у кнігу Леапольда Родзевіча ўвайшло 16 п’ес.

Не багата ў кнізе вынесена на суд чытачоў проза пісьменніка. У асноўным гэта невялікія апавяданні, якія друкаваліся пры жыцці аўтара ў газеце «Беларус», а таксама ў газетах «Беларускі звон» і «Наша будучыня» ў 1920-х гадах. Дарэчы, апошнія дзве газеты Родзевіч сам рэдагаваў.

З паэтычнай спадчыны ў зборнік «Творы» складальнік уключыў вершы Леапольда Родзевіча з прыжыццёвых кніг аўтара «Беларусь» (1922), «На паняво_леных гонях» (1928). Першы зборнік «Беларусь» у тыя 1920-я гады прадвяшчаў прыгожую паэтычную будучыню паэту. Уладзімір Жылка ў рэцэнзіі на яе аднёс аўтара да ліку «выдатных песняроў і ідэолагаў» (часопіс «Перавясла». 1923. № 1). І Жылка меў рацыю, бо паэзія Родзевіча была прасякнута рамантычным патрыятызмам і шчырай любоў да Бацькаўшчыны, імя якой

Беларусь мая мужыцкая,
Шматпакутная, непачатая,
Зварухніся, моц крывіцкая, —
Слава наша ты крылатая.
Беларусь мая юнацкая,
Шалам дзікая, ўся бунтарская,
Парві пута ты чужацкае,
Будзь дзяржаўная, гаспадарская.
Беларусь мая несмяротная,
Кветка белая, маці родная…

Але ў жыцці паэта непрыкметна адбыліся сур’ёзныя змены, і з рамантычнага паэта і культурнага дзеяча хутка сфармаваўся палітычны дзеяч, такі, якога патрабавала тагачасная складаная і багатая на перамены сітуацыя ў Беларусі. У такіх умовах пачаў знікаць Родзевіч-паэт, Родзевіч-празаік. Хаця паспелі свет пабачыць і ягоныя кнігі прозы «Рэвалюцыйным шляхам»



(1928) і «Вогнішча барацьбы» (1930). А сам пісьменнік сваёй дзейнасцю актыўна спрыяў перамозе дэпутатаў ад Заходняй Беларусі ў выбарах у польскі сейм (1922), увайшоў у Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю (БРА), быў членам яе ЦК, а потым — ініцыятарам уступлення БРА ў КПЗБ, а калі прыехаў у Мінск — стаў членам камісіі па вывучэнню Заходняй Беларусі пры Акадэміі навук БССР.

З публіцыстычных твораў у кнігу ўвайшлі невялікія артыкулы пра барацьбу за незалежнасць у Ірландыі, пра Міхася Чарота, якога Родзевіч назваў «песняром працы, выразіцелем дум і імкненняў свайго працоўнага народа», пра пасла Сяргея Барана, які быў у Заходняй Беларусі старшынёй Беларускага Камітэта ў Гародні і якога судзілі ў Беластоку за тое, што ён хацеў аддзяліць ад Польшчы беларускія землі, — за гэта польскі суд асудзіў Барана на 6 гадоў катаргі, і іншыя артыкулы.

На апошніх старонках «Твораў» змешчаны лісты Леапольда Родзевіча да Уладзіміра Жылкі. Раней гэтыя пісьмы друкаваў Уладзімір Калеснік у зборніку «Беларуская літаратура і літаратуразнаўства» (Мінск, 1974). Хацелася б, каб эпісталярная спадчына Леапольда Родзевіча была ў «Творах» прадстаўлена шырэй, бо яна багатая. Не знайшоў я там і ліста Леапольда Родзевіча з Масквы (з восені 1923 года пісьменнік там быў слухачом Камуністычнага ўніверсітэта) да Жылкі, дзе ён пісаў: «Жыву сённяшнім днём. Смакую і паважаю марксізм. Паглядай, браце, і ты на гэты бок…». Уладзімір Жылка на гэты ліст Родзевічу не адказаў.

У другой палове 1930-х гадоў Леапольд Родзевіч быў сасланы ў Саратаўскую губерню. Там сёк лес і нічога больш не пісаў. У 1938 годзе яго паўторна рэпрэсавалі і хутка расстралялі.





# ЗМЕСТ

Генерал Ян Канопка ..........................................................3
Артымовічы .......................................................................11
Герой і здраднік ...............................................................17
Янка Лучына і Вольга Чуміна ..........................................19
Нашанівец Янук Дарашкевіч ...........................................22
Выступленне Ігната Буйніцкага ў Варшаве....................25
Недапетая песня Юркі Снапко .......................................29
Выкладчык Клецкай беларускай гімназіі ......................33
Сяргей Паўловіч і часопіс «Снапок»................................36
Бунтавала кроў бунтарная… .............................................39
Апошняе вяртанне Міхала Федароўскага .....................42
Невядомы паэт і археолаг Генрых Мілачэўскі ...............45
Рыгор Шырма на старонках часопіса «Калоссе»...........48
Выданні Вацлава Ластоўскага ў міжваенны перыяд......53
Беларускі рух у Варшаве (1900–1939)
і Гальяш Леўчык ...............................................................61
Пісьмы ў рэдакцыі газет
«Наша Ніва» і «Беларускі звон» .....................................69
Пісьмы Антону Луцкевічу ...............................................78
Біяфізік, паэт і мастак Аляксандр Чыжэўскі .................84
Міхась Забэйда-Суміцкі ў Варшаве ...............................88
Дубоўку перакладала Ахматава.......................................96
Васількова россып паэта ..................................................99
Анатоль Кунцэвіч сумаваў па радзіме...........................102
Лёс Міколы Шкялёнка і яго сваякоў ...........................106
Кароткая згадка.........................................................106
З біяграфіі Міколы Шкялёнка ................................108
Пра бацькоў і братоў ..................................................108
Тэлефонны званок ......................................................110
Лёс сям'і Марыі Брынкевіч ........................................113



Легендарны доктар Усевалад Шыран ..............................116
Забытая спявачка Яўгенія Чарняўская-Орса ...................121
Філафей ..................................................................................123
Праваслаўны святар Павел Лысуха..................................131
«Ён беларус сярод узбекаў…» ..........................................134
Услед за бацькам .................................................................137
Ларыса Геніюш і Жыровічы..............................................141
Беларус непадробнай шчырасці .......................................149
Чалавек маўклівага сэрца..................................................153
Слонімскімі сцежкамі Валянціна Таўлая.........................156
Адчуванне сэрцам...............................................................161
Пачынаецца ўсё з любві… ................................................167
Спяшаўся жыць для Слонімшчыны ................................171
На радзіме Васіля Захаркі ................................................175
Любіў сваю Бацькаўшчыну...............................................178
Такім ён быў у жыцці ........................................................181
Зерне збіраўся сеяць вясной..............................................186
Вяртанне спадчыны археолага Сяргея Дубінскага .........190
«Творы» Леапольда Родзевіча .........................................194





*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

ТАКІ ІХ ЛЁС
*Гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 31.05.2012. Фармат 84×100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 9,56.
Ул.-выд. арк. 7,95. Наклад 100 ас. Зак. 401.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.